*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС*

**12** (974)

*СНЕЖАНЬ*

# ПОЛЫМЯ

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2010**

## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



## Юрка ГОЛУБ

### БЕЛАВЕЖА: ЗРЭЗ

Аб шчыт яловы кіпцюры
Вастрыла рысь на завіруху.
Тут балявалі ўсмак цары,
Аж сверб гісторыю варушыць.

Для стогадовага камля
Не знойдуць — каб каналі — мерку.
Калі ж і знойдуць, дык амаль
Сякера ў роспачы памеркне.

Ахвяраў прагны, буралом
Раструшчыў сам сабе хрыбетнік.
Маланкі чорнае брыво
Скакала ўгору апраметна.

Ды камяніцу Камянца
Не захістала немач, бытта.
Стаіць, як зубчык грабянца,
Ці выклік гібламу нябыту.

З-пад ніцых шатаў да нябёс,
Нібы з-за пазухі падання,
Ляцелі вырай. Найбольш
Іх пёркі ў Нараў ападалі.

---

*Голуб Юрый Уладзіміравіч* нарадзіўся 20 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1970). Працаваў на Гродзенскім абласным тэлерадыёаб'яднанні, у газеце «Гродзенская праўда».

*Аўтар паэтычных кніг «Гром на зялёнае голле» (1969), «Дрэва навальніцы» (1973), «Векапомнае поле» (1976), «Помню пра цябе» (1983), «Сын небасхілу» (1989), «Поруч з дажджом» (2001), «Зажураны камень» (2002), «Брама зімы» (2004), «Багра» (2006) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1999).*

Світанкам
свету пасланец,
А па мянушцы — бусел вольны,
Мянташыць дзюбу, як касец,
Аб комін вёскі Ціхаволі.

Дубы пасталі на дыбы,
Калі пабачылі, васпане:
Зубры, падобна, як дубы,
Выходзяць збройна на паляну.

І пушчы — прошча і бажба,
Як дар, па спадчыне належаць.
І сонцу з дзікім мёдам жбан
Падносіць — поўны! — Белавежа.

## НАСКАЯ ЗІМА

Сумёту накруціў хваста
Мароз з кудлатымі брывамі.
А браму ночы расхістаць
Кляшнёй завея спрабавала.

Шкада няшкоднага звяр'я.
Палонку літасць не зашкліла.
А пеўня ярасна зара
Ад сну пабудкай адхіліла.

На ўсходзе ранку снегіры,
Дзе ашчаперыў лёд карнізы,
Бяруць даніну ад зары,
Як прастарэкі — з афарызмаў.

Снягір — а думка набакір.
Снягір — нішчымна галадае.
Ды помніць багры правадыр:
Мацак на гушчы не гадае.

## ЛЮТЫ

Прыціснуў люты языкі
Свісткам: вядома, — прайдзісветы.
Засунуў рэкі пад замкі:
Пад лёдам звоняць бранзалеты.

Раскрыжаваны, нібы лёс,
І снег крутымі палазамі,

Не чуў ён музыку калёс:
Пазёмка языком злізала.

На зубчыках кароткіх дзён
Сініца спадзяванкі ніжа.
За хвост трымаючы закон,
Далі прастор на водкуп выжле.

Вачам — балюча. Вокнам — рэзь.
Мароз таўчэ маланкі ў ступе.
І пераходзіць дробны бэз
У іней буйны на тулупе.

А тут марозу завіне
Не даць патачку для сугрэву.
І па яго тады віне
У самастрэлы лезуць дрэвы.

Не варта зорка медзяка,
Калі дранцвее па-за гаем.
Палонка — цап! — маладзіка
І бессаромна пазяхае.

## ЧАБОР

Не зрокся колеру чабор,
Займеў нябескія вышыні.
Пчала памкнулася на збор
З касынкай жоўтаю на шыі.

І ён парупіўся пра пчол:
Каб потым пела медавуха,
Дары здаваў ім у прыпол,
Нашэптваў лёстачкі на вуха.

Хавала лета скарбы ў спрат,
І ён рахубу меў на спраты,
Але патрапіў акурат
За стол, прысмакамі багаты.

У сон зіма ўвагнала лес,
Заштукавала звонку шыбы.
А пах чабору з вокан лез
І клікаў змерзлых да сялібы.

Ільды мароз пашаткаваў,
Дзе спаў падлешчык, як памешчык.
Мяды з чаборам каштаваў
І ў кубку лыжачкай памешваў…

## ШКАЛЯР 1954 ГОДА

Даецца аднойчы зарок:
Асветы не зганьбіць карону.
Рахуе на гурбах урок
Наймудрая птушка варона.

Кантрольнай работы тупік
Разбэрсала ў крыжыкі птаха.
Нязграбна на снег наступі:
Памылка абернецца жахам.

Усталі не з тое нагі,
Абселі замерзлую крону:
З гусарскім размахам снягір
Не стане мудрэй за варону.

А той ці правей, ці лявей —
Не д’яблу ж кідаецца ў зубы.
І лічбы ў яе галаве,
А розум на кончыку дзюбы.

Славуты вароніны сыр
Сабе ахвяруе нябога.
Лядзяш паслужыў за пацір,
А гурбы — дарогай да Бога.

Папера рыпіць пад пяром:
У рызыкі почырк няроўны.
Ды цягне асветы паром
Дзюбай варона.

## СЛОЎНІК

Цьмеюць слоў бадылі
На адкосе.
Жыць ім права далі
У двукоссі.

Словы прагнуць ісці
Прэч ад стомы.
Месяц так у трысці
Свеціць стойма.

Словам свету будан
Змалку цесны:
Дзежку цемры, бадай,
Рвуць, як цеста.

Словам клічнік дарма
Прылучаўся.
Бо яны — не гурма —
Выклік часу.

Словам зык падаваць
Немагчыма.
Мілаваць-цалаваць
Іх вачыма.

## БОРТНІК

*Мечыславу Курыловічу*

Да поўдня імкнуцца сады.
Іх мёдны завешвае подых.
І сонца на лаве сядзіць
Высока на покуці поўдня.

Паборы пчала пачала,
Чаляднiца сквапнага рою?
Ды не! Пачувацца пчала
Не супраць для квету сястрою.

Ачуньвае звон ля вакон:
Агортвае бортніка постаць.
Быў ласы да мёду віконт,
Няўломак ля борці й апостал.

Таксама няўклюда-мядзведзь
Паквапіў на полудзень смачны,
Дык лапы адносіў ледзь-ледзь
І роў на Літве, не іначай.

Мільярдамі рос уваскрос
Зноў ранак у красках па пояс.
І росы ён з красак атрос,
І пчол, як цялятак, напоіць.

Ды што там! Пчалу абвянчаць
З Сусветам наважваўся продак.
Гайдаецца саду спічак
З пчалой чалавечага роду.

## БУРШТЫН

Яго шпурляў на дно пасат,
І з дзікім морам узаемна
Бурштын прымала, як пасаг,
І шаравала сухазем’е.

Ён без дыхання падаў ніц.
Над ім курочыліся воды.
А чайкі пёркам бліскавіц
Яму распісвалі свабоду.

Аднойчы прагная рука
Яго заціснула ў рыштоку
Зусім не так, калі друкар
Абмацаваў літару на вока.

І лёс упоперак залёг:
Няволя губіць цемрай кальва.
Збіваюць птушку за палёт.
Бурштын у схроне закавалі.

Ды схон закрэслены на скон,
Дзе ў змроку гвалт беспакараны,
Бо б’е з бурштына ў буйны звон
Святляк, туды замураваны.

## КРЭСКІ ВЯРТАННЯ

Дратуе зноў шыбу мароз,
Не здольны на літасць.
Бязлітасна іней узрос
На плітах з парэшткамі літар.

І нельга забыцца, хоць плач,
На колішні верад.
Трава не адолела пляц,
А хвалю занесла на бераг.

Шчымліва вяртацца назад.
Да нетраў дапасці.
Ахвярна грыміць зарапад,
Як сад напярэдадні Спаса.

Абапал трывог і дарог
Раптоўна паўстануць
Асвер, што аблокі бярог,
І луг, што для конікаў стайняй.

На памяць агучвае бор
Птушыныя творы.
Заціснула стрэльба затвор,
Як дзюбу ад роспачы воран.

Хусцінка ляціць матылём.
— Адкуль ты, галуба?

— Адтуль, дзе адчайны палёт
Сінечаю вызначыў лубін.

Стракатай сукенкі экран
Не месціцца ў зрэнках.
Сплывае сусвету на край,
Як ветрык па рэйках і рэках.

Гукаеш. А сэрцу палаць
І кінуцца бегма...
Трава апаноўвае пляц,
А хвалю адпрэчвае бераг.

* * *

Згасаюць птушкі. Краявід
Свае завешвае абрысы.
Пакуль не змеркне звон крыві,
Дарма за згадкі не бярыся.

З гаёў юначых салавей
Пачне да подзвігу збірацца,
Яго садовай галаве
Навошта з рызыкай дарадцы.

Ён рызу ночы хоп з цвіка!
Прачысціць горла, як дыякан…
І пад рукой маладзіка
Хіснецца прасла Задыяка.

Тады ж у змове, як карсар,
З красой і сілай бліскавіцы
З камення іскры выкрасаць
Мілосці дух не пабаіцца.





Міхась ЮЖЫК

# ЛЕАПАРД НА БАЛКОНЕ*

*Раман*

## 13

У наступныя два тыдні Пятро Мігуля стаў у асабняку Сулеевых частым госцем. Пачалося з аўторка, на які Ніна запрасіла яго пагуляць у тэніс. А там, як кажуць, пайшло-паехала. Прычым на той час, калі ён наведваўся да Ніны, яна не запрашала ніякіх сябровак, і нават жыхары асабняка стараліся пакінуць маладых без нагляду. А што самае ўсцешнае — зусім не трапляўся на вочы Валерый. Ён як у ваду кануў. Зрэшты, у Ніпінага брата была свая вялізная кватэра ў элітным доме. Дарэчы, і сам Амар Рашыдавіч меў пяціпакаёўку блізу праспекта Скарыны. Акрамя таго, як раней паведаміў Пятроў бацька, у Сулеевых ёсць яшчэ адна кватэра — уласна для Ніны, якая пакуль пустуе і чакае, калі яна выйдзе замуж. Зразумела, Сямён Паўлавіч намякаў, што галоўным прэтэндэнтам на ўзгаданую жылплошчу з'яўляецца сам Пятро.

Чым жа займаліся Пятро Мігуля і Ніна Сулеева, калі сустракаліся ў яе доме? Яны многа гулялі ў тэніс і купаліся ў басейне. Басейн быў мелкі толькі ля аднаго борта, а на асноўным прасцягу — глыбокі, за два метры і болей. Там стаяла двухметровая вышка, з якой купальшчыкі давалі хвацкага нырца. Надвор'е трымалася цудоўнае, сонечнае, за дваццаць градусаў, і можна было загараць на шэзлонгах. Высокая агароджа не прапускала сюды парываў ветру, не прапускала і староніх вачэй. Амар Рашыдавіч паказаўся колькі разоў: са сваімі гасцінна распасцёртымі рукамі ішоў да Пятра, абдымаў, тройчы дакранаўся шчакой да шчакі, ляпаў па плячы і гаварыў «Мой дарагі!». Усё як звычайна. А яшчэ ён наказваў дачцэ, каб яна як найбольш забаўляла госця, каб не давала яму сумаваць… А тады таропка знікаў, нібы баючыся нечым тут перашкодзіць.

У другі-трэці раз наведвання асабняка Пятро адзначыў, што на заднім двары, дзе басейн і корт, не мільгалі нават хатнія слугі. Яны з'яўляліся толькі па загадзе, калі Ніна клікала іх па мабільніку. А таму Пятро асмялеў настолькі, што стаў, калі знаходзіліся ў вадзе, усяляк ціскаць сваю сяброўку. Рабіў гэта, вядома ж, асцярожліва і з аглядкай. Пераважна пад вадой. Яны ныралі на самае дно і спляталіся ў гарачых абдымках. Пятровы рукі працавалі тады паспешліва і ўмела, за якія паўхвіліны даследуючы ўсе забаронныя месцы

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 11, 2010 г.

Нінінага цела. Дзяўчына вынырвала крыху збянтэжаная, але дужа задаволеная. Так паўтаралася раз за разам. Затым яны напаўляжалі ў адкідных крэслах, падставіўшы сонцу твары, размаўлялі на малазначныя тэмы. Слугі прыносілі напіткі і ежу.

Аднойчы, калі ішоў дождж, Ніна запрасіла Пятра ў дом паглядзець відзік. Дзверы ў пакой яны рашуча замкнулі і пад нейкі пусценькі фільм удосталь намілаваліся. Але ж гэты занятак прынёс задавальненне Ніне, а не Пятру. Бо знаходзіцца ў неспатоленай напрузе аж дзве гадзіны для мужчыны не здарава. Потым цэлыя суткі пакутліва балеў ніз жывата, і Мігуля быў вымушаны зноў выклікаць нанач сяброўку — тую, з якой ужо бавіўся пасля вяртання з Браслава. Так, гэта горкая праўда жыцця: кахаем адных, спім з другімі, ненавідзім трэціх і не можам іх забыць.

Пятро Мігуля не мог забыць Ксеню Шпачык. Дакладней, не мог змірыцца з тым, што яна яго кінула, а не ён яе. У гэтым была жудасная несправядлівасць. Нарадзілася і спела прыкрасць, быццам яму публічна заехалі поўху, а ён пабаяўся даць здачы. Пятро ўспамінаў свае колішнія адносіны з жанчынамі і не мог прыгадаць, каб яго вось так груба і проста адпрэчвалі. *Ён* пакідаў і крыўдзіў сваіх ранейшых каханак. Як сапраўдны мужык, герой, пераможца…

Аказацца пераможаным, ахвяраю чужой прыхамаці — гэта было новае, нязнанае, брыдкае пачуццё. Чым больш акунаўся ў яго Пятро, тым больш пераконваўся, што павінен яшчэ раз пабачыцца і пагаварыць з Ксеняй Шпачык. Расставіць кропкі над «і». Ды каб не Ксеня паставіла тыя кропкі, як мінулы раз, а ён сам, уласнай, так бы мовіць, рукой паказаў ёй на дзверы. Мігуля, зрэшты, разумеў усю бязглуздасць такой сваёй пазіцыі, бо «паказваць рукой на дзверы» позна, калі Шпачык самохаць парвала з ім усялякія сувязі. Перш чым яе выгнаць «за дзверы», трэба спачатку вярнуць. Але ж не логікай кіраваўся Пятро, а выключна злой жарсцю.

Калі хто думае, што спадар Мігуля адчуваў згрызоты сумлення з прычыны ўласнага раздваення і нават растраення, перажываў ад таго, што падманваў даверлівую Ніну, то мусім запэўніць: гэта далёка не так. У адносінах да жанчын, якія ўяўлялі для яго хоць якую-небудзь цікавасць, Пятро не ведаў ніякіх маральных нормаў. З самага першага любоўнага вопыту, калі патрапіў, чатырнаццацігадовы, у абдоймы пышнай паварыхі Святланы, у галаву яго трывала ўбілася тое, што каханне — штука выключна плоцкая, грубая, бессаромная. А праз некалькі гадоў, паступова, Пятро ўсвядоміў наступнае: каханне не церпіць ніякіх сантыментаў і ваганняў, тут нельга паказваць свае слабасці, тут недапушчальна даць зразумець партнёру, што ён для цябе надзвычай важны аб'ект. Дзейнічаць трэба хутка, рашуча, нахрапіста. Такая Мігулева філасофія дапамагала яму мець поспех у адносінах жанчын. Шматгадовы вопыт паказваў, што самая тонкая і далікатная з выгляду дзяўчына нязменна аддае перавагу не таму, хто ўразіць яе цярпліва-гжэчнымі заляцаннямі, не таму, хто будзе самы разумны і абыходлівы з ёю, а таму, хто не пабаіцца пераступіць межы прыстойнасці, хто пакажа вар'яцтва кахання ва ўсёй «красе», у самых гарачых, пачварных яго праявах. Даму сэрца трэба скарыць адвагай, рашучасцю, а часам і сілай. Гэта ведаў Пятро Мігуля даўно, а за апошнія тры гады, калі захапіўся філасофіяй, ён знайшоў свайму досведу, як лічыў, амаль навуковае пацвярджэнне.

Маўляў, як бы далёка ні ішло чалавецтва па шляху інтэлектуальнага развіцця, асобная чалавечая адзінка ні на ёту не аддаліцца ад сваёй жывёльнай прыроды. У гэтым бяда і непазбыўная пакута людзей. Наша жыццё, як толькі мы пачынаем усведамляць сваю самасць, а значыць, робімся людзьмі, — раздвойваецца і цячэ ў двух паралельных рэчышчах. Воды аднаго рэчышча —

гэта тысячагадовыя здабыткі цывілізацыі, што ўлучаюць у сябе мастацтва, навуку, мараль, грамадскі лад і законы, па якіх належыць існаваць чалавеку, каб не апынуцца на дне. У гэтым рэчышчы нас змалку пераконваюць, што дрэнна быць невукам, кепска быць грубым, заганна праяўляць свой жывёльны пачатак. Ёсць, аднак, другое рэчышча паўнаводнай ракі жыцця, дзе пануюць законы, амаль процілеглыя. Там цэніцца дужасць, адвага і фізічная прыгажосць, там у пашане хітрасць і спрыт. Прычым тычыцца гэта што мужчын, што жанчын амаль у роўнай ступені.

Ужо з малалецтва чалавек адчувае ўсе невыгоды свайго кволага целаскладу і сваёй баязлівасці: яго зацiскаюць, б'юць, прыніжаюць. У падлеткавым узросце за гэта ім пагарджаюць дзяўчаткі, а ў маладосці ўзнікаюць праблемы з адшуканнем палавога партнёра. Будзь ты неверагодна разумны, без палавога партнёра шчаслівым не станеш, бо ён дае, акрамя задавальнення плоцкай патрэбы, яшчэ і сям'ю, і любоў, і нашчадкаў, якія ў перспектыве будуць аб табе клапаціцца.

Хітрасць і спрыт — якасці, успадкаваныя намі з тых даўніх часоў, калі чалавек паляваў на дзічыну, маючы ў руках прымітыўную зброю, а таксама, не будучы надзелены кіпцюрамі ды ікламі, выжываў у свеце, поўным драпежнікаў. Хітрасць і спрыт толькі памянялі свае абліччы ў наш час, сублімаваліся ў камунікабельнасць, кар'ерызм, а калі шырэй: у ліслівасць і выслужлівасць перад начальствам, снабізм, здольнасць трымаць нос па ветры, ману дзеля выгады, крывадушнасць і здатнасць уздымацца ў грамадскай іерархіі праз высокапастаўленых палюбоўнікаў.

У першым рэчышчы людскога жыцця ніхто афіцыйна не стане ўхваляць дужасць і сексуальную прыгажосць, не стане вучыць хітрасці і агрэсіі. Там, наадварот, усяляк асуджаюць жывёльныя якасці і дэкларуюць роўнасць багатага з бедным, калекі з Апалонам, там пяюць дыфірамбы розуму, таленту і геніяльнасці. Але нармальны чалавек цвёрда ведае, што гэта, мякка кажучы, не ўся праўда. Бо штодзень сутыкаецца з панаваннем фізічнай сілы, сексуальнай прывабнасці, хітрасці і кар'ерызму.

Карацей, усё гэта, як думаў Пятро, ён толькі абагульніў, прывёў для сябе ў сістэму. Ведаў жа гэтыя законы ён спрадвеку, інстынктыўна — настолькі, наколькі любы чалавек перакананы, што лепш ісці па сухім, чым па гразі, што трэба абыходзіць прорву, а не ўвальвацца ў яе, рушачы напрасткі. Пятро цудоўна ўсведамляў тыя здольнасці, якія ў яго былі, і тыя, што прырода яму не дадала. Але жаночы пол прываблівае мужчынская сіла, высокі рост, прыгажосць, нахабная абаяльнасць — гэта быў адзін несумненны козыр, якім ён з удзячнасцю карыстаўся. Гэты козыр, як ён меркаваў, уздыме яго па грамадскай лесвіцы праз замужжа на Ніне Сулеевай, а магчыма, разаўе ў ім тыя якасці, якімі яго абдзяліла прырода-матухна: грамадскую камунікабельнасць і кар'ерызм.

Але ж чалавек не быў бы чалавекам, а Пятро Мігуля самім сабой, каб, апрача розуму, не кіраваўся пачуццямі і страсцямі. А таму, здавалася б, развітаўшыся з Ксеняй Шпачык, атрымаўшы свабоду і магчымасць уладкоўваць свае асабістыя справы, ён адчуў прыкрае нездавальненне і эмацыянальную пустату. Праз некаторы час таемная сіла разбурэння пацягнула яго на нелагічныя, неапраўданыя, нейкія вычварныя ўчынкі.

## 14

— Ну, маці, баюся сурочыць, але пакуль усё складваецца цудоўна, — гаварыў Сямён Паўлавіч жонцы за абедам. — Наш сын цэлымі днямі ў Сулеевых

бавіцца. Так што сплюнь тры разы. — Дасёрбаўшы боршч, ён адсунуў талерку і задаволена фыркнуў.

— А што Амар табе гаварыў? — Наталля Ціханаўна прыняла пустую талерку і тут жа падала новую страву.

— Амар становішча кантралюе, тут ты не перажывай. Да Пятра ён ставіцца добра, з даверам, можна сказаць. Адно трэба сачыць, каб з прапановай наш аболтус не прамарудзіў. Але і тэрмін нейкі вытрымаць трэба… Тут тонкая псіхалогія.

Сямён Паўлавіч заскочыў дамоў на абед літаральна на паўгадзіны. Унізе яго чакала машына, і трэба было імчацца ў райцэнтр, на адкрыццё Дома культуры, дзе ад яго чакалі ўрачыстай прамовы. Таму еў ён нахапкам, у касцюме. Толькі скінуў пінжак і заклаў за каўнер палатняную сурвэтку. Сямён Паўлавіч наталяў зверскі голад, смаку страў амаль што не адчуваў, думкі яго былі заняты хуткай жаніцьбай сына.

— О, Наташа, каб толькі ўсё сышлося як мае быць! Бога малю! — з поўным ротам ежы працягваў гаварыць муж. — Ты нават не разумееш, што для яго, для ўсіх нас гэтая жаніцьба.

— Чаму не разумею? Я вось… — паспрабавала пакрыўдзіцца жонка.

Але Сямён Паўлавіч яе перабіў:

— Ды дзе табе зразумець! Не крыўдуй, маці, але апошнім часам лунаеш ты ў нейкіх ружовых аблоках. Ад жыцця адыходзішся. Нельга так. Не давядзе цябе царква да дабра, успомніш мае словы.

— Сямён, я, здаецца, прасіла цябе пры мне не блюзнерыць.

— Ат, якое гэта блюзнерства! — узмахнуў рукой муж. — А вось тое, што ты абыякавая да лёсу роднага сына, гэта грэх. Прабач.

Наталля Ціханаўна асуджальна ўздыхнула і падала дэсерт: каву з піражным.

— Не, Сямён, не абыякавая я да Пятра. А толькі вось шчасця яму жадаю. І сумняваюся, што ён будзе шчаслівы ў гэтым сямействе. Чакай, не крычы… Я проста ведаю нашага сына, ну няма ў яго камерцыйнай жылкі, а там усе такія дзелавыя, учэпістыя. Ці прыжывецца ён там?

— Бог мой, ды што ты заладзіла! — ляпнуў па стале далонню Сямён Паўлавіч. — Тут галоўнае ў сям'ю іхнюю ўбіцца, а там навучаць яго, памогуць, прымусяць у рэшце рэшт. Мы ж з табой, на жаль, не маладыя, Наташа. Ну працягну я яшчэ на сваёй пасадзе колькі гадоў, ну перасунуць мяне потым на месца, рангам ніжэйшае. Дык пакуль я ў сіле, хачу зрабіць для Пятра ўсё магчымае, і нават болей за тое.

— Ды я ў гэтым не сумняваюся. Не напартачыць бы, вось у чым штука…

— Я табе каторы раз гавару, — Сямён Паўлавіч узвысіў свой камандзірскі голас, — што тут галоўнае стаць членам сям'і Сулеевых. Ты мне павер. У іх, людзей з Усходу… — ён рэзка сцішыўся і загаварыў змоўніцкім шэптам, — у іх разводы і іншая кісляціна не дапускаюцца. Ажаніўся — будзеш мужам навечна. А там дзеці пойдуць, месца яму Амар у сваёй структуры дасць адпаведнае. Па нашым часе за такое трэба кіпцюрамі трымацца!

— Ды ўсё так, усё так, Сёма… — з сумам глядзела на яго Наталля Ціханаўна. — Але аднаго ты не дагаворваеш, ці баішся сабе ў гэтым прызнацца…

— А? — Сямён Паўлавіч нервова таргануў шыяй.

— А ці зможа Пятро быць верным мужам?

Павісла няёмкая паўза.

— У! — пакутліва застагнаў Сямён Паўлавіч. — Ну проста пад дых ты мне ўдарыла! — Ён злосна вырачыўся на рахманую Наталлю Ціханаўну. — Праўда гэта, жудасная праўда, Наташа. Не тое што сумняваюся ў гэтым,

а баюся, начэй не сплю. Мужава вернасць! Ды якая там вернасць, калі ён яшчэ ніводнай харашуні міма сябе не прапусціў! — Сямён Паўлавіч панурыў голаў і запусціў правую руку ў валасы. — Так, гэта праблема. І варта яму ўразумець, што трэба адмовіцца ад сваіх звычак і ўтаймаваць свае ненажэрныя апетыты. І я гэтага даб'юся. Дзеля ягонага ж шчасця. Здрады Амар яму не даруе. У парашок ператрэ, скуру з жывога злупіць.

— Вось бачыш…

— Бачу! Але ад свайго не адступлюся, так і знай! — Муж устаў з-за стала, сашмаргнуў з шыі сурвэтку і кінуў яе на крэсла. — Будзе ён у мяне мужам Ніны Сулеевай, і верным мужам — гэта я табе абяцаю. А інакш я не Сямён Мігуля!

Ён нечакана палагаднеў і з нейкім затуманеным, летуценным паглядам прысеў на краёчак крэсла, з якога толькі што ўскокваў.

— А што, маці, калі там каханне такое, што больш ніхто не спатрэбіцца? Што, калі дзеці пойдуць, многа дзяцей. Людзі ж мяняюцца, а? Прачнецца бацькоўскі інстынкт, зменяцца адносіны да жыцця… Закруцяць справы. Адчуе сябе галавой сям'і, здабытчыкам… — Сямёну Паўлавічу карцела завяршыць фразу словамі «як я», але ж унутраны вартаўнік гэтага не дазволіў. Бо другая яго сям'я, Алена і Танечка, не давала пра сябе забыцца ні на хвіліну.

«Так мне і трэба, кабяліне старому! — папракаў сябе Сямён Паўлавіч, прычэсваючыся ў калідоры перад люстэркам. — Які сам, такі і нашчадак, халера нас не вазьмі. Цяпер толькі маліцца, толькі маліцца і спадзявацца!»

«Маліцца» для Мігулі-старэйшага, які ў Бога зроду не верыў, азначала тое ж самае, што прасіць уяўную спадарыню ўдачу, каб злітасцілася і паслала нейкую чароўную рулетку, каб тая спынілася на патрэбным, жаданым сектары.

Ён цёпла, цяплей чым звычайна, развітаўся з жонкай і выйшаў.

## Леапард

Удзень і ўначы я чакаў, пакуль тройчы выпадзе і сыдзе снег. Я бачыў дождж, слоту, пакрытую шэранню траву і хмызняк, злёгку зацярушаны за ноч. Я мусіў маніць сабе, што снег ужо выпадаў і сыходзіў за час майго сну. Карцела наведаць кватэру пад нумарам «33», але я баяўся ўгнявіць Гаспадара сваім раннім прыходам. Яшчэ не час — гэта было відавочна. Але цярпенне маё заканчвалася. Я блукаў па горадзе спіралевіднымі кругамі, кожны з якіх набліжаў мяне да дома, дзе жыве леапард. Неймаверная, непадуладная розуму цэнтраімклівая сіла — яна прывяла-такі мяне ў голы восеньскі двор. Зрэшты, снежань ужо надышоў. На тое ўказваў каляндар над ложкам у маім сырым і няўтульным пакоі. Аркушыкі календара я адрываў кожную раніцу.

Ад сіверу хісталася голле старога каштана, што высіўся перад пад'ездам. Блізу стаяла пражавелая легкавушка са спушчанымі коламі, стаяла, мусіць, не адзін год… Я прайшоў паўз яе, паўз каштан, ступіў на ганак пад'езда, абапіраючыся на ненадзейнае біла. Рыпнулі-ўскрыкнулі дзверы, шухнулі, зачыніўшыся за маёй спінай. Вобмацкам, прывыкаючы да паўзмроку, я рушыў на трэці паверх. Памятаю, за аднымі дзвярыма на другім паверсе прагучаў смех — нейкі нездаровы, хутчэй пакутлівы, чым вясёлы, смяшок. Так хіхікаюць істэрычныя жанчыны перад чарговым прыпадкам. Затое на трэцім паверсе панавала ціша. Нічога не даносілася з-за дзвярэй пад нумарам «33», як і з-за суседніх дзвярэй. Я небеспадстаўна падазраваў, што мне сёння будуць не радыя. Я парушыў закон, бо наведаўся да прызначанага часу. Але калі прыйдзе той час? Можа, снег наогул не выпадзе да вясны. Або выпадзе, схопіцца маразамі і не растане. Што будзе тады са мной? Што будзе з істотай, якая

затаілася на балконе? Што будзе з Гаспадаром, якому, зважаючы на ўзрост, засталося зусім не так многа?

Я не мог болей заставацца ў невядомасці. І таму пастукаўся ў дзверы… Вось цуд, на гэты раз яны адчыніліся ад мізэрнага дакранання костачак пальцаў. Адчыніліся так, нібы нехта іх знутры пацягнуў. Але ж нікога не было ў пачакальні. Толькі святло, аранжавае, няпэўнае, прабівалася скрозь шчыліну з залы. Я рушыў туды. Абачліва зняў груваскі абутак і ўвайшоў.

— Я б здзівіўся, каб ты не завітаў. — Кволы, надтрэснуты голас данёсся немаведама скуль. Гаспадара не было на ранейшым месцы.

— Дзе вы? — спытаўся я, трывожна азіраючы пакой.

І тады заварушылася пакрывала на канапе. Стары ляжаў пад ім. Я проста адразу яго не заўважыў. Вытыркалася адна ссівелая галава, палова твару.

— Я прыхварнуў, і мушу тут зябнуць, — сіпата прамовіў Гаспадар. — З-за нямогласці не паліў печку некалькі дзён… Ты адчуваеш, як золка і холадна?

Сапраўды, узбуджаны чаканнем звестак пра леапарда, я не звярнуў увагі, што ў кватэры холадна. Але падтакнуў:

— Так, нешта халаднавата. А дзе ў вас дровы? Давайце я памагу…

— Дровы ў падвале. А падвал на замку.

— Дайце ключ, растлумачце дарогу, і я вам іх прынясу.

— Не, хлопча, там такая глыбіня, такія выгіны, такі хлам пад нагамі, што разабрацца ва ўсім гэтым магу толькі я.

— Дык што ж рабіць? — Я без запрашэння сеў, як і той раз, на кілім перад канапай.

Гаспадар крактануў, перхануў, а тады закашляўся: сіпла, свістліва, жудасна і працягла. Нарэшце ён аддыхаўся, высунуў з-пад пакрывала бяззубы, напаўсхаваны барадой і вусамі рот і прамовіў:

— Чакаць. Цярпець і чакаць.

— А вы не баіцеся памерці? Да таго ж… Як без вас пражыве леапард? Яго ж трэба карміць.

— Ён, у адрозненне ад людзей, есць рэдка, але многа. Калі насыціцца — спіць. Тады ён бяспечны. А наконт маёй смерці… Няўжо ты думаеш, што мне не хапіла пражытых гадоў, што я буду чапляцца за гэтае нікчэмнае жыццё, або што нехта заплача, калі я пайду?

— А хто тады будзе даглядаць леапарда? — не адставаў я.

— А навошта ж ты зачасціў да мяне? — Хваравітыя вочы Гаспадара, як здалося, хітравата бліснулі.

— Вы думаеце, я спраўлюся?

— Прынамсі, шанцы на гэта ёсць. Але ж не ўсё залежыць ад цябе, хлопча. Ты ўсё адно будзеш круціцца сярод сваіх сабратоў, а леапард іх не выносіць. Каб аддаць яму належную ўвагу, трэба адрачыся ад свету людзей, стаць такім жа самотным, як я. Ты гэтага не зможаш ажыццявіць.

— Слухайце, мы столькі пра яго гаворым, а вы нават не дазваляеце мне прайсці на балкон…

— І правільна раблю. Не трэба яго да пары да часу трывожыць. Калі леапард прачынаецца, ён сам нагадвае пра сябе. Ты толькі чакай. І не бойся. Пражыўшы страшэнна многа гадоў, я не збіраюся паміраць ад банальнай прастуды. Я яшчэ пакажу табе свайго гадаванца ва ўсёй яго красе.

— Калі?

— Ты такі малады, а забываешся, як старэча. Я ж табе казаў, што снежнае покрыва павінна ўсталявацца. А да гэтага снег выпадзе яшчэ не адзін раз. Ты не дачакаўся, а завітаў да мяне.

— Прабачце…

— Не ў гэтым рэч. Ты можаш прыходзіць сюды колькі заўгодна, але ўсёроўна ён не абудзіцца раней часу. Толькі ўгоніш сябе ў нуду. Навошта табе такі лядашчы суразмоўца, як я.

— Не, мне з вамі цікава.

Стары сіпла ўздыхнуў. Устанавілася працяглая цішыня. Я прыслухаўся і не пачуў ніякіх варушэнняў з балкона, што быў завешаны шчыльнымі шторамі.

— А цяпер ідзі. Ды пастарайся заняцца надзённымі справамі. Леапарда, як смерць, не трэба чакаць і прыспешваць. Ён абуджаецца сам, незалежна ад нас. У гэтым не сумнявайся. — Стары дастаў кашчавую руку з-пад пакрывала і паказаў ёй на дзверы. — Ідзі. І слухай свой лёс.

Я пайшоў. Не ў лепшым, зразумела, настроі. Пайшоў, прадчуваючы бяссонныя ночы і пустыя, пакутныя, авеяныя беспрасветным чаканнем дні.

Але што я мог зрабіць?

## 15

Недзе ў дваццатых чыслах верасня, вечарам, Пятро Мігуля не паехаў, як звычайна, да Ніны Сулеевай, а пакіраваў на аўтобусе ў Серабранку, дзе ў сваёй цёткі жыла Ксеня Шпачык.

Апошнія тыдні ён вёў нейкі няпэўны лад жыцця. Качаўся ў пасцелі да поўдня, затым доўга мыўся ў ваннай, нетаропка снедаў, выпраўляўся ў горад гуляць або да бацькоў, а ў шэсць гадзін, як правіла, званіў у асабняк Амара Рашыдавіча. На кафедры Пятро з’явіўся пару разоў, для прыліку, дысертацыю ж не раскрываў з часу вяртання з Браслава, пра што неаднаразова дакладваў яго навуковы кіраўнік Сямёну Паўлавічу. Але бацька на гэта глядзеў праз пальцы, дакладна ведаючы, што дысертацыя нікуды не дзенецца, а вось Ніну Сулееву, калі сын прамарудзіць, можа ўмыкнуць якісьці бравы джыгіт. Сямён Паўлавіч адно папрасіў сына час ад часу ў інстытуце паказвацца.

…Пятро дапяў да знаёмага двара, утворанага трыма пяціпавярхоўкамі, што стаялі літарай «п». У двор не зайшоў, а, схаваўшыся за кустамі, стаў цікаваць за вокнамі другога паверха трэцяга пад’езда і за ўваходам у яго. Стаяў ён доўга, курыў, затым адлучыўся ў краму на суседняй вуліцы, выпіў там соку, папоўніў запас цыгарэт і вярнуўся на свой назіральны пост.

Дзень быў вельмі пахмурны, а таму вечарэць пачало раней, чым звычайна. Калі змрок стаў апускацца на двор, а ліхтары яшчэ не ўключылі, Пятро занепакоіўся. Ён адышоўся да тэлефоннай будкі, што была за рагом аднаго з трох дамоў двара, і набраў нумар Ксенінай кватэры.

Гудкоў пяць прайшло ўхаластую, а затым пачулася рэзкае:

— Ало! — Гэта Эльвіра Мазэпаўна, як заўсёды непрыемна задыханая, схапіла трубку.

Пятро зацiснуў мікрафон далонню, каб не чулася яго дыхання, і моўчкі прыслухваўся.

— Ало! Хто гэта? — крычала Мазэпаўна. — Ксюша, ты?! Ало!

Мігуля асцярожна націснуў на гашэтку і павесіў трубку.

Ён выясніў тое, што хацеў: ці дома Ксеня. Не, дома яе не было. Але паўставала пытанне, дзе швэндаецца ў вячэрні час яго былая каханка? І адказы, што з’явіліся ў галаве, не маглі задаволіць.

Пятро прыхінуўся да ствала вялікага дрэва і стаў сачыць за адзіным уездам і трыма ўваходамі ў двор. Ліхтары, як на грэх, не запальваліся. Аўто пад’язджалі адно за адным, паркаваліся, з іх выходзілі людзі. Адна цёмнага колеру машына падкаціла да пад’езда, дзе жыла Ксеня, з яе выйшла некалькі чалавек, пачуўся смех, мужчынска-жаночы галас; людзей разгледзець не ўда-

лося. Потым ляпнулі дзверы пад'езда, нехта галёкнуў, нехта ляснуў дзверцамі машыны, яна кранулася з месца, спрытна развярнулася і памчалася з двара. Праз якую хвіліну ў Ксеніным пакоі, дагэтуль цёмным, загарэлася святло і засноўдалі цені.

Раззлаваны, Мігуля памчаўся да тэлефоннага аўтамата, набраў нумар тэлефона Ксенінай кватэры.

— Ало! — цяпер ужо не брыдкі голас Эльвіры Мазэпаўны, а тонкі, мілагучны, вясёла-гуллівы галасок яе пляменніцы прагучаў у Пятровым вуху. — Ало, хто гэта? — Ніякага раздражнення, а проста цікавасць, дабрадушнасць, напэўна, з прычыны добра праведзенага вечара.

Мігуля злосна кінуў трубку на крук, адышоў ад кабіны і рушыў прэч.

«Ёй весела. Сцерва! — лаяўся ён у думках, ідучы ў бок аўтобуснага прыпынку. — Новая кампанія, новае жыццё, у якім няма месца Пятру Мігулю! Нейкі багаты хахаль, нябось. Ну я вам пакажу!»

Дома ён хадзіў па кватэры з пакоя ў пакой, з кухні ў ванную і на балкон, смаліў адну за адной цыгарэты, але не мог супакоіцца. Лёг у тры гадзіны ночы, заснуць не здолеў і яшчэ некалькі разоў ускокваў з ложка, курыў, піў ліманад і мыўся пад душам. Адключыўся ён толькі перад світаннем. Але ўжо ў дзевяць гадзін прачнуўся ўсё з той жа трывогай. Дакладней, не з трывогай, а з выразнай, невыноснай у сваёй нязводнасці думкай: «Ёй весела!» Думка не адпускала, дакучліва мільгацела ў галаве ўвесь дзень.

Вечарам, не было яшчэ і пяці, Пятро зноў стаяў ля Ксенінага дома і паўзверх хмызняку сачыў за яе вокнамі і пад'ездам. Ідучы сюды, ён пазваніў Ніне і сказаў, што едзе на юбілей да старога сябра.

Гэтым разам чакаць доўга не давялося — усяго з паўгадзіны. Тым не менш Пятро азяб, дрыжыкі прабіліся за каўнер і рукавы кароценькай курткі, бегалі мурашкамі па руках і спіне. Дрыготку павялічвала і моцнае хваляванне. Пятро збіваў яго несупынным курэннем. Увогуле, наколькі гарачы быў жнівень, наколькі цёплая была першая палова верасня, настолькі ж рэзка і надоўга пахаладала. Дрэвы, што стаялі нязвыкла для гэтай пары зялёнымі, пачалі імкліва жаўцець і скідаць з сябе аджылае лісце. Беларуская прырода брала сваё.

Каля паловы шостай — а Мігуля раз-пораз зіркаў на наручны гадзіннік — адчыніліся дзверы пад'езда і паявіліся жанчына з мужчынам, пад руку. Пятро не адразу пазнаў Ксеню, а затым стаяў ашаломлены, пакуль парачка спускалася з ганка, набліжалася да цёмна-сіняга аўтамабіля і няспешна ў яго садзілася.

Пятро чакаў, што Ксеня будзе вяртацца з работы, а яна, аказваецца, была дома яшчэ да яго падыходу. Ён, канешне, падазраваў, што яна знайшла сабе новага мужыка — іначай бы не размаўляла з ім такім ганарлівым тонам, дый такія шустрыя маладзіцы без мужыкоў не бываюць. Але ж адна справа ўяўляць гэта, так сказаць, у тэорыях, а зусім іншая — бачыць на свае вочы нядаўнюю палюбоўніцу пад ручку з новым уладальнікам яе цела. Уразіла тое, як Шпачык за тры тыдні пахарашэла. Яна крыху папаўнела, твар стаў румянейшым, круглейшым і свяціўся ад шчасця. Мігулю, асабліва ў апошнія месяцы іхняй сувязі, раздражняла яе вастраносасць, што рабіла твар сярдзітым, нават драпежным. Цяпер жа ўсё гэта знікла.

Пятро даволі доўга разглядаў Шпачык і яе залётніка, таму што яны парадкам памарудзілі каля машыны. Мужчына адкрыў багажнік, штосьці адтуль узяў і перанёс у салон, штосьці ўзяў з салона і паклаў у багажнік. Потым Ксеня званіла па мабільніку. Весела, шчаслівым галаском з кімсьці перамаўлялася. О, Пятру былі выдатна знаёмыя галасавыя інтанацыі Шпачык. Яна можа быць

ласкавай, як кошачка, а можа быць рэзкай і злоснай, як ведзьма. З ім жа ў апошнія месяцы яна трымалася вельмі халодна. Гэта яшчэ тая артыстка.

«А ў яе ж зусім новае жыццё, новае, мусіць, кола прыяцеляў. Яна абсалютна шчаслівая. І гэта за якія паўтара месяца!» — круціў на розныя лады адну і тую ж думку Пятро.

Яго заўсёды ўражвала здольнасць людзей напоўніцу забывацца на тых, з кім раней шчыльна перапляталіся лёсамі. Здавалася, жыць не могуць адно без аднаго. А потым выкрэсліваюць былых сяброў, мужоў, палюбоўнікаў са свайго сэрца — і капец. Усё адно як хаваюць. Не забіваючы фізічна, людзі становяцца рэальнымі забойцамі ў сваіх сэрцах. Бо тое, памёр іх былы прыяцель або жыве, цалкам перастае хваляваць. Мы страшэнныя эгаісты. Пятро гэта па сабе ведаў. Але досвед досведам, а даравацць Шпачык такую да яго абыякавасць Мігуля не мог.

Ён разгледзеў і мужчыну. Яму было гадоў трыццаць пяць. У шэрым пінжаку, пры гальштуку, з вусамі. І што самае дзіўнае — зусім невысокага росту, Ксеня на абцасах з ім роўная, а ў ёй было сто шэсцьдзесят тры сантыметры. Да таго ж — шчуплаваты, у акулярах, з залысінамі. І яна магла аддаць перавагу такому заморку перад ім, высокім, прыгожым, гарачым у каханні Пятром Мігулем… Гэта быў не проста ўдар па самалюбстве, гэта было крушэнне яго філасофіі кахання.

Праўда, машына ў наваяўленага Ксенінага хахаля была прыгожая і, наколькі Пятро ў гэтым разбіраўся, сведчыла, што ў яе гаспадара дастатак не сярэдні, а вышэйшы. Манера, з якой мужчына трымаўся, яго рухі, жэсты і голас указвалі на тое, што ён займае даволі трывалае, паважанае месца ў грамадстве, ведае, так бы мовіць, сабе цану. Спакаваўшы рэчы, ён адчыніў перад Ксеняй пярэднюю дзверцу, галантна ўсадзіў яе на сядзенне, абабег машыну і сеў на месца вадзіцеля.

Лёгенька зачыніліся дзверы. Машына завялася, плаўна кранулася з месца, развярнулася і нырнула пад арку. Пятро, азадачаны, пацёгся за ёю следам. Ён выйшаў на завулак, дапяў да вуліцы, паглядзеў налева, затым направа, але аўтамабіля, на якім Ксеня Шпачык паляцела насустрач свайму шчасцю, не было відаць. Хлопец яшчэ доўга сноўдаўся па вуліцах блізкіх кварталаў, спадзеючыся сустрэць той цёмна-сіні легкавік у патоку машын, але дарэмна. Здаецца, увесь гэты час ногі працавалі асобна, рукі — асобна, а душа наогул нібы пакінула цела, і Пятро, выкурваючы цыгарэту за цыгарэтай дабраўся дадому нібы на аўтапілоце, калі зусім звечарэла.

Падзеі наступных дзён разгортваліся імкліва. Назаўтра Мігуля выпрасіў у інстытуцкага прыяцеля аўтамабіль на некалькі дзён і гадзіны ў чатыры заехаў на двор Ксені Шпачык. Машыну паставіў блізу аркі, так, каб праглядаўся Ксенін пад’езд. Пятро быў у чорных акулярах і капелюшы, насунутым на самыя бровы. Але яму не пашанцавала: Шпачык прывезлі позна вечарам на іншай машыне. За рулём сядзела дзяўчына, яе сяброўка, якую Пятро добра ведаў. Ксенінага залётніка ў салоне не было, інакш бы ён вылез яе правесці. А так Ксеня выйшла, пастаяла хвіліны тры, пагаварыла з сяброўкай, затым накіравалася ў пад’езд.

На наступны дзень Мігуля разам з Нінай Сулеевай у кампаніі трох сябровак і двух хлопцаў мусіў адправіцца ў начны клуб: ён не мог адмовіцца ісці туды, бо Ніна вельмі настойліва запрашала.

Яны зайшлі ў клуб гадзін у восем. Пятро нібы напяў на твар маску вясёласці, падтрымліваў гутарку, смяяўся, танцаваў, еў і выпіў пару фужэраў сухога віна. Але думкі яго былі настолькі далёка ад субяседнікаў, што ён не запомніў ніякіх падрабязнасцей гэтага вечара. Перад вачыма стаяў веча-

ровы двор дома, дзе жыла Ксеня Шпачык, яе пад'езд і цёмна-сіні легкавік перад ім. Уяўленне жвава дамалёўвала тое, як вылазяць з машыны Ксеня і яе бравы залётнік, як яны цалуюцца, абдымаюцца, падымаюцца па прыступках ганка, як яго рука ляжыць на яе таліі… Пятро не дабыў да канца вечара. Для гэтага прыйшлося разыграць сцэну: выйсці нібыта ў прыбіральню, а затым прыбегчы і сказаць, што па мабільніку пазваніў сусед, якога залівае вадой з Пятровай кватэры. Мігуля прасіў прабачэння ў субяседнікаў, асабліва ў Ніны, якую, на жаль, не зможа правесці. Як на бяду, хлопец, што быў з Нінанай сяброўкай, падрадзіўся адвезці Мігулю на сваёй машыне. Ледзь удалося ад яго адкараскацца.

Выскачыўшы з клуба, Пятро шуснуў у метро, даехаў да «Трактарнага» і перасеў у аўтобус, што ехаў у Серабранку. У дванаццаць гадзін ночы ён заняў звыклы пост на двары Ксені Шпачык. Але марна — яна, напэўна, была ўжо дома, калі ён прыбег. А палове першай у яе пакоі загарэлася святло, якое пагасла назусім у дванаццаць пяцьдзесят. Пятро прастаяў яшчэ хвілін сорак у пакутлівых роздумах. Толькі а палове другой пабрыў з двара, быццам шылам кашы паеўшы. Транспарт ужо не хадзіў, давялося доўга і тамліва лавіць таксоўку. Дамоў вярнуўся азяблы і злы, але з планам далейшых дзеянняў.

Пятру пашанцавала ўжо на наступны дзень, калі можна назваць шанцам тое, што ён пабачыў. Знаёмы цёмна-сіні легкавік падруліў да пад'езда блізу шасці вечара. З яго, апрача гаспадара, выйшла і Ксеня. Яны, трымаючыся за рукі, паспешліва — бо церушыў дробны халодны дождж — прайшлі ў пад'езд. Але не мінула і паўгадзіны, як яны спрытна збеглі з ганка з валізкамі ў руках, уладкаваліся ў машыне і некуды паехалі. Пятро ледзь паспеў завесці свой легкавік, каб пусціцца ў пагоню.

Ён выскачыў з-пад аркі і скіраваў за цёмна-сінім аўтамабілем, які, на шчасце, прытармазіўшы на скрыжаванні, даў магчымасць да яго наблізіцца. Павярнулі направа. Пятро не разбіраў вуліц, адно пільна сачыў за нумарам пад багажнікам легкавіка.

Яны выехалі на кальцавую. Там Пятро крыху перавёў дух, бо на чатырох палосах стала значна вальней, чым у горадзе, і сачыць за машынамі было куды прасцей. Ён трымаўся за машынай Ксенінага кавалера метрах у трыццаці. Але вечарэла з кожнай хвілінай.

Затым яны вывернулі на Магілёўскую шашу, праехалі па ёй кіламетраў пятнаццаць і збочылі на прасёлак. Тут Пятру давялося адстаць ад машыны Ксенінага залётніка метраў на сто пяцьдзесят, каб не выклікаць падазрэння. Ён ледзь не правароніў, як аўтамабіль шмыгнуў направа ў лясок. За ляском распасціраўся буйны дачны пасёлак. Мігуля, заехаўшы на яго тэрыторыю, адразу ўбачыў, што машына залётніка спынілася пасярод вуліцы, і ўжо адчыняюцца дзверы. Прыйшлося імгненна з'ехаць на ўзбочыну, схавацца за навіслым голлем разлапістай вярбы.

Пятро, не вылазячы з машыны, вызначыў і запомніў дом, на двор якога зайшлі Ксеня і яе палюбоўнік. Яны адчынілі браму і загналі машыну ў двор. Мігуля ж мусіў адагнаць свой легкавік назад у лясок, паставіць на палянцы і пакінуць без нагляду на няпэўны тэрмін.

Да дома, куды зайшла закаханая парачка, Пятро пракраўся з боку хваёвага лесу. То быў аднапавярховы цагляны будынак, які мала чым адрозніваўся ад тых, што стаялі пабач. У двух вокнах будынка гарэла святло, дакладней, гарэла ў адным акне, у другім яно было рассеянае, мусіць, падала з калідора. З коміна ўжо валіў шызы дымок. Вокны суседніх дамоў не свяціліся. Толькі сям-там па пасёлку на слупах гарэлі лямпачкі, недзе таксама ішоў з комінаў дым, брахалі сабакі, чуліся галасы.

Хутка зусім звечарэла, і Пятро, асмялеўшы, падышоў да плота. Дакладней, гэта быў ніякі не плот, а сімвалічная драцяная агароджа з метр вышынёю. Ён пастаяў, папрыслухоўваўся, папрыглядваўся і спрытна яе пераскочыў. Прабраўся пад заценню дрэў да правага вугла дома, зазірнуў за яго: на двары цьмяна блішчаў перад аўтамабіля. Цішыня. Пятро вярнуўся ўздоўж сцяны да акна, стаў так, каб яго нельга было заўважыць, замёр. Знутры даносілася лёгкая музыка, чуліся крокі і галасы.

Дождж, які то капаў, то аціхаў, узняўся з новай сілаю. З даху ліло на мыскі Мігулевых чаравікаў, вада трапляла і на край капелюша. Цела разбірала дрыготка. Вельмі хацелася закурыць — але цяпер рабіць гэта было нельга, і ён ледзь стрымліваў сябе. Невядома колькі хвілін Пятро прастаяў так, амаль нерухома. Ён спрабаваў паглядзець на гадзіннік, але ў цемры нічога не ўбачыў. З лесу даносіўся покліч нейкай істоты. За домам, па вуліцы, два разы прашорхалі шыны машын. Ад таго, што нехта пакідае нанач гэтае малалюднае месца, рабілася ніякавата і вусцішна.

Вось рыпнулі дзверы, і нехта выйшаў на ганак. Мігуля прагна і напружана прыслухоўваўся. Хутка ён улавіў пах цыгарэт. Нехта затупаў па двары, рыпнулі яшчэ адны дзверы, ужо значна бліжэй да тарца дома — мабыць, у прыбіральні. Хутка нехта адтуль выйшаў і рушыў назад. Крокі, здаецца, мужчынскія. Галасы на ганку. Адзін яўна жаночы. «Хадзем, холадна» — сказала Ксеня. Уяўленне выразна «дамалявала» гукі пацалункаў. А тады, ужо напэўна, стукнулі апошні раз дзверы — і ціша: працяглая, пакутлівая, самотная.

У складаных пачуццях, калі перамяшаліся страх быць заўважаным, цікаўнасць, нянавісць і помслівасць, Пятро адарваўся ад сцяны і, не азіраючыся, заглыбіўся ў цемрадзь саду. Там, зліўшыся са ствалом старой яблыні, ён абярнуўся на дом. У светлым праёме акна, за празрыстай фіранкаю, два цені, мужчынскі і жаночы, стаялі насупраць, амаль дакранаючыся адно аднаго жыватамі. Потым іх рукі абхапілі, аплялі адно аднаго і прасвет паміж ценямі знік. Яны захісталіся, сталі хіліцца долу і зніклі за ніжняй мяжою акна. Затым пагасла святло.

Мігуля, зніякавелы, прамоклы, доўга стаяў пад яблыняй. З забыцця яго вывеў пранізлівы боль у вялікім пальцы правай рукі. Палец, як аказалася, быў засунуты ў рот і пракушаны ці не да косткі…

Потым Пятро доўга, зусім не тоячыся, сноўдаўся вакол дома і па двары, шукаў камень. Знайшоў аскепак белай цагліны, стаў перад акном, завёў руку для кідка…

Прычына, па якой адстаўны каханак не рашыўся рассадзіць каменем шыбу, нам невядомая. Можна толькі адзначыць, што на Пятровым твары з’явілася хітраватая ўсмешка, якая, зрэшты, больш выдавала на выскал вар’ята.

…Назаўтра раніцай, калі шчаслівыя палюбоўнікі выйшлі з дома, то ўбачылі, што аўтамабіль «закульгаў» на адзін бок. Правыя пярэдняе і задняе колы былі спушчаны, а на капоце ляжалі дзве крывыя здаравенныя палкі — адна значна даўжэйшая, — складзеныя крыжам.

Больш слядоў вандалізму не выявілася.

## 16

Ні разу яшчэ Наталля Ціханаўна не была настолькі няўважлівая падчас службы. Словы святара айца Аляксея не кранalі душу, рухі яго здаваліся занадта павольнымі і ненатуральнымі. Хваласпевы, што ліліся з боку царкоўнага хору і ўзмацняліся пад скляпеннямі, гучалі манатонна, нудліва і не кранаті душы. Са страхам спрабавала Наталля Ціханаўна засяродзіцца на словах

малітваў, намагалася паўтараць іх сама сабе і шаптаць. Але словы вымаўляліся механічна, пуста, і ад таго адчуванне сваёй грахоўнасці шматкроць узмацнялася. Прыхаджан у невялікім памяшканні царквы набілася як ніколі. Было душна і нават мітусліва. Твары некаторых людзей выглядалі несімпатычна: занадта ўважлівыя, гатовыя лавіць кожны гук і жэст айца Аляксея. На некаторых была бачна рабская пакора і ліслівасць. Усё гэта, вядома ж, было выклікана ўнутраным станам Наталлі Ціханаўны, і яна, добра тое разумеючы, спрабавала стрымаць сябе, авалодаць раздражненнем. Аднак гэта ёй не ўдавалася і яна з цяжкасцю дачакалася заканчэння службы.

Хваляванне Наталлі Ціханаўны выспела на цалкам рэальных рэчах. На паводзінах і душэўным стане роднага сына. Дужа непакоіў апошнім часам Пятрусь. Грубіяніў бацьку, не адказваў на тэлефонныя званкі, закінуў заняткі ў аспірантуры і нават у сваёй кватэры не прыбіраў. А аднойчы, калі маці ў яго адсутнасць зайшла і прыбралася, учыніў істэрычны скандал, крычаў у трубку, што знарок высыпаў смецце з вядра на кілім у зале і што Наталля Ціханаўна можа прыехаць і праверыць. Пагражаў, што памяняе замкі, каб яго болей не турбавалі. На наступны дзень, зрэшты, з'явіўся, як нічога не было, на вячэру, жартаваў з Сямёнам Паўлавічам, паабяцаў скончыць дысертацыю да Новага года. І ўсё ж нешта ў сыну было не тое, нешта ненатуральнае, не такое, да чаго звыкла Наталля Ціханаўна за апошнія гады. Што ён шалапут, эгаіст і бабнік — у гэтым нават любячую маці пераконваць не трэба было. Але ж не быў Пятрусь злым чалавекам. Раней не быў… Цяпер жа часам уражваў ягоны калючы позірк, з'явілася косая маршчына на лбе, край правай губы раз-пораз непрыгожа падымаўся, ствараючы аднабаковую, нядобрую ўсмешку. Акрамя таго, не было раней, каб сын хоць раз за суткі не пазваніў, не пацікавіўся самаадчуваннем бацькоў, ці хаця б не сказаў, што ў яго ўсё нармальна. Цяпер жа мабільны ў яго, як правіла, стаяў на рэжыме аўтаадказчыка і прапаноўваў надыктаваць паведамленне ў памяць. Але, нават калі маці запісвала на аўтаадказчык просьбу пеpaзваніць, Пятро нярэдка не рэагаваў і ёй прыходзілася тэлефанаваць яму яшчэ і яшчэ. Сынаў твар схуднеў, пабляднеў, спіна ссутулілася. Адчувалася, што ён кепска харчуецца і перастаў сачыць за сабой. Кашуля часта выглядала нясвежай; пах поту забіваўся вялізнымі дозамі дэзадарантаў. Чаравікі нярэдка былі залеплены восеньскім брудам, і Пятро, калі прыходзіў да бацькоў, забываўся вычысціць абутак, што заўсёды рабіў раней. Цяпер яго чаравікі ўпотай чысціла маці.

А яшчэ адчувалася, што паміж сынам і мужам назапасіўся вялізны адмоўны патэнцыял, гатовы ў любую секунду грымнуць выбухам. Пятро нібы выпрабоўваў нервы Сямёна Паўлавіча, адцягваючы афіцыйную прапанову Ніне Сулеевай. Бацька ж трымаўся з апошняй змогі, не прыспешваў, але жудасна нерваваўся. Пры сыну маўчаў, а спаганяў сваё раздражненне на жонцы. Да таго ж стаў папіваць карвалол, мімаволі прыкладаць руку да левага боку грудзей. Начамі не спаў, выходзіў са спальні на балкон, тупаў па зале. Карацей, над сямействам Мігуляў збіралася навальніца, і Наталля Ціханаўна хацела, пакуль не позна, параіцца з айцом Аляксеем, як быць.

Бацюшка, калі скончыў службу, адразу ж скіраваў на лесвіцу, што вяла ў прыбудову да храма, — там знаходзіліся яго апартаменты. Наталля Ціханаўна, счакаўшы пятнаццаць хвілін, як было дамоўлена, пайшла ўслед за айцом Аляксеем. Падымалася па лесвіцы яна цяжка, апошнім часам ногі дрэнна слухаліся, а ў суставе правага бядра нешта паскрыпвала, і тады ўсю нагу, зверху ўніз, пранізваў востры боль. На паўдарозе яе абагнаў жвавы дзячок Міхаіл. А пры канцы лесвіцы — яшчэ адна прыхаджанка, што, відаць па ўсім, таксама спяшалася на гутарку з бацюшкам. Аднак Наталля

Ціханаўна не засмуцілася: айцец Аляксей, калі сказаў, што прыме яе адразу пасля службы, то сваё слова абавязкова стрымае. Яна неаднойчы звярталася да бацюшкі, калі ёй была патрэбна маральная дапамога, і ён ніколі ёй не адмовіў. Акрамя таго, Наталля Ціханаўна ведала, што з прычыны сваёй грамадскай актыўнасці і бескарыслівага ўдзелу ў справах прыходу, яна тут на адмысловым уліку.

У калідоры было цемнавата. Гарэла пару слабенькіх лямпачак на левай сцяне. Уздоўж гэтай сцяны стаяла лаўка, на ёй ужо размясцілася кабета, што абагнала Наталлю Ціханаўну на лесвіцы. Жанчына раўніва, як на канкурэнтку, зірнула на Наталлю Ціханаўну і панурыла галаў. Тая села на процілеглым канцы лаўкі. Насупраць знаходзілася двое дзвярэй, драўляных, масіўных, знутры абабітых дэрмацінам. Ніводзін гук не пранікаў праз іх у час душавыратавальных гутарак айца Аляксея з прыхаджанамі. Зараз ён, мабыць, прымае дзячка Міхаіла. Трэба дачакацца. Наталля Ціханаўна рахмана паклала рукі на сумачку, счапіла пальцы і стала маліцца, каб суняць хваляванне. У цёмнай хустцы, з-пад якой выбіваліся сівыя пасмы, у някідкай кофтачцы і доўгай шэрай спадніцы, яна выглядала пакорлівай і не была падобна на жонку вялікага начальніка. Муж, дарэчы, саромеўся жончынага захаплення царквой і разам з тым радаваўся, што прыход айца Аляксея знаходзіўся далёка ад цэнтра горада, што ён не навідавоку ў вышэйшага царкоўнага кіраўніцтва.

Дзверы ў пакой айца Аляксея адчыніліся так ціха, што жанчыны, якія сядзелі насупраць, гэтага нават не заўважылі.

— Наталля Ціханаўна, прайдзіце, — паклікаў сваім басавітым мілагучным голасам святар, ледзь паказаўшы ў праёме частку барады.

Наталля Ціханаўна падхапілася з месца, паправіла хустку, мітуслівa пераклала з правай рукі ў левую сумачку, і прайшла да дзвярэй. Пры гэтым старалася не глядзець на прыхаджанку, якую апярэдзіла воляй выпадку. Прайшла, асцярожненька прычыніла за сабой дзверы. Айцец Аляксей стаяў у шчодра асветленым квадратным пакоі ля акна, напаўпаварота да госці.

— Праходзьце да стала, калі ласка. І сядайце.

Наталля Ціханаўна прысела на краёчак драўлянага крэсла. Згорнуты плашч і сумачку паклала на калені.

Бацюшка, як заўсёды румяны і жыццярадасны, сеў насупраць у сваё працоўнае крэсла — з высокай выгінастаю спінкай, якое было падобна на трон. Айцец Аляксей быў не стары мужчына — гадоў пяцідзесяці. Бухматую яго бараду сівізна ледзь кранула. У валасах слядоў яе зусім не было. Высокі, мажны, але не тоўсты, бацюшка ствараў уражанне вельмі ўпэўненага чалавека. Пераапрані ў цывільнае, згалі бараду — стане падобны да дырэктара якога-небудзь канцэрна, ці якога іншага буйнога прадпрыемства. Надзень даспехі — будзе былінны волат. А між тым айцец Аляксей паходзіў з патомнай сям'і святароў, нарадзіўся ён пад Брэстам, дзе ў яго бацькі, нават у савецкія часы быў свой сталы і паважаны прыход. Вучыўся Аляксей у духоўнай семінарыі. Гэтая патомнасць і радавітасць прываблівала Наталлю Ціханаўну. Аднойчы, трапіўшы ў гэты прыход выпадкова, яна звыклася тут і ніколі не думала яго памяняць, хоць дабірацца ёй сюды ад дома было вельмі далёка.

Бацюшка паспеў зняць рызу і епітрахіль і быў у сваім звычайным рабочым адзенні. Усё чорнае, чорная шапачка… З усім гэтым кантраставаў яго паўнакроўны твар, а таксама — вялікія кісці рук з тоўстымі, дагледжанымі пальцамі. Рукі святар паклаў на стол, далонямі ўніз. На прыхаджанку ён пазіраў неяк задзірыста, весела. Ва ўсім вобліку не адчувалася і кропелькі стомленасці пасля працяглага набажэнства.

— Бацюшка, — нарэшце прамовіла Наталля Ціханаўна, — вы ўжо выбачайце, што вас патрывожыла. Я многа часу не адыму. Тут вось…

— Наталля Ціханаўна, давайце без гэтага… без рэверансаў. Згода? — Айцец Аляксей усміхнуўся. — Даваць парады ў жыццёвых абставінах — гэта тое, для чаго я пастаўлены. Разнявольцеся і гаварыце смела пра тое, што вас хвалюе.

— Сын, бацюшка. Цяпер толькі ён у мяне ў галаве.

— Спадзяюся, нічога злачыннага ваш Пятро не зрабіў?

— Крый яго божа! — Наталля Ціханаўна машынальна перажагнулася. — Пакуль нічога такога няма. Але… Стан ягоны душэўны… Чарсцвее Пятрусь, не такі ён нейкі… Памажыце, парайце, бацюшка… — заблыталася яна ў навале думак і фраз.

— Духоўны воблік вашага сына я прыкладна ведаю… Па ранейшых нашых размовах. І што ж новага ў ім, што змянілася?

— Ой, адны падазрэнні пакуль, айцец Аляксей, адны падазрэнні… Чуццё.

— Ну, матчына чуццё самае вернае. Расказвайце. І сядзьце вы так, як вам лепш, абапрыцеся на спінку. Вось так.

— Бацюшка, каб ведаць, што не нашкодзіш, я даўно б яму ўсё прама сказала. Ды баюся лезці ў душу. Бездань там нейкая… Ведаеце, жэніць яго цяпер муж мой, Сямён Паўлавіч, на дачцэ вельмі багатага чалавека. Усё як быццам дамоўлена, абгаворана, а я адчуваю, што Пятрусь яшчэ для сябе канчаткова не вырашыў, будзе ён жаніцца ці не, што рыхтуе ў апошні момант фартэль… — У Наталлі Ціханаўны перахапіла дыханне, яна змоўкла.

— Ну-ну, вы не нервуйцеся так. Вады, Наталля Ціханаўна? — Бацюшка прыўстаў з крэсла.

— Ага, вады, калі можна…

Айцец Аляксей прайшоў да тумбачкі, што стаяла перад акном, наліў з графіна ў шклянку вады, папярэдне праверыўшы яе чысціню на святло. Паднёс Наталлі Ціханаўне. Тая хутка, прагна адпіла палову, паставіла шклянку перад сабой.

— Дзякуй, бацюшка. Здароўя няма, у роце сохне… А тут адны хваляванні… Справа ў тым, што для бацькі, мужа майго, вельмі важная тая жаніцьба… А сын адчуў гэта і яму на нервах іграе. Ужо і прапанову даўно рабіць пара, а Пятрусь марудзіць. І, акрамя таго, я дакладна ведаю, што сапраўды ён баіцца гэтай жаніцьбы, не для Пеці тая сям'я, не яго маштаб. Ён ціхі ў мяне, адзіночнік. Ні сяброў, ні зухаватых кампаній… Жанчыны толькі, вось дзе бяда… Грэшная я, даруйце айцец Аляксей, не справілася з гэтым. Не раз ужо вам казала, што жанчынамі ён залішне захапляецца. Вельмі шмат іх у яго… Грэх. І без кахання ўсё. А проста так, дзеля цялеснага… Ну і там… Ох, баюся… — Яна сціснула галаву далонямі.

— Што я вам скажу, Наталля Ціханаўна, — пачаў айцец Аляксей нейкім напаўсур'ёзным тонам. — Грэх блуду — безумоўна, вялікі грэх. Але ж у параўнанні з тым, што цяпер наўкол творыцца, сын ваш выглядае анёлкам. Так-так. Уявіце, каб ён гуляў не з дзяўчатамі, а з хлопцамі. Вы разумееце, што я называю словам «гуляў»? А каб ён піў, буяніў, ужываў наркотыкі? Гэтага ж у яго не было?

— Барані божа! — зноў перажагнулася Наталля Ціханаўна.

— Вось бачыце. — Святар правёў рукою па дагледжанай барадзе зверху ўніз. — А каб ваш Пятро, акрамя ўсяго, стаў на шлях ліхадзейства, каб ён біў сваіх бацькоў, вымагаючы грошы? А такое ж бывае. Усё, Наталля Ціханаўна, пазнаецца праз параўнанне. Гэта я Вам, канешне, адно прыватным чынам магу гаварыць. Афіцыйна звернецеся, прылюдна — асуджу. А з вока

на вока — параю дзякаваць Усявышняму, што яшчэ не горшага сына ён вам падарыў. Дай бог яму, Пятру вашаму, здароўя і даўгалецця. Перашалее, адумаецца. А жаніцца яму неабходна. Хай нават на дачцэ таго багатага чалавека. Чаго вы так баіцеся? Не бойцеся. Колькі распуснікаў і гулякаў сталі ўзорнымі бацькамі — не пералічыць. Бязбожнасць сынава, Наталля Ціханаўна, — вось што вас павінна найперш непакоіць. Гэта, як вам сказаць… гэта такі заганны патэнцыял, што можа чалавека адно ў прорву прывесці. Бегае ён па схілах варонкі, і кожны крок — па спіралі, ніжэй і ніжэй… Таму і жаніцца трэба вашаму сыну. Ды не марудзячы. Сямейнік можа ў Бога не верыць, але ж праз любоў да сям'і, бацькоўскія абавязкі, праз спачуванне, сужыцельства глядзіш — і да Бога далучыцца. Адзінокаму ў бязбожнасці небяспечна, а сям'я — лякарства такім няшчасным…

— Эх, бацюшка, там і сям'я такая… бацька мусульманін, маці з каталікоў…

— А вось гэта нядобра вы кажаце, Наталля Ціханаўна. — Айцец Аляксей не пераставаў ледзь улоўна ўсміхацца. — Перад Госпадам усе роўныя, што кітаец, што эскімос, што амерыканец.

— А як жа, бацюшка… у Пісанні сказана, судзіце не па справах іхніх, а па веры іхняй… — сказала жанчына і сама спужалася сваёй смеласці; яна нават прыкусіла верхнюю губу.

— Там хіба сказана, па якой веры? — з найгранай строгасцю зірнуў на яе святар. — Там маецца на ўвазе сіла веры, а не прыналежнасць да пэўнай канфесіі.

— Ды якая там... гэта... канфесія ў таго чалавека? Бязбожнік ён. Долар — уся яго рэлігія…

— Гэта не нам судзіць, Наталля Ціханаўна.

— Прабачце, айцец Аляксей, хвалююся, грэшная. Ад таго немаведама што гавару. Даруйце… — Яна нервова перабірала рамяні сумачкі, твар яе, як і ў час гутаркі, быў панурым.

— Вось ледзь не забылася пра галоўнае, дзеля чаго да вас папрасілася… Выраз твару ў Петруся нейкі злавесны стаў. Баюся, айцец! А чаго баюся — адзін выпадак з яго дзяцінства з памяці не выходзіць.

— Так-так. — Можа, упершыню твар святара стаў сур'ёзны, адпаведна сітуацыі.

— Як вам сказаць… Ну, карацей, у школе ён, у трэцім класе аднойчы напракудзіў… Ды якое там напракудзіў — пасля гэтага бацька мусіў яго з той школы забраць… Паспрачаўся ён там з адным хлопчыкам на пераменцы, у класе, каля дошкі. Што яны не падзялілі — богведама. А хлопчык той з завадатараў быў, вечна ўсіх падбухторваў, чапляўся, дрэнны такі хлопчык… І Пятрусь, пры аднакласніках, пры настаўніцы, якая сядзела за сталом, кінуўся на свайго крыўдзіцеля. Як ашалеў пры тым, мне расказвалі. Чырвоны, вочы вырачаныя, збялелыя, вены на шыі надзьмуліся… Збіў з ног таго хлопчыка, калашмаціў рукамі-нагамі, указкай ссінячыў, парваў на ім вопратку… Адцягнуць яго не маглі. Адцягваюць, а ён рукамі за пінжак таго хлопчыка — мёртвай хваткаю. І за валасы настаўніца Петурся адцягвала, а ён болю як не адчуваў. Адарвалі яго ад таго хлопчыка толькі тады, калі на крык збегліся іншыя настаўніцы і выкладчык гісторыі — малады мужчына. А ў Петруся пальцы потым, далоні — да мяса здзёртыя, так чэпка трымаўся ён за пінжак свайго крыўдзіцеля… Адцягнулі, а ён супакоіцца не мог, як ліхаманка яго тузала. Мусілі выклікаць «хуткую», і толькі пасля ўколу Пятрусь сцішыўся.

— Угу… хм… — кашлянуў айцец Аляксей, паколькі Наталля Ціханаўна на нейкі час замаўчала.

— Але дзіўна тое, бацюшка, што потым ён нічога не мог успомніць, — зноў працягвала яна. — Напачатку думалі, што прытвараецца. Але не. Псіхіятры, да якіх мы Петруся затым неаднойчы вадзілі, пацвердзілі, што такое адключэнне памяці цалкам магчымае. Нават нейкі навуковы тэрмін назвалі, зараз не ўспомню які… Божа мой, як жа мы з Сямёнам Паўлавічам тады напалохаліся! Але, дзякаваць богу, без лячэння абышлося, і прыступ болей не паўтарыўся. З той школы, праўда, Петрусю давялося сысці — бацькі астатніх дзяцей за сваіх чадаў баяліся. Але, бацюшка, паверце мне, усё маё жыццё — як пад сякерай, у страху жыву, не магу забыць тое здарэнне.

— І вы думаеце…

— Ой, нават вымавіць, айцец Аляксей, баюся гэтыя словы. — Наталля Ціханаўна падняла вочы на святара; па левай яе шчацэ пракацілася адзінокая слязінка. — Твар мне сынаў не падабаецца… Тут, канешне, чуццё больш падказвае.

— Правільна, што чуццю свайму давяраеце. Правільна, што прыйшлі да мяне, дарагая Наталля Ціханаўна. — Бацюшка крыху памаўчаў, пастукваючы пальцамі па стале, потым сказаў: — Выпадак цяжкі, падманваць не стану. Як вам сказаць… Ёсць такое паняцце — апантаны нячыстым духам…

— О Божа, бацюшка, ды што ж гэта… — няшчасная маці схапілася рукою за горла, сутаргава ловячы паветра.

— Не хвалюйцеся, напрамілы бог, Наталля Ціханаўна. — Айцец Аляксей пацягнуўся праз стол і паклаў сваю вялізную далонь на яе руку. — Я магу гаварыць толькі праўду, якой бы цяжкай яна ні была. Дакладней, няпраўды не магу гаварыць. Але ж гэта не значыць, што сказанае мной у поўнай меры тычыцца вашага сына. Рэальнай сітуацыі, ісціны, я не ведаю. І ніхто яе не ведае, акрамя Бога… Тым не менш, дарагая, нам з вамі трэба быць пільнымі.

— Ой, як я баюся вашых слоў… — Наталля Ціханаўна каторы раз перахрысцілася.

— Не бойцеся. Уратуемся верай. — Паўза. Зноў пастукванне тоўстымі пальцамі па стальніцы. — Хм… Злыя духі, адвечныя нашы ворагі, умеюць падсяляцца да абранай ахвяры цішком. Умеюць таіцца, вонкава праяўляючыся толькі зрэдчас, або зусім да пары да часу не праяўляюцца. Чаму яны выбіраюць таго ці іншага чалавека — невядома. Ён, мабыць, у гэтым больш не вінаваты, чым вінаваты… Расце такі чалавечак, гадуецца ў нармальнай сям'і, усмешлівы і добразычлівы. І раптам азмрочваецца яго душа, кісне, аддаляецца ад людзей. Ён можа замкнуцца ў сабе, а можа не страціць якасцей дружбы і вернасці. Апантаныя дэманамі бываюць самотныя, а бываюць, наадварот, празмерна сацыяльна актыўныя. Але ж актыўнасць іхняя не з любові, а з нянавісці да людзей. Будучы ў цэнтры ўвагі, яны адзінокія не менш, чым апантаныя дэманам першага тыпу. Наталля Ціханаўна, вады?..

— Дзякуй, дзякуй, бацюшка. Нічога, нічога, я вып'ю. — Яна няпэўнай рукой узяла шклянку, прыпала да яе вуснамі, але больш за глыток зрабіць не змагла.

— Мацуйцеся, помніце пра Збавіцеля. Калі цяжка, вобраз Яго ўявіце найсветлы. І страх як вадой змыецца. — Святар глядзеў на прыхаджанку цёпла, ласкава. — У нашым выпадку, наколькі я бачу, варта звярнуць увагу на апантаных першага тыпу… Падкрэсліваю, я не сцвярджаю, што Пятро адносіцца да іх ліку, але... — Ён уздыхнуў, звыкла пагладзіў бараду, працягваў: — З нашых ранейшых сустрэч я зразумеў, што сын ваш дзічыцца людзей. Жыве адзін, жаніцца думкі не мае… Дакладней, не меў, бо цяпер сітуацыя можа выправіцца…

— Не ведаю нават, што лепш…

— Пры тым, не намерваючыся жаніцца, Пятро надзвычай цікавіўся жаночым полам. Аднак са шматлікімі жанчынамі душэўна не блізкі. Няма ў яго і сталых сяброў... Слушна я гавару?

— Усё так, айцец, як перад Богам, — бездапаможна пазірала на святара Наталля Ціханаўна.

— Што ж, будзем маліцца, — сказаў айцец Аляксей, крыху памаўчаўшы. — Маліцца, каб нашы найгоршыя падазрэнні не спраўдзіліся. Сачыце за сынам, і мне, калі што, кажыце. Хацелася б з ім пагутарыць, але ж ведаю, у царкву такія людзі не пойдуць. Гордасць, замяшаная на бязбожнасці, — страшэнны біч нашага часу.

— А адчытка… Кажуць яна можа дапамагчы.

— Ёсць… Вядома ж, ёсць свяшчэннікі, што яе робяць. І ў Мінску такіх можна знайсці. — Айцец Аляксей нахмурыўся. — Я не прыхільнік адчыткі, а, можа, нават праціўнік. Складаная, неймаверна адказная гэтая працэдура. Можна такія сілы спарадзіць да жыцця, якіх у душы апантанага дагэтуль і не было. Акрамя таго, у царкву ваш Пятро, паўтараю, не пойдзе. Дый не ведаем мы, ці жыве ў душы яго дэман. Будзем спадзявацца, што не жыве… Сачыце, паўтараю, сачыце, дарагая Наталля Ціханаўна, за сынавым тварам. Твар многае можа сказаць… І я штодня буду маліцца, у спісы яго ўнясу.

— Эх, бацюшка, каб толькі не позна было…

— З Божай помаччу, Наталля Ціханаўна... Уціскам, папрокамі тут не возьмеш. Толькі цярпеннем, любоўю. А Хрыстос на нашы малітвы зверне ўвагу і пашле збавенне Пятру… Я спадзяюся. У якой яно будзе форме — гэта таямніца. Часта падзенне ў чалавечых вачах насамрэч з’яўляецца выратаваннем. Нязведаныя шляхі Гасподнія. Галоўнае, каб чалавек, якога мучыць нячысцік, канчаткова ад Бога не адвярнуўся. Ён у нейкай меры можа парушаць людскія законы, а на Госпада апошняе спадзяванне не страціць… Толькі б захаваць якое каліўца веры — і Хрыстос працягне руку.

…З нялёгкім сэрцам выходзіла Наталля Ціханаўна з царквы. Непраглядны вечар пачатку лістапада азмрочыў і без таго засмучаную яе душу. З правага боку ад царквы цягнуўся вялізны прыватны сектар. Панылая дрэнна асветленая вуліца. Адзінокія ліхтары адлюстроўваюцца ў лужынах. Перабрэхваюцца сабакі. Каля далёкай калонкі хістаецца постаць кабеты з вядром… З левага боку ад царквы — невялікая пустка, за ёй адразу ўніверсам, на ганку якога звыкла тоўпяцца валацугі. Мала машын, мала добрапрыстойных людзей… А Наталлі Ціханаўне трэба рушыць у бок універсама, да прыпынку, які прытуліўся на пачатку квартала пяці- і дзевяціпавярховых будынкаў. Нерэспектабельны раён, што там казаць. Заўсёды страшнавата вяртацца тут са службы. Ды звычайна Наталля Ціханаўна не адна ідзе, а ў гурме прыхаджан. Цяпер жа на цвінтары толькі дзве бабулькі стаяць і ісці яны, падобна, зусім не збіраюцца. За царквой — чуйнае вуха ўлавіла — пачулася непрыемнае: лямант і выкрыкі. Скаланулася Наталля Ціханаўна: гэта Сцёпка, юродзівы. Вось жа прынесла яго сюды нялёгкая. Скандальны, гарласты, прычэплівы абарванец. Часта ён тут з’яўляецца, але ўсё больш — на людзях, пасля заканчэння службы юродствуе. І кожны раз у яго новыя выхадкі. Баіцца Сцёпку Наталля Ціханаўна. Таму яна шпарчэй затэпала па царкоўным дворыку, вышмыгнула з брамкі, збочыла налева, перайшла на процілеглы бок вуліцы — там няма ліхтароў, — і ў цяньку пашыбавала да пусткі. А Сцёпкаў крык, здаецца, мацнее, надрыўны такі, злавесны, на высокія ноты ўздымаецца і раптам пераходзіць на бас.

Хрысціцца Наталля Ціханаўна на хаду і спяшаецца праз цемру да аўтобуснага прыпынку.

## 17

— Слухай, як жа я рады цябе пабачыць! — Неймаверна ўзрушаны, Пятро Мігуля праходзіў у кватэру Сяргея Страмца. — Два месяцы прападаў! — Ён кінуў складзены парасон на падлогу і парукаўся з прыяцелем.

— О, ды ты мокры як цуцык! — зычліва глядзеў на Пятра гаспадар; быў Страмец, як заўсёды, у цяльняшцы і шараварах.

Ужо на кухні Пятро заўважыў, як Сяргей загарэў нязвыкла для гэтай пары, заўважыў і дрэнна загоены шрам на лбе, блізу лініі валасоў. На ім відненіся сляды швоў.

— Ты няйначай з Каўказа прыехаў. — Мігуля паставіў на табурэтку сваю сумку і стаў вымаць адтуль харч. — А я на гэты раз не пусты. Дык адкуль ты, калі не сакрэт?

— А, Малдова. Сто сорак кіламетраў ад Кішынёва, вінаграднікі. — Страмец прысеў на табурэтку ля акна. — А потым у порце тры тыдні, грузчыкам.

— Ну, малайчына! А я вось што табе прыцягнуў. — Пятро дастаў з сумкі бутэльку «Абсалюту». — З чорнымі парэчкамі. Я нават з табой адну чарку вазьму.

— Добра, гэта прагрэс, — усміхнуўся, прыкурваючы, Сяргей.

Было, тым не менш, бачна, што сёння ён не такі ўжо вясёлы і не надта бадзёры.

— Ты не супраць, калі мы проста на кухні пасядзім? — Страмец прыўстаў і адчыніў фортку, каб выпусціць дым ад свайго едкага «Беламору». — А то я ў пакоі тое-сёё перастаўляць распачаў. Кавардак…

— Зразумелая рэч! — кіўнуў Пятро. — Ты ўжо прабач, што я так раптоўна да цябе заявіўся. Але пагаманіць во як трэба. — Ён тыцнуў рукой сабе пад кадык. — Абрыдла гэтая подлая рэчаіснасць. Ніводнай жывой душы. Адны дэбілы і дэградаты. Такое ўражанне, што не з людзьмі стасункі маеш, а з хадзячымі сківіцамі. Ім бы толькі пузы свае набіць, нарадзіць такіх жа траглады таў як самі і ціхамірна падохнуць.

— А ты, відаць, хацеў ад жыцця высокіх матэрый? — Сяргей выкінуў недакурак у фортку, узяў і стаў круціць у руках пляшку «Абсалюту».

— Ды нічога я ўжо ад яго не хачу. Дастала ўсё да самае млосці, — скрывіўся Пятро. — Налівай вось, а там разбяромся. — Ён дастаў з нагруднай кішэні пачак «Бонду».

Сяргей пайшоў у пакой і доўга шукаў там чарку. Прынёс, затым старанна мыў яе пад кранам і прыдзірліва разглядаў. Сабе ж па завядзёнцы наліў у гранёную шклянку.

— Грэх, канешне, такія напоі з дзвесцеграмовіка жлукціць, — падміргнуў ён Пятру. — Але ж я па-іншаму не прывык, няма тады асалоды. — Пасля гэтых слоў ён выплюхнуў у глотку паўшклянкі «Абсалюту». Пасядзеў, засяродзіўся на сваіх адчуваннях, пахітаў галавой: — Не, занадта мяккая, не прадзірае, халера на яе…

— А я табе наступны раз клімавіцкай прынясу, — пажартаваў Мігуля і са смакам выцадзіў маленькую чарку.

— Ну давай, што там у цябе? З чым прыйшоў? — Страмец яўна пажвавеў пасля дозы «гаручага». — Хаця чакай! Ледзь не забыўся. — Ён устаў з табурэта і памкнуўся да халадзільніка.

Корпаўся там гаспадар даволі доўга. Халадзільнік, наколькі заўважыў Пятро, быў забіты напоўніцу. Нарэшце Сяргей выцягнуў адтуль нешта вялікае і плоскае, загорнутае ў газеціну.

— Памятаеш, я табе ляшча абяцаў? — сказаў ён, раздзіраючы пакунак. — На, частуйся, ацэньвай! — Сяргей хвацка ўдарыў плоскай сухой рыбінай па табурэтцы.

— Ого, гэта з тых, з таго самага разу? — здзівіўся Мігуля; ад ляшча прыемна, апетытна пахла.

— Канешне. А яшчэ вось. — Страмец зноў адчыніў халадзільнік і выцягнуў адтуль бутэльку піва «Балтыка», паставіў яе на стол. — Ты, памятаецца, на піва напрошваўся. Атрымлівай.

— Дзякуй… — прамармытаў Пятро, хоць адчуваў, што піва будзе яму залішнім. — Дык гэта ж, напэўна, моцнае… — разглядаў ён цёмную бутэльку, што ўвачавідкі пакрывалася налётам дробных кропелек, запацявала.

— Моцнае, дзевяты нумар. У Беларусь яго, дарэчы, цяпер не завозяць. На Украіне купляў. Ды ты не бойся, не ўп’ешся, — запэўніў Сяргей. — Калі што — падмагу. Адкаркоўвай. — Ён кінуў на стол адкрывалку.

Прайшло хвілін пяць, перш чым субяседнікі ўрэшце ўладкаваліся за сталом. Былі адкрыты прынесеныя Пятром кансервы, нарэзана вэнджаная каўбаса і хлеб, пачышчаны лешч, у Мігулевай шклянцы пузырылася густое піва. Страмец жа трымаў у руцэ напагатове гранёную шклянку, у якую напалову была наліта гарэлка.

— Ну, выпіваем — і пагналі! — Ён спрактыкавана выжлукціў сваю порцыю, узяў акраец чорнага хлеба, панюхаў. — Дык пра што ты там пачынаў гаварыць?

— Як табе сказаць… — Пятро сербануў піва. — Не магу я датумкаць некаторыя рэчы. Хм… Вярэдзіць, напрыклад, недасканаласць нашая, чалавечая. У тым сэнсе, што падзелены мы на два розныя полы, органы нам адпаведныя дадзены такім чынам, што без палавога партнёра яны сэнсу не маюць. Разумееш? Органы гэтыя патрабуюць спатолі, як страўнік ежы, як цела вопраткі. Аднак жа з ядой у нас не ўзнікае падобных праблем і…

— Гэта як сказаць. Ты, мусіць, ніколі не галадаў. — Страмец пстрыкнуў запальніцай і задыміў папяросай.

— Ну, няхай. Агаворымся, што ў нашай краіне ад голаду ніхто звычайна не памірае. Мне, безумоўна, трэба папрацаваць дзеля свайго кавалка мяса. Але, паклаўшы яго ў халадзільнік, я магу быць упэўнены, што вазьму яго адтуль у любую хвіліну і наталю голад. Так?

— А калі халадзільнік адключыцца, а ў мясе чарвякі завядуцца? — хітра прыжмурыўся Страмец.

— Э, табе ўсюды мроіцца форс-мажор. Гэта не адбудзецца з абсалютнай доляй верагоднасці, і ты гэта ведаеш. — Пятро сярдзіта трасянуў чупрынай. — Зусім не тое — з жанчынамі, якія мне патрэбныя не менш, чым мяса. Разумееш? Не тое! Я, канешне ж, скарыстаю ўсе спосабы, каб атрымаць патрэбную мне жанчыну. Але гарантыі ў маім поспеху ніколі не будзе. Яна можа мной пагарджаць, можа мяне адпрэчыць. А гэтага не адбудзецца з куском мяса, які я заўсёды куплю, які б ён далікатэсны ні быў.

— Што гэта цябе сёння панесла ў гэткую каламуць?

— Ат, якая, да халеры, розніца! — нерваваўся Пятро. — Жыццё проста дастала. Хачу ўсё па паліцах раскласці, а яно не кладзецца… Дык вось, нават дамогшыся патрэбнай мне жанчыны, я не магу быць упэўнены, што яна будзе маёй заўсёды, у любую хвіліну — тады, калі я яе зажадаю. Яна стане капрызіць, адмаўляцца, і я гэта павінен цярпець, хоць цела маё, выбачайце, не церпіць. Калі я апанаваны звычайным голадам, то адчыняю халадзільнік і адразаю ад свайго кавалка мяса зусім на законных падставах. Тут жа, у справах кахання, мне могуць даць ад варот паварот. Во дзе недасканаласць, во дзе памылка

ў арганізацыі чалавецтва! Калі нас падзялілі на два полы і калі нам, каб быць здаровымі, патрэбны партнёр — то дайце нам яго па першым жа патрабаванні. Дайце — і баста! — Мігуля нават прыстукнуў кулаком па сцяне.

— Ого, як жа ты разагнаўся, — насмешліва глядзеў на яго Страмец, жуючы скрылёк сухой каўбасы. — А заўтра ты закрычыш, што табе патрэбны дом, каб хавацца ад холаду, і тады падавай табе суседаў дарагі асабняк? Або заявіш, што хочаш жэрці, зойдзеш да таго ж суседа і пачнеш шнарыць па яго халадзільніку? Бо табе ж трэба наталіць голад! Прабач, але сёння ты яўна не ў форме. Лухту вярзеш.

— Чаму лухту? Растлумач! — пакрыўдзіўся Мігуля. І тут жа падумаў, што перабраў гарэлкі і піва.

— Ды я тлумачу, толькі ты не хочаш мяне разумець, — гарачыўся і Страмец. — Я ж даводжу, што ніякай розніцы паміж жанчынамі, ежай, вопраткай і дахам над галавой няма. Мяса можа пратухнуць. Дах — праваліцца. Вопратку ў цябе ўкрадуць. А нявеста ўцячэ з-пад вянца.

— Ёсць розніца! — не сунімаўся Пятро. — Жанчына — адушаўлёны прадмет, мае сваю волю, свае правы, сваё меркаванне, чорт яе праглыні!

— Тсс. Разбушаваўся. Бяры на тры ноты ніжэй, — сказаў павесялелы Страмец. — Розніца ёсць, але яна неістотная. А істотнае тое, што нічога не бывае трывалага і нязменнага. І яшчэ: нічога задарма не даецца. Хочаш есці — пралі дзесяць патоў. Хочаш жанчыну — пакажы, што варты яе менавіта ты, а не кучаравы Васька, які таксама яе жадае да юрлівага поту. Вось і ўся няхітрая філасофія… А што ўсё вакол дрэнь, ашуканства і зман — тут твая праўда. Але што цяпер — узарваць зямны шар, пагасіць сонца, засіліцца?

Затрэнькаў мабільнік, што ляжаў на халадзільніку каля хлебніцы. Страмец нехаця падняўся, узяў яго, паглядзеў нумар, нахмурыўся і пакінуў званок без адказу. Сеў на месца. Мабільнік яшчэ некалькі разоў трэнькнуў, заціх.

— У тым і штука, Сяргей, што не хочацца, каб усё было, як ты кажаш, ашуканствам і зманам. — Пятро першы раз за вечар прыкурыў цыгарэту.

— А хаценне нічога не зменіць. Хоць плач, хоць смейся, хоць на галаву стань… — Гаспадар лінуў у сваю шклянку новую порцыю гарэлкі. — Чым раней чалавек страціць ілюзіі, тым яму лягчэй будзе ісці па жыцці. Тады любую станоўчую з’яву ён успрыме як выключэнне, ці як радасць, дзеля якой варта было цярпець дзярмо навакольнае. Кожны нармальны чалавек павінен усё ўспрымаць з іроніяй, з недаверам. Клянецца табе нехта, што ўсе сілы кладзе для шчасця народа, пішучы свае геніяльныя раманы, — ведай, што гэта хлусня. А піша той раманіст для наталення сваіх славалюбных амбіцый, для грошай і для таго, каб жанчыны ім захапляліся. Гэта перш-наперш.

— Вось гэта так, гэта слушна! — ухваліў Пятро і нават падліў сабе піва. — Тут, як кажуць, у кропку. Гэта мой бацька вечна любіць сябе народным рупліўцам выставіць. А сам за крэсла чыноўнае да пасінення трымаецца, гатовы жыўцом праглынуць таго, хто на тое крэсла спакусіцца. — Пятро адчуў нечаканы прыліў гневу на Сямёна Паўлавіча, закарцела сказаць яшчэ многа рэзкіх і абразлівых слоў, але нешта яго стрымала.

— Тут не віна людзей, дарагі чалавеча. Не віна твайго бацькі, — развіваў сваю думку Страмец. — Гэта закон прыроды такі. Перамагае дужэйшы. Роўна як усё яркае прываблівае да сябе. Прыгожая дзеўка — дзесяць прэтэндэнтаў на яе выстраіцца. Выродлівая — яшчэ грошы заплаціць, каб яе пакахалі. Багаты, знакаміты, уплывовы ты чалавек — процьма ліслівіцаў каля цябе круціцца. Бедны і хворы — забудуць твой адрас навекі. Ты не заўважыў, што на кожнага старога багатага хрэна абавязкова знаходзіцца маладая даўганогая палюбоўніца? Пры тым яна будзе ўсіх пераконваць, што страсна кахае таго здыхляка, што

гатовая з яго парушынкі здзімаць, абмываць, карміць з лыжачкі, на калясачцы па скверы прагульваць. І гэты стары, цёрты і выкрутлівы па жыцці мужчына, разамлеўшы, сам пачынае верыць, што яго так аддана кахаюць, — Страмец з'едліва зморшчыўся. — Людзі займаюцца самападманам, хлусяць адно аднаму ў вочы, а затым яшчэ самі ж пачынаюць верыць гэтай хлусні.

— У, бабы яшчэ тыя артысткі! — злосна фыркнуў Мігуля, уявіўшы зменлівы твар Ксені Шпачык.

— Ды ўсе мы артысты. — Сяргей, не падымаючыся, спрытна шпурнуў недакурак у фортку. — І мы з табой тут разыгрываем ролі філосафаў, а самі заўтра ж першыя на вуду страсцей зловімся. Заглынём прынаду па самыя кішкі. Бо, па вялікім рахунку, гаварыць пра высокія матэрыі мы маем права ў адным выпадку. Ведаеш, у якім?

— Ну?

— Калі не будзем жэрці вось гэтае мяса і гэтую рыбу, — Страмец паказаў пальцам на стол, поўны ежы, — калі перастанем жлукціць гарэлку, а зачынімся ў келлі і аддадзімся малітвам. Толькі ў такім разе мы можам разяўляць рот і кагосьці судзіць.

— Ну не… тут ты… — азадачыўся Пятро.

— Не «ну не», а так ёсць на самай справе, — перабіў яго Сяргей. — Перастанем есці мяса забітых істот, значыць, перастанем удзельнічаць у штодзённых забойствах. Перастанем грашыць — тады і асуджаць атрымаем права. А паколькі ад мяса мы з табой, чалавеча, адмаўляцца зусім не збіраемся, паколькі грэх — гэта спосаб нашага выжывання ў навакольнай памыйніцы, то… То трэба нам з табой заткнуцца і ціхенька жаваць сваю пайку. Або, на благі канец, не надаваць значэння сваёй балбатні, разглядаць яе як спосаб размяць языкі, і не болей.

Зноў зазваніў мабільнік. Страмец узяў яго, зірнуў на экран, спахмурнеў і выйшаў з кухні — у калідор, потым у залу. Там, за зачыненымі дзвярыма, ён доўга з кімсьці спрачаўся, гаварыў павышаным тонам. Але слоў нельга было разабраць, як Пятро ні прыслухоўваўся.

Нарэшце размова скончылася і праз пару хвілін Страмец з заклапочаным выглядам з'явіўся на кухні. Быў ён ужо не ў цяльняшцы і шараварах, а ў джынсах і світэры.

— Прабач, Пятрусь. Трэба мне ехаць, выклікалі. — Ён узяў са стала свой гадзіннік і зашпіліў на руцэ. — Давай тут усё пакінем, як ёсць. А то няма часу.

— Давай… — Мігуля падняўся.

Неўзабаве яны зачынялі кватэру. Святло ў кухні Страмец знарок не выключыў. Нічога не тлумачыў. Дый Пятро ў яго ні пра што не пытаўся.

Яны прайшлі метраў трыццаць па двары, як насустрач ім выехала машына, асляпіла фарамі.

— Гэта па мяне. Ну, бывай, звяжамся. — Сяргей паціснуў прыяцелеву руку, сарваўся з месца і падбег да машыны…

Пятро ж яшчэ доўга выбіраўся з непрыветнага глухога квартала. Пайшоў спорны дождж, давялося раскрыць парасон, што пастаянна чапляўся за навіслае над дарожкамі голле.

Праўда, затым пашанцавала: аўтобуса не прыйшлося доўга чакаць.

## Леапард

Нарэшце я з чыстым сумленнем падыходзіў да дома Гаспадара. Прыспеў мой час. Я дачакаўся сапраўднага снегу. Тры дні валіў снегапад, такі, што я не мог носа высунуць з дома. Гурбы дасягалі да акон першага паверха.

Дворнікі доўга і няспынна шчыравалі, перш чым прабілі нешырокія сцежкі. Людзі па пояс у снезе рушылі па іх да аўтобуснага прыпынку. Легкавікі не маглі ні заехаць у двор, ні выехаць з яго. Яны чакалі адмысловай расчышчальнай машыны.

Я выйшаў уранку, калі яшчэ гарэлі ліхтары, але світанне паціху займалася. Марозны ўтаптаны сняжок парыпваў у такт маіх крокаў. Сцяжына была нагэтулькі вузкая, што я ледзьве размінаўся з прахожымі, што ішлі мне насустрач.

Пакалыхваючыся ў аўтобусе, я наталяўся выглядам горада. Гэта была нейкая казка ў снезе і льдах. Аўтобус ішоў, нібы ледакол у якім запалярным моры. Бела, чыста, некранута кругом. Цяпер Гаспадар не асмеліцца папракнуць, што я прыйшоў раней часу…

Вось знаёмы пад'езд, да якога мне давялося прабівацца праз сумёты, што даставалі да жывата. Ля пад'езда не было бачна слядоў. Гэта мяне, між тым, не моцна здзівіла. Сверб ад прадчування найжаданай сустрэчы перабіваў усё: абачлівасць, разважлівасць, перасцярогу.

Ціха каля пад'езда. Ціха ўнутры. Але гэта была не звычайная цішыня. Яна абвастрыла ўсе мае пачуцці і адкрыла нейкае новае адчуванне. Немаведама чым я лавіў дыханне і рык леапарда. Я ведаў, напэўна, што наўкола ўсё змянілася, што сустрэча з Гаспадаром пойдзе сёння ў іншым кірунку. Выпаў сталы снег. А гэта не жарты.

Дзверы падаліся, ледзь я паспеў дакрануцца да ручкі. Гасцінна сустрэла мяне вітальня. Там упершыню гарэла святло. Зрэшты, не вельмі яркая лямпачка пад столлю, але яна здалася мне самім сонцам. З кухні прыемна запахла вараным мясам. Лунаў лёгкі дымок — відаць, палілася печка, у пакоі было незвычайна цёпла. Дзверы ў залу былі адчынены шырэй, чым раней, калі я прыходзіў сюды. Адтуль, з залы, даносіліся жвавыя гукі. Я пасняшаўся туды.

— Рады вітаць вас, — прамовіў я на парозе. — Можна ўвайсці?

— Ён яшчэ пытаецца! — адказаў мне памаладзелы, рухавы стары; ён, трымаючы швабру ў руках, стаяў пасярод пакоя. — Як не трэба, ад яго не адбіцца было, а як прыйшоў час, ён марудзіць. Я чакаю цябе з учарашняга полудня…

— Была непраглядная завіруха. Я збаяўся, што заблуджуся, — няпэўна апраўдваўся я, праходзячы ў залу. Па звычцы я зняў свае груваcткія чаравікі.

Кіліма на падлозе не было, паколькі ў кватэры прыбіралі. Ён стаяў скручаны і прыхілены да сцяны.

— Залазь на маё месца. — Гаспадар указаў на канапу. — Сёння мы з табой як бы памяняемся ролямі.

— У якім сэнсе? — Я ўжо ўзлез з нагамі на мяккі плед.

— У тым сэнсе, што табе не давядзецца выцягваць з мяне слова за словам і прасіць паказаць леапарда. Ён прачнуўся, калі гэта цябе цікавіць. І можаш неўзабаве на яго паглядзець.

— Я ведаў гэта. Інакш і быць не магло. Я адчуваў яго рухі яшчэ на лесвіцы. А цяпер на свае вушы чую, як ён варочаецца і сапе на балконе. Чаму б вам не растуліць шторы, каб пільнаваць яго ўвесь час?

— О, за доўгі свой век я на яго нагледзеўся. Гэта забаўка для маладых. Да таго ж тут не звярынец.

— Вы, мусіць, наўмысна выпрабоўваеце маё цярпенне. — Я сам не заўважыў, як пачаў заводзіцца і нервавацца праз меру.

— Што ты! Наадварот, — супакоіў мяне стары. — Я бачу цябе адзіным вартым кандыдатам на гэтую ролю. Так што не бойся, і лічы, што твой час надышоў.

— Я гэта ведаю. І таму я тут.

— Ну тады хадзем. — Гаспадар прыхінуў швабру да сценкі; на вышараванай падлозе адбіваліся лямпачкі люстры. — Хадзем, раз ты такі няўрымслівы.

Я з гатоўнасцю салдата саскочыў з канапы.

— Надзень свае чаравікі, — параіў стары. — На балконе будзе халаднавата. — Ён адхінуў адну штарыну, аднак святло зімовага дня чамусьці не палілося ў пакой — на балконе панавала цёмная ноч.

Заінтрыгаваны, я паспяшаўся за Гаспадаром, які ўжо адчыняў балконныя дзверы.

Ён ступіў за парог і знік, як растварыўся. Секунду павагаўшыся, я рушыў за ім і апынуўся ў непрагляднай цемры.

— Ідзі на мой голас і на мае крокі, — сказаў прыглушана Гаспадар. — Той, хто хоча назіраць леапарда, павінен быць смелым і чуйным, як гэты звер.

— Добра. Я чую вас і іду за вамі. — Голас мой прагучаў, як не свой; дзіўная акустыка памяшкання яго моцна сказіла.

Я асцярожна крочыў наперад і здзівіўся, чаму за дзвярыма аказаўся не балкон, а нейкі доўгі, неасветлены і затхлы калідор.

— Зараз будзем пераходзіць ручай, — данеслася да мяне даволі здалёк.

Я апасліва сцішыў хаду.

— Прыслухвайся да цурчання вады. Ручай вузкі, але глыбокі, — папярэдзіў Гаспадар; сам ён, напэўна, быў ужо па-за ўзгаданай перашкодай.

Я пачуў бег вады ля сваіх ног, зажмурыўся і штосілы адштурхнуўся ад долу. Прызямліўся посуху, вада цурчэла ўжо за спінай.

— Цяпер прытуліся да правай сцяны, — камандаваў Гаспадар, — і руш, пакуль не адчуеш пралаз на ўзроўні грудзей. Сігай у яго і падымайся па лесвіцы.

Я дакладна выканаў інструкцыі майго праваднікa. Праўда, пралаз аказаўся настолькі вузкім, што ў нейкі момант я жахнуўся, што захрасну там назаўсёды: перахапіла дыханне, ногі аслабелі, да душы падступіў адчай. Аднак я, нібы той леапард, выкруціўся, выслізнуў з каменных абдымкаў і ёмка ўпаў на падлогу.

З цеснага памяшкання выхад быў адзін — лесвіца, што вяла ўверх. Крутая, з прыступкамі вышынёй сантыметраў трыццаць, не меней. Я вобмацкам, натужліва ўзбіраўся па ёй.

На шчасце, хутка дыхнула свежым паветрам, і праз колькі секунд я апынуўся на балконе трэцяга паверха звычайнага чатырохпавярховага дома. Адтуліна, з якой мы вылазілі, аказалася проста пад акном, леваруч ад дзвярэй, і было незразумела, як такое магчыма.

Але тады я быў настолькі ўзбуджаны доўгачаканай сустрэчай з драпежнікам, што не задумваўся над дзівосамі таемных тунэляў, па якіх вёў мяне Гаспадар.

Пах вялікай і дужай жывёліны адразу ж дайшоў да майго нюху. Ён сыходзіў ад кучы зляжалага, ацярушанага снегам восеньскага лісця, што знаходзілася ў правым куце пласторнага, я б нават сказаў — празмерна прасторнага балкона.

Гаспадар стаяў ля кучы, падкалупваючы чаравікам верхні слой лісця. Нарэшце ён беспардонна піхнуў кучу нагой.

Тут жа пачулася незадаволенае бурчанне, менавіта бурчанне, а не грозны рык бязлітаснага драпежніка.

— Ён яшчэ не канчаткова прачнуўся, а таму мы зможам яго толькі чуць і бачыць, як варушыцца лісце.

Леапард, нібы ў пацвярджэнне тых слоў, тузануўся пад сваім покрывам і санліва ці то гыркнуў, ці то пазяхнуў.

— Калі ж адбудзецца канчатковае абуджэнне? — крыху расчаравана спытаў я ў хітравата-ўсмешлівага Гаспадара.

— А табе так хочацца даць ад яго драла? — уеў ён мяне. — Ты, хлопча, яшчэ дрыжыш, а драпежнік чуе чалавечую слабіну. Утаймаваць яго ты пакуль не гатовы.

— А вы нашто? — дзёрзка і пакрыўджана адказаў я.

— Я гэта я. А ты гэта ты. Той, хто хоча атрымаць леапарда, павінен сам яго ўтаймоўваць.

— Дык вы аддасцё яго мне? — Не скрыю, я быў усцешаны словамі бывалага чалавека.

— Я вельмі хачу, і нават абавязаны гэта зрабіць. — Гаспадар ледзь прыкметна мне падміргнуў. — Абавязаны таму, што дні мае злічаны. Усё на гэтым свеце мае канец, якой бы доўгай і пакутнай ні была наша дарога. Толькі леапард вечны на гэтай зямлі, і яму няможна без гаспадара.

— І таму я тут?

— І таму ты тут. Каб узяць у мяне эстафету.

— І абуджэнне несумненна адбудзецца?

— Гэтак жа несумненна, як тое, што дзень зменіцца ноччу. Будзем чакаць.

— Будзем чакаць… — паўтарыў я, аддана пазіраючы ў вочы свайму настаўніку.

З балкона ён вывеў мяне проста праз дзверы, за якімі аказалася знаёмая зала, а не таямнічы тунэль.

Я быў уражаны і ўсе наступныя дні знаходзіўся ў неадчэпным хваравітым экстазе.

**18**

Падзея, якую так прыспешваў Сямён Паўлавіч Мігуля, нарэшце спраўдзілася: сын Пятро зрабіў прапанову Ніне Сулеевай. Адбылося гэта тады, калі бацька ўжо страціў цярпенне і гатовы быў паставіць Пятру ўльтыматум. Калі Амар Рашыдавіч Сулееў, таксама бязмежна шчаслівы, пазваніў свайму даўняму сябру і паведаміў гэтую вестку, то Сямён Паўлавіч нават ушчыкнуў сябе за сцягно. Не верылася, што пакуты, сумненні ды ваганні, якія брыдзілі яму жыццё ў апошнія месяцы, паспяхова закончыліся.

Для самога Пятра Мігулі ўсё адбылося таксама з нейкай доляй стыхійнасці і ўжо, напэўна, раней часу, які ён сам сабе прызначаў. Прызнанне ён зрабіў у асабняку, калі яны з Нінай адасобіліся ў адным з яе пакояў, каб займацца ўжо прывычным інтымам. Прывычным у тым сэнсе, што далей пацалункаў і шчыльных абдымкаў справа не рухалася. Пятра, прызвычаенага браць ад жанчын усё магчымае і немагчымае, такія палавіністыя любошчы ставілі ў надзвычай няёмкае становішча. Максімум, што ён мог сабе дазволіць, гэта ўсадзіць Ніну на калені і ціхенька, зладзеявата запусціць руку ў адно з запаветных месцаў на яе целе. Пры тым памятаючы адно: за ім могуць сачыць, яго могуць запісваць на плёнку. Заспакойвала, зрэшты, тое, што займаюцца яны непрыстойнасцямі досыць даўно і што, калі б спадару Сулееву гэта не падабалася, ён перастаў бы дапускаць гарачага маладога чалавека да сваёй не менш гарачай дачкі — каб не выйшла якога глупства. А паколькі Пятра па-ранейшаму ветліва тут прымаюць, то выходзіць, што Амар Рашыдавіч на многае закрывае вочы.

— Ніна, — загаварыў у той дзень быццам не сам і не сваім голасам Мігуля-малодшы. — Ніна… мне нават цяжка гэта казаць… але я настолькі цябе кахаю, настолькі не ўяўляю ўсё далейшае жыццё без цябе, што… Ніначка, стань маёй жонкай… Ну стань! — дадаў ён ужо зусім недарэчна.

У гэты момант Пятро адчуў, як цела дзяўчыны напружылася, як здалося, клубы сталі цвярдзейшымі і гарачэйшымі. Ніна, якая сядзела ў яго на каленях напаўпаварота, абярнулася: спалатнелая, з несіметрычным рэзкім румянцам, з зіхоткімі звільгатнелымі вачыма. Затым абвіла Пятрову шыю рукою і паволі наблізіла свае вусны да ягоных. Пацалунак атрымаўся доўгі, нават празмерна доўгі і нейкі пакутлівы. Падчас яго Мігуля ліхаманкава думаў аб тым, што сказанае не вернеш, што слова не верабей і што зараз жа, не марудзячы, на яго надзенуць уяўныя кайданкі ды павалакуць на шлюбную рэгістрацыю.

І сапраўды, Амар Рашыдавіч, як адчуваў, прыбыў у асабняк літаральна праз пятнаццаць хвілін пасля Мігулевага прызнання. Ніна тут жа выклікала яго наверх, і неўзабаве будучыя зяць з цесцем абдымаліся, цмокаліся, хапаліся за рукі, а Сулееў раз-пораз па-свойску ляпаў Пятра па спіне.

— Зараз жа званю твайму бацьку! — крычаў нізкі, мажны, круглатвары Амар Рашыдавіч. Побач з хударлявым высокім Пятром ён выглядаў надзвычай пацешна. — О, як жа ўзрадуецца Сямён! Гэта такая падзея… Падзея! — Ён тэпаў па зале, сутаргава ціснучы кнопкі на сваім мініяцюрным мабільніку.

Ніна стаяла, ганарліва ўзяўшы жаніха пад руку. Невысокая, ростам з бацьку, у дарагой шчыльнай сукенцы, што эфектна падкрэслівала яе крутыя бёдры, вузкую талію і высокія налітыя грудзі, — яна якраз-такі гарманічна глядзелася са сваім нарачоным.

Сулееў не дазваніўся да Мігулі-старэйшага і тут жа дрыжачымі пальцамі набраў іншы нумар і загарлаў:

— Аня, якое шчасце! Ідзі хутчэй да нас! — спяшаўся ён абрадаваць Ніліну маці. — Ніначка наша выходзіць замуж! Гэта такое шчасце, такое… — Тут ён кінуўся да Пятра і каторы раз залучыў яго ў моцныя, абцуговыя абдоймы. Для сваіх пяцідзесяці сямі гадоў Амар Рашыдавіч быў вельмі дужы мужчына.

Затым ён набуськаў у запунсавелыя шчокі дачку і, узрушаны, закрычаў на слугу, каб той мігам прынёс шампанскае.

Падзеі таго вечара разгортваліся для Пятра Мігулі нібы ў калейдаскопе. Хутка ў пакоі з'явілася Ганна Вікенцьеўна, жанчына невысокая, сухарлявая і рашучая. У свае пяцьдзесят пяць яна сядзела на дыетах і маладзілася, зрабіўшы не адну падцяжку твару. Адчувалася, дарэчы, што яна трымае мужа ў жорсткіх рукавіцах. Пры Ганне Вікенцьеўне Амар Рашыдавіч пакрысе супакоіўся, узяў сябе ў рукі і стаў аддаваць дакладныя загады, каб накрывалі святочную вячэру на трэцім паверсе. Слугі забегалі ўпраўна і зладжана.

Праз якую гадзіну прыехаў Сямён Паўлавіч. І адразу за ім, што асабліва было для Пятра прыкрым, прыкаціла на аўто Нэля, Віктарава жонка. Была яна загарэлая да чарнаты, з пафарбаванымі чырвона-рыжымі, коратка астрыжанымі валасамі, у адкрытай да непрыстойнасці на грудзях сукенцы. Яна відавочна хацела пакрасавацца сваім загарам, які набыла за апошнія два тыдні на Мальёрцы, куды лятала адпачываць адна, без мужа. Дарэчы, дзе сам муж, гэты вечна ўсім незадаволены Сулееў-малодшы, Пятру заставалася толькі гадаць. Вось ужо хто не прымчыцца вітаць наваяўленага жаніха сваёй любай сястрычкі. А Нэля, карыстаючыся адсутнасцю мужа, паводзіла сябе ўвесь вечар як ніколі какетліва і гулліва. Яна доўга цалавалася з Нінай, віншуючы яе. Затым так жа віншавала Пятра, яму пры гэтым прыйшлося цярпець непрыемны пах яе цела, што было занадта апырскана духамі, і якім Нэля шчыльна прыціскалася да яго. А таксама — ён прымушаў сябе цярпець гэтыя рукі на сваёй спіне, напамаджаную Нэліну шчаку на сваёй шчацэ… Ледзь адляпілася. А потым, цягам гадзін трох, так і наравіла састроіць Пятру вочкі, навязацца з размовай або дакрануцца рукой да яго рукі ці тулава.

Бацька ж, Сямён Паўлавіч, у той вечар абыходзіўся з сынам, як з нейкай крохкай каштоўнасцю. Не адыходзіў ад яго далей як на тры метры, перыядычна набліжаўся ўшчыльную, ласкава глядзеў у вочы, трапаў па плячы і паўтараў як заведзены:

— Мужчына, спадкаемца мой! Малайчына, — казаў ён штосьці ў такім духу, хіба што з нязначнымі варыяцыямі.

За сталом Сямён Паўлавіч выпіў лішняга, прычым намяшаў шампанскае з каньяком, дадаў салодкага віна і джыну, ад чаго запляло ў яго язык і таму тосты-віншаванні маладым выходзілі крайне блытанымі. Пятру, які выпіў якіх сто грамаў шампанскага, бацькавы паводзіны здаваліся развязнымі і непрыстойнымі. Ён трывожна пазіраў на Ніну і яе бацькоў, на Нэлю, якая, румяная і ўсмешлівая ад віна, нязводна за ім сачыла. Усе застольшчыкі былі ў гуморы, нікога, здавалася, не бянтэжылі эпатажныя паводзіны Сямёна Паўлавіча, усе, так бы мовіць, спявалі ва ўнісон.

Думкі ж Пятра Мігулі, як заўсёды былі неадназначнымі і зусім не бясхмарнымі. Радасць ад таго, што ён нарэшце адолеў сваю нерашучасць і зрабіў лёсапаваротны крок, мяшалася з пачуццём асуджанасці і непапраўнасці. Рухавая лысіна Амара Рашыдавіча, што так і мільгала ўваччу, раздражняла і выклікала падспудны страх. Гэты дзялок урэшце атрымаў тое, што хацеў, і таму весяліцца. П'яненькі бацька таксама задаволіў свае амбіцыі і таму распеаразаўся не па сваім службовым статусе. Ганна Вікенцьеўна была ўсцешана не меней за мужа, але яна ўмела трымаць сябе ў руках. Да таго ж, як падазраваў Пятро, яна пакуль не вельмі давярае даччынаму абранніку, прыглядаецца да яго, прыслухоўваецца. Нэля, відаць, у душы зайздросціла Ніне — тая залучыць у сваю пасцель мужыка, на якога яна сама разяўлялася. Каб адпомсціць Ніне, старая месаліна цяпер адкрыта какетнічае з яе жаніхом. Ды, мусіць, і надзею канчаткова не страціла.

— Сын мой! — узняў руку з фужэрам віна расчулены і слязлівы Сямён Паўлавіч. — Сын мой... І Ніна... Маладыя вы нашы, бясцэнныя... — Ён нехлямяжа прыгубіў віно, ледзь не разліўшы. — Гэта неверагодны па сваёй значнасці дзень для нашых сям'яў. Вы нават не ўяўляеце, што такое жаніцьба. Гэта такі важны, лёсавызначальны, можна сказаць, фундаментальны крок для кожнага чалавека. Сям'я — гэта ўсё... Пятро! — узвысіў голас бацька. — Заклінаю цябе бацькоўскім аўтарытэтам: кахай Ніну, кахай усё жыццё так, як кахаеш зараз; нарадзіце шмат-шмат дзяцей, а мы з Амарам, і з Ганнай, і з тваёй маці — парадуемся... — п'яны Сямён Паўлавіч гаварыў блытана, залпам дапіў паўфужэра віна, пастаяў, паморшчыў лоб, але так і не сабраўся з думкамі. Сеў на месца.

Пятро, чырвоны і злы на бацьку, перавёў дух. Але ненадоўга. Бо праз хвіліну ўскочыў з месца Сулееў, гэтаксама з фужэрам у руцэ, дзе быў на донцы каньяк.

— Пятро Сямёнавіч! — з падробнай урачыстасцю звярнуўся ён да без пяці хвілін зяця. — З сённяшняга дня ты ў мяне самы дарагі чалавек. Праз цябе я чакаю шчасця для сваёй любай дачкі. Праз цябе чакаю сваіх унукаў. Хай сонца не заходзіць у тваёй душы. Стань жа для Ніны, будучай жонкі тваёй, беспярэчным валадаром, але і абаронцам, і апорай, і здабытчыкам. Увесь мой жыццёвы вопыт будзе тваім вопытам. Мае грошы — тваімі грашыма. Пануй, царуй у гэтым доме! Але ж памятай, што цяпер ты нясеш адказнасць за гонар нашага роду. Кожны твой учынак навідавоку, кожны твой крок...

Далей Пятро Мігуля не слухаў. Застрашлівыя думкі, што ляжалі пад спудам, прарваліся ў свядомасць, выкліканыя прамовай Амара Рашыдавіча. «Вось ты і заляцеў, брат Пеця, па поўнай праграме, — імкліва пракручвалася

ў галаве. — Дагуляўся, дажартаваўся, даціскаўся з сулееўскай дачкой! Гэты азіят ужо адразу заяўляе пра свае правы на мяне. Ужо накінуў аркан… А там і сынок ягоны прыспее. Усё б яшчэ можна стрываць, каб не гэты малады адмарозак. Божа, ён жа мяне са свету зжыве. Ніна, канешне, дзяўчына салодкая, але ж не настолькі, каб плаціць за яе ўласным здароўем…»

Мігуля скасіў вочы направа. Ніна, неверагодна шчаслівая, сядзела ўшчыльную да яго, ад хвалявання амаль не дакраналася да ежы. Узбуджаная падзеямі сённяшняга вечара, а таксама некалькімі келіхамі шампанскага, пунсовая, пяшчотная, разамлелая, яна выглядала як ніколі спакусліва. Поўныя грудзі часта ўздымаліся пад сукенкай, глыбокі разрэз звыкла адкрываў пагляду Пятра іх крамяную белізну і ласую шчыліну. Калені каханкаў судакраналіся пад сталом, прыціскаліся адно да аднаго, па іх бег спрадвечны, неўтаймоўны, усёпераможны ток.

«Ат, халера яго бяры! — Пятро наліў сабе фужэр хванчкары да краёў. — Гэтае цела будзе маім, а там хоць трава не расці». — Ён рашуча, за чатыры глыткі апаражніў фужэр і неяк асуджана, з тупавата-абыякавым выразам твару, адкінуўся на спінку крэсла.

Вакол усё гуло, смяялася, балявала.

**19**

Так не бывае, каб усё спрэс было добра. І Сямён Паўлавіч Мігуля, на ўзлёце свайго звязанага з хуткай жаніцьбай сына экстазу, атрымаў вераломны ўдар пад дых. Удар увасобіўся ў праблемах, што ўзніклі ў яго другой сям’і — дзе Алена і Танечка. Маці Алены, Валянціна Валер’еўна, вяртаючыся з крамы з важкімі торбамі, паслізнулася на лесвіцы, што вяла на пагорак да дома, шухнула ўніз і зламала нагу. Добра, што не шыю, бо круцізна там была жахлівая. Адбылося гэта па першым лістападаўскім зазімку, у галалёд. Нібы пільнаваў хто зверху, каб падгадзіць Сямёну Паўлавічу, каб, як кажуць, загрузіць яго вышэй даху. Валянціну Валер’еўну завезлі ў бальніцу, ляжыць яна цяпер на выцяжцы, з гірамі, якія чапляюцца за каленны сустаў, для чаго ў суставе прасвідравана дзірачка і ўстаўлены жалезны прут. Бр-р. Пры адным успаміне аб гэтым Мігулю-старэйшага прабіралі халодныя дрыжыкі. Алена, натуральна, адразу кінулася ў істэрыку, пачала тузаць і нястомна азадачваць сужыцеля. Так што не работай ён займаўся ў першыя дні трагедыі, а разрываўся паміж бальніцай і Аленіным домам. Танечка ў садок не хадзіла, таму што яе заўсёды даглядала бабуля. Алена нічога па доме толкам не ўмела рабіць, паколькі ўсё рабіла Валянціна Валер’еўна… Ну і гэтак далей, з усімі вынікаючымі наступствамі. Прыйшлося Мігулю тэрмінова шукаць няньку для пазашлюбнай дачкі, а пакуль асабіста дамаўляцца з Аленіным начальствам, каб адпусцілі яе з работы на колькі дзён. Затым — неадкладна знаходзіць сядзелку для яе маці, бо на выцяжцы можна праляжаць больш за два месяцы. А ўсё гэта грошы, грошы і нервы.

Запомнілася агідная сцэна ў Алены, калі Сямён Паўлавіч, сарваўшыся з нарады, прымчаўся разблытваць жмут нечаканых праблем. Палюбоўніца, уся ў слязах, з ускалмачанымі валасамі бегала перад ім па пакоі, галосячы, папракаючы, крыўдзячы.

— Ды няўжо там у тваёй жонкі ў прыходзе нельга сядзелку знайсці? Яны ж павінны бясплатна гэта рабіць! — Алена, вырачыўшы вочы, глядзела на Мігулю, як на ворага.

— Ну, Лянок, ты хоць разумееш, пра што гаворыш?..

— А што, сорамна? — усклікнула ў роспачы гаспадыня. — А бегаць да мяне ад старой жонкі не сорамна?!

— Ну што ты…

— Што — «што ты»? Як цешыцца тут са мной, есці тое, што мама мая нагатуе, выганяць яе з дому па два разы на тыдзень — гэта табе нармальна?! Думаеш, ёй лёгка гэта было! А як здарылася бяда — тут ты пачынаеш круціць: то не магу, гэта не магу…

— Божа, Лянок, ты не ў сабе!..

Алена зарыдала, кінулася на канапу, залiваючыся слязамі.

Сямён Паўлавіч імкліва падсеў да яе, абняў. Яна тузанулася, але не вырвалася. Працягвала румзаць.

— Давай спакойна, мая харошая. Крыкамі тут не возьмеш. Усё можна рашыць…

— Гэта канец! Мяне з работы папруць! — Алена ўсё яшчэ не паварочвалася да Мігулі тварам, які туліла да спінкі канапы.

— Божа, ды быў я ўжо на тваёй рабоце. Ты ж слова сказаць не даеш. Усё ўладжана. Андрэй Георгіевіч у курсе, не будзе ніякіх праблем… Ну… — Ён пяшчотна гладзіў яе спіну і плечы. — Танечка ў дзядзькі твайго, няньку мы знайшлі, заўтра ж яна тут будзе… Што ж ты нервуешся.

— Занервуешся тут. За што, за што мне такое! — працягвала рыдаць, праўда, ужо трохі падробна.

— Так, Лянок, — дзелавіта пачаў Сямён Паўлавіч. — Праз сорак хвілін мне трэба быць у міністэрстве. Адразу ж, як прыеду, пашлю Сашку ў бальніцу.

— Я таксама туды паеду.

— Можа, падвезці? Сашка і адвязе.

— Не, Сём, я пасля трох хачу туды трапіць. Пасля абеду. Каб з урачамі пагаварыць… Няўжо ж нельга зрабіць аперацыю, каб так доўга на выцяжцы не ляжаць? — Маладзіца з надзеяй зірнула на Сямёна Паўлавіча.

— Я даведваўся, Лен. Не ва ўсіх выпадках яна робіцца. Ім так прасцей, дый аперацыя — заўсёды рызыка, умяшанне ў арганізм, могуць быць ускладненні. Валянціна Валер’еўна — чалавек пажылы… — Тут старэйшы Мігуля падумаў, што яны з Аленінай маці равеснікі, і змоўк.

— О Божа, гэта ж пакута такая — ляжаць месяцамі. А што, калі мама не ўстане зусім на ногі? Як мы будзем тады, як выкруцімся!

— Устане, не перажывай. Усё абыдзецца. Праз гадзіну Сашка будзе ў бальніцы, адшукае прафесійную сядзелку. Мне падказалі — рэанімацыйныя сёстры з ахвотай наймаюцца. За грошы цяпер усё можна.

— Толькі б якіх пролежняў не прыдбаць. Ці яшчэ якой бяды… — уздыхнула Алена. — Не ведаю, як я цяпер вывернуся… А нянька хоць людская? — запыталася яна з новай трывогай.

— Харошая нянька, вопытная, блізкі знаёмы рэкамендаваў, — запэўніваў Сямён Паўлавіч, нервова пазіраючы на гадзіннік. — Я табе яе заўтра сам прывязу. А ты да таго часу Танечку ад дзядзькі забяры. Трэба ж, каб яны пазнаёміліся. Ты, Лен, на работу дні тры не выходзь, увядзі ў курс спраў няньку…

— Ой, там яшчэ на рабоце завал. Гэта з табой начальнік быў такі добранькі. А як выйду — прыйдзецца разграбаць назапашанае. І ў бальніцу матацца…

— Што зробіш, Лянок. Трэба трымацца. Жыццё — штука непрадказальная. Я вось яшчэ два месяцы таму не думаў, што да Новага года прыйдзецца сына жаніць… Таксама ўсё адно да аднаго навалілася…

Палюбоўніца пасля гэтых слоў надзьмулася, устала і падышла да акна. Яна страшэнна не любіла, калі Мігуля заводзіў размовы пра сваю асноўную сям’ю, раўнавала.

— Ладна, едзь, а то спознішся на работу…

— Лянок, — з гатоўнасцю падскочыў з канапы Сямён Паўлавіч, — калі што, звані на мабільнік. Ён можа быць адключаны, калі я ў кабінеце ў шэфа… Тады надыктоўвай у памяць. І з Сашкам звязвайся. Я яму таксама загадаю на твой мабільны званіць. Агораем, родная.

Ён падышоў да Алены, абняў за плечы, нахіліўся і цмокнуў у пяшчотную шыю. Тая прытворна тарганулася, нібы ёй сапраўды было прыкра ад гэтага дотыку. Яна не магла дараваць Мігулю тое, што ён у такі пакутлівы дзень узгадаў пра сынава вяселле. І наогул, Сямён Паўлавіч у апошнія тыдні ўсе вушы ёй пратрубіў, распісваючы, у якую багатую і шаноўную сям'ю ўвойдзе яго Пятро. Асабліва цвяліла прыгажосць нявесты, пра якую ўсякі раз з асалодаю ўспамінаў Сямён Паўлавіч. Алена, не будучы прыгажуняй, цярпець не магла такія размовы.

Раптам ёй стала балюча за сябе, такую адзінокую, без законнага мужа, са старым палюбоўнікам, абдзеленую радасцямі сямейнага жыцця, а цяпер да таго ж абцяжараную прыкаванай да ложка маці.

«Божа мой, толькі б яна паднялася!» — маліла Госпада гаротная Алена, праводзячы госця да дзвярэй.

Сямён Паўлавіч яшчэ раз пацалаваў Алену і ўздыхнуў з палёгкай, калі за ім зачыніліся дзверы ліфта. Апошнім часам ён не выносіў яе слязліва-дакорлівага позірку. Да таго ж Мігуля пастаянна адчуваў віну перад ёю і Танечкай; салодкія ж хвіліны, якія ён праводзіў з маладой палюбоўніцай, не здымалі гэтае пачуццё, якое вярэдзіла душу. «Трэба нешта мяняць… — бурчаў сам сабе старэйшы Сямён Паўлавіч, збягаючы па прыступках высокага ганка. — Але як, як?!»

Яшчэ за пятнаццаць метраў да машыны ён энергічна і злосна замахаў рукой вадзіцелю Сашку, каб той неадкладна заводзіў. У машыну ўлузаўся моўчкі, паваліўся на задняе сядзенне і заплюшчыў вочы. Перад унутраным паглядам стаяў усё той жа слязліва-дакорлівы твар Алены. Прыйшлося прыкласці волю, каб пераключыць уяўленне на добрага сябра Амара, на яго агромністы асабняк, на сына Пятра, які трымае за талію нявесту ў белай сукенцы…

«Агораем!» — выдыхнуў Сямён Паўлавіч і адкрыў вочы.

**20**

Яшчэ ўчора Ксеня Шпачык і ўявіць не магла, што будзе з трывожнай душою спяшацца на спатканне з Пятром Мігулем. Так добра пачувалася яна без яго, так спакойна. Былы палюбоўнік, які атруціў ёй два гады жыцця, апошнім часам амаль не нагадваў пра сябе. Ксеня ўжо з месяц жыла ў кватэры новага жаніха, і вяселле, як кажуць, было не за гарамі. А дакладней, мелі яны намер пабрацца шлюбам пад Новы год і адразу ж паехаць у аўстрыйскія Альпы, каб там правесці мядовы месяц.

Аднак, калі быць ужо да канца шчырай, шчасце Ксені пакрыёма атручвалася. Выцеснены са свядомасці, Пятро Мігуля ўсё-такі прарываўся да Шпачык у снах, а ўдзень прысутнічаў нейкай чорнай энергіяй, увасабленнем усяго адмоўнага, што ёсць на зямлі.

За бяссонную ноч, якая надарылася пасля раптоўнага ліста ад Мігулі і якую Ксеня правяла побач з салодка прыснулым жаніхом, яна мусіла сабе прызнацца, што бяда не звалілася з неба, што яна была ў пэўнай ступені чаканая. Бо не дарэшты ўладжаныя адносіны са старым палюбоўнікам з'яўляліся мінай запаволенага дзеяння. Гэтая міна, калі яе не абясшкодзіць, пагражала выбухнуць у любы момант. Што і здарылася.

Небяспека была ў альбоме з сумеснымі фотакарткамі, які Шпачык папрасіла Пятра велікадушна ёй выслаць і які да яе, на жаль, не патрапіў.

І вось учора вечарам яна атрымала заказны ліст ад Мігулі наступнага зместу:

«Прывітанне, Ксюха! З цяжкасцю раздабыў твой новы адрас, цётка твая Эльвіра ніколі не ставілася да мяне з пашанай, а таму, калі я папрасіў яе, каб паведаміла твае каардынаты, яна накінулася на мяне з лаянкай. Цікава, няўжо я такі бармалей, няўжо так кепска зарэкамендаваў сябе падчас нашага сумеснага з табой пражывання, што выклікаю адно гнеў і нянавісць? Здаецца, былі ж у нас з табой, Ксюха, шчаслівыя хвіліны, і нават гадзіны і дні. Ці не так? Прынамсі аб гэтым сведчыць шэраг цудоўна выкананых фотаздымкаў. Напрыклад, той, дзе мы з табой, голыя, стаім па пояс у лясным возеры.

Ты заўсёды была пышкай, мая дарагая. Гэта, прызнаюся, прывабіла мяне адразу, але, як аказалася, з'явілася ці не адзінай тваёй сапраўднай вартасцю. Памятаеш, я любіў цябе фатаграфаваць, ты надзвычай фотагенічная. Калі мы выпраўляліся на прыроду, я не ленаваўся браць з сабою штатыў, каб здымаць нас з табой разам. Не думаю, што гэта нейкае палавое вычварства. Проста ёсць такія салодкія хвіліны жыцця, цалкам пазбыцца якіх было б суцэльным злачынствам. Маладосць і шчасце не вечныя. У першым мы з табой яшчэ, дзякуй богу, не пераканаліся. А ў другім… Хм. Прынамсі, я цяпер не вельмі шчаслівы. І нават не таму, што ты наважылася так беспардонна са мной расстацца. Не таму, што я не магу знайсці табе замену (дарэчы, перад Новым годам жанюся). А таму, што мая тонкая натура аказалася агаломшанай мімалётнасцю ўсяго існага. Вось стаім мы з табой у прахалоднай вадзе возера, шчыльна прыціснуўшыся маладымі целамі, якія лагодзіць ліпеньскае сонца, вось нам з табой памысна, цудоўна… А не праходзіць паўгода — і мы не проста чужыя, мы нават гідзімся ўспомніць усё сумеснае, быццам рабілі нешта нізкае, непрыстойнае і нават злачыннае. А мы ж усяго толькі былі маладыя, хацелі жыць і быць шчаслівымі.

Багата ёсць у мяне нашых сумесных здымкаў, якімі я ў вольную часіну люблю наталяцца. Цяпер у мяне многа вольнага часу, а пасля жаніцьбы яго практычна не стане… Вось, прыкладам, фотаздымак — у нашай кватэры, перад тэлевізарам, у фатэлі (я, здаецца, фоцік тады проста на тэлевізар паставіў): сядзім мы з табой у адных трусіках, ты па завядзёнцы ў мяне на каленях, прычым павернута тварам да мяне і пяшчотна цалуеш... Дазволь пытанне: за якія такія заслугі ты ўганароўвала сядзеннем у мяне на каленях і што такога кепскага я з таго часу зрабіў, што ты знаць мяне не жадаеш, што ты, упэўнены, пры слове «Мігуля» скаланаешся ўсёй сваёй істотаю? Ці не таму, што табе сорамна сябе самой, сваёй распусты, якая вечна прыкрывалася фальшываю цнотай і фальшывым жаданнем стаць законнаю жонкаю. Не, Ксюха, ты заўсёды любіла толькі пасцель, а аформлена яна для цябе афіцыйна ці не — не важна па сутнасці. Ты хутка ў гэтым пераканаешся, стаўшы законнаю жонкай таго нізкарослага паршыўца, якога я з табой бачыў… Ну ды чорт з ім, пра яго, заразу, не буду. Вернемся да нас з табой. Я мог бы пералічваць падобныя фотаздымкі доўга, спісаў бы некалькі старонак, тым больш што гэта прыносіць мне мазахісцкую асалоду. Вось той, напрыклад, калі я нясу цябе на плячы праз бярозавы гай… Эх, ладна, ты хутка зноў зможаш іх паглядзець. Для чаго прапаноўваю сустрэцца заўтра ў скверыку Н…ім, што ў квартале ад майго дома, памятаеш, мы з табой там любілі гуляць. А за сустрэчай вырашым, расстанемся мы назаўсёды, аддам я табе той дарагі сэрцу альбом, або ён у мяне пакуль паляжыць і сустрэчы нашы ўсё-ткі працягнуцца. Жарты скончаны, Ксюха, адмова ніякім чынам мной не прымаецца. Чакаю цябе роўна ў шэсць вечара пад ліхтаром каля помніка.

Твой нецярплівы сябра».

І Шпачык назаўтра пасля работы памчалася праз паўгорада (а працавала яна на Паўднёвым Захадзе) у цэнтр, каб паспець на сустрэчу з Мігулем. Яна выйшла з метро без дзесяці шэсць, да скверыка было якіх пяць хвілін ходу. Ксеня вырашыла-такі не губляць галаву і па сваёй завядзёнцы спазніцца хвілін на сем. А таму запаволіла крок і нават зайшла ва ўніверсам, каб змарнаваць час.

Калі яна прыйшла ў скверык, то ля помніка, дзе прызначыў ёй спатканне Пятро, нікога не было. Гэта здзівіла, і нядобрае, боязнае пачуццё кальнула душу.

Удзень выпаў свежы сняжок, ён пакрыў лаўкі, дарожкі, лысіну помніка нятоўстым бялюткім слоем. Вакол было амаль што бязлюдна. За стволамі і голлем дрэў, з трох бакоў, шчыльна рухаліся аўтамабілі. У канцы дарожкі зыбаліся тры постаці пажылых людзей. Пры дыханні з рота вырываўся пар — напэўна, градусы тры марозу… «Няўжо так рана ляжа зіма», — падумала Ксеня, трывожна азіраючыся, прыслухваючыся, ці не затаіўся хто дзесьці паблізу.

Пятро паявіўся толькі ў дваццаць хвілін на сёмую. Як з-пад зямлі вынырнуў. У зімовай барановай шапцы, у чорным паліто, з чырвоным даўжэзным, вульгарным шалікам, намотаным колькі разоў вакол шыі. Шалік закрываў палову Пятровага твару, шапка была насунута на самыя вочы.

— Прывітанне, — даволі холадна кіўнуў ён былой сяброўцы, відаць, не збіраючыся выбачацца за спазненне. — Давай станем бліжэй да помніка, тут не так ветрана.

Ён прыхінуўся да каменнага пастамента спінай, дастаў рукі з кішэняў, зябка пацёр далонь аб далонь, падзьмухаў на іх, а тады дастаў з кішэні паліто пачак цыгарэт, запальніцу і прыкурыў.

Ксеня моўчкі падышла да яго, спынілася на адлегласці, большай за выцягнутую руку.

— Ну, ты прынёс? — Яна старалася ўлавіць выраз Мігулевага твару, схаванага за шалікам і насунутай на вочы шапкай.

— Што — прынёс? — Пятро нахабна выпусціў дым паўзверх Ксенінай галавы.

— Альбом… — прамовіла Шпачык і тут жа зразумела, што зрабіла памылку, што не трэба было паказваць, наколькі гэтая рэч, і гэтая сустрэча для яе важныя.

Але ўжо было позна.

— Ах, альбом! — Пятровы вочы радасна зіхатнулі. — А хіба ў маім лісце было сказана, што я яго прынясу? — Ён здзекліва падаўся наперад. — Ты, Ксюха, тады, напэўна, дрэнна чытала маё пасланне.

— Дык для чаго ты мяне сюды выклікаў?.. — пралепятала Шпачык і адхілілася, адступіла на крок назад.

— Пагаманіць, Ксюха, пагаманіць… — падміргнуў ёй Пятро з цыгарэтай у зубах. — А заадно вызначыць, як нам далей быць… Ты, мусіць, ужо знішчыла мой ліст, а?

Ксеня гнеўна маўчала. Яна не ведала, што рабіць і як далей сябе паводзіць з гэтым ненармальным. Пайсці прэч? Аблаяць? Або пачакаць, можа, што выгарыць з тым клятым альбомам?

— Ну ды нішто! — працягваў здзекавацца з яе былы палюбоўнік. — У мяне ёсць яшчэ некалькі копій. — Ён вышмаргнуў з кішэні складзены ў столкі чатыры аркуш і стаў ім патрэсваць. — І хоць я ўсё дакладна памятаю з таго ліста, усё ж табе пакажу і працытую, што там напісана наконт альбома, які ты так хочаш атрымаць у свае пяшчотныя рукі.

«Чорт, навошта я з ім пайшла на кантакт!» — жахнулася Шпачык.

А Пятро тым часам дэманстратыўна расправіў аркуш, павярнуўся да ліхтара і стаў выкрыкваць цытату:

«А за сустрэчай вырашым, расстанемся мы з табой назаўсёды, аддам я табе той дарагі сэрцу альбом, або ён у мяне пакуль паляжыць і сустрэчы нашы ўсё-ткі працягнуцца». — Ён павярнуў да Ксені твар. — Чуеш, што там было напісана? Га? — Голас яго нядобра ўзвысіўся.

Ксеня стрэльнула позіркам па баках. Як на бяду, паблізу не было бачна прахожых.

«Бегчы!» — варухнулася ў галаве.

І тут Пятро, нібы прачытаўшы гэтую думку, выкінуў доўгую руку наперад і, як абцугамі, схапіў яе правую кісць.

— Пусці! — ад жаху Ксенін выкрык атрымаўся слабенькі, здушаны, падобны на шэпт.

— Не хвалюйся ты так! — цягнуў яе да сябе ачмурэлы Мігуля. — Давай пагаворым па-людску, па-добраму… — Ён хіліў уніз галаву, непрыемна дыхаў у самы твар Шпачык. — Альбом табе я аддам, ён мне зусім не патрэбны… Мне патрэбная ты, адзін раз… у мяне… як раней… памятаеш…

— Ды ты што — звар'яцеў? Пусці зараз жа! — залямантавала Ксеня. Аднак і на гэты раз крык выйшаў надзвычай слабы. Нешта нібы захрасла ў горле і замінала крычаць.

— Не хвалюйся ты, Ксюха! Для цябе гэта ніштó, драбяза… — страсна шаптаў Пятро, чэпка і балюча трымаючы яе за руку. — Ну ашчаслiў ты былога каханка, пойдзем да мяне, тут пяць хвілін ходу… Мілая мая, харошая, пышачка… — Ён уладарна абвіў рукой яе талію, прытуліў да сябе, прыпаў губамі да шыі.

— А-а! Пусці-і-і! — загаласіла Ксеня, але захліпнулася, паколькі Пятро заціснуў ёй рот левай рукой, правай працягваючы гарнуць да сябе. Губы яго ліпка, узасос, цалавалі Ксеніну шыю; а затым дзяўчына адчула на скуры ягоныя зубы…

Шпачык адчайна тарганулася, выкінула руку ўверх, схапіла Мігулю за шчаку і ўшчыкнула, драпанула штосілы.

Ад болю той адарваўся ад яе на імгненне. Зрэшты, паспеў зноў ухапіць яе за кісць рукі. Вольнай рукой ён пацiраў падрапаную шчаку.

— А мне толькі прыемныя, Ксюха, нанесеныя табой раны. Памятаеш, як ты любіла мяне пашчыпваць да пакусваць у самыя нашы інтымныя моманты. А?

— Скаціна! Заўтра ж напішу заяву ў міліцыю! — выкрыкнула Шпачык, цяпер ужо досыць гучна і таму небяспечна для гвалтаўніка.

— Ах, ты прад'явіш засос на шыі! Ха-ха! — рассмяяўся Пятро нездаровым, танюткім смехам. — Толькі спачатку прад'яві яго свайму жанішку! Ты ж да яго зараз паедзеш, курва! — Ён тарганаў яе за руку, якую не выпускаў. — Падавай заяву, падавай! Толькі нічога з гэтага не зоймееш! Я пакажу ім сваю парваную, пасінелую ад тваіх пальцаў шчаку і скажу, што гэта любоўныя гульні!

— Скаціна, пусці! — зарыдала голасна Шпачык.

— І яшчэ я прад'яўлю альбом! — Мігуля зноў бязлітасна тузануў яе за руку. — Той альбом, які ты так хочаш утаіць ад свайго жаніха, ад гэтага нізкарослага неданоска! А па тым альбоме ясна відаць, што мы з табой гарачыя палюбоўнікі. Зразумела? А палюбоўнікам падчас інтыму ўсё дазваляецца. Гэта ў кожнай сексалагічнай кніжцы прапісана! Так што міліцыяй ты мяне не палохай.

— Пусці, гад, сволач! — Ксеня ўдарыла яго ў грудзі сваім маленькім кулачком, а затым — нагой у калена.

— Вось, б'еш! — крычаў ашалелы Пятро. — Значыць, кахаеш. Бачу, што не ўсё яшчэ паміж намі скончана. Рашайся, Ксюха! Пяць хвілін — і мы ў мяне! Пазабавімся, як раней. Памятаеш? — Ён нахабна набліжаў свой разгарачаны твар да яе твару.

— Пусці-і-і!!! — сабраўшыся з сіламі, пракрычала няшчасная.

Енк выйшаў настолькі прарэзлівым, што Пятро ад неспадзяванкі шарахнуўся ўбок і выпусціў яе са сваіх «абцугоў». Імгненна ацверазелы, ён стаў баязліва азірацца і адступаць. Метрах у сарака адсюль стаяла і як быццам прыглядалася да іх купка мужчын і жанчын. Чалавек дзесяць.

Ксеня іх таксама ўбачыла і кінулася ў той бок.

Пятро ж, перш чым пабегчы ў супрацьлеглы, галёкнуў ёй наўздагон:

— Ксюха, альбом у мяне! Ты гэтым нічога не даб'ешся, дурніца! Заўтра ж вышлю твайму хахалю копіі фотакартак! Нашых з табой фотакартак! Ха-ха-ха!

«О, за што мне такое!» — выціраючы слёзы на бягу, думала Ксеня. Дамская сумачка целяпалася на яе плячы…

## 21

«Яна гэтым нічога не даб'ецца. Дурніца!» — як апантаны паўтараў Пятро, шыбуючы па тратуары сярод шматлікіх прахожых. На яго абарочваліся, бо ён, сам таго не заўважаючы, гаварыў услых, паўшэптам. Да таго ж размахваў правай рукой, патрэсваў сціснутым кулаком. Левая ж, наадварот, чамусьці бязвольна вісела, як паралізаваная.

Пятро пайшоў дамоў не адразу, а з паўгадзіны бязмэтна кружляў па мікраараёне. Зайшоў у некалькі крамаў, пасварыўся ў адным гандлёвым кіёску з маладой прадаўшчыцай. Потым не мог дакладна згадаць, што сталася прычынай той сваркі і чаму ён колькі разоў садануў кулаком у шыбу кіёска, прагарлаўшы: «Нахабства! Зусім вы тут адурэлі!» Зрэшты, своечасова рэціраваўся, бо на гэтай шматлюднай вуліцы можна было лёгка нарвацца на міліцэйскі нарад.

Затым няўзнак патрапіў у пад'езд суседняга дома, думаючы, што ідзе да сябе. Гэта была дзевяціпавярхоўка, нічым не падобная на Мігулеў пяціпавярховы дом. Памылка выявілася тады, калі Пятро здранцвела спыніўся перад дзвярыма ліфта. Ліфта ў яго доме быць не магло. З прыкрасці і злосці Пятро націснуў кнопку, дачакаўся, пакуль адчыняцца дзверы, увайшоў і стаў па-хлапчукоўску катацца з паверха на паверх, уверх і ўніз, хвілін дзесяць. Калі ён, нацешыўшыся, аслабаніў-такі гэты транспарт, на пляцоўцы першага паверха ўжо сабралася ладная колькасць абуранага народу. Наспяваў скандал. Нехта нясмела выказаў нездавальненне, яго падхапілі нястройныя галасы, якія рэзка ўзвысіліся і набылі пагрозлівы тон. Пятро паспяшаўся прамінуць гэтую наэлектрызаваную гурму і выскачыў на двор. Пабег праз дзіцячы гарадок, праз купку аснежаных дрэў, праз аўтамабільную стаянку да пад'езда свайго дома. Адкрыў кадзіраваныя масіўныя дзверы. У абсалютным змроку, лямпачка ў пад'ездзе перагарэла, Пятро вобмацкам прабіраўся да лесвіцы. У гэтым старым доме мелася пляцоўка перад батарэямі, а за імі — ёмістая ніша, дзе нярэдка збіраліся кампаніі малалетак.

Нехта паклаў руку яму на плячо, уладарна спыніў. Мігуля не паспеў і рота раскрыць, як чатыры жалезныя рукі падхапілі яго пад локці, два магутныя тулавы сціснулі з бакоў. Яго груба развярнулі і павалаклі налева, мусіць, у бок той нішы за батарэямі ацяплення.

— Што, што такое? — баязліва піскнуў Пятро.

Тулавы і рукі тых, хто напаў на яго, прыціснулі да сцяны. А нехта трэці, што стаяў метрах у двух, загадаў:

— Святло, хлопцы. Дайце святло. — Надзвычай знаёмы, траскучы, высокі голас.

Нехта чацвёрты ўключыў ліхтарык, накіраваўшы рассеянае святло Мігулю ў твар.

— Пазнаеш? — перад Пятром з’явілася скажонае косым праменнем аблічча не каго іншага, як спадара Віктара Сулеева, бясцэннага браціка Пятровай нявесты.

«Ах вось яно што! — скалануўся ад нечаканкі Мігуля. — Ну не заб’е ж ён, прынамсі, мяне…»

— Віктар Амаравіч… — пралепятаў Мігуля, які быў на цэлую галаву вышэйшы за суразмоўніка.

Праўда, размовай гэта было цяжка назваць, паколькі два бамбізы, ужо ніяк не ніжэйшыя за Пятра, ціснулі яго з бакоў так, што пераймала дыханне.

— Я з табой доўга сюсюкаць не буду. — У гневе абвастрыліся азіяцкія рысы Віктарава твару, вочы зрабіліся вузейшымі, чым былі, а скулы выпнуліся і нібы пашырыліся. А можа, проста воблік скрыўляў ліхтарык. — Ты ў мяне во дзе сядзіш! — Ён тыцнуў кулаком сабе пад ніжнюю сківіцу.

— За што, Віктар Амаравіч? — Мігуля не наважваўся перайсці на «ты», як паміж імі было заведзена.

— Ён яшчэ пытаецца, падла! — Сулееў-малодшы схапіў яго за адварот паліто, скамячыў, шмаргануў на сябе і тут жа — рэзка назад, так, што Пятро выцяўся хрыбетнікам аб сцяну.

— Ды адпусці… це. Растлумачце… Не разумею.

— Ах ты хвост дранай кабылы! Гнілая мача асла! — лаяўся раз’ятраны кат. — Ды цябе за машонку трэба падвесіць і скуру з жывога злупіць! Шайтан! А цяпер хутка і без ваганняў адказвай: з кім ты толькі што цалаваўся ў парку, з якой бруднай лярвай? А потым ляжаш у пасцель да маёй сястры?! — Віктар накручваў Пятроў шалік на свой тоўсты кулак, адначасова ціснучы на кадык. Ад гэтага рабілася душна. І нават не так душна, як вусцішна.

Пятро інстынктыўна тарганууся, аднак магутныя постаці Віктаравых целаахоўнікаў трымалі яго мёртва. Пры тым маўчалі, як статуі.

— Ах ты, сука, супраціўляцца! — узвіўся Віктар.

І тут Мігуля адчуў, як яму націснулі каленам туды, дзе канчаецца жывот і пачынаюцца ногі.

— У-у-у! — узвыў ён. — Ды не супраціўляюся я… адпусціце… не налягайце так… баліць…

— У цябе яшчэ не так будзе балець, кабяліна паскудная! — распаляючыся, Сулееў націскаў на прычыннае месца ўсё мацней і бязлітасней.

— А-а-а! Ды што ты, нарэшце, ад мяне хочаш! — замардаваны Пятро ўсёткі насмеліўся назваць свайго равесніка на «ты».

— Што я хачу! — Віктар адпусціў шалік і тут жа ўхапіў гэтай рукой за пасму Мігулевых валасоў, што вытыркалася з-пад шапкі, тарганыў, шапка ледзь не зляцела, з’ехала набакір. — О, каб была мая воля, — прашыпеў ён, — я б зарэзаў цябе, як паршывага барана, каб і духу твайго смярдзючага каля маёй сястры не было! Але Ніна цябе, паганца, кахае. Яе мне шкада!

Сулееў яшчэ раз ірвануў прыціхлага Мігулю за чуприну і адпусціў, адступіўшы на крок.

— Мне шкада сястру, таму я цябе пакуль не стану кастрыраваць. Але слухай, падла, уважліва. Я дакладна ведаю, што ў цябе за апошні месяц было тры

жанчыны. Чацвёртага, восьмага, трынаццатага, дваццаць другога і дваццаць шостага чысла да цябе прыязджалі шлюхі. У, дзярмо! — Ён замахнуўся, каб узгрэць Пятра па галаве важкім кулаком, але ў апошняе імгненне стрымаўся. — Што, маўчыш? І правільна. Не прывядзі шайтан табе тут апраўдвацца. Жылы выцягну! Так што слухай мяне, натапыр вушы.

Віктар, узмакрэлы ад злосці, зноў падступіўся да будучага швагра, узяў яго загрудкі, пазіраючы знізу ўверх, прамовіў з расстаноўкаю:

— Вяселле ўжо не адменіш. Назад дарогі няма. Але я буду за табой сачыць усё тваё сабачае жыццё. І гора табе, калі хоць дасі мне намёк, што падманваеш Ніну. Гора табе! — Ён узяў калянымі пальцамі змярцвелага Пятра за кадык. — А пакуль зробіш, што я загадаў… Вось табе накіраванні на аналізы. Праверышся, блудлівая псіна, па поўнай праграме. — Ён выняў з кішэні свой партманет і дастаў з яго кіпу квіткоў. — Заўтра ж, з раніцы, бягом, скачкамі ляціш у вендыспансер і здаеш усе аналізы, усе да апошняга. Плюс аналіз на СНІД. Уразумеў!

Агаломшаны, сціснуты з бакоў Віктаравымі нямымі бамбізамі, Пятро ледзь выціснуў вартае жалю «ўгу».

— Не «ўгу», а гавары выразна, зразумеў, што я сказаў, ці не?

— Так, зразумеў! — яшчэ раз пацвердзіў Пятро.

— Гатовыя аналізы прынясеш мне праз тыдзень. Хачу паглядзець, ці няма ў табе якое заразы. І зразумей, не будзеш чыстым — лячыся. Вяселле перанясём. Прычыну прыдумаем. І яшчэ, не дай алах хто даведаецца пра нашу размову — скуру здзяру і жыць пакіну. Пытанні ёсць?

— Не.

— Выконвай. І памятай, тэрміну табе — тыдзень. — Віктар дзелавіта схаваў партманет, дбайна зашпіліў дарагі кажушок і загадаў: — Усё, хлопцы, сыходзім.

Пагас ліхтарык, і нападаўшыя зніклі гэтак жа раптоўна, як паявіліся. Толькі паспешлівыя крокі, рып уваходных дзвярэй і зашчаўк кодавага замка. Недзе праз паўхвіліны, пакуль Мігуля збіраўся з думкамі, у пад’езд увалілася гурма жыльцоў.

Пятро перачакаў у нішы, пакуль людзі пройдуць на лесвіцу, потым паціху пашкандыбаў на свой чацвёрты паверх. Смылела ў прамежнасці, Сулееў выдатна пастараўся сваім паганым каленам. «Адмарозак!» — паўтараў пра сябе Пятро, з болем адольваючы прыступкі.

Зайшоўшы ў кватэру, ён адразу ж пасунуўся ў ванную, адкрыў кран, каб напусціць вады, наважыўся паляжаць, расслабіцца, памазгаваць. А пакуль скінуў абутак і вопратку, прайшоў у залу, сеў пад таршэр і доўга, уважліва разглядаў накіраванні на аналізы, якія так бесцырымонна ўручыў яму малодшы Сулееў. Затым паклаў накіраванні на сярэдзіну нізкага століка і пайшоў у ванную — адмывацца ад рук гэтага паганца. Ляжаў там Пятро, у тупой бяздумнасці, гадзіны дзве. Калі выйшаў з ваннай у доўгім халаце, было каля дзесяці вечара. Прысеў на канапу і, сушачы валасы фенам, зноў стаў разглядаць накіраванні. Затым зноў паклаў іх на столік.

Спаць ён лёг калі яшчэ не пераваліла за поўнач. І, як ні дзіўна, імгненна заснуў. Прабудзіў Пятра нізкі, страшны, нечалавечы гук. Ён палахліва прахапіўся, сеў. Уключыў бра. Грудзі, валасы, а таксама навалачка і прасціны намоклі ад поту. Цішыня. Але вушы яшчэ «памяталі» той жудасны гук. Ён здаваўся надзвычай рэальным. Ці ўсё-ткі сасніласся? Пятро, як ні стараўся, не мог узнавіць ніводнага вобразу таго сну. Ён прайшоў са спальні ў залу, запаліў люстру, баязліва агледзеўся, адсунуў шторы, зазірнуў пад канапу... Закурыў і стаў нервова хадзіць па зале ўзад-уперад. Высмаліў адну за адной некалькі цыгарэт. Услухоўваўся ў цішыню.

І раптам, азораны здагадкай, рынуўся назад у спальню, схапіў з тумбачкі мабільнік, званок якога ён адключыў яшчэ перад спатканнем са Шпачык. Прагартаў на экране апошнія паведамленні… Званіла маці разы чатыры, надыктоўвала на аўтаадказчык. Пятро са злосцю, не праслухаўшы, сцёр яе запісы… Пятнаццаць хвілін назад, у 2.13, паступіў званок ад Сяргея Страмца, з мабільнага. Што за лухта… Страмец яму тэлефануе гады ў рады, а каб яшчэ пасярод ночы… Пятро тым не менш набраў Сяргееў нумар. Два доўгія гудкі — і паведамленне, што нумар знаходзіцца па-за зонай прыёму. Такія паведамленні нязменна чуў Мігуля апошнія тыдні, калі безвынікова спрабаваў звязацца з Сяргеем… Працёр заспаныя вочы, пераправерыў: слова «Страмец» выразна высвечвалася на экране, час — 2.13. Нейкае насланнё. Пятро абяссілена паваліўся ў фатэль, тупа ўтаропіўся ў сцяну.

Па вуліцы прагрымела грузавая машына, ад яе фар заварушыліся плямы на сценах, па столі прабеглі бліскі… Нарэшце Мігулеў пагляд уткнуўся ў накіраванні на аналізы, што ляжалі на часопісным століку. І тады нешта рашучае, незнаёмае адбілася на яго твары. Пятро ўзяў іх, рэзка скамячыў у жмут, пстрыкнуў запальніцай… Паперкі хутка ўзяліся вясёлым маленькім полымем. Ён ухмыльнуўся і кінуў іх дагараць у поўную недакуркаў пузатую попельніцу.

## 22

Не паспела Ксеня Шпачык ачомацца пасля спаткання ў скверы з назойлівым палюбоўнікам, як новая неспадзяванка абрынулася на яе галаву. У сераду, пасярод белага дня, калі яна вярнулася з абеду на службовае месца, супрацоўнікі паведамілі, што званіў сусед і што яе цётку Эльвіру Мазэпаўну забралі ў бальніцу з сардэчным прыступам. Што за сусед, у якую бальніцу — гэтага Шпачык дабіцца не змагла. Праўда, у тым раптоўным званку даводзілася, каб Ксеня неадкладна бегла дадому, у цётчыну кватэру, і чакала званка.

Сарваўшыся нават без дазволу начальніка, які на бяду адлучыўся, Ксеня ў жаху і роспачы памчалася дадому. Ад Паўднёвага Захаду да Серабранкі шлях, як вядома, не блізкі. Таму яна злавіла таксоўку і даляцела на ёй за якіх дваццаць хвілін. Бегма ўздымалася па лесвіцы пад'езда, ліхаманкава даставала ключы з сумачкі. Адзін ключ зачапіўся за ўнутраную абіўку і ніяк не выблытваўся. Прыйшлося рвануць штосілы ўсю звязку і тым самым пашкодзіць дарагі матэрыял. У замочную шчыліну ўпарта не хацеў трапляць ужо другі ключ, ад верхняга замка. Ніжні адамкнуўся адразу. І вось, калі Ксеня такі адолела верхні замок, нехта наваліўся на яе ззаду, адной рукой заляпіўшы рот, груба прапхнуў у кватэру.

Ад нечаканасці Шпачык спачатку нават не супраціўлялася. А той, хто напаў, адарваўшы руку ад яе рота, перахапіў абедзвюма рукамі за тулава, падняў перад сабой Ксеню і панёс да дзвярэй, што былі адчынены ў вялікі пакой.

— А-а-і! — залямантавала нарэшце Ксеня і пачула толькі слабенькі стогн.

Нешта балюча сцінала губы. Паветра не праходзіла і не выходзіла. Рот быў чымсьці заклеены.

Пакуль Шпачык кеміла, што да чаго, пакуль зразумела жахлівасць становішча, у якое трапіла, нехта паваліў яе тварам уніз на тахту і прыціснуў сваёй вагою.

— Я ж казаў, што ты гэтым нічога не даб'ешся, дурненькая! — прашыпеў ёй на вуха надзвычай знаёмы і разам з тым дзіка незнаёмы голас Пятра Мігулі.

— У-у-у! — толькі і змагла выціснуць з сябе няшчасная, прыткнутая тварам да пакрывала тахты.

— Мы павінны быць разам… як раней… ты мне патрэбная… — Ксеня адчула, як гвалтаўнік сунуў руку пад яе паліто і спадніцу і шнарыць паміж клубоў.

Яна адчайна тузанулася, завяла правую руку за спіну і ўхапіла нейкі кавалак яго цела, запусціла туды пазногці.

— Ціха, ціха… мы ж з табой заўсёды ўмелі паладзіць… харошая… — як не адчуваючы болю, прыгаворваў Пятро.

Ён спрытна авалодаў яе правай рукой і заламаў за спіну. Пасля зацятай барацьбы тое ж адбылося і з левай рукой дзяўчыны. Яна не магла супрацьстаяць грубай мужчынскай сіле. Да таго ж Мігуля сядзеў у яе на спіне, сцінаў вагой грудную клетку, збіваў дыханне. Заклееный рот перашкаджаў дыханню. Неўзабаве Ксеніны рукі аказаліся звязанымі ззаду. Яна выразна чула віск скотчу, які Мігуля моўчкі, дзелавіта накручваў на яе перадплечча.

Наогул, усё далейшае адбывалася без тлумачэнняў, практычна без слоў. Толькі гучнае, хрыплае Мігулева дыханне, толькі яго разважныя рухі… Полы зімовага паліто, у якім была Ксеня, аказаліся на галаве, цяпер ужо зусім не было як дыхнуць. Далей — непрацяглая валтузня, цупкія пальцы на паясніцы, трэск парваных трусоў…

Зрэшты, усё скончылася зусім не так, як меркаваў гвалтаўнік.

У самы разгар гэтай дзеі ў кватэру ўварвалася Эльвіра Мазэпаўна, дагэтуль падманам выбаўленая Мігулем з кватэры. Выбаўленая, як ён спадзяваўся, надоўга… Уляцела яна віхурай. Пятро адчуў рэзкі боль у каранях валасоў. Сухенькая, маленькая Эльвіра Мазэпаўна ўчапілася ў яго бульдожай хваткаю — запусціла рукі ў кудлы і, амаль павісаючы на Мігулю, з дзікім крыкам адрывала ад пляменніцы.

Карціну гэтую цалкам не перадаць, бо літаратурная мова многае абмяжоўвае. Зразумела, што Пятро і яго ахвяра знаходзіліся ў выглядзе далёка не рэспектабельным. Таму сцэна, пры ўсім сваім драматызме, уражвала нейкай сюрэалістычнай пачварнасцю.

Пятро, якога Эльвіра Мазэпаўна ўжо адцягнула ад Ксені, ніяк не мог адарваць яе чэпкіх рук ад сваіх валасоў. Ад дзікага болю муцілася ў галаве. Ён доўга не мог павярнуцца тварам да праціўніцы, якая працягвала тузаць Мігулю за валасы і віснуць на ім сваёй невялікай вагою. Нервы цвяліў тонкі старэчы віскат і стогн Ксені, што даносіўся з-пад насунутага на яе галаву паліто.

Ужо Ксеня пачала выблытвацца з вопратак і падымацца на ногі, як Пятро злаўчыўся-такі адштурхнуць ад сябе яе цётку. Лёгенькая, яна праляцела метры тры да сцяны, сівенькая галоўка няёмка матлянулася аб рог кніжнай секцыі, рукі спачатку ўскінуліся ўверх, а затым бязвольна апусціліся ўздоўж цела. Эльвіра Мазэпаўна пачала асядаць на падлогу. Гэтая жанчына, нядаўні згустак энергіі, імгненна сцішылася, змізарнела.

Усё цяпер праносілася перад Пятром нібы ў пякельнай смузе. Доўгая, тамлівая, напятая цішыня. Потым шоргат — і Ксеня, усё яшчэ з залепленым ротам, са звязанымі за спінай рукамі, на каленях перад Мазэпаўнай… Стогн, страшны, заліты слязьмі, у крывавых пісягах, скажоны, нервовы твар. Пятро, сціснуўшы далонямі скроні, шарахаецца па кватэры… Уваходныя дзверы перад яго вачыма, напалову адчыненыя. Зачыніў, замкнуў. Стогн, енк. Гэта Ксеня. Ды калі ж яна перастане?! Пачуюць! Трэба маўчаць, трэба, каб ніхто не даведаўся… Зноў вялікі пакой. Што гэта? Ксеня роспачна трэцца аб рог кніжнай секцыі. Навошта? Што яна робіць? Яна, падобна, намагаецца

садраць скотч з губ. Для чаго? Каб можна было крычаць галасней. Каб выклікаць людзей. А гэта зноў шум, тлум, тупат, насілле… Не, розум Пятра і так не вытрымлівае гэтага стогну, гэтага спалатнелага, лялечнага твару Эльвіры Мазэпаўны, якая сядзіць на падлозе, прыхінуўшыся бокам да секцыі. І навошта так ненатуральна скручана ў яе шыя?.. Шарахнуўся ў дзверы, забег у другі пакой, выбег, памкнуўся на кухню… Крык! Няўжо яна адляпіла скотч? Вярнуўся ў калідор, праверыў уваходныя дзверы. Плач. Рыданні. Усхліпісты енк… Пятра пачала трэсці нервовая ліхаманка. Ды калі ж яна, праклятая, змоўкне! Зноў кухня. Нож. Доўгі шырокі нож паблісквае на падстаўцы сярод меншых нажоў.

«Толькі адзін раз… каб яна замаўчала… і ўсё стане ціха… і ўсё будзе добра…» — шаптаў Мігуля. Амаль вобмацкам, бо перад вачыма паўстаў нейкі туман, ён прабіраўся на гукі адчаю. Цень перад ім хіснуўся долу… Бледны твар непрытомнай Мазэпаўны, не твар, а расплывістая страшная пляма… Вось цёмная спіна схілілася над ёй, скаланаецца ў плачы. О, гэты пракляты плач, гэтая бязлітасная пакута!

…У расшпіленай спартыўнай куртцы, у лыжных шараварах і зімовых ботах, проставалосы і з акрываўленым нажом у руцэ, Пятро няспешна, як мае быць, выходзіў з пад’езда на шчодра заснежаны двор. На яго жоўтым світэры, пад расхрыстанай курткай, віднеліся размазаныя барвовыя плямы.

Паблізу людзей не было. Ён пабрыў праз снежны цалік, крывавыя кроплі з нажа падалі на яго сляды. Нізкае сонца зірнула з-за хмар і ўтварыла даўжэзны, ссутулены цень яго цела. Зыбаючыся на сумётах, цень неадступна рушыў з левага боку.

Хвілін праз дваццаць, ужо ў двух кварталах ад Ксенінага дома, Пятра выпадкова заўважыў міліцэйскі патруль і затрымаў яго без найменшага супраціўлення.

## Леапард

Зранку яшчэ стаяла адліга, туман і слота панавалі на нашым двары. Расплюшчыўшы вочы са сну, я адчуў страшэнную змору. Ноч не аднавіла мае сілы. А таму, як толькі паснедаў, паваліўся на канапу, уткнуўся тварам у сцяну і слухаў дробат кропель па карнізе акна. Хутка мяне зноў агарнула цяжкая дрымота.

Абудзіўся з трывогай. Целу было зябка. А ў пакоі, хоць я працягваў ляжаць спінай да акна, быццам бы пасвятлела. Я адчуў гэта і зрокам, і ўсёй сваёй існасцю. Падскочыў, падбег да шыбы і здранцвеў: яе пакрываў тоўсты слой намаразі, расквечаны дзівоснымі ўзорамі. Я адчыніў фортку, і сцюдзёны павеў трапануў мяне па шчоках. Двор быў асветлены нізкім барвовым сонцам. Верхнія вокны суседніх дамоў адбівалі яго прамыя праменні. Я зірнуў на насценны гадзіннік і не даў веры вачам: без дваццаці чатыры. Вечар. Я бессаромна прадрых увесь дзень, празяваў надыход паўночнага холаду…

Цяпер стаяць самыя кароткія дні, сонца рана заходзіць за далягляд. Ці паспею я да Гаспадара — вось што найперш мяне непакоіла. Зрэшты, часу на роздум ужо не было, а таму я сарваў з крука аблавушку і кажушок, ускочыў у зімовыя чаравікі і вымкнуў за дзверы.

Як і чым дабіраўся я праз паўгорада — тое змылася з памяці. Запомніў толькі момант, калі набліжаўся да камяніцы Гаспадара. Чырвонацагляная, яна патанала ў ценю. І толькі вяршаліна высачэзнага клёна на ўзгорку палымнела вечаровым агнём. Аўтамабіль перад пад’ездам, занесены заледзянелым снегам, уяўляў маналіт. Ганак таксама абледзянеў і стаў коўзкі данельга. Я ледзь

адолеў дзевяць прыступак і насілу адарваў дзверы, якія, здавалася, прымерзлі да вушака.

Бягом уздымаўся на патрэбны паверх, і задубелыя ад марозу боты грымелі як барабаны. Нядобрае прадчуванне ахінула мяне, як толькі ўбачыў дзверы ў Гаспадарову кватэру. Яны былі зачынены не напоўніцу. Тонкая шчыліна ўказвала на занядбанасць. Няўжо…

На жаль, я не памыліўся. Кватэра, куды я ўваліўся са страхам і кволай надзеяй, прыкмет жыцця не паказвала. Холад там стаяў амаль такі ж, як на дварэ. Не гарэла ніводнай лямпачкі. Дзверы ў залу, заўсёды крыху прачыненыя, цяпер не выпускалі ні пучочка святла. Праўда, святло прабівалася з кухні, што была за правым выгінам калідора. Туды я і паспяшаўся. Кухня, дзе я дагэтуль ніколі не быў, уразіла сваёй убогасцю. Квадратная, з акном без фіранак, з аблупленай іржавай плітой, з тумбачкай замест абедзеннага стала, з клышаногай табурэткай і вядром для смецця. У вядры валяўся куртаценькі венік і, здаецца, падгнілае бульбяное лушпінне. На пліце стаяла пакарабачаная каструля. Зазірнуўшы туды, я ўбачыў некалькі вялізных пасечаных костак. Чые, якой яшчэ колькі часу таму жывой істоты яны былі, — пра тое мне невядома. Косткі ляжалі ў наварыстай вадзе, якая ўжо бралася лёдам. Ад каструлі ішоў млосны душок.

Я паспяшаўся пакінуць кухню і пасунуўся ў залу. Дзверы — о подласць! — былі запёрты знутры.

Я нават не прасіў мне адамкнуць, бо ведаў, што за дзвярыма нікога няма. Налёг плячыма, дадаў некалькі шалёных udараў нагамі — і ўнутраная зашчапка вылецела, як корак. Увайшоў і ўключыў нияркае святло.

Гаспадар быццам здзекаваўся з мяне. Голая тахта, прадзёрты матрац. Коўдра дбайна згорнута ў сувой. На ёй ляжала падушка без навалачкі. Гэтакім жа сувоем ляжаў кілім, што засцілаў калісь падлогу. Швабра з яшчэ макраватай анучкай прыхілена да сцяны. Ніякіх запісак, указанняў і тлумачэнняў. Дзверы і акно на балкон прывычна зашторaны.

Крыўда і злосць пранізалі душу. Я не проста рассунуў шторы, я сарваў іх з кручкоў… Сонца, макаўка чырвонага сонца, перш чым схавацца за дрэвамі блізпрылеглага парку, усміхнулася мне. Я таропка адчыніў дзверы: люты мароз, што падаспеў з поўначы за якія паўдня, дзераную твар…

Дзе тунэль, дзе ручай, дзе таямнічы пралаз? А галоўнае, дзе леапард?! Я ў паніцы выскачыў на балкон і пасунуўся ў правы кут. Раскіданае восеньскае лісце ў перамешку са снегам… Толькі гэтая знаёмая куча ўказвала на тое, што леапард — не прыдумка маёй фантазіі. Проста ён знік. Мароз перабіваў пахі, аднак мне ўдалося ўнюхаць рэшткі духу драпежніка. Я замітусіўся, закруціўся на месцы, а тады інтуітыўна перагнуўся праз біла і ўтаропіўся долу. На снежным шарпаку, акурат пада мной, цямнелі сляды лап леапарда. Побач з імі цягнуліся другія, чалавечыя, сляды. Я віхрам зляцеў па лесвіцы ўніз і абабег дом. Лёг плазам, утрапёна абмацваў, абнюхваў сляды жывёлы і чалавека. Леапардавы былі значна глыбейшымі… Гаспадар быў абуты, найхутчэй, у валёнкі. Яны выйшлі яшчэ па адлізе, перад тым як наваліўся мароз. Цяпер шарпак настолькі сцвярдзеў, што не пакідаў адбіткаў.

А затым я, ужо практычна не верачы ў поспех, імчаўся па іхніх слядах. Вечаровы горад быў як ніколі пусты. Людзі не высоўваліся са сваіх жытлаў. Паўзлі толькі рэдкія, у тоўстым ледзяным покрыве, аўтобусы. Зрэдчас праносіліся адзінокія легкавушкі. Мне ніхто не замінаў, і ўсё ж шанцаў нагнаць леапарда ў мяне, на жаль, не было. Справа ў тым, што сляды рабіліся ўсё менеj выразнымі па меры аддалення ад дома Гаспадара. Мароз, несумненна, заспеў іх у дарозе, узмацняўся, адбіткі валёнак і лап расплываліся… Яны зніклі

перад самай ракой, што нерухомела, заледзянелая, пад абрывам. Праваруч пачынаўся вялізны гарадскі парк. Леваруч рака нырала пад мост. Я зірнуў са стромы і не заўважыў ніякіх слядоў. Асеў на халодную лаўку, панурыў галаў. Горла здушыла спазма. Хацелася плакаць. Аднак і на гэта сіл неставала. Ці спусціліся ўцекачы да ракі, каб рушыць зусім бясследна па лёдзе, ці падаліся ў парк, або пайшлі з горада па шашы — цяпер гэта не мела значэння…

Холад забіраўся за каўнер, пад полы і рукавы, скалелі мочкі вушэй, шчокі і кончык носа знямелі, зрабіліся нечуллівымі. Ззаду прачмыхаў аўтобус. Я з цяжкасцю павярнуў закасцянелую шыю. Аўтобус стаў на бязлюдным прыпынку, што знаходзіўся ад мяне ў метрах пятнаццаці. Стаяў доўга. Час нібы памёр. Але з дзвярэй так ніхто і не выйшаў. Дый ці былі там пасажыры — можна толькі гадаць, шыбы акон пакрывала намаразь. Адно шызы дымок, які вырываўся з выхлапной трубы, указваў на тое, што нешта ў свеце яшчэ жыве і варушыцца. Зрэшты, неўзабаве заспяваў гармонік дзвярэй, аўтобус крануўся і пацёгся старэчай хадой па бязлюднай вуліцы, між берагоў накіданага снегу.

## 23

Аповед падыходзіць да заканчэння. У нас няма ні сіл, ні жадання апісваць далейшы лёс яго персанажаў. Бо ніводзін раман не ў стане ахапіць цэлыя жыцці. Самая доўгая эпапея ўсё адно калі-небудзь спыняецца. Мы ж на эпапею не прэтэндуем. Як і не бачым прычыны не паставіць завяршальную кропку пасля гэтай главы. Адзінае, што хацелася б яшчэ паказаць чытачу, — гэта ўрывак з дысертацыі Пятра Сямёнавіча Мігулі, знойдзены ў яго кватэры на рабочым стале. На шчасце, малады навуковец паспеў яго перанесці з камп'ютара на паперу і пакінуць на відным месцы. Рукапіс быў спярэшчаны яго касаваннямі, удакладненнямі, дапаўненнямі і прыпіскамі. Мы ўзялі на сябе смеласць вырашыць, як павінен выглядаць апошні яго варыянт. Варта падкрэсліць, што гэта толькі ўрывак з некалькіх новых раздзелаў Мігулевай дысертацыі. Тыя раздзелы Пятро даўно абяцаў паказаць свайму навуковаму кіраўніку Раману Анатольевічу Пейцуховічу, ды ўсё не мог давесці да ладу.

Не ведаем, наколькі ніжэйпрыведзенае ўяўляе з сябе навуковую каштоўнасць, але мяркуем, што нашай аповесці яно не пашкодзіць.

Такім чынам:

«…Цяпер паўночна-заходняя цывілізацыя перажывае дэмаграфічную катастрофу. За апошнія паўстагоддзя абрынуліся ўсе маральныя нормы, на якіх грунтавалася наша цывілізацыя. Людзі распрануліся, секс запоўніў тэлеэфір, а значыць, увайшоў у свядомасць кожнага чалавека. Шматвяковая плаціна прарвалася, сексуальная энергія, што раней сублімацыйна накіроўвалася на навуку, мастацтва, войны і подзвігі, пацякла ў прамым сваім накірунку. Таму за апошнія пяцьдзесят гадоў не нарадзіўся ніводзін геніяльны мастак, ніводзін навуковец кшталту Нільса Бора ці Марыі Кюры, не кажучы ўжо пра Ньютана або Эйнштэйна. Патэнцыял цывілізацыі імкліва сыходзіць на нуль. Сціраюцца межы паміж мужчынамі і жанчынамі. Мужчынападобныя, валявыя, мэтанакіраваныя, сацыяльна актыўныя жанчыны і млявыя, жанчынападобныя, танкарукія і вузкаплечыя, меланхалічныя мужыкі — вось жудасная прыкмета нашага часу.

Хто быў мужчына раней? Перш за ўсё — воін, абаронца, здабытчык, герой. Паказаць сваю слабасць для мужчыны было проста недапушчальна. Слабых не кахалі жанчыны, для такіх з'яўляўся праблематычным працяг свайго роду. А таму і жыць кволаму мужыку не было ніякага сэнсу. Раней за

пахабны намёк, за мімалётную крыўду выклікалі на дуэль і біліся насмерць. Цяпер вялізны працэнт мужыкоў з лёгкасцю стрывае самую ганебную аплявуху, абы не ўвязвацца ў канфлікт, абы не рызыкаваць сваім бясцэнным жыццём. Значная іх частка гадамі сядзіць на антыдэпрэсантах, нюніць, цягаецца да псіхолагаў. Раней і падумаць аб гэтым мужчына сабе дазволіць не мог. Так іх выхоўвалі. Цяпер у свядомасць абываталяў актыўна, з дапамогай таго ж тэлевізара, пазіцыянуюцца так званыя моцныя жанчыны — бізнесвумен, багацейкі, эстрадныя зоркі, палітыкі, якія ўсяго дамагліся ўласнымі сіламі, што мяняюць маладых палюбоўнікаў як пальчаткі.

Адным словам, мужчына перастае выконваць свае функцыі, то бок перастае быць мужчынам. Жанчына ж не спраўляецца або ўхіляецца ад сваіх функцый — захавальніцы хатняга агменю, парадзіхі, нянькі, пяшчотнай каханкі законнага мужа. У ідэале мы павінны бачыць плячыстых, мускулістых, высокіх мужыкоў і побач з імі гладкіх, паўнагрудых і пышнабёдрых, невысокіх жанчын. А ў рэальнасці маем безбародых хлюпікаў і доўгіх, як палкі, пласкагрудых жанчын. А гэта надзвычай сумна, і ўказвае роўна на тое, што паўночна-заходняя цывілізацыя выраджаецца.

Але што сталася таму прычынай? Вернемся на колькі абзацаў назад. Так, менавіта тое, што грамадская мараль стагоддзямі выціскала секс з грамадскай свядомасці. Яно апранала чалавека так, каб ад яго прыроднага цела нічога не засталося. Яно карала за здраду, блуд. А калі не карала, то асуджала грамадскім праклёнам. Аднак здаровая язычніцкая прырода людзей доўга не паддавалася. Нягледзячы на ўсялякія забароны, мужчыны і жанчыны не пераставалі кахаць адно аднаго, а значыць, пладзіцца і множыцца. І ўсё ж такая мараль часова перамагла. У дваццатым стагоддзі нараджальнасць рэзка пайшла на спад. З кожным дзесяцігоддзем меншаў працэнт маладых, а працэнт нямоглых пенсіянераў, гэтай абузы грамадства, павялічваўся і павялічваўся… І тут прырода, якая разумнейшая за нас усіх, нарэшце нанесла па гэтай маралі нечаканы, неадхільны ўдар. Яна мусіла самазахавацца, не дапусціць выраджэння цывілізацыі, у якую так многа ўкладвала на працягу стагоддзяў. А таму прырода зноў распранула людзей, павярнула іх да язычніцтва, узняла секс на спаконвечны пачэсны п'едэстал. Сучасныя дэмагогі называюць гэта распустай, мы ж назавём гэта непазбежнасцю, неабходнасцю.

Так, дэмаграфічны крызіс працягваецца, не зважаючы на тое, што секс ізноў, як у старажытныя часы, пануе на нашых землях. Але не адразу і забароны на публічную сексуальнасць прывялі да рэзкага зніжэння нараджальнасці. Магчыма, пройдзе не адно дзесяцігоддзе, перш чым сітуацыя, дзякуючы актыўнай прапагандзе голага цела і вольнага кахання, пачне выпраўляцца. Але выпраўленне гэтае абавязкова здзейсніцца. Прырода ніколі не памылялася, яна вучыць сваіх неразумных дзяцей то пугай, то пернікам.

У святле прыведзеных выкладак я мушу перагледзець некаторыя пастулаты нашай цывілізацыі. Паколькі секс з'яўляецца неабходнасцю чалавецтва, каб размнажацца і жыць, то я вазьму смеласць назваць любы палавы акт свяшчэнным. Свяшчэнным таму, што ён вядзе да працягу жыцця. Для прыроды абсалютна ўсё роўна, якім чынам сальюцца ў экстазе два полы — па ўзаемнай згодзе ці па няволі, бо ў любым выпадку гэта будзе воля яе вялікасці Прыроды. Яна, а не мы з вамі, стварае прывабных маладзіц і сексуальна актыўных мужчын. І не віна такога мужчыны, што ён нясцерпна зажадае прывабную маладзіцу. У сілу грамадскіх табу ён, мажліва, не здолее дамагчыся яе па добрай волі. Нярэдка яму, каб ажыццявіць волю прыроды, даводзіцца дзейнічаць гвалтам. Але, падкрэсліваю, вінаваты ён будзе не перад прыродай, а перад людскімі законамі, якія спрэс высмактаны

з пальца, тысячы разоў мяняюцца і зыначваюцца. Нязменная і ўсеўладарная толькі Прырода.

Прывяду такі прыклад. Малекулы ўступаюць ва ўзаемадзеянне па хімічных і фізічных прычынах. Чым большая тэмпература, чым большы патэнцыял электрона ў якогасьці атама, тым большая верагоднасць, што ён уступіць у рэакцыю. Хоча ён таго ці не, а ўступіць. Гэта воля фізічных законаў, прыроды. Можам мы вінаваціць атам у гэтай рэакцыі? Зразумела, што не. Дык чаму мы бяромся судзіць мужчыну, які ў сілу свайго тэмпераменту, выпадкова сутыкнуўшыся з вабнай жанчынай, уступіў з ёю ў палавую сувязь. Гэта тая ж рэакцыя. У дадзеным выпадку мэта яе — прадаўжэнне роду. А ўвогуле — працяг жыцця, якое з'яўляецца вечным, няспынным рухам і абнаўленнем. Уступаюць у рэакцыю малекулы, уступаем і мы, чалавекі. Таму я мяркую, што ў хуткім часе паўночна-заходняе чалавецтва, апынуўшыся на мяжы вымірання, будзе вымушана перагледзець сваё стаўленне да палавога акта, сцёршы межы паміж гвалтам і добрай воляй. Бо, паклаўшы руку на сэрца, любы палавы акт — гэта насілле над сваёй духоўнай прыродай, ператварэнне чалавека ў жывёліну.

Усё гэта я вяду да таго, што голас здаровага сэнсу павінен вяршэнстваваць над рэлігіяй і маральнымі забаронамі. Падкрэсліваю, наша цывілізацыя на мяжы вымірання. Маладых і здаровых, калі так далей пойдзе справа, хутка не застанецца. Зачынаць людзей стануць выключна ў прабірцы (што пачынаецца ўжо), старасць расцягнецца на доўгія пакутлівыя дзесяцігоддзі. Панічна баючыся смерці, чалавек будзе дэманстраваць сваю перамогу над прыродай-матухнай. Ён будзе жыць на штучных органах, суставах і костках, на лякарствах, на апаратах, якія стануць за яго дыхаць, ганяць кроў, ператраўліваць ежу. Але тое будзе фальшывая, ілюзорная перамога. Тое будзе ўбогая пародыя на жыццё. Нам не патрэбныя рэзервацыі інвалідаў і імпатэнтаў. Нам патрэбныя войскі зухаватых малайцоў, нам патрэбныя плоймы іхніх прывабных каханак, нам патрэбныя мільёны іхніх здаровых дзяцей. У адваротным выпадку наша месца запоўніцца новымі варварамі, у якіх цэніцца мужчынская дужасць і гонар, у якіх у пашане жаночая пяшчота і пладавітасць. Яны прыйдуць і пераможуць нас, млявых, нямоглых, бясполых…»

На гэтым, бадай, і спынімся, шкадуючы нервы і цнатлівасць нашага чытача. Скажам толькі, што гэтыя раздзелы Пятровай дысертацыі, а таксама ягоны неадпраўлены ліст да бацькі, які мы тут з маральных меркаванняў не можам прывесці, будуць скарыстаны адвакатамі ў судзе. Скарыстаны выключна для таго, каб прызнаць Пятра неадэкватным, непадуладным правасуддзю і накіраваць на працяглае лячэнне ў адпаведную клініку. Гэта, як давялі Сямёну Паўлавічу, адзіны рэальны спосаб пазбегнуць суровага пакарання.





ВІКТАР ШНІП

# БАЛАДЫ КРЫВІ І ЛЮБОВІ

## БАЛАДА ПЯТРА МСЦІСЛАЎЦА (XVI СТАГОДДЗЕ)

Друкуеш кнігі, ну а іх баяцца
Царкоўнікі, якім асвета — зло,
А не жывое Божае святло,
Якому быць не толькі у палацах.

І ты з Масквы ў Заблудаў уцякаеш,
У родны край, дзе твой народ жыве
І не губляецца, нібы ў траве,
У шэрым свеце, што не стане раем,

Хоць райскага жыцця ўсе тут жадаюць,
Тут, на зямлі, дзе Храмы, дзе турма,
Дзе ты друкар і лепшага няма,
Чым ты, і ўжо не ў госці запрашаюць

Мамонічы цябе, а каб у Вільні
Ты кнігі друкаваў для ўсіх людзей,
Якім за родны край краёў мілей
Няма й не будзе, і не ўзыдзе быльнік

---

*__Шніп Віктар Анатольевіч__ нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Гронка святла» (1983), «Пошук радасці» (1987), «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Беларускае мора» (2004) і інш., кніг паэзіі і прозы «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008) і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).*

На курганах, дзе Беларусь святая,
Бо кніга кожная твая святлом,
Нібы анёлак незямным крылом,
Нас ад цямнечы злой аберагае...

## БАЛАДА ЯНА КІШКІ (?—26. 07. 1592)

У Княстве Вялікім, як сэрца, Айчына
Твая, для якой нарадзіўся, жывеш.
Шуміць ля дарогі старая рабіна,
Карэнні, як косці, у пыльнай траве.

У Лоску табе сняцца Рым і Балонья,
Дзе ты навучаўся Айчыну любіць,
Але не за тое, што ўсіх нас бароніць, —
За тое, што можам яе бараніць.

Друкарню тваю пахваліў бы Скарына,
Бо ты, як Скарына, асвету нясеш.
І кнігі твае, як у сценах цагліны
Вялікага замка, што Княствам завеш.

Пра славу не марыш, бо слава — атрута,
Якая, душу раз'ядаючы ўсім,
Прыносіць аднойчы пажары і смутак,
А потым знікае, як з вогнішча дым.

І ты каля вогнішча крок прыпыняеш,
На попел, нібы на былое, глядзіш.
І сёння ты лепшых краёў не шукаеш,
І Лоск не заменіць ніякі Парыж.

Шуміць ля дарогі старая рабіна,
І сыплецца лісце пад колы карэт,
Як сэрцы людскія пад ногі Айчыны,
Каб ведаў Айчыну тваю белы свет.

## БАЛАДА ПЁТРЫ КМІТА (?—1629 АБО 1632)

Нібы з Іерусаліма, з любай Вільні
У мястэчка Любча ты вязеш друкарню
Па дарозе гразкай, па дарозе пыльнай.
Ты вязеш і знаеш, што вязеш не марна,
Бо патрэбны кнігі, як святло ў святліцы,
Кожнаму, хто ў Княстве хоча жыць, як трэба
Дома жыць, дзе Богу верыць і маліцца,
Каб быў хлеб заўсёды і было да хлеба.

І, нібы анёлак, што табе спрыяе,
Белы бусел следам над табою кружыць.
Там, дзе ты праедзеш, салавей спявае,
І цвітуць рамонкі, і не вянуць ружы.
І твая друкарня ў Любчы доўга будзе —
Праз гады й стагоддзі і сягоння свеціць! —
Асвятляць Айчыну ўсім тутэйшым людзям.
Без Айчыны людзі, нібы пыл у вецер,
І таму, як з Іерусаліма, з Вільні
У мястэчка Любча ты вязеш друкарню
Па дарозе слёзнай, па дарозе дымнай...

## БАЛАДА КАНСТАНЦІНА ТЫЗЕНГАЎЗА (3.06.1786—16.03.1853)

Чырвоная цэгла, нібыта з крыві
Людзей беларускіх, якія Айчыне
Жыццё аддавалі, казалі: «Жыві...
А будзе Айчына, то й нас не пакіне
Жыццё, дзе замешана ўсё на крыві».

Будуеш не замак, будуеш музей,
Дзе тысячам птушак Вялікага Княства
Маўкліва-пытальна глядзець на людзей,
Якія захоплены вечным змагарствам
За грошы, за места, дзе будзе цяплей.

Малюеш, купляеш карціны і кніг
Навёз ты ў маёнтак з Парыжа, з Варшавы,
Каб кожны, хто хоча чытаць, чытаў іх
І ведаў, што родныя нашы Паставы —
Таксама Еўропа для нас, не чужых...

Хлапчына віхрасты глядзіць праз вакно
На кнігі, на птушак Вялікага Княства.
Ён вырасце хутка, і будзе ізноў
Наш край не балотам, а краем бунтарства,
Дзе нельга панішчыць да краю любоў...

## БАЛАДА СЫМОНА КАНАРСКАГА (17.03.1808—11.03.1839)

Сонца сакавіцкае крывава
З вечаровых выплыла снягоў.
Ранішняя Вільня пахне кавай,
Як паненка, што ідзе дамоў
З вечарынкі, што гула да рання.
І паненцы тут не зразумець,
Для чаго патрэбнае паўстанне.

За паўстанне ты ідзеш на смерць,
Малады, прыгожы і разумны,
З прагаю да волі і жыцця.
Звон звініць на Храме сумна-сумна,
І галосіць на руках дзіця
У жанчыны, што цябе спаткала.
Ты ўсміхнуўся і далей пайшоў
Па дарозе, што ўжо вузкай стала
І апошняй, дзе пральецца кроў
Вінная твая, бо тут віною
Прад чужынцам ёсць і будзе тут —
Родны кут любіць усёй душою,
Не здаваць чужынцам родны кут...

...І паболее крыві на сонцы,
І растануць у крыві снягі,
Дзе твой шлях змагарны не бясконцы
І не бачны шлях пакуль другі...

## БАЛАДА ТАДЭВУША ЛАДЫ-ЗАБЛОЦКАГА (27.08.1811—ЖНІВЕНЬ 1847)

...Не любяць вальнадумлівых цары.
І, каб ты мог памерці без пары,
Ты ў Грузіі паслужыш радавым.

Над скаламі туман, аблокі, дым
Плывуць самотна, як і дні плывуць
Праз абгарэлыя кусты, траву
Пад сонцам, як пад царскаю каронай.
І сніцца Беларусь табе зялёнай,
Дзе ля дарог імшэюць валуны,
Дзе нашы горы — нашы курганы,
Дзе косці беларускія ляжаць,
Нібы карэнне — век не скарчаваць —
У нашай пераплецены зямлі.
І, каб не зніклі мы, а тут жылі,
Не толькі трэба родны край любіць:
Калі ўладарыць вораг, — трэба біць
Чужынца, бо ён сам табе ніколі
Не дасць жыцця прыгожага і волі...

І пішаш вершы ты аб Беларусі,
Дзе пчолы велізарныя, як гусі
І як арлы, што на вяршынях гор
Гняздзяцца, ахінаючы прастор
Магутным крыллем, што не знаюць стомы.
Арлы маглі, каб папрасіў, дадому
Цябе занесці. Толькі не папросіш.
З нябёсаў зоркі капаюць, як росы
З высокіх траў, якія дома косіш,

Нібы хлапчук распрануты і босы,
Бо горача табе... І ты згараеш,
І без пары да Бога адлятаеш...

## БАЛАДА ПАЎЛА ШПІЛЕЎСКАГА (31.10.1823—17.10.1861)

Над Айчынай глыбокае неба,
У якім наша сонца плыве
Праз аблокаў халоднае срэбра,
Праз малітвы, якія ў царкве
Праспявалі самотныя людзі,
Да якіх ты ідзеш, каб сказаць:
«Беларусь тут была, тут і будзе,
Толькі трэба любіць, зберагаць
Беларускага слова дыханне,
У якім Беларусь і жыве...»
І збіраеш ты песні, паданні,
Што, як кветкі ў высокай траве,
Існуюць, ды не кожны іх знае.
А дзе кветкі — там пчолы і мёд,
Там Айчына ад пчол залатая,
Бо, як пчолы вясною, народ,
Без якога не будзе краіны,
Пра якую ты марыш і сніш.
З-за аблок чутны крык жураўліны,
Працінае цябе, нібы крыж,
Што стаіць ля вясковай дарогі,
Дзе ідзеш ты і ў неба глядзіш,
Дзе ўсе радасці і ўсе трывогі
Сталі сонцам, якое плыве
Праз аблокаў халоднае срэбра,
Праз малітвы, якія ў царкве
Праспяваны, падхоплены небам,
Нібы кветкі, што спелі ў траве...

## БАЛАДА АЛЯКСАНДРА АСКЕРКІ (1830—11.01.1911)

...Зноў крыж прыдарожны дарогу вартуе,
А ў садзе і ў свеце шуміць ліставір.
Маёнтак, дзе ты нарадзіўся, сумуе,
Бо ты, як паўстанец, сасланы ў Сібір,
Дзе ўсё незнаёмае і ўсё чужое,
Халоднае, быццам закутае ў лёд.
А зоркі ў нябёсах, нібы пад вадою
Каменьчыкі ў рэчцы, кудою ты ўброд
Хадзіў да каханай, якая чакае.
І вернешся ты да людзей праз гады,
Каму Беларусь — паланянка святая,

Якая без волі загіне, як ты
Без любай Айчыны, слабы і маркотны.
Але табой створаны будзе буквар
Вучыць любіць край свой адзіны і родны,
Дзе кожны тутэйшы — зямлі гаспадар,
Бо ў гэтай зямлі наша кроў спакон веку,
Таму аніколі нікому яе
Забраць не дадзім, і шумяць нашы рэкі
Пра гэта, й пра гэта салоўка пяе.
А крыж ля дарогі ссівее і ў травы
Ад ветру ўпадзе, як паўстанец— ад куль.
І будуць Айчына, і гонар, і слава,
Пакуль тут такія, як ты, ёсць. Пакуль...

## БАЛАДА БЕНЯДЗІКТА ДЫБОЎСКАГА (29.04.1833—31.01.1930)

Маёнтак родны твой Адамарын
Застаўся без цябе, як плыт, адзін
На хвалях часу і Еўропы тлумнай,
Дзе і табе было зусім не сумна
Ні ў Дэрпце, ні ў Варшаве, ні ў Берліне.
Прайшоў агонь паўстання па Айчыне,
І дымам ты занесены ў Сібір,
Дзе возера Байкал, нібы пацір,
Напоўнена чысцюткаю вадою.
Глядзіш на снег і бачыш прад сабою,
Праз далеч, беларускія азёры,
Лясы і рэкі, жытнія прасторы...
Ты вернешся дамоў, каб дом пакінуць
І, дом пакінуўшы, любіць Айчыну,
Не верачы, што ўсё наўкол ад Бога
І нават гэта праз Сібір дарога,
Якой ты едзеш, як дамоў, у Львоў,
Дзе беларуская не знікне кроў
У сэрцы, што па-беларуску б’ецца,
Бо гэта беларуса сэрца...

## БАЛАДА ЦЭЛЯСТЫНА ЦЭХАНОЎСКАГА (1835—10.01.1906)

Улада чужая сама не пакіне
Твой край, у якім ёй, як дома, жывецца.
І край твой ніколі не стане краінай,
Калі тут за волю крыві не пральецца.
І будзе паўстанне, рыхтуеш якое
І ты з Каліноўскім, што сніць перамогу,
Бо ваша змаганне за волю — святое
І вы не адны, а вас многа і многа,
Як зорак у небе, валошак у жыце,

Але і чужынцаў, як вошай, хапае,
Таму не спіце вы ў лясах — і не спіце,
Бо ўлада чужая не спіць, а страляе,
Хапае людзей, і цябе — не мінае.
Суцеха — заместа расстрэлу — чужына,
Якая цябе забярэ назаўсёды
Ад любай матулі, каханай дзяўчыны,
Ад беднай, але ўсё ж ад роднай басоты,
Якая чужынцам не здасца дарэшты,
А будзе выходзіць у людзі, змагацца,
І хоць у Сібіры далёкай памрэш ты,
Але з Беларуссю табе не расстацца,
Як з верай у лепшае ты не расстаўся,
Калі ты за волю з чужынцам змагаўся
І быў галавой вальналюбнай Гародні,
Якая цябе, прыйдзе час, ды й успомніць...

А покуль завея сляды замятае,
А покуль трава на слядах вырастае...

## БАЛАДА ЯКАВА НАРКЕВІЧА-ЁДКІ (8.01.1848—19. 02.1905)

На рэштках маёнтка лаза і асіны.
Але не схавалі яны ад людзей
Шляхетнасць і веліч, якія ў Айчыны
Былі пры табе і ў табе...
І мілей
Нічога няма для цябе, і не стане,
Чым Нёман, хоць помніш Маскву і Парыж,
Як помняцца матчыны песні, каханне
І побач з дарогай запылены крыж,
З якога твая пачалася дарога,
Якім і закончыцца ўсё апасля.
А музыка будзе малітвай да Бога
Ляцець і вяртацца, як крык жураўля,
Які па-над Нёманам вольна крыляе,
Бо тут нарадзіўся ля гэтых дуброў,
Дзе ты без народа сябе не ўяўляеш,
Бо толькі з народам жывая ў нас кроў...

Твой родны маёнтак разбураць і спаляць
Тутэйшыя людзі, якіх ты любіў…

Чырвоная цэгла ў траве, нібы памяць,
Якую народ наш аднойчы згубіў,
Калі адвярнуўся на міг ад Айчыны,
Каб скінуць свой крыж беларускі з плячэй...

На рэштках маёнтка лаза і асіны,
І Нёман, як вечнасць, спакойна цячэ...



Раіса БАРАВІКОВА

# АПЕРАТАР ЛЁСАЎ

*Апавяданне*

*І пабачыў я новае неба і новую зямлю, таму што ранейшае неба і ранейшая зямля скончыліся, і мора ўжо няма...*

Адкрыццё святога Іаана Багаслова (гл. 21).

## 1

Каштаны зацвіталі... Марыя Пятроўна вярталася дамоў з рынку, пазірала на гэтую такую яшчэ кволую квецень і ўздыхала. «Не, нядзеля ўсё ж не яе дзень! — думалася ёй. — Выключна не яе. Ніяк не мінаецца адчуванне прыніжанасці. Канечне ж, яна сябе прынізіла ўчарашнім званком да Колі — свайго былога мужа, і натуру яго як быццам добра ведае, заўжды быў жміндаю, а вось жа пазваніла... Папрасіла, каб сёння прывёз трыста тысяч, якіх не хапае, каб купіць касцюм Паўліку, іх малодшаму сыну, у якога праз некалькі тыдняў — выпускны вечар у школе. І вось атрымала: замест супакоенасці, што ў Паўліка ўсё будзе, як і ў іншых, а можа, нават і лепш, даўкі камяк у горле... Грошай, як аказалася, якраз цяпер у Колі няма, набыў нейкі мотаблок. У яго цяперашняй жонкі вялікі дачны ўчастак, самы раз займацца веснавою працай на зямлі! У іх калісьці таксама была дача, але яна прадала яе, як толькі развяліся з Колем. Гм-м-м, развяліся... Ён не хацеў разводу, ініцыятарам, каб яны разышліся, была яна. Гэтага тады ніхто не зразумеў, бадай, толькі адзін яе бацька, які выслухаўшы ўсе яе «за і супраць» падсумаваў усё адною-адзінаю фразаю: «Сапраўды, калі пры жывым гаспадары ў доме ўсё жыццё трэба самой убіваць цвік у сцяну, дык, можа, яно і лепш уганяць гэты цвік без гаспадара...» І толькі перад самаю смерцю, калі іхні з Колем

---

*__Баравікова Раіса Андрэеўна__ нарадзілася 11 мая 1947 года ў вёсцы Пешкі Бярозаўскага раёна. Скончыла Літаратурны інстытут імя М. Горкага (1971). Працавала ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у газеце «Чырвоная змена», у часопісе «Алеся». Цяпер — галоўны рэдактар часопіса «Маладосць».*

*Аўтар кніг паэзіі «Рамонкавы бераг» (1974), «Слухаю сэрца» (1978), «Такое кароткае лета» (1981), «Адгукнуся голасам жалейкі» (1984) і інш. Выдала кнігі прозы «Кватарантка» (1980) і «Вячэра манекенаў» (2002), а таксама кнігі для дзяцей «Казкі астранаўта» (2006), «Казкі з гербарыя» (2008) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1987), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1994) і спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (1998).*

старэйшы сын Косцік, адвучыўшыся тры гады, кінуў універсітэт, знясілены ракаваю пухлінаю бацька сказаў ёй: «Паспрабуй вярнуць Колю... Малыя дзеткі — малыя бедкі, а ў цябе сыны ўжо вялікія... Цяжка адной будзе... Каб Коля вярнуўся, мне спакайней на тым свеце было б!»

Колю вярнуць яна паспрабавала, але ўжо было позна. Знайшлася жанчына, якая згодна была сама ўбіваць у сцяну цвікі. Праўда, пра сыноў Коля ніколі не забываўся... Вось і ўчора пасля тырады: «Ты ж рэгулярна мае аліменты атрымліваеш, а ў мяне такога станочка няма, на якім бы я грашовыя купюры выраблял... Што ты ўсё ў кішэні чужой сям'і зазіраеш! Як што параіць, дык сама разумная, а як справа да грошай даходзіць, дык, Коля дай!...» Паспакайнеў і сказаў, што час яшчэ ёсць і што грошы ён прывязе дзесьці праз тыдзень і папрасіў, каб у панядзелак, гэта значыцца, заўтра да яго на працу Косцік заехаў: «Месца тут у нас на фірме адно вызваляецца. Многа па горадзе ездзіць давядзецца, але хай паездзіць! Колькі можна нягодніку без працы бадзяцца!» І гэтае «нягодніку» яе моцна ўкалола. Яна аднолькава любіла абодвух сыноў. Паўлік малодшы і, вядома ж, больш хатні, з ім і клопату ніякага, ну а Косцік... Яно, зразумела, няпроста з ім, ну але ўжо навошта так катэгарычна «нягоднік!» Марыя Пятроўна цяжка ўздыхнула. Яна ўжо была ў сваім двары і падыходзіла да свайго пад'езда. Моўчкі кіўнула на прывітанне суседцы з першага паверха і, не выклікаючы ліфта, стала паднімацца па лесвіцы на свой пяты паверх...

Асцярожна, ледзь не на дыбачках, увайшла ў кватэру: можа, яшчэ хлопцы спяць, дык, каб не пабудзіць. Але хлопцы ўжо не спалі, дакладней, не спаў малодшы сын Паўлік. Ён выглянуў са свайго пакоя:

— А-а, гэта ты, ма-ам!

— А ты думаў злодзеі? Яшчэ спаў бы... Дык на, пакет вазьмі, я куртку здыму.

Паўлік узяў пакет, зазірнуў у яго, заўсміхаўся:

— Ты сёння нешта шчодрая... Глядзі ты, які кавалак вяндліны купіла! Можа, у нас госці якія?!

— На бутэрброды вяндліна... Табе, ну і Косцік з сабою браць будзе да гарбаты. Ён жа заўтра да бацькі на фірму ідзе, можа, з аўторка і працаваць пачне? — Яна павесіла куртку ў шафу і запытальна зірнула на сына. — Косця што, яшчэ ў ложку? Учора я і не чула, калі ён прыйшоў.

— Я фізіку яшчэ вучыў, было не надта позна... — І Паўлік адвёў позірк, потым дадаў, бы выціснуў з сябе. — Косціку Толік Грынкевіч з дзесятага пад'езда пазваніў, як толькі ты пайшла... Выклікаў яго... Косцік сказаў, ненадоўга, нават мабільнік свой не ўзяў, пабажыўся, што адна нага — тут, другая — там, хутка абернецца...

Марыя Пятроўна ўзяла пакет, які ўсё яшчэ трымаў Паўлік, пайшла на кухню. Ён таксама рушыў за ёю:

— Ма-а, ну што ты адразу расхвалявалася... Я ж бачу! Ты зайшла, я падумаў Косцік вярнуўся... Можа, ён сапраўды хутка вернецца! Мабільнік жа не ўзяў!

Яна з пакетам села на табурэтку, паклала на яго рукі, быццам не ведала, што цяпер з ім рабіць, і, зірнуўшы на сына, вяла пасміхнулася:

— Ага-а, Паўлічак, мабільнік пакінуў... Ён і на мінулым тыдні яго з сабою не браў, а вярнуўся дадому калі? Праз двое сутак! Мы ж з табою ўжо ў міліцыю хацелі званіць...

Паўлік апусціў галаву, нешта адкалупнуў са сцяны, кшталту пупырышкі ад фарбы, ціха прамовіў:

— Дык гэта было на мінулым тыдні... Ён, калі апранаўся, сказаў, што зноў сон той пабачыў, ну, помніш, нейк расказваў... Быццам тут у нас на

кухні яшчэ адны дзверы... Ён адчыніў іх, а там пакой, поўны самых розных рэчаў... Ну проста як нейкі схоў са скарбамі... Яму так хацелася ўзяць з таго пакоя камп'ютар!.. Ён мне і сёння сказаў, вось уладкуюся на фірму, грошы пачну збіраць і, можа, ужо ў верасні табе, Паўлік, камп'ютар куплю, такі ж, як у тым пакоі...

— Гэта ты мне, сынок, да чаго расказваеш? — Марыя Пятроўна паставіла пакет на падлогу, пачала даставаць з яго прадукты. — Уключы чайнік, зрабі бутэрброд... Яшчэ ж не снедаў!

— Ма-а, ну ты не злуйся на Косціка... Гэта ўсё Толік Грынкевіч яго зводзіць... Ён — завадатар, да чаго заўгодна падштурхнуць можа. Я табе раней не расказваў, а тады зімою, помніш, калі Косцік люстэрка з машыны ў двары зняў, гэта яго Толік падбухторыў... Я чуў, як яны размаўлялі ў нас на кухні... Толік тады яму сказаў: «Як гэта ў цябе кішэнных грошай няма?! Ды яны ж паўсюль пад нагамі валяюцца!.. Ты што люстэрка з якой машыны не можаш зняць?! А гэта ўжо даляраў дваццаць!» Косцік проста ў нас бесхрыбетны, ім кіраваць лёгка...

Марыя Пятроўна сціснула ў кулаку сурвэтку, якою яна выцірала кроў, што выцекла з-пад мяса, выкладзенага на стол з пакета. У памяці імгненна ўсплыў той зімовы дзень, калі ў дзверы іхняй кватэры пазваніў мужчына, які жыў у гэтым жа доме праз пад'езд ад іх... Яна добра ведала яго ў твар, ды і ён яе. Здаралася, што яны нават віталіся. Але тады ён нават не прывітаўся, адразу накінуўся на яе: «Ну, што будзем рабіць?! Разлічыцеся зараз жа, ці я напішу заяву ў міліцыю?! Некалькі чалавек праз вокны бачылі, як ваш сын здымаў люстэрка з маёй машыны!» Яна слухала і не разумела, пра што гэта такое ён гаворыць. А калі зразумела, не паверыла. Але вечарам таго ж дня ўсё пацвердзіў сам Косцік. І хоць люстэрка паспеў ужо прадаць, пагадзіўся разам з ёю пайсці да тых людзей папрасіць прабачэння. Ну і, зразумела, каб не заяўлялі ў міліцыю. І грошы яна тым жа вечарам аддала, колькі сказалі, разам з каробкай цукерак і тортам, гэта значыцца, за маральны ўрон...

— Ма-ам, мяса ў маразільнік пакласці ці ты суп будзеш варыць?

— Фасолевы хочаш? — яна запытальна паглядзела на сына, але думала не пра суп. Ён чамусьці стараўся не глядзець на яе, і Марыю Пятроўну гэта насцярожыла. — Ты ад мяне нешта ўтойваеш, сынок?

— Ды нічога я не ўтойваю! Замест супу лепш штрудзель спячы, ты ж яблыкі купіла, вунь у пакеце... — Паўлік паклаў мяса ў маразільнік, сеў побач з ёю. — Ма-ам, неяк трывожна мне... Косцік быў нейкі дзіўны, калі адыходзіў. І з Толікам яны амаль не размаўлялі... Толік пазваніў, і Косця толькі некалькі слоў сказаў, мауляў, усё помню, зараз буду... І хутка пачаў апранацца... А яшчэ... Яшчэ нешта ў тваёй шафе шукаў...

— Грошы! — Яна паднялася з табурэткі. — Канечне, грошы! Там у мяне сто пяцьдзесят даляраў, гэта табе на выпускны... На туфлі, на кашулю, на гальштук... На касцюм, думала, неяк з зарплаты выкручу, бацька трыста тысяч дадасць. Чакай, пайду гляну, сынок!

Яна выйшла з кухні. Паўлік уключыў электрачайнік і тут жа выключыў яго, пачуўшы матчын крык:

— Няма!.. Пяцьдзесят даляраў узяў, сто пакінуў! А ведаў жа, для чаго прыхавала!

Паўлік прайшоў у пакой, дзе была маці. Зачыніў шафу.

— Не трэба крычаць, ма-а... Супакойся. Я і ў старых туфлях магу пайсці на выпускны вечар, яны яшчэ нармальныя. І гальштук у мяне ёсць, а магу і Косцікаў узяць. — Ён дакрануўся да матчынага пляча. — Чуеш, ма-а... Я сабе туфлі з першай жа стыпендыі куплю. Вось пабачыш, я паступлю на бюджэтнае... Я ўсё добра здам... — Зрабіў паўзу, неяк з-пад ілба зірнуў на

маці. —Толік — здаравяк! Не адужаю... А так бы хацелася яму хоць бы разок умазаць!..

— Не чапай яго!.. Ніколі не чапай, сынок! Я зараз сама... Сама зараз... Дзе ж гэта мая сумка? Там у мяне быў тэлефон Толікавай маці... Я ўжо ёй званіла аднойчы, вось і цяпер пазваню...

— У прыхожай ты сумку пакінула.

І Марыя Пятроўна кінулася туды. Паўлік пайшоў следам, але ў прыхожай не затрымаўся, прайшоў на кухню. Ён ужо заварваў гарбату, калі пачуў, як маці крычала ў тэлефонную трубку:

— Гэта Антаніна Віктараўна?! Маці Косці Ярчука вас турбуе. Ну скажыце вы мне, напрамілы бог, колькі ж гэта можа працягвацца?! Я ж прасіла, каб ваш сын пакінуў майго ў спакоі... Я не хачу, каб яны сябравалі! Гэта не тое сяброўства! Зусім не тое! Што? Гэта мой Косцік кепска ўплывае на вашага?! Ды ў мяне колькі рэчаў з дому вынесена! А прагульваліся ж гэтыя рэчы разам з вашым! І ваш падбухторваў... Вось і сёння пяцьдзесят долараў мой узяў!.. І гэта ўсё ваш!.. Ваш падбіў яго! У вашага сына бандыцкія замашкі!.. Ён і знешне, як бандзюга...

Яна адняла ад вуха тэлефонную трубку, паглядзела на яе і толькі тут заўважыла Паўліка, які стаяў побач. Кінула трубку на тэлефонны апарат.

— От жа людзі! Бач ты на яе, размаўляць са мною не схацела... А ты што гэта мне даеш, сынок?

— Ды мабільнік Косцікаў! Бацька звоніць, думаў з ім пагаварыць, каб Косцік з самай раніцы заўтра да яго на фірму прыйшоў.

Марыя Пятроўна ўзяла мабільнік і адвярнулася ад Паўліка, закашлялася, быццам папярхнулася першым жа словам:

— Коля... Коля... Паўліку трывожна, і мяне ўсю трасе... Пайшоў некуды з Грынкевічам і мабільнік дома пакінуў, каб я не назаляла сваімі званкамі... Але ты чакай яго заўтра, Коля... Абавязкова чакай... Дачакайся...

І яна сагнулася, быццам ад раптоўнага болю. Плечы яе закалаціліся. Марыя Пятроўна заплакала наўзрыд, і, магчыма, упершыню за апошнія гады ёй не хацелася хаваць гэтых сваіх слёз ад былога мужа...

**2**

Косця Ярчук ляжаў на стракатай коўдры, разасланай на пясчаным беразе невялікага возера недалёка ад Мінска, якое даўно ўжо прываблівала гараджан у спякотныя летнія дні. Лета яшчэ не надышло, але апошні вясновы месяц быў цёплым і сюды ў выхадны дзень, хай сабе і на некалькі гадзін адпачынку, прыязджаў шмат хто з мінчан.

Косця быў не адзін на стракатай коўдры. На самым краёчку, ззаду яго ў ярка-жоўтым купальніку сядзела дзяўчына. Яна пазірала то на возера, то на сухую сцяблінку, якую трымала ў руцэ. Вось яна паглядзела на Косціка і правяла па яго голым плячы сцяблінкай.

— Валянціна, не здзекуйся! Мне козытна, — ускрыкнуў ён і больш спакойна дадаў. — Ты лепш яшчэ раз сваю сяброўку набяры...

— Дык толькі што набірала. Яна ў зоне недасягальнасці, а можа, тэлефон адключыла?!

— Тады навошта я сюды ехаў?

У Косцікавым позірку мільгануў цень тугі.

Ён строс з газеты, якая ляжала тут жа, на коўдры, кавалкі сыру і прыкрыў газетаю твар. Сапраўды, навошта ён ехаў сюды?! Дурань, мабільнік дома пакінуў. Ужо сто разоў маці пазваніла б, вось і зачэпка была б вярнуцца ў Мінск. Яшчэ і пяцьдзесят долараў узяў... Маці, напэўна, ужо агледзела, што іх няма і ці

паверыць, што ён верне гэтыя грошы з першай жа зарплаты?! А калі заўтра не ўладкуецца на фірму?.. О-о! — Косцік ажно падхапіўся, сеў. — Ён жа можа аднавіцца ва ўніверсітэце! Многае давядзецца даздаць, ну і што. Ён падрыхтуецца! Яму гэта будзе зрабіць няцяжка. Аднавіцца можна з пераводам на завочнае...

— Косця, глянь! — прамовіла дзяўчына.— Толік вяртаецца... Глядзі... Глядзі... На ім плаўкі сухія! Можа, і не палез у ваду?

— Можа, і не палез, вада яшчэ халодная, — абыякава адгукнуўся Косцік і зноў расцягнуўся на коўдры, але на голас Толіка падняўся. Сеў. Той ужо падышоў да іх і, зазірнуўшы ў вялізную сумку, а потым яшчэ і ў пакет, прысвіснуў:

— Ого-о, Ярчук! Я думаў, ты чалавек, а ты — прорва! Ажно тры пляшкі піва выжлукціў!

— Адну я выпіла, — сказала Валянціна. — Ты ж намерваўся толькі белую піць...

— Ага, намерваўся, але спачатку піва... У возера сёння не палезу, вада, што лёд! — Ён выцягнуў з сумкі пляшку піва і штурхануў нагою Косціка. — І што гэта ты, Ярчук, рассеўся?.. Устань, прайдзіся... Класны пляж і вунь колькі дзевак! Можа, падчэпіш якую, а мы тут з Валянцінаю паляжым... — і ён яшчэ раз штурхануў Косціка. — Ну, давай, не марудзь... Паднімайся! А то зараз таксі выклічу і папрэш ты ў мяне ў горад... Піва ў сумцы толькі сем пляшак, а наперадзе цалюткі дзень!

Косця падняўся з коўдры, кіўнуў Валянціне:

— Ты тут глядзі, каб Талян не захапляўся... Ён ад піва дурнее!

І, не зірнуўшы на Грынкевіча, пайшоў уздоўж берага... На сцежку, якая вельмі хутка пераходзіла ў брукаванку, выязджала машына. «Можа, кінуць усё і вось так, у адных плаўках, папрасіцца, каб падкінулі ў Мінск, — падумаў Косцік і тут жа адвёў позірк ад машыны. — Ага-а, грошы ў джынсах... Без грошай ніхто не возьме, ды і джынсы з майкаю шкада пакідаць... Талян з Валянцінаю могуць і не прыхапіць іх. Тут, на пляжы, і пакінуць. Ды і што ў Мінску рабіць, на канапе валяцца, тэлевізар глядзець? Ён павярнуў назад... Каля блізкага алешніку заўважыў новенькую бліскучую іншамарку. Прывабнай знешнасці зусім яшчэ маладзенькая жанчына з расчыненых дзверцаў выцягвала дзіцянё, якое не хацела вылазіць з машыны. «Ды гэта ж Кацька! — мільганула думка. — Кацька Вейняровіч!.. Сто гадоў яе не бачыў... Відаць, ужо замужам! Вось дык навіна будзе для Таляна!»

Гэта сапраўды была Каця Вейняровіч, былая аднакласніца Косціка. Яны нават у восьмым класе сядзелі за адной партай, але, калі на Восьмае сакавіка ён падарыў ёй файны нататнік, дык у клазеце атрымаў аплявуху ад Таляна. Каця была першым каханнем Грынкевіча, і ўсе ведалі, што яна адказвала яму ўзаемнасцю. А потым... Потым пасля школы Каця вырашыла паступаць на юрфак, Талян жа ўгаворваў яе, каб паступала разам з ім у тэхналагічны... Тады яны і рассварыліся. Грынкевіч увогуле нікуды не стаў паступаць, а Каця стала студэнткаю юрыдычнага факультэта...

Яна ўжо выцягнула дзіця з машыны, гэта быў хлопчык гадоў двух, і цяпер падвяла яго да вялізнага белага мяча, на якім была намалявана аранжавая карова...

— Не баішся, што яна пырне яго рогам? — і Косцік засмяяўся, задаволены, што ўдала пажартаваў.

Каця азірнулася на голас, і ён тут жа запытаўся:

— Дзіцянё тваё?

— Ты, Ярчук, хаця б як след прывітаўся, — адказала яна і ўзяла хлопчыка на рукі. — Я цябе даўно прыкмеціла, калі ты ішоў уздоўж берага. Чула, што ты ўніверсітэт кінуў...

— А я чуў, што ў твайго бацькі крутая фірма... Машына твая ці бацькава?

— Мая ў гаражы стаіць... А на гэтай муж сястры рулюе. Яны пайшлі трошкі паплаваць, а на мяне вось яго пакінулі. Генік, пазнаёмся з дзядзькам. Гэта — дзядзька Косця.

— Значыцца, ты не замужам?

— А табе гэта вельмі цікава?

Генік захныкаў, і Каця апусціла яго на зямлю, зноў падвяла да мяча... Косця падняў мяч, павярнуў намаляванай кароваю да хлопчыка, гучна працягнуў:

— Му-у-у... Яна дае малако. Ты любіш малако? — паглядзеў на Кацю і сказаў: — Ну, Кацюля, замужам ты ці не замужам, мне гэта, скажам, зусім не цікава. А вось Таляну... Дарэчы, Талян тут... Хочаш, падыдзем... З Генікам і з кароваю!

Каця спахмурнела, у вачах з’явілася штосьці жорсткае і халоднае.

— Ды валі ты адсюль, Ярчук! Табе схацелася мне дзень сапсаваць!

— Чаму сапсаваць?

Каця засмяялася, і смех гэты быў здзеклівым.

— Я размаўляла з табой, як з былым аднакласнікам, а ты распачаў пра Таляна... Усё, пакуль, Ярчук! Знікні... Ідзі адсюль! З Генікам хачу пазабаўляцца!

— Я не супраць! Займайся Генікам, даруй, што падышоў...

Косця развярнуўся і рушыў да берага, а Каця крыкнула ўслед:

— Таляну скажы, каб не маўчаў у трубку! Ведаеш... Ведаеш, ён мне дагэтуль звоніць!

«Ды яна, як ашалела, — думаў Косця. — А што я такога сказаў? А спачатку ўзрадавалася, калі мяне пабачыла. Трэба было не ўспамінаць пра Таляна. Ніхто не ведае, што там у іх калісьці адбылося. Можа, Талян чымсьці пакрыўдзіў яе? Але яна сама дагэтуль сохне па ім, гэта факт!»

Ён ужо быў каля стракатай коўдры, на якой, раскінуўшы рукі, ляжаў Талян. Валянціна сядзела каля яго і ўсё той жа сухой сцяблінкай казытала Талянава плячо. Яны рабілі выгляд, што не заўважаюць Косціка, які памкнуўся прыбраць з коўдры некалькі парожніх пляшак з-пад піва, але, адкінуўшы на пясок адну, не стаў чапаць астатніх.

— Слухай, Талян, ты не паверыш, каго я толькі што пабачыў?

Талян не адазваўся, і Косцік працягнуў:

— Іду я... Да канца пляжа дайшоў... Назад павярнуў і тут бачу бліскучы лімузін!.. А каля яго Кацька... Каця Вейняровіч!.. — Ён вытрымаў паўзу і, пасміхаючыся, дадаў: — Талян?.. А-а, Талян? Яна прасіла перадаць табе, каб ты не маўчаў у трубку, калі ёй звоніш!

Талян падхапіўся, ускочыў з коўдры. У Валянціны выпала з рук сухая сцяблінка.

— Што ты сказаў? — Талян наблізіўся да Косціка. — Хто табе дазволіў лезці ў чужыя адносіны?! — ён сціснуў кулакі. — Ды ты ў мяне зараз гэты пясок будзеш есці!.. — і Талян адвярнуўся, сплюнуў на пясок, але праз нейкае імгненне паляпаў Косціка па плячы: — Ну, добра, Ярчук... Не зважай! Нешта я сарваўся... Ты ідзі, паплавай трошкі, а я тут Валянціну супакою... Ведаеш, жанчыны не любяць, калі ў іх прысутнасці расказваюць казачкі пра чужыя бліскучыя лімузіны і гульні ў сапсаваныя тэлефоны. Ну, ідзі... Паплюхайся ў халоднай вадзе, холад мазгі ўпраўляе!

Косцік нічога не сказаў у адказ, толькі неяк вінавата паглядзеў на Валянціну і пайшоў да возера...

— Ты, Валь, нічога не чула, ага-а?.. — Талян сеў побач з ёю, абняў. — Ды ў прынцыпе і няма за што крыўдаваць, у нас жа ўсё так... Несур’ёзна! А дзе там наша беленькая?! Ну-тка, адкаркуй пляшачку і бутэрбродзік зрабі свайму Таляну.

Валянціна глядзела на возера, бачыла, што ў ім плёскаліся ўжо нават дзеці. Напэўна, вада пацяплела, сонца вунь ужо як пячэ! Яна спыніла позірк на Косціку. Той стаяў па калені ў вадзе, а потым пайшоў і пайшоў, нарэшце, паплыў...

— Вы забыліся шкляначкі, — сказала Валянціна Таляну. — Хоць бы якія пластмасавыя ўзялі.

— Нічога... Даставай пляшку, можна і без шкляначкі. Галоўнае, бутэрброд зрабі.

Валянціна дастала з сумкі пляшку, парэзаны батон у цэлафанавым пакеце, кавалак каўбасы. Усё выклала на коўдру, зірнула на Таляна, запыталася:

— А дзе нож? Дзе сурвэткі?

І тут на беразе пачуўся жаночы крык:

— Людзі!.. Людзі!.. Там чалавек тоніцца!.. Далібог! Далібог на дно пайшоў! Ну проста ў мяне на вачах! Людзі!

І ўсе, хто ляжаў, паўскоквалі... Людзі беглі да берага... А тыя, хто быў у вадзе, не разумелі, што адбываецца і выскоквалі з вады на бераг...

Валянціна кранула Таляна за плячо і ўстрывожана прашаптала:

— Толічак, баюся, бяда здарылася... Тут жа ніякай выратавальнай службы няма... А я... Я таксама бачыла... Косцік спачатку ўсё ішоў і ішоў, ну, па вадзе... А потым паплыў... Паплыў... І рукою пачаў махаць... І то знікне, то ўсплыве... Я дастала каўбасу... Зірнула туды... на возера і Косціка там не было!.. А потым гэты крык...

— Заткніся! Думай, што кажаш!

Талян ускочыў, адштурхнуў ад сябе Валянціну і пабег туды, дзе крычалі, мітусіліся людзі... Ён вельмі спадзяваўся пабачыць сярод іх Косцю Ярчука.

## 3

Голас... Мяккі жаночы голас. Косця яшчэ не расплюшчыў вочы, а голас ужо чуў, і ён здаваўся яму вельмі знаёмым, але як ні стараўся, ніяк не мог вызначыць, каму ж гэты такі ласкавы голас належаў.

— Бач ты, схаваўся некуды. Проста ўзяў і ўцёк, сам спалохаўся таго, што нарабіў! А я ж прасіла, казала, што яшчэ рана, вельмі рана сустракаць нам яго тут... Няхай бы яшчэ там пажыў...

Косцік расплюшчыў вочы і вельмі здзівіўся: зноў той самы сон, ужо ў трэці раз! Ён у тым самым загадкавым пакоі, у які вялі дзверы з іхняй кухні. У тыя разы ён з кухні сюды і заходзіў, дзверы пакідаў расчыненымі, а цяпер тых дзвярэй няма! Там, дзе яны былі, — суцэльная сцяна, затое, вунь у тым кутку, той жа самы сярэбраны посуд, на паліцы мноства парасонаў, як у магазіне, нейкія карціны, прыпёртыя да сцяны, і той жа самы камп'ютар... Тады ён на чымсьці стаяў, а цяпер проста перад ім... Божа, гэты ж камп'ютар не стаіць, а вісіць у паветры, і сам ён сядзіць, толькі на чым? Ніяк не можа разабраць. Дакрануўся да клавіятуры, — бы прыбітая! І тут жа міжволі ўздрыгнуў...

Нечыя цёплыя рукі ляглі яму на плечы. Дотык быў ледзь адчувальны, але яму было вельмі прыемна, што хтосьці пачаў пяшчотна пагладжваць яго шыю, лёгенька калашмаціць валасы... Ён азірнуўся і не мог паверыць вачам, нават стала трошачкі страшна, але гэты страх імгненна пакінуў яго. Перад ім стаяла яго бабуля Соня і была такой, якою ён помніў яе: тая ж сіняя кофта ў дробныя белыя кветачкі, сіняя спадніца, гладка прычасаныя валасы, вусны злёгку падфарбаваныя...

— Не бойся, дзіцятка маё, нічога тут не бойся... Бачу мяне адразу пазнаў, а табе ж яшчэ і васьмі гадочкаў не было, як я пакінула вас... Помніш, як я ўсё

ў школу па цябе прыходзіла? Як гэта звалі тваю настаўніцу, яна вельмі любіла са мной размаўляць, усё цябе хваліла... Помніш, як ад дажджу хаваліся на школьным ганку, ты падняў нейкую шклінку і парэзаўся... Пальчык парэзаў.

— Баба Соня, скажы, гэта я сплю?

Яна задумалася... Зноў пачала пагладжваць яго шыю, потым шчаку. Нарэшце, сказала:

— Там, Косцічак, ты спіш і вечна спаць будзеш. А тут — не... Тут мы ўсе пакуль будзем разам: я, дзед Пеця, цяпер вось і ты... — Яна імгненне-другое памаўчала і загаварыла зноў: — Дзед твой кудысьці зашыўся, пакуль не хоча з табой сустракацца, нечага баіцца... Гэта ж ён так схацеў, каб ты да нас сюды прыйшоў. Ён Марыйку, маці тваю, вельмі любіў, заўсёды любіў. Асабліва калі я рана сюды пайшла. Там... з табою ёй стала цяжка. Яна там плакала, чакаючы цябе, калі ты загульваў, а ён тут плакаў... А потым сказаў: «Хопіць, я ўжо многага з таго жыцця не разумею, маёй сілы мала, каб штосьці ў ім зыначыць, нават на Косціка паўплываць не магу, значыцца, хай ідзе да нас, тут усё па-іншаму будзе…» Я і сама, Косцічак, бачыла, што стаміўся ён, відаць, для яго ўжо нейкі іншы занятак вызначаны. Пэўна, хутка ён на нейкі новы ўзровень пяройдзе, ты цяпер падменіш яго на гэтай машыне, — і яна паказала на камп’ютар. — Аператарам, як і ён, будзеш.

— Што я павінен рабіць?

У Косцікавай галаве ўсё гуло, шумела, неверагодныя думкі блыталіся, і ён, ашаломлены, не хацеў іх разблытваць.

— Што павінен рабіць, пытаешся? Тое, што і дзед... Тут нам многае дазваляецца, многае дадзена, але ён ужо далёка ад таго жыцця. Ён ужо іншым жыве... А ты яшчэ доўга сваімі думкамі там будзеш, і на шмат што паўплываць можаш... Што захочаш на гэтай машыне выпішаш і там усё спраўдзіцца, будзе так, як ты вырашыш тут, як палічыш патрэбным.

— Паўліку нашаму засталося толькі два экзамены здаць, потым ва ўніверсітэт ён паступаць хоча...

— Ну дык і паступіць, ты толькі ўсё правільна распішы на гэтай машыне, так, як табе бачыцца.

Косцік дакрануўся да клавіятуры, і раптам душа яго ўся затрапятала... Ён спуджана пераводзіў позірк з адной сцяны на другую гэтага невялікага і хай сабе такога ўтульнага пакоя, але дзе ж, дзе ж тыя дзверы, праз якія можна вярнуцца на іхнюю кухню, дзе, можа, якраз зараз Паўлік смажыць яечню ці п’е гарбату... Яму схацелася ўскочыць і пастукаць у сцяну, стукаць і стукаць, але не змог нават прыўзняцца і тады запытальна паглядзеў на бабулю Соню...

— Супакойся, Косцічак... Не трэба шкадаваць таго, што ўжо прамінулася. Радуйся, што можаш тут даць радасць камусьці там... Уяві, якім шчаслівым будзе наш Паўлік, калі дазнаецца, што ён ужо студэнт!

І Косцік уявіў Паўліка, а потым успомніў пляж, ну вось жа, здаецца, ён толькі-толькі ляжаў на той стракатай коўдры, і Валянціна сухою сцяблінкай казытала яго плячо. І яго апякала балючае шкадаванне: праклятыя пяцьдзесят долараў... Навошта ён браў іх!.. Што сказаць маці?! Чым апраўдаць сябе? І ніякага апраўдання ні тады, ні цяпер не знаходзіў! А вось і Каця... Каця Вейняровіч з малым пляменнікам на руках, і ён сам стаіць перад імі з белым мячом, на якім намалявана аранжавая карова...

— Баба, ба-аб Соня, — ён адчуваў, як нейкая раптоўная салодкая сцішанасць агортвае яго ўсяго. — У мяне сябра Талян... Ён кахае Кацю, маю былую аднакласніцу... А Каця яго... Яны могуць быць разам?

Бабуля пагладзіла яго валасы, прытуліла да сябе, як прытуляла калісьці ў маленстве, калі яму здаралася плакаць.

— А я табе, Косцік, пра што расказвала? Ты ж усё ад мяне пачуў і яшчэ шмат што пачуеш... Лічыш, што яны павінны быць разам, дык тое і зрабі для іх... Там ніхто не ведае, што каму дадзена ў лёс і якім ён можа быць зменлівым... Да лепшага ўсё павярні і выпішы, як ты ўсё гэта ўяўляеш...

І Косцік уявіў усё той жа пляж, уявіў разгубленага, спалоханага Таляна, які бег уздоўж берага, а потым звярнуў на сцяжыну, што ўпіралася ў брукаванку, але да брукаванкі не дабег, скіраваўся да алешніку, дзе стаяла бліскучая новенькая іншамарка. Каля яе ён пабачыў Кацю... Кацю Вейняровіч з малым Генікам на руках. Сэрца Таляна калацілася і ад таго, што ён бачыць Кацю, і ад таго, што толькі што здарылася нешта непапраўнае, пра што ён і хоча зараз ёй сказаць, з-за чаго і кінуўся яе расшукваць... Косця Ярчук быў яго сябрам і яе аднакласнікам.

Экран камп’ютара загарэўся сам па сабе, Косцікавы рукі пацягнуліся да клавіятуры...

— Ну вось ты ўжо і аператар, Косцічак, — ціха прамовіла бабуля Соня і растала, знікла ў паветры, калі толькі яно было ў тым пакоі.

## 4

Марыя Пятроўна зняла з галавы лёгкую жалобную хусцінку, павязала яе на шыю і кранула за руку Паўліка:

— Прыпыніся, сынок, дай гальштук табе папраўлю, здаецца ён не па цэнтры...

— Усё па цэнтры, ма-а, гальштук на месцы, я налаўчыўся завязваць. Часу ў нас няма прыпыняцца!

Яны толькі што выйшлі са свайго пад’езда, і было бачна, што Паўлік вельмі спяшаецца. Марыя Пятроўна адставала ад яго, і ён раз-пораз азіраўся, не хаваючы сваёй незадаволенасці, што маці пайшла следам, каб правесці яго да тралейбуснага прыпынку. Сёння ў Паўліка быў першы ўступны ўніверсітэцкі экзамен, і ён вельмі баяўся спазніцца на тэсціраванне, больш таго, хацеў прыехаць загадзя, каб агледзецца, каб потым нічога ні ў кога не перапытваць: дзе, што, як?!

— Ну, не ляці гэтак, — папрасіла Марыя Пятроўна — Я не паспяваю, у цябе крок шырокі. Ты чуеш, галоўнае — не хвалюйся... Пачнеш хвалявацца і галава стане, што рэшата, формулы ўсе павылятаюць.

Паўлік азірнуўся, трошкі прыцішыў крок і адазваўся:

— А я ўжо хвалююся, ад таго, што ты следам ідзеш, усё роўна як у дзіцячы сад праводзіш! Заставалася б лепш у кватэры!

— Паўлічак! — ускрыкнула Марыя Пятроўна і нават прыпынілася. — Я магла б і не праводзіць цябе, але хіба не бачыш, што любую зачэпку шукаю, каб збегчы з кватэры... Я ж куды не павярнуся, абавязкова наткнуся на нешта Косцікава... То на світар яго, то на кубачак, з якога ён гарбату піў, то квіток які знайду... Сэрца маё рвецца і рвецца, ні хвілінкі без плачу няма.

Ён пачакаў, пакуль яна падыдзе да яго... Тое самае мог бы сказаць ёй і Паўлік. Раніцай палез у шафу па гальштук, а пад руку ўсё Косцікавы гальштукі траплялiся. Косцік не любіў іх насіць, ды і ўрачыстасцей асаблівых не было для гальштукаў, але купляць — купляў, казаў, на ўсякі выпадак... А ўчора пайшоў зубы чысціць і зубныя шчоткі пераблытаў. Хацеў быў выкінуць Косцікаву, а потым схаваў у сваім пакоі, хай ляжыць, як памяць... Паглядзеў на маці, сапраўды, вочы заплаканыя, ён апошнія дні і не ўзіраўся ў яе твар, ад падручнікаў не адрываўся. Агарнула шкадаванне, схацелася прытуліць маці да сябе, але ж яны на вуліцы, і замест гэтага сказаў:

— Што будзеш рабіць, калі вернешся дадому? Можа, паспала б!

— Я абяцала боршч бацьку зварыць, учора капусты маладой купіла.

— А хіба бацька і сёння прыйдзе?

— Прыйдзе, Паўлічак, прыйдзе... Ну, каб дазнацца, як ты тэсціраванне прайшоў... А яшчэ цвік у маім пакоі ў сцяну ўваб'е... Я ж хачу фотаздымак Косцікаў у сябе павесіць... Прыгожы такі фотаздымак, там ён малы яшчэ... Цераз галінку яблыневую пазірае, а галінка тая цвіце, цвіце... У маі тады яго здымалі...

Яны падыходзілі ўжо да тралейбуснага прыпынку. «Вось як яно ў жыцці бывае, — думала Марыя Пятроўна. — Праўду людзі кажуць, што бяда зблізкае. Недзе гадоў пяць Коля амаль і не патыкаўся ў іхнюю кватэру, хоць яшчэ ў ёй і прапісаны. А калі пільна трэба было што, дык толькі ў парозе хвіліну-другую і затрымліваўся. А тут... лічы, штодня адразу пасля працы і прыходзіць. І яны размаўляюць, усё размаўляюць... І, здаецца, няма больш блізкіх людзей на свеце. Столькі ўсяго назбіралася за ўсе гэтыя гады, каб цяпер выказацца адно аднаму».

Паўлік наблізіўся да яе, схіліўся і зашаптаў, быццам хтосьці мог пачуць іх:

— Глядзі, ма-ам, вунь там маці Толіка Грынкевіча стаіць і ўсё на нас глядзіць.

— Дык, давай, сынок вось тут і спынімся, каб быць далей ад яе. Дванаццаты тралейбус рэдка ходзіць, можа, лепш на маршрутку сядзеш?

Марыя Пятроўна казала ўсё гэта сыну і не-не ды кідала позірк убок Толікавай маці, з якою не хацелася сустракацца, бо ў сваім горы яна вінавасціла Толіка: каб жа ж ён тады не пазваніў, каб жа Косцік застаўся дома, хіба здарылася б гэтая бяда?! Але ў нейкі момант позіркі жанчын сустрэліся, і Антаніна Віктараўна рушыла да іх. Калі падышла, ціха прывіталася, і гэтак жа ціха выказала словы спачування. Але цераз паўзу голас яе рабіўся ўсё больш і больш гучным, і яна ўжо не спачувала, а дакарала Марыю Пятроўну:

— Ну вось бачыце... Вы мне ўсё тэлефанавалі, маўляў, Толік наш вашага зводзіць, з нейкага там тропу збівае! А ўсё ж наадварот было... Цяпер вось, даруйце, не стала Косціка і ў нашага ўсё як па масле пайшло!.. Тады ж, там на пляжы, ён з Кацяй Вейняровіч сустрэўся, яны ж сябравалі са школы, цяпер зноў да іх усё тое вярнулася... У Кацінага бацькі фірма свая, ён Толіка на працу да сябе ўзяў... Мы падумваем ужо да вяселля рыхтавацца... Толік наш і раней нармальным хлопцам быў, пакуль з вашым не звязаўся...

— Ма-ам, — Паўлік тузануў Марыю Пятроўну за руку. — Здаецца, дванаццаты тралейбус зварочвае, — і пацягнуў яе за сабой, прамаўляючы на хаду. — Забудзь... Забудзь усё, што яна табе нагаварыла тут... Гадаўка яна! Гадаўка!

Марыя Пятроўна то сціскала вусны, быццам баялася выпусціць з сябе надрыўны плач, то кусала ніжнюю губу, каб адзін боль заглушыць другім болем... А дванаццаты тралейбус тым часам пад'ехаў, яна толькі і змагла сказаць сыну:

— Ты, галоўнае, не хвалюйся...

І Паўлік вельмі ўпэўнена адказаў ёй:

— Я ўсё здам, мама!

Быццам ведаў, што дзесьці там, куды не сягае зямны чалавечы розум, дзе новае неба, і новая зямля, аператар лёсаў ужо выпісаў яго лёс. І ў гэтым лёсе ўсё было добра.

**2010 г.**





**Віктар ГАРДЗЕЙ**

# ТРЫ ЛЕГЕНДЫ

## СВІЦЯЗЯНКІ ВЫХОДЗЯЦЬ З ВАДЫ

*Аўтаэпіграф*

*І вырастаюць шпілі княжа-града,*
*Калі гляджу на хвалі з-пад рукі.*
*У гэты міг мне Свіцязь, як балада,*
*Пра даўнія расказвае вякі.*

*І свіцязянкі гуртам выплывалі,*
*І з глыбіні б'юць звоны праз туман.*
*Стаю, гляджу, і — акунае ў хвалі*
*Мяне баладны зрокавы падман.*

1968

**1**

Там, дзе гарыць заранiца-зара,
Славу і подзвігі продкаў
Уваскрашаюць то вежы Міра,
То купалы Наўгародка.

---

***Гардзей Віктар Канстанцінавіч*** *нарадзіўся 19 жніўня 1946 года ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1984). Працаваў у часопісах «Беларусь», «Родная прырода», «Маладосць», «Полымя», «Вожык», у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — у газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Касавіца» (1975), «Верасное палясоўе» (1978), «Засевак Радзімы» (1983), «Незабудкі азёр» (1985), «Узрушэнне» (1988), «Дзікая пчала» (1994), «Зялёныя дажджы» (1997), «Межань» (1999), «Трыадзінства» (2010), кніг прозы «Дом з блакітнымі аканіцамі» (1984), «Карані вечнага дрэва» (1988), «Уратуй ад нячыстага» (1992), трылогіі «Аселіца ў басейне Чорнага мора» (2000), рамана «Бедна басота» (2003), шматлікіх паэтычных кніжак для дзяцей.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008).*

Ветрык вякам, што прайшлі, наўздагон
Вее з-за Нёмна і Шчары.
Возьмуць душу незаўважна ў палон
Моўчадзі змоўклай абшары.

Родны да болю, знаёмы пейзаж:
Нівы, пагоркі ды хвоі.
Свіцязь — баладны падман і міраж —
Дрэмле ў адвечным спакоі.

Слабнуць і стогны, прынёсшы тугу,
На азярыне глыбокай.
Качкі-крыжанкі плывуць з трыснягу,
Чайкі крычаць над затокай.

Тут ажываюць паданні вякоў,
Даўнія сказы і тайны.
Гучны на завадзі жор шчупакоў,
Шум чаратоў аднастайны.

Белаю мрояй клубіцца туман,
Неба ў адценні ліловым.
Гэта, аднак, не баладны падман:
Лодка з багатым уловам!

Бачыш, да плёса прычаліў рыбак
З нейкім здзіўленнем-спалохам:
Лодку латошыць вялізны шчупак,
Цінай пакрыты, як мохам.

**2**

Цар паміж рыбаў — стары ды сівы —
Зрэдку трапляецца ўлетку.
Кажа рыбак да прыбеглай дзятвы:
— Гэтага ўзяў на «рулетку».

Хваляць улоў вудары-хлапчукі,
Віснуць над лодкай гурбою.
Сам жа рыбак паглядзеў з-пад рукі,
Мовіў з прыкметнай журбою:

— Вунь ля ўзбярэжка, дзе трошкі відна
Свіцязь з маленькаю рэчкай,
Мірна стаяў між лясамі здаўна
Горад ці, можа, мястэчка.

Возера наша з крывавых падзей
Стогне то ціха, то з гулам,
Бо ў ліхалецце дамы і людзей
Прорва навек праглынула.

Дзедзіч тутэйшы, таксама даўно,
Верыў не дужа ў паданні,
Дык загадаў ён у Свіцязь на дно
Невад закінуць уранні.

Цягнуць прыгонныя сетку, але
Скутак малы для спачыну:
Пуста — у левым, а ў правым крыле
Статную бачна дзяўчыну.

Плача паненка, і роспач, і гнеў
Лучыць пагляд васільковы:
— Дзедзіч нікчэмны, ды як ты пасмеў
Лезці ў падводныя сховы?!

**3**

Сталі ў дзяўчыны пад сонцам ярчэй
З часам не зжухлыя чары:
Косы льняныя, што льюцца з плячэй,
Водсвет заранкі на твары.

— Дзёрзкія людзі! — сказала яна. —
Вам жа, напэўна, вядома:
Там не бывае ні верху, ні дна,
Дзе нам утульна, як дома.

Ну, а раней жа праз вокны са шкла
Сонца нас грэла таксама.
Рэчка Сваротва паблізу цякла,
Сцены стаялі і брама.

Тут, на раздоллі, між ніў і лясоў
Жыць давялося нядоўга,
Бо з Наўгародка прыслалі ганцоў:
Вораг ваюе Міндоўга.

Люты захопнік, ці цар, ці то хан,
Княства замкнуў у аблогу.
Нашых угоддзяў дзяржаўца Туган
З войскам пайшоў на падмогу.

Сілы, на жаль, не ўдалося сабраць,
Бітва таму і прайграна.
Чуем: разбіта Міндоўгава раць,
Знішчана войска Тугана.

Чорныя коннікі, што крумкачы,
Засцяць наўсцяж краявіды.
Дым пад нябёсы. Шчыты і мячы.
Браму абмацваюць дзіды.

**4**

Зведалі продкі любоў і давер —
Свіцяззю горад назвалі:
Там, дзе стаяў ён, як бачу цяпер,
Коцяцца сінія хвалі.

Без абароны былі мы тады,
Вось і рашылі ў патолі:
«Лепей памерці з адчаю, з нуды,
Чым апынуцца ў няволі».

«Божа, дзяцей не пакінь у бядзе!» —
Кленчаць жанчыны з мальбою.
Раптам — грымоты, трасе і гудзе,
Цвердзі няма пада мною.

Прорва закрылася ў момант адзін
З ровам стыхіі злюцелай.
Вось з таго дня, хоць на колькі хвілін,
Чуць не магу сваё цела.

Горад на дне, дзе святла не стае,
Добра я ведаю змалку.
Што ж вы тарэшчыце зекры свае,
Быццам злавілі русалку?

Пра свіцязянак, што варты хвалы,
Ёсць не адна паняверка.
Кругам пазначыўшы горад былы,
Свіцязь ляжыць, як люстэрка.

Тут мы гуляем начамі ў трысці,
Слухаем ціш і залеву.
Дзедзіч абрыдлы, хутчэй адпусці —
Божага ўнікнеш тым гневу!

**5**

Дзедзіч не хоча наклікаць бяду,
Справу закончыў сумленна:
Невад крыху апусцілі ў ваду —
Знікла дзяўчына імгненна.

Толькі паўсюль разышліся кругі,
Быццам крутнула віхура.
Хрысцяцца людзі. У берагі
Возера б’ецца панура.

Кажуць, на хвалях, дзе пена і муць,
Стужка мільгнула з прадоння.

Варта знайсці і яе пацягнуць —
Выплыве горад і сёння.

Цяжка ўявіць, што яшчэ з даўніны
Ёсць пад вадой гаспадарства,
Скуль раніцой далятаюць званы —
Клічуць на ютрань жыхарства.

Горкай часінай здзівіўся Сам Бог
Смерцю такою геройскай,
Ды перакінуў затым у трыснёг
Лютых захопнікаў войска.

Вось ён падняўся — высокі, густы,
Спрэс на заломах і сплаўнях.
Кветкі цвітуць, зелянеюць кусты
Ласкаю месяца траўня.

Мабыць, не выдумка — стужка, дзяўчо?
Міфам, аднак, не здаецца
Дзядзька, што ўспёр шчупака на плячо —
Хвост па зямлі валачэцца.

**6**

Зрэшты, тут плоткі, ляшчы, акуні
Добра бяруцца на вуду.
Зноў жа, здараюцца на глыбіні
Рэчы, падобныя цуду.

Дзіва няма, калі з'явіцца ў сне
Світязь з рачулкай Сваротвай.
Горад затоплены ўбачыш на дне —
Вуду ад страху не змотвай!

Птушкі зляцяцца на сонца ўзыход —
Надта ўжо яркія фарбы.
Вось і складае легенды народ
Пра світязянскія скарбы.

Срэбрам як быццам, дзе ўстануць муры,
Ззяюць пярсцёнкі, кулоны,
Белыя ўроссып тут кветкі-цары —
Душы дзяўчат нескароных.

Хвоі навокал шумяць, жывучы
З вечнаю жальбой і скрухай.
Чуюцца стогны жанчын уначы,
Світязь уздрыгвае глуха.

То світязянкі выходзяць з вады,
Дыхаюць свежасцю зорнай.

Здані плывуць праз лужкі на груды,
Цені над гладдзю азёрнай.

Дзесьці ў бяздонні ёсць камень, які
Мае жанчыны выяву.
Возера Свіцязь пяе праз вякі
Продкам няскораным славу.

## АДКУЛЬ МЯДЗВЕДЗЬ?

Прашчуры яшчэ не зналі злакаў,
І зямлі было ў іх — кот наплакаў.

У лясах жылі з часоў стварэння,
Мелі ўдосталь ягад і карэння.

Як малыя, цешыліся грыбу,
З возера ў вяршох цягалі рыбу.

Зверaлоў, захутаны ў аўчыны,
З пушчы не вяртаўся без дзічыны.

Не купаліся ў багаццях продкі,
Але дзіўна: чай пілі салодкі.

Снедала сям'я ў лядзень зімовы —
З іхніх кубкаў віўся пах мядовы.

Часцяком збіраліся ўсім родам,
Торг вялі арэхамі і мёдам.

У лясах з чаборам, з верасамі,
Кажуць, пчолы развяліся самі.

Дуплы дзёўб якісьці дзятлік шчуплы,
І яны займалі тыя дуплы.

Гай квітучы або ліпа ў цвеце —
Для пчалы найлепшы дар на свеце.

Мёдам пахлі долы і закуткі,
А мядзведзяў не было і чуткі.

Хто знаходзіў пчолы з ласкі Боскай,
Дрэва значыў яркаю палоскай.

Людзі, хоць дастатку і не мелі,
Гэта дрэва зачапіць не смелі.

Але ў пушчы, дзе мядовы водар,
Жыў тым часам несусветны лодар.

Нелюдзімы, злосны па натуры,
Днямі спаў, загомтаўшыся ў шкуры.

Нетры не таптаў ён лесавыя,
Пчолы драў заведама чужыя.

Выглядаў, дзе дрэва з яркай метай,
Вось яму і клопату на лета.

Драў чужыя пчолы безупынку,
Ды на дрэнным не трапляў учынку.

Ведаў, што палічаць добра зубы,
Дык хутчэй сыходзіў ад загубы.

Мёду мог струбіць, бадай, паўпуда —
Растаўсцеў, такі ўжо стаў няўклюда!

І ўзяла трывога абібока:
Дуплы нішчыць — цяжка і высока.

Варажбіт жыве ў лясным абшары.
Можа, ён якія зробіць чары?

Па дарозе кішка марш іграла —
Лодар сотаў высмактаў нямала.

Ад хадзьбы аж засмылелі пяткі —
Апынуўся ля пахілай хаткі.

Варажбіт пайшоў дзесь у дуброву,
А ў няўклюды адняло і мову.

На падворку рой гудзе ля рою.
Дуплы нізка — як дастаць рукою.

Во дапяў гультай да гіблай справы,
Стаў умомант лёткі і рухавы!

Выдраў пчолы з ліпы ён, а потым
Груба з дуба павыцягваў соты.

Чараўнік пчалярству быў адданы,
Вось і сам з'явіўся раззлаваны.

— Хто ўчыніў на дрэвах глуму многа? —
Чарадзей тут папытаўся строга.

— Гэта я, мужык Міхал з Падліпкі!
Мёд, старэча, твой і праўда ліпкі.

Пасміхнуўся з жарту ён, вясёлы,
Бо не знаў, як жорстка помсцяць пчолы.

Спокан веку на зямлі бясконцай
Чалавеку пчолка — абаронца.

Рой таптаті або соты кралі —
Суддзі смерцю злыдняў тых каралі.

Пчолы растрывожана без маткі
Кружацца каля пахілай хаткі.

Лезуць у дупло сляпіцай восы.
Шчэрыцца нахабна злыдзень босы.

Позіркам вядзьмар правёў па дрэве,
Барадой сівой затрос у гневе:

— Эх, нікчэмны! Сам шукаў прыгоду.
Будзеш вар'яцець цяпер без мёду.

Станеш праз імгненне валасаты,
Забяруць навек лясныя шаты!..

І забылі лодара суседзі,
І ў лясах з'явіліся мядзведзі.

Звер нязнаны — дужы і сярдзіты,
За благую звычку часта біты.

Папярхнуўся чалавечым словам,
Далеч напалохаў дзікім ровам.

І ў лясы пацёгся ён з улоння,
І блукае там яшчэ і сёння.

Неаднойчы выкрыты ў пагроме,
Ад людзей хаваўся ў буераломе.

Бо мядзведзь, на жаль, не кінуў дзёрці
Тыя ж дуплы ды на хвоях борці.

Потым людзі ставілі калоды,
Дык ласун аж млеў ад насалоды.

Зрэдку, як на пасеку патрапіць,
Гахне вулей, мёду зачарапіць.

Ёсць занятак і зімой па чыну —
Спіць і смокча лапу, як вашчыну.

Толькі выйшла ў ведзьмара накладка,
Бо закляцце не прыстала гладка.

Вось глядзі: мядзведзь прайшоў, дык нечым
След яго падобны з чалавечым.

## ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСНЯ

Лебедзяў сям'ю гайдаюць хвалі.
Дождж імжыць, і бераг ледзь відзён.
Белым возера таму назвалі,
Што жывуць тут лебедзі здавён.

Шмат і іншых птушак вадаплаўных —
Чараду тараніць чарада.
Лебедзь самых смелых і цікаўных
Праганяе ад свайго гнязда.

Ім здаецца: во жыве ў харомах
Пан, што шыю выгнуў у дугу!
А гняздоўе лебедзь на заломах
Скідаў з асакі і трыснягу.

Ноч прайшла, і пасвятлелым ранкам
Вецер навісь шэрую абскуб.
На пагоду шызая крыжанка
Чысціць пёрцы і тапырыць чуб.

Аблачынкі на вадзе ды ў высях,
І дарэчы прымаўку згадаць:
Як не чубся, качка, не мудрыся,
Белым лебедзем табе не стаць.

Па вясне птушынаму базару
Ёсць каму зайздросціць нездарма.
Праплываюць лебедзі на пару —
Прыгажосць і грацыя сама!

На грудзях, нібы праз вэлюм шлюбны,
Зазіхцелі пацеркі расы.
І далёка шчасця голас трубны
Паляцеў з пясчанае касы.

У свае правы ўвабраўся хутка
Дзень, які і роспач прынясе.

Разбрыліся па глухіх закутках
Статкі дзікіх качак і гусей.

Сёння ў птушак самы першы клопат —
Гнёзды віць і свой працягваць род.
Чуецца магутных крылляў лопат —
Лебедзі бяруцца цераз брод.

Іх палёт, вясновай ласкі поўны,
Распасцёрся плаўна ў сіняве,
І здаецца: гэты свет чароўны
Дабрынёй і згодаю жыве.

На бяду сярод кустоў настылых,
Маючы драпежніцкі намер,
За палётам птушак срэбнакрылых
Цікаваў зацяты браканьер.

Вось прыждаў хітрун часіны зручнай —
Да прыцэла радасна прынік,
І над лесам незвычайна гучна
Ляснуў раўнадушны драбавік.

Крылы ўміг пасечаныя шротам —
Падае маўклівы белы птах.
Над азёрнай гладдзю, над балотам —
Рэха стрэлу і агульны жах.

Немы крык і боль стаяць наўкола.
Птушка ўпала зберагу ў пясок.
Толькі крылы торгнуліся квола —
Узляцець бы хоць яшчэ разок!

Мала ўсё-ткі дабрыні і згоды.
Кепска там, дзе верхаводзіць злосць.
Не страляй, цюхцяй, у цуд прыроды!
Не страляй, злыдух, у прыгажосць!

Тут ад жаху ўвесь народ крылаты
Распачаў страшэнны шум і грай,
Што стралок спалохаўся адплаты —
Драла даў, то нават не шукай.

Лебедзь ацалелы з невядомай
Горыччу і прыступам тугі
Над сваёй сяброўкай нерухомай
Робіць развітальныя кругі.

Ды ці трэба ў сонечнае ранне
Выстаўляць гаркоту напаказ?
Кажуць, лебедзь, чуючы расстанне,
У жыцці спявае толькі раз.

Узляцеў ён велічна і мужна
Над азёрнай поймай, над вадой
Там, на вышыні галавакружнай,
З аблачынай зліўся снегавой.

Прашумеў тут над раўнінай голай
Уладар вятроў — сівы Эол,
І адразу арфаю Эола
Ажываць пачаў вясновы дол.

Ледзь упалі першыя акорды,
Ледзь журбой дыхнула з тонкіх струн,
Лебедзь заспяваў натхнёна-горды,
Незвычайны ўсё-такі пяюн.

Голас моцы і адчаю з дрэваў
Строс расу і дажджавую золь.
Ён спяваў, і ад яго ных спеваў
Чуўся за вярсту пякучы боль.

Лебедзь, што застаўся адзінокі,
То ўпадзе старчма на паплавы,
То ўзляціць пад самыя аблокі,
Дзе сурова дзьме Эол сівы.

Рэквіем пачула наваколле,
Ды цішэе струн жалобны ўсхліп,
І слабей разгойдваецца голле —
Лебедзь з крыку, з роспачы асіп.

Клятву даў ён мілай і адзінай
Захаваць і вернасць, і любоў —
Развітаўся песняй лебядзінай,
Аж заплакаў валадар вятроў.

Глянуў лебедзь на гняздо ў чароце,
Глянуў зверху на крывавы плёс —
Крылы склаў на развітальнай ноце,
Рынуўся, бы камень, з-пад нябёс.

Пра яго каханне і адвагу
Закрычалі птахі навакол,
Пацямнела Белае, і сагу
Смельчаку пачаў складаць Эол.
…………………………………
Лебедзі два ўпобачкі ляжалі,
Крылы распластаўшы на жарстве.
Так сышліся іхнія скрыжалі,
І легенда гэтая жыве.





Янка СІПАКОЎ

# СОТЫ

*Дзённік настрою*

Ёсць дзве ці не самыя магутныя на зямлі сілы наймацнейшага прыцягнення: камень, які неадольна цягне чалавека на дно любой вады, і птушка, якая, здаецца, толькі для таго і жыве побач з намі, каб заўсёды клікаць нас у такое зманлівае неба.

Калі сярод выключнай, абсалютнай цішыні раптам сам сабою затрымціць, затрапечацца лісток на дрэве, гэта яшчэ не значыць, што ён злавіў вецер. Гэта ўсяго толькі значыць, што лісток жывы.

Ціхі акіян. Першае ўражанне. Яно страшнаватае. Вада без берагоў. Здаецца, ты стаіш пасярод яе і ўвачавідкі бачыш, як вакол цябе, па лініі гарызонту, вада сама сабою цячэ, скочваецца, зліваецца кудысьці за небасхіл…

Цвердзь. Немагчыма чалавеку жыць без цвердзі!

Уяўляеце, жыць у паветры? Уяўляеце, жыць у вадзе?

Не, чалавек можа жыць толькі на зямлі!

А рыбы ж жывуць у вадзе? А птушкі ж жывуць у паветры?

Не, там птушкі толькі лятаюць. А жывуць яны ўсё ж на зямлі. Там, дзе іх гнёзды! Ды і рыбы кладуцца на дно. Туды, дзе ёсць цвердзь.

А як жыць без зямлі нам, людзям?

На што стаць?

Аба што абаперціся?

Як прылегчы?

І, урэшце, да чаго прытуліцца?

---

*__Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч)__ нарадзіўся 15 студзеня 1936 года ў вёсцы Зубрэвічы Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1960). Працаваў у часопісах «Вожык», «Маладосць», «Беларусь», у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».*

*Аўтар кніг паэзіі «Лірычны вырай» (1965), «Дзень» (1968), «У поўдзень, да вады» (1976), «Усміхніся мне» (1984), «Веча славянскіх балад» (1988) і інш. Выдаў кнігі прозы «Па зялёную маланку» (1971), «Крыло цішыні» (1976), «Жанчына сярод мужчын» (1980), «Тыя, што ідуць» (1993), «Зялёны лісток на планеце Зямля» (2010), «Зубрэвіцкая сага» (2010) і інш.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).*

Ці не таму гэтак і ўражвае фрэска Мікеланджэла ў распісанай ім Сіксцінскай капэле Ватыкана «Аддзяленне цвердзі ад вады». Менавіта яны, сям'я — ён, яна і іх дзеткі — спяшаюцца выбрацца з нейкай нібыта шкарлупіны, з завітой ракавіны, якая доўга насіла іх па вадзе, з цікавасцю разглядаюць яшчэ не бачную нам зямлю, прагнучы хутчэй ступіць на тое, што ўжо не вада: бачылі, як рукі барададатага з растапыранымі пальцамі, пакуль яшчэ ў чарупіне ногі, гатовыя адразу ж стаць, абаперціся на сушу — у іхніх вачах яшчэ і пострах, аднак ужо і радасць.

Богалюбства — гэта таксама своеасаблівая цвердзь для душы, для думкі.

А так мы гаворым з Богам:

…а пасілкам яму была саранча і дзікі мёд;

…напісана ж, не хлебам адным жыве чалавек, а кожным словам, якое паходзіць з вуснаў Божых;

…не судзіце, каб і вы не былі асуджаны;

…чаму ты бачыш сучок у воку брата твайго, а бервяна ў тваім воку не заўважаеш?

…якая ж цесная брама і які вузкі шлях, што вядуць у жыццё, і мала такіх, якія той шлях знаходзяць;

…бо ярмо Маё прыемнае, а цяжар Мой — лёгкі.

Як нязмушана гучыць яна, наша руплівіца, у «Евангеллі», якое ў перакладзе на беларускую мову выдала Рымска-Каталіцкая парафія Мінскага касцёла Святых Сымона і Алены для ўнутраных патрэб прыходу. Менавіта для ўнутраных патрэб! Бо тут і прапаведуюць, і моляцца па-беларуску. Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, пробашч касцёла, кандыдат гістарычных навук і магістр тэалогіі шчыра дапамагае беларусам размаўляць з Богам на роднай мове. Бо добра ведае і разумее нашу сітуацыю: у Польшчы нас лічаць усходнім краем — крэсамі, рускімі, а ў Расіі — заходнімі землямі, палякамі. А мы ж, беларусы, якраз пасярэдзіне — і тут, і там. І пасярэдзіне нам дапамагае заставацца наша мова.

Барыс Сачанка, самы блізкі мой сябра, да майго пяцідзесяцігоддзя зрабіў шыкоўнейшы падарунак — адшкадаваў са сваёй багатай бібліятэкі і падпісаў мне кнігу «Новы запавет і псальмы», перакладзеную на беларускую мову і выдадзеную Брытанскім і замежным біблейным таварыствам у Лондане ў 1948 годзе.

Я і да сёння ўражаны і здзіўлены гэтым перакладам. Бо перакладзены не словы, а менавіта тое, што застаецца пасля слоў. Словы прагучалі, прайшлі, а трымценне, нейкае хваляванне ад іх засталося…

«Прасеце, і будзе вам дадзена, шукайце і знойдзеце, стукайцеся, і адчыняць вам.

Бо кожны, хто просіць, дастае, і хто шукае, знаходзіць, і хто стукаецца, таму адчыняць».

А псалмы! І словы нібыта звычайныя, і прамоўлены яны звычайна, але ж праймаюць аж да дрыжыкаў, аж да трасавіцы:

«Да Цябе я гукаю, бо Ты, Божа, выслухаеш мяне; прыхілі да мяне вуха Тваё, пачуй словы мае!

Пакажы дзіўную ласку Тваю, бо Ты збавіцель тых, што ў правіцы Тваёй шукаюць абароны ад ворагаў.

Захавай мяне, як зрэнку вока; у цяню крылляў Тваіх укрый ты мяне

ад бязбожнікаў, што гвалт учынілі нада мной, ад ворагаў маіх, што прагавіта абступілі мяне:

яны схаваліся ў туку сваім, вуснамі сваімі яны дзёрзкае гаворацъ».

Успомнілася вавілонская паэзія, якую я з асалодаю, апякаючыся словам, перакладаў, дзе слова — гэта ўжо таксама не толькі слова, а зноў жа трымценне і пачуццё:

Я ж, Божа мой, што я зрабіў?
Божа мой, госпадзе, што я зрабіў?
Спадарыня, багіня мая, што я зрабіў?
Божа, татулька мой, што я зрабіў?
Багіня, матулька мая, што я зрабіў?
О той, у чыім доме я рабом нарадзіўся,
Што я зрабіў?
О той, чый я раб, што я зрабіў?
Не пашкадаваў для яго быка са стойла,
Не пашкадаваў для яго дабра, якое маю.
Хлеб знайду — адзін не з’ядаю,
Ваду знайду — адзін не вып’ю…
Божа, прымі маю малітву, смуткам поўную…
Упаў я — падымі мяне, спатыкнуўся — падай руку мне!
Божа, упаў я — падымі мяне, спатыкнуўся — падай руку мне!

Гэтай выплаканай малітве чатыры тысячы гадоў! Вось табе і гліняныя таблічкі, клінапіс, даўневечча! А якое хваляванне, якія, да вусцішу, роспач і вера!

Яны, і ранейшыя заклінанні, і пазнейшыя псалмы, па бязлітаснай вывернутасці навонкі слова — падобныя: гэта малітвы. І ствараліся яны прыкладна ў адзін і той жа час — у глыбініданашаэравых тысячагоддзяў.

Гляджу па тэлебачанні прамую трансляцыю набажэнства з нагоды Каляд і Нараджэння Хрыстова. І нейкі спакой, ціхамірнасць і злагада напаўняюць мяне, бо ўсё тое ж пануе і ў храме. У ім па-хатняму вельмі ўтульна і ў той жа час узнёсла, велічна — як у нябёсах. І шчыра, сардэчна. Ціхія словы як усё роўна гладзяць цябе, і ты, як кошка, выгінаеш спіну, вырастаеш ад іх ласкі і сам, дзівячыся, бачыш і разумееш гэта.

Я праваслаўны. Назаўсёды! І ведаю, што да нашых Каляд яшчэ два тыдні. Ведаю, што наш Ісус Хрыстос яшчэ не нарадзіўся. І ўсё ж з замілаваннем слухаю набажэнства. Якое яднанне памяшкання, прасторы, вернікаў, слоў, пачуцця, думкі! І мовы!

І чаму ж мяне так кранула гэтае набажэнства? Чаму мне здалося, што ўсё, што адбываецца, робіцца толькі для мяне аднаго?

Мусіць, і таму, што ўся служба ў касцёле ішла па-беларуску. Галоўнай у храме была яна, наша родная дбайніца і клапатлівіца, наша мова.

На беларускай мове ціхім, даверлівым голасам гаварыў сваю казань Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі:

«Глыбокапаважаныя браты ў святарстве, шаноўныя законнікі і законніцы, умілаваныя браты і сёстры! Гэтымі словамі, з якімі Анёл звярнуўся да пастушкоў, ад усяго сэрца вітаю вас ва ўрачыстасць Божага Нараджэння. Словы гэтыя адлюстроўваюць асноўны сэнс сённяшняга свята, бо абяцаны Богам Айцом яшчэ нашым прабацькам Адаму і Еве, падказаны прарокамі, доўгачаканы Збаўца нарэшце прыйшоў у гэты свет — прыйшоў у вобразе звычайнага чалавека».

Менавіта — у вобразе звычайнага чалавека! Бог — як чалавек.

Па-беларуску спяваў хор, па-беларуску размаўлялі між сабою людзі, маліліся вернікі:

«Памолімся за нашых дзяцей».

«Памолімся за тых людзей, якія зараз у бальніцах».

«Памолімся за тых, хто цяпер у дарозе».

Камера шырока брала ўсю гэтую ўрачыстасць і ўвесь гэты храм аднекуль зверху, вышэй люстраў — люстры былі пад ёю. Яна шырыла цеснаваты, не вельмі прасторны храм і дадавала яму велічнасці, таемнасці, годнасці.

І мне, праваслаўнаму, вельмі захацелася туды — да гэтых людзей, да іх свята, да іх спакою і сцішанасці.

Аднак зрабіць гэта было намагчыма — набажэнства транслявалася з Магілёва, з касцёла прасвятой Ганны Марыі.

А, можа, на наступны год усё ж паехаць у Магілёў? Хоць мне і муляў, замінаў акцэнт набажэнства — Езус, Амэн, Хрыстас, Бэтлеем…

Пазваніў Іван Чарота і кажа:

— Я толькі што вярнуўся з Польшчы. Там адкрывалі памятную дошку у Супрасльскім манастыры ў гонар Канстанціна Астрожскага. Дык я адтуль прывёз вам паклон ад архіепіскапа Лодзьска-Пазнанскага прыхода айца Сімана. Ведаеце такога?

— Не, — падумаўшы, шчыра прызнаўся я. — Не ведаю.

— У Польшчы ёсць аўтакафедральная праваслаўная царква, — цярпліва тлумачыць мне Іван Аляксеевіч. — Яна святкавала стагоддзе свайго прыхода ў Міхалове. На ўрачыстасцях быў сам Мітрапаліт Сава. І другі чалавек у польскай праваслаўнай царкве — архіепіскап Сіман. Ён казаў мне, што вы разам з ім вучыліся на адным курсе філфака БДУ. Яны, трое, — дзве дзяўчыны і ён — прыехалі тады па абмене на вучобу ў Беларусь.

— А, — адразу ўспомніў я, — дык гэта ж Сымон Раманчук!

І праўда, мы з ім вучыліся на адным факультэце. Філфак тады быў з трох аддзяленняў: беларускае, рускае і журналістыка. Сымон з дзяўчатамі — на беларускім, я — на журналістыцы.

Праўда, прыехаў Раманчук у Беларусь як Шыман. Так ён знаёміўся, і так яго потым усе называлі: Шыман, Шыман, Шыман. Гэта пазней ужо мы яго пераназвалі Сымонам — як усё роўна новае імя далі.

Я не скажу, што мы з Сымонам сябравалі. Аднак часам сустракаліся, добра гаварылі. Ён хлопец інтэлігентны, далікатны, уважлівы, разумны, умеў добра слухаць і падтрымліваць гаворку — Сымон не мог не падабацца нам, будучым журналістам.

Здаецца, яшчэ на першым курсе ён даў мне пачытаць адзін з першых нумароў беластоцкай «Нівы», якую якраз тады заснавала Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы. А потым і ўгаварыў мяне паслаць туды свае вершы. Я паслаў, а яны ўзялі і надрукавалі адзін з іх. Праўда, змянілі толькі загаловак: было «Начны дыялог», а стала «Летняя ноч». Спачатку мне гэтая праўка не спадабалася, а потым я прыняў яе і нават узрадаваўся — так прасцей і душэўней! Які табе дыялог, калі тут і праўда ўсяго толькі «Летняя ноч»!

Мала таго, што надрукавалі, дык праз нейкі час атрымліваю пісьмо з Польшчы. Адкрываю і чытаю:

«Паведамляем, што 8 жніўня 1956 года рэдакцыя зрабіла Вам падпіску на «Ніву» на 1957 год».

І я, студэнт, цэлы год атрымліваў беларускую газету з Польшчы. У паштовыя ячэйкі, што віселі на сцяне ў вестыбюлі філфака, яе, праўда, не клалі, а за кожным новым нумарам даводзілася хадзіць у прыёмную рэктара.

«Ніва» мне падабалася. Яна была шчыраю і нейкаю вельмі ж ужо хатняю, свойскаю.

«Сэрцайка, памажы!» «Парай, Сэрцайка», — прасілі парады закаханыя дзяўчаты і маладыя жанчыны. Мне, будучаму вожыкаўцу, было даспадобы, як Дзядзька Лявонь, хітравата ўсміхаючыся, у сваіх фельетонах, нібыта ён сам прадае тую кабылку, пра якую піша, пытаўся: «А трактар табе гною дасць?»

І, урэшце, мова: дзіцячы садок — дзяцінец, малачарня — злеўня, піўная — піўніца…

Мы з Сымонам нярэдка абмяркоўвалі свежыя нумары тыднёвіка.

А потым я ўжо і сам, калі падпіску на «Ніву» дазволілі і ў БССР, выпісваў яе доўгія гады.

— Так што, Іван Аляксеевіч, калі, можа, зноў давядзецца сустрэцца з архіепіскапам Лодзьска-Пазнанскага прыхода айцом Сіманам, перадайце, што я да сёння ўдзячны яму за той студэнцкі прымус, які дапамог мне пазнаёміцца з «Ніваю» і палюбіць яе.

Індыйская рэлігія мае каля 330 мільёнаў багоў і боствaў. У іх — усё бог. Мурашка — бог. Травіна — бог. Неба — ага, ага: само неба — бог. Зямля таксама бог, багіня. Вецер — бог. Жыццё — бог. І думка — зноў жа бог. Бо яна невідомая, як бог, і яе, аднойчы выпусціўшы з сябе, ужо немагчыма дагнаць і вярнуць назад.

І ваханы багоў — тыя жывёлы, на якіх яны ездзяць і лятаюць, — таксама божаствы. Яма верхам ездзіць на буйвале, Індра — на слане, Шыва — на быку, Ума — на льве, Сканда — на паўліне, Ганеша — на пацуку, Вішну — на птушцы Гарудзе, Брахма — на гусаку. І таму ўсе яны — святыя. Ага, і гусак — бажаство таксама.

Мне падабаецца вось такі пантэон багоў і божастваў. Калі табе скрушна, памаліся мятлушцы, і цябе пачуюць.

И тихо так, господи, тихо,
Что слышно, как время идет.

Гэтыя радкі Ганны Ахматавай, здаецца, другі ў сусветнай паэзіі рускі шэдэўр. Першым, мусіць, усё ж заўсёды будзе лермантаўскі:

А он, мятежный, просит бури,
Как будто в бурях есть покой.

У мяне спыталіся: «Пра што твая прытча «Тыя, што ідуць»? і я адказаў: «Пра тое, у што вераць тыя, што ідуць. Пра ўсемагутную, амаль нечалавечую веру».

«Тыя, што ідуць», — гэта клопат, сэнс якога выказаны яшчэ Эклезіястам: «Ад многага ведання многа і скрухі».

«Тыя, што ідуць» — гэта вечнае вяртанне, гэта космас, які вяртаецца да сябе самога.

«Тыя, што ідуць» — гэта і шлях, і жыццё адразу.

Хто здольны далучыцца да тых, што ідуць? Усе, хто захоча. А найперш тыя, хто зразумее і прыме як сваё і іхні шлях, і іхні клопат. І што з гэтага атрымаецца? Не ведаю. Бо гэта ўжо будзе іншая прытча. І тлумачыць яе, разгадваць, мусіць, іншым стагоддзям.

Вось, да прыкладу, зямля. Гэта ж колькі стагоддзяў, тысячагоддзяў яна круціцца, круціцца, круціцца. Хто ж гэта яе так раскруціў? Што дае ёй такую энергію, каб столькі часу, ні на секунду не спыняючыся, круціцца? То ж своеасаблівы перпетум-мобіле. Кожнае вярчэнне абавязкова з часам запавольваецца. А гэтае — не!

Можа, мы, ходзячы па зямлі, круцім яе сваімі нагамі? Але ж мы ходзім у розныя бакі і па розных дарогах... А каб яна круцілася ад нашых ног, трэба, каб увесь свет пайшоў раптам у адным накірунку. Ды і то ці адчула б зямля дотык нашых падэшваў? Наіўна?

Аднак хто ўсё ж такі круціць нашу Зямлю?

Ракета, якая падняла ў космас Юрыя Гагарына, мела 20 мільёнаў конскіх сіл. Дваццаць мільёнаў коней вырвалі чалавека са звыклых рук прыцягнення зямнога! Дваццаць мільёнаў!

Увесь свет дзівіўся тады вачам Гагарына. Яны, асветленыя цемраю космасу, уражвалі! У іх была дабрыня! Бо яны ўпершыню ўбачылі Зямлю круглаю. І маленькаю. І ім, у космасе, вядома ж, было крыху страшнавата. А, можа, і зусім страшна. Ці не яго, гэты пострах, імкнулася прыхаваць непаўторная, добрая і светлая, гагарынская ўсмешка?

Суперкамп'ютар. На аснове графічных працэсараў. Ён можа выконваць каля пяці трыльёнаў аперацый у секунду. У секунду! Цік-так — і пяць трыльёнаў...

Значыць, наш чалавечы мозг мацнейшы за гэтую супермашыну? Ён жа прыдумаў яе, выдумаў і стварыў гэтага монстра!

Час сціснуўся, адлегласць — таксама, і мне здаецца, што цяпер мы за год пражываем дзесяць, а то і ўсе сто гадоў. Хоць насамрэч увесь сусвет усё яшчэ расціскаецца, разлятаецца, разбягаецца. Пасля таго славутага выбуху. Куды ж усё гэта ляціць? У якое прадонне?

А часам задумваешся, што ж так рупліва беражэ, хавае ў сабе звычайная капуста, так старанна і шчыльна загортваючы, сціскаючы лісце ў тугі качан? Можа, душу?

Мы цяпер размаўляем на мове, хоць і блізкага нам, але іншага народа. І такім чынам свой народ, сваю нацыю міжволі ператвараем у звычайны, бязродны і безаблічны, натоўп.

Растварыўшыся ў вялікай масе вялікага рускага народа, беларусы, чамусьці абыякавыя да ўсяго свайго, потым ужо ніколі не змогуць вярнуцца да народа, да нацыі, да дзяржавы.

І вось таму яшчэ са свайго мінулага тысячагоддзя я крычу ў новае:

— Людзі, што ж гэта вы робіце?!

Раней я ўжо расказваў, як Першы сакратар ЦК КПБ Машэраў на нашым з'ездзе выступаў перад намі, беларускімі пісьменнікамі, на нашай роднай беларускай мове. Як Пётр Міронавіч тады аж свяціўся ўвесь, хваляваўся і, здаецца, быў шчаслівы: ён, камуніст, аўтар вядомейшага ў Савецкім Саюзе афарызма: «Язык партии — русский язык», гаворыць на сваёй спрадвечнай мове!

І гэта было не нейкае невялічкае прывітальнае слова, а цэлы канцэптуальны, зацікаўлены даклад пра стан беларускай літаратуры, свой погляд на яе развіццё ў нашай краіне.

І ўсе мы, уся зала, падняліся з месцаў і, стоячы, шчыра апладзіравалі Машэраву, доўга не адпускаючы яго з трыбуны. Мы былі ўдзячны яму, і ён, па ўсім было відаць, быў удзячны нам.

Мы разумелі, што гэта было непаслушэнства Першага сакратара і чакалі гнеўнага «окрика» з Масквы: маўляў, а як жа тады быць з «советской общностью»?

Машэраў паспрабаваў тварам павярнуцца да беларускай мовы. І як замітусіліся, заекаталі многія.

І больш за ўсё заварушыліся, захваляваліся, устрывожыліся розныя свае «завязёры» і ў Беларусі.

Яны тады, абураныя, абвінавачвалі Машэрава:

«Однажды громыхнул явно непродуманным решением: всем советским ведомствам в общении с населением и официальной переписке перейти на белорусский язык, на оном также произносить публичные речи».

І злаваліся: «Нелепости предлагаемой реформы языка».

І па-свойму, прымітыўна, спрабавалі растлумачыць яе:

«Не исключаю из причин столь опрометчивой реформы факт головокружения Машерова: народ его чтил, и ему захотелось утвердить государственный суверенитет».

Пра гэта ў сваіх успамінах напісаў Барыс Паўлёнак. Камсамольскі і партыйны верхавод, потым — член ЦК партыі, рэдактар «Советской Белоруссии», а затым — кіраўнік усёй кінематаграфіі на Беларусі.

Яго ж разважанні пра родную мову:

«Родной язык, как и до сих пор, имел хождение в быту, но едва белорус вырывался за пределы родного закутка, он старался говорить «по-благородному».

Што гэта значыць — «по-благородному»? Гаварыць «по-благородному» — гэта ўсяго толькі гаварыць на сваёй роднай мове!

Няма «неблагородных» моў у свеце! Усе мовы роўныя ў Бога. І ўсе — выключна ўсе! — высакародныя!

Успамінаецца, як у Расіі было ў свой час засілле французскай мовы. Усе тагачасныя вярхі гаварылі толькі па-французску. А найпрыгажэйшая руская мова лічылася «неблагородною» — маўляў, на ёй можна гаварыць толькі са скацінаю ды са слугамі.

І прускі кароль Фрыдрых II пісаў толькі па-французску, смяяўся з нямецкай мовы і сцвярджаў, што на ёй не сорамна гаварыць адно ў стайні ці ў хляве.

А яны ж, руская, нямецкая, беларуская ды іншыя мовы зямлі, такія прыгожыя...

Заснавальнік Крымскага ханства Хаджы-Гірэй з пасольствам, са сваім саветам-дыванам наведаў Вітаўта ў Менску 15 жніўня 1428 года. Пасля аддзялення ханства ад Залатой Арды, яно рабавала, спусташала суседнія краіны — Русь, Украіну, Польшчу, Малдовію, Валахію, — а да Вітаўта хан, бачыце, прыехаў з пасольствам. І так, здаецца, усё проста, нават будзённа было: «заснавальнік», «наведаў з пасольствам», «у Менску Вітаўта».

Узяў і наведаў.

Не, я ні на што не намякаю. Я проста хачу сказаць, якою магутнаю і ўплывоваю была яна, наша дзяржава — Вялікае Княства Літоўскае.

Са шчымлівым да болю настроем чытаў усхваляваныя ўспаміны Галіны Пазняк «Беларусь у сэрцы»: «Яны (палякі) расказвалі мне пра Беларусь з захапленнем. Я слухала, і душа мая разрывалася ад тугі. Такі наш вялікі народ, і гэта ўсім відаць, акрамя яго самога».

«Каб твой двор травою зарос!» — ці не самы страшны наш праклён.

Не, я не дамагаюся, каб усе любілі маю Беларусь гэтак жа, як люблю яе я. Я толькі хачу, каб яе паважалі. Усе, заўсёды і ўсюды. І яна, маці-радзіма наша, паверце, вартая гэтага.

Сеё-той наіўна думае, што можна несці ўсялякую лухту на наш памяркоўны, добры, не зласлівы, лагодны народ, а ім усе будуць гаварыць за гэта толькі «дзякуй».

Стратасферны холад. Не ведаю, што гэта такое, але нават два гэтыя словы, заінелыя і ўледзянелыя, сустрэўшыся, змушаюць скалануцца. Гэтак жа, як я скалануўся, пачуўшы яшчэ ў Савецкім Саюзе пра трагедыю на адной з палярных станцый: выйшаў са строю перадатчык, зламаўся рухавік, які даваў энергію, згарэла як не ўсё паліва, і разгубленыя людзі засталіся сам-насам з цемраю доўгай палярнай ночы, з неймаверным холадам ды марозам, ад якога нідзе, ніяк, нікому немагчыма ўратавацца.

Людзі, вядома ж, павінны былі памерці. Але яны выжылі! Бо яны — Людзі!

«Вады на зямлю вылілася столькі, што на полі каля вёскі паўсплывалі гусі», — гэта з летапісаў. Усяго адзін сказ, а які малюнак! Якая панарама вялікай бяды! Амаль сусветны патоп.

Коні скублі снег. Першы снег выпаў вельмі рана, на яшчэ зялёную траву, але яе пад белымі гурбамі зусім не было відаць. Таму так і здавалася: коні скубуць снег.

Я сведка найвялікшай падзеі — бачыў, як годна, спакойна і велічна сустрэліся, прывіталіся і тут жа развіталіся два тысячагоддзі.

«Во прыдумаў, — усміхнецца нехта. — Знайшоў чым хваліцца! Дык і я ж тое бачыў».

«Не, — адкажу я, — так, як бачыў я, ніхто не бачыў. І так, як бачыў ты, таксама ніхто не бачыў. Усе, хто тады жыў, назіралі як рукаліся і развітваліся тысячагоддзі. Але для кожнага чалавека гэтае развітанне, спадзяюся, было па-свойму незвычайным».

«Сціпласць, — сказаў нехта з вялікіх, — гэта прамы шлях да забыцця».

І я, лічыце, пабываў у космасе.

Наш першы беларускі касманаўт Пятро Клімук узяў з сабою на арбіту кніжку-малютку вершаў Якуба Коласа. Прадмову да яе «Свята на кожны дзень» напісаў я — дзівіўся ў ёй, як самыя простыя думкі і словы пад рукою Майстра рабіліся паэзіяй.

І вось я ў космасе. Правільней, не я, а маё прозвішча. А больш дакладна, усяго толькі мае думкі — і пра Коласа, і пра яго вершы...

Але ж і я, ці паверыце, здаецца, зведаў і адчуў, што гэта такое — бязважкасць.

Аднак гэта, вядома ж, толькі эмоцыі.

Потым разам з Клімуком у космасе пабываў і ўвесь беларускі народ — Пятро Ільіч, вярнуўшыся на Зямлю, напісаў пра свой палёт кнігу «Зоры — побач».

Часопіс «Маладосць», у якім я тады працаваў, вельмі ж сябраваў з першым беларускім касманаўтам. Пятро Клімук гасцяваў у «Маладосці», прыязджаў да нас, з ім дружыў тагачасны галоўны рэдактар часопіса Генадзь Бураўкін. Па-сутнасці, гэтая кніга стваралася ў «Маладосці». Дапамагаў Клімуку

як найлепей выказацца на роднай мове Мікола Гіль, выключна пра ўсё, што было звязана з нараджэннем кнігі, рупіўся Генадзь Мікалаевіч.

А калі кніга выйшла, я яшчэ раз зноў жа, чытаючы яе, пабываў на арбіце. Дзякуючы пільным і мудрым вачам першага беларускага касманаўта. Я, на зямлі, нібы зблізку, разглядаў і стараўся спасцігнуць такі таямнічы космас, якому Клімук глядзеў вочы ў вочы.

Летую ў сваёй роднай вёсцы Зубрэвічы.

Раніцаю мяне звычайна будзяць маладыя вераб'і, што выведіся над маім акном, за ліштваю, — шумнаю, дружнаю чародкаю, як шэрая хмарка, яны злятаюць, не, звальваюцца, падаюць з надаконня, шабуршаць у траве і гэтак жа дружна, здаецца, без дай-прычыны, узнімаюцца, зноў узлятаюць да гнязда.

Мае Зубрэвічы ўзніклі ў міжрэччы Рубона-Дзвіны і Дняпра-Барысфена, непадалёк ад тых мясцінаў, дзе гэтыя магутныя рэкі амаль рукаюцца: Дзвіна падае Дняпру свой пparticip прыток Лучосу, а Днепр ёй — руку Аршыцу. Вуллянка, каля якой стаіць вёска і якая была калісьці вялікаю і бурнаю ракою — пра гэта сведчаць яе высокія берагі, — перасохла і цяпер сухім рэчышчам упадае ў Дняпро каля Копысі, што за дзесяць кіламетраў ад Зубрэвіч.

Вёска ўзышла, прарасла і пабудавалася паміж Друцкам і Оршаю. Пра яе згадваюць беларускія хронікі. Ёй не менш як 600 гадоў.

Што Зубрэвічы з'явіліся тут першымі — няма ніякага сумнення: за рэчкаю — Зарэчча, уверх па цячэнні — Вярхоўе, уніз — Панізоўе.

Што месца, якое сабе выбралі Зубрэвічы, было калісьці зубрынаю вольніцай, — таксама, спадзяюся, ні ў кога не выкліча пярэчанняў: зубры аддалі ёй сваё імя.

Цяпер гэта звычайная вёска, якіх шмат на Беларусі: школа, сельсавет, бібліятэка, магазін, фізкультурна-аздараўленчы комплекс. СВК. Сельскагаспадарчы комплекс «Зубрэвічы». Раней, у пазамінулым стагоддзі, тут былі яшчэ земскае народнае вучылішча, карчма, вінная лаўка.

І заўсёды была ў Зубрэвічах царква — драўляная, дыхтоўная, утульная: у яе хадзілі вернікі з усіх навакольных вёсак. У ёй з юначых гадоў спяваў у хоры на клірасе мой бацька. Тут вянчаліся мае бацькі. Яе разбурылі бязбожнікі, і ў царкве, парожняй і халоднай, навязаўшы нейкім чынам вароты пад купалам, рагочучы, гушкаліся на Саракі бязбожнікі.

А так — вёска як вёска. Многія зубраўцы і не здагадваюцца сёння пра тое, якімі крыламі над нашымі Зубрэвічамі і нашымі наваколлямі шугалі стагоддзі.

Каля Дзятлава, што, лічы, побач з нашай вёскаю, знаходзіцца Рагвалодаў камень — вялікі трохметровы валун, на якім у 1171 годзе пасля цяжкой, вельмі галоднай зімы па загадзе друцкага князя Рагвалода быў высечаны пятнаццацісантыметровымі літарамі надпіс, якім князь прасіў — ужо ў маі! — новага ўраджаю: «В лето 6679 месяца мая в 7 день доснен крест сей. Господи, помози рабу своему Василию в крещении именем Рагвалоду сыну Борисову». Той голад, думаю, не абмінуў і Зубрэвічы.

А блізкая да Зубрэвіч Барань, славутая сваёю кульняю, якую ў 1597 годзе заснаваў князь Мікалай Радзівіл і якая вырабляла ядры і кулі для гармат і гакаўніц і пастаўляла іх Біржанскаму і Копыскаму замкам — хочацца верыць, што сярод «кульнікаў» былі і зубраўцы.

А сама Копысь, памежная крэпасць неўмацаванага паселішча крывічоў! Яе ў свой час захапіў сын Уладзіміра Манамаха, яе ўмацоўваў, каб абараніць ад шведаў, Пётр І. Яна згадваецца ў Ніканаўскім летапісе пад 1059 годам.

Гэта ж яшчэ і славутая копыская кафля, гэта і Ляўкі каля Копысі, дзе ў свой час летаваў Янка Купала.

І праўда, славутыя мясціны дасталіся мне ў спадчыну, родныя крывіцкія землі, над якімі не-не ды і зноў прашуміць вецер стагоддзяў.

Але ж любая вёска — гэта найперш людзі. Можна было б расказаць пра маіх дарагіх зубраўцоў. Можна было б згадаць маму і тату, Ульяну Пракопаўну і Данілу Іванавіча, руплівых, шчырых працаўнікоў, якіх падчас вайны за сувязь з партызанамі закатавалі фашысты — у былым Доме піянераў у Оршы, дзе лютавала гестапа, дзе сядзелі і мае тата і мама, доўга не маглі змыць кроў чалавечую, якою былі запырсканы ўсе сцены.

Можна было б успомніць тут і маю цёцю Алесю, Аляксандру Іванаўну Сіпакову, якая выгадавала нас, сірот, — мяне і дзвюх маіх сястрычак — і якая ўзнагароджана пашаноўным салдацкім медалём «За боевые заслуги».

Можна было б задумацца, чаму ж гэта мой дзед Іван Сямёнавіч Сіпакоў хацеў з'ехаць з роднай вёскі — у 1898 годзе ён разам з аднавяскоўцамі Захарам Шапавалавым, Васілём Ласкоўскім, Макеем Чарнышовым, Алімпіем, Дзямідам і Тарасам Сідаровічамі хадатайнічалі перад Магілёўскім губернатарам аб перасяленні іх з сем'ямі ў Сібір на свабодныя дзяржаўныя землі.

Можна было б. Але мне рупіць расказаць пра іншага нашага аднавяскоўца, пра славутага зубраўца, які ў свой час адыгрываў вельмі прыкметную ролю ў гісторыі.

У сярэднявеччы мае Зубрэвічы былі, так бы мовіць, сталіцаю ўдзельнага княства — у вёсцы стаяў княскі маёнтак і ў ім жыў князь Мітка Сякіра, які на ўсіх сваіх граматах і пячатках падпісваўся: «Князь Дзмітрый Зубрэвіцкі». Мітка быў сынам друцкага князя Сямёна Дзмітравіча, які, адзіны з чатырох сыноў Міткавага дзеда Дзмітрыя Сямёнавіча, вярнуўся жывы з няўдалай сечы беларусаў з татарамі на рацэ Ворскле: мы хацелі дапамагчы Тахтамышу вярнуцца на ханскі прастол у Залатой Ардзе і не змаглі — прайгралі бітву.

Таго Сямёна Дзмітравіча, які выхоўваў у Друцку Соф'ю Андрэеўну Гальшанскую, асірацелую дачку сваёй сястры Аляксандры, якую, сямнаццацігадовую, у 1422 годзе сасватаў сямідзесяцігадоваму Ягайлу яго стрыйчак, стрыечны брат Вітаўт. Соня, стрыечная Міткава сястра, зрабілася каралеваю і нарадзіла Ягайлу доўгачаканых сыноў Уладзіслава і Казіміра, зрабілася заснавальніцай дынастыі Ягелонаў: Ягелоны, Міткавы пляменнікі і ўнукі, панавалі ў ВКЛ і ў Польшчы каля 150 гадоў, а таксама доўгі час каралявалі ў Венгрыі і Чэхіі. А Казімір IV Ягелончык па жаночых лініях наогул, як лічаць даследчыкі, з'яўляецца продкам ці не ўсіх тагачасных еўрапейскіх каралёў ды пануючых дынастый.

Мітка нарадзіўся недзе каля 1400 года ў Друцку. Соф'я — у 1405. Не ведаю, ці была яна ў Міцькавых Зубрэвічах, аднак, думаю, што яны, амаль равеснікі, сустракаліся, таварышавалі, а то і сябравалі нават тады, калі Соня зрабілася каралеваю.

Міцьку Зубрэвіцкага добра ведаў і Ягайла — ён жа быў жанатым на Ягайлавай пляменніцы Соф'і Жэдзівідаўне, дачцэ ягонага і Вітаўтава брата Жэдзівіда.

У 1427 годзе Дзмітрый Зубрэвіцкі атрымаў ад польскага караля Ягайлы шэраг надзелаў у Гродзенскай і Шчучынскай валасцях: думаецца роднасць з каралеваю, а цяпер ужо і з каралём, дазволіла яму валодаць дадатковымі вотчынамі і ўдзеламі.

Уладанні Міцькі Зубрэвіцкага былі даволі вялікія. Ён валодаў Быхавам, Дубровенскай пусташшу, Добаснай, што каля Рагачова. Ягонаю была і вялікая Асцёрская воласць у Кіеўскай зямлі, на левабярэжжы Дняпра.

Мітку Сякіры належала нават Падолле. Праўда, не яму самому, а ягонай жонцы Соф'і Жэдзівідаўне. З-за гэтых земляў нават адбыўся вялікі канфлікт паміж каралём Польшчы Ягайлам і тагачасным Вялікім князем Літоўскім Свідрыгайлам — малодшым ягоным братам. Гэтая сутычка нават каштавала Свідрыгайлу вялікакняжацкай кароны, а яго княжанне атрымалася дужа кароткім.

Вось як расказвае пра гэта «Хроніка Быхаўца»:

«І панаваў вялікі князь Свідрыгайла два гады ва ўсіх княствах літоўскіх, і прыехаў пасля да яго з Польшчы на ловы кароль Ягайла. Князь Свідрыгайла немалы час прымаў яго з вялікаю пашанаю ў горадзе Вільні, потым прыйшоў да яго ў пакой і пачаў яму так з гневам гаварыць: «Браце мілы, чаму ты зямлю Падольскую трымаеш, бацькаўшчыну зямлі Літоўскай. Вярні мне яе, а калі не захочаш яе мне вярнуць, я цябе з Літвы не выпушчу». І князь Свідрыгайла схапіў караля Ягайлу і яго пад варту пасадзіў. А Ягайла пачаў яму гаварыць: «Браце мілы, я Падольскае зямлі ў цябе не адымаю, але ёсць братанка (пляменніца, братава сястра) нашая, спадкаеміца тае зямлі Падольскай, княгіня Сафія Жэдзівідаўна, жонка князя Міцькі Зубрэвіцкага. Яна ў мяне, дзядзькі свайго, апекі ды абароны папрасіла, бо хоць і трымаю я тую зямлю, але ўвесь прыбытак яна сабе бярэ».

Хроніка істотную ролю ў канфлікце паміж Свідрыгайлам і Ягайлам прыпісвае Мітку Зубрэвіцкаму. Дзіўна, але і праз стагоддзе («Хроніка Быхаўца» стваралася ў XVI ст.) пра Міцьку Сякіру памяталі як пра актыўнага ўдзельніка падзей 1430-х гадоў.

Потым Свідрыгайла зразумеў, што зрабіў няёмкасць, і адпусціў Ягайлу ў Польшчу. Але ўжо было позна. Абражаны і зняважаны кароль, як толькі вярнуўся ў каралеўства, то паслаў сваіх паслоў да папы, каб зняць з літоўскіх паноў прысягу і дазволіць ім разграшэнне (вызваленне ад прысягі).

Папа дазволіў, і ў верасні 1432 года ў выніку змовы прапольскіх князёў і паноў Свідрыгайла са згоды Ягайлы быў скінуты з трона, а Вялікім князем Літоўскім паны-рада абвясціла Жыгімонта Кейстутавіча.

Вось тут Свідрыгайла, вечны паўстанец ды парушальнік спакою, і раз'юшыўся. Сабраў вялікую сілу — сорак тысяч сваіх і сорак тысяч рускіх вояў — і пайшоў на Жыгімонта.

Спыніўся за сем міляў ад Вільні, у Ашмяне, дзе і адбылася сеча.

Жыгімонта падтрымлівалі заходнія землі, Свідрыгайлу — усходнія. Князі друцкія былі на баку Свідрыгайлы. У бітве пад Ашмянай восенню 1432 года ў палон да Жыгімонта трапіў і Міцька Зубрэвіцкі са сваім братам Васілём Красным.

Зноў жа «Хроніка Быхаўца». Вось як яна згадвае пра тое:

«І была паміж імі бітва месяца снежня восьмага дня, у панядзелак. І дапамог Бог вялікаму князю Жыгімонту, і пабеглі князі ды баяры вялікага князя Свідрыгайлы, і князёў рускіх шмат пабілі, а іншых паланілі: князя Юрыя Лінгвенавіча, князя Міцьку Зубрэвіцкага, князя Васіля Краснага, брата ягонага, пана віленскага Дзедыголдавіча, пана Юшку Гальцэвіча, пана Івана Вяжэвіча».

На гэтую сечу Міцька Сякіра выпраўляўся са сваіх (і маіх!) Зубрэвіч і сюды ж, палонены і адпушчаны Жыгімонтам, вяртаўся зноў у свой маёнтак.

Калі змоўшчыкі ў Троках забілі Жыгімонта, паны-рада на вялікакняжацкі пасад запрасіла трынаццацігадовага сына Ягайлы і Соф'і Казіміра. Новы вялікі князь пачаў вяртаць адабраныя Жыгімонтам вотчыны апальным прыхільнікам Свідрыгайлы. Ён дазволіў вярнуцца ў ВКЛ і самаму Свідрыгайлу і аддаў яму Валынскае княства. Былі вернуты вотчыны і князям друцкім, якія дапамагалі Свідрыгайлу.

Міткі ж чамусці ў гэты час ужо нідзе не чуваць. Невядома, ці адбіралі ў Міткі яго ўладанні і ці аддавалі іх яму назад.

Вядома толькі, што ён, яшчэ малады, недзе саракагадовы мужчына, прыкладна ў гэты час чамусьці піша завяшчанне, якое захавалася і сёння знаходзіцца ў Маскоўскім архіве Міністэрства юстыцыі. Шкада, што яно датавана толькі сёмым індыктам, годам 15-гадовага каляндарнага цыкла, які быў прыняты тады ў Візантыі і на Русі. Гэты індыкт прыпадаў на 1429 і 1444 гады, а таму дакладную дату напісання завяшчання ўстанавіць немагчыма. Даследчыкі схільны лічыць, што яно складзена ў 1444 годзе.

Паколькі сыноў у Дзмітрыя Зубрэвіцкага не было, увесь ягоны спадак перайшоў да адзінай яго дачкі Марыны — уся зямля і ўсе маёнткі. Яна выйшла замуж за князя Сямёна Сямёнавіча Трабскага з роду князёў Гальшанскіх. Яе дачка — таксама Марына і таксама адзіная! — была жонкаю Марціна Гаштольда, старосты навагрудскага, ваяводы кіеўскага і трокскага, маршалка земскага.

Міткава дачка Марына перажыла сваю дачку і яе мужа і напярэдадні 1495 года падаравала свайму ўнуку Альбрэхту Гаштольду вялізную спадчыну Міцькі Зубрэвіцкага: Быхаў і Тайманаў на Дняпры, Добасну, што ў Бабруйскай воласці, Асцёр і іншыя вялікія маёнткі на Кіеўшчыне, Турэц (цяпер у Клічаўскім раёне), а таксама, мусіць, землі, на якіх Альбрэхт Марцінавіч пабудуе потым Шклоўскі замак.

Альбрэхт Гаштольд, Міцькаў праўнук па кудзелі, па жаночай лініі, быў найбагацейшым магнатам таго часу: ён пастаўляў у войска ВКЛ 466 вершнікаў, бо меў больш як 7 тысяч сем'яў падданых.

Ёсць сведчанне, што менавіта ён, нашчадак Міткі Сякіры, быў ініцыятарам стварэння разгорнутай рэдакцыі беларуска-літоўскіх летапісаў, якая ўключала і легенду пра паходжанне знаці ВКЛ ад рымскіх патрыцыяў.

Вось як далёка і годна сягала лучнасць са светам маіх Зубрэвіч, маёй роднай вёскі, якая і сёння годна жыве і шчыра працуе між Оршаю і Друцкам, на спрадвечнай зямлі крывічоў.

Гэтым летам мае аднакласнікі з'ехаліся ў Зубрэвічы, каб пабыць разам, успомніць родную школу. Саша Іваноў, марак, капітан II ранга, прыехаў з Калінінграда, дзе ён і цяпер узначальвае вялікую кампанію «Усход — Захад», падпалкоўнік Валодзя Сідаровіч — з Мінска, Валя Садоўская — з Днепрапятроўска, Віця Васілёнак — з Віцебска, Люба Вардамацкая — з Магілёва, Клава Кульбакова — з Гарадка, Гена Мухін — з Барані, Надзя Тодрынава — з Хадулоў, Саша Белянкоў, Ліза Сідаровіч і Федзя Юзафатаў, які і арганізаваў гэтую сустрэчу, — з Оршы...

А селі мы за парты ў 1944 годзе — яшчэ грымела вайна, а мы ўжо вучыліся чытаць і пісаць, таму што вызваленая Беларусь адразу ж сказала нам: вучыцеся!

Мае аднакласнікі хадзілі ў школу з розных вёсак — з Зарэчча і Панізоўя, з Барэйшава і Дубравак, з Альхоўкі і Тумініч, з Ленькавіч і Герасімоўшчыны, — аднак і цяпер усе яны Зубрэвічы лічаць роднаю вёскаю.

Пасля вайны Зубрэвічы аказаліся пад бокам у вялікага ваеннага аэрадрома ў Балбасаве, на які найперш прысылаліся навейшыя бамбардзіроўшчыкі, што паступалі тады на ўзбраенне. Самалёты штодзённа ўзляталі і ішлі на пасадку над Зубрэвічамі — акурат над маёй хатай. Яны былі яшчэ зусім нізка, над самай галавой, і я бачыў лётчыкаў у кабінах. Мы, хлапчукі, махалі ім рукамі, і яны ўсміхаліся і таксама махалі нам.

Пачаў я гэтае эсэ пра Зубрэвічы вераб'ямі, вераб'ямі хачу і закончыць. Бо вераб'і, што будзілі мяне летам, таксама мае землякі, мае зубраўцы, мае

аднявяскоўцы. Да таго ж, хочацца думаць, што яны — нашчадкі тых далёкіх вераб'ёў, якія гэтак жа рупліва, не асабліва баючыся чалавека, будавалі гнёзды і за аканіцамі Міткавага маёнтка.

І яшчэ раз аб праўнуку Міцькі Зубрэвіцкага. Альбрэхт Гаштольд, тагачасны канцлер Вялікага Княства Літоўскага, які ўдзельнічаў у стварэнні і падрыхтоўцы Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 года, спрыяў і дапамагаў — ёсць такое меркаванне! — Францыску Скарыне заснаваць друкарню ў Кёнігсбергу, спадзеючыся выдаць там, насуперак каралеве Боне, Статут ВКЛ. Вучоныя лічаць, што менавіта ён парэкамендаваў Скарыну прускаму герцагу Альбрэхту Гогенцолерну, які якраз у той час сам хацеў наладзіць кнігадрукаванне ў Прусіі. Бо герцаг, даючы Скарыне, які прыбыў у Кёнігсберг на пачатку 1530 гадоў, ахоўную грамату, рассыпаўся, як кажуць у пахвалах:

«Не так даўно прыбыў пад нашу ўладу выдатны і шматвопытны муж Францыск Скарына з Полацка, доктар прыгожых мастацтваў і медыцыны, даравіты выкладчык, падданы Вашай высокай міласці і найслаўнейшага горада Вільні грамадзянін. Просім, каб вышэйназваны доктар Францыск Скарына, наш падданы і слуга, не быў пакінуты на волю лёсу, але, згодна з нашым пажаданнем і дзеля неабходнасці і нашага цеснага сяброўства няхай Ваша слаўная Вялікасць будзе ласкава да яго, параіць і дапаможа ў яго справе з бесстароннасцю і справядлівасцю, як чалавеку дастойнаму, рэкамендаванаму».

Але на Скарыну нагаварылі ліхвяры. І герцаг праз два дні піша да Гаштольда новы ліст. А ў ім — вось такое ўжо:

«Таму мы ветліва просім Вашу слаўную Вялікасць, няхай гэтага доктара Францыска Скарыну павучаць аб неадпаведнасці тайнага выводу нашых людзей, просім асудзіць і зазначыць, што мы адносімся да яго з незадавальненнем і непрыхільнасцю, і што мы ад яго не спадзяваліся на такі незаслужаны ўчынак, як гэты».

А калі разабраліся ва ўсім — з'явілася і трэцяе пісьмо:

«Далучаючыся да шчырых просьбаў некаторых нашых дарадчыкаў і лічачы вартай даверу дабрачыннасць, незвычайную вучонасць у мастацтве, медыцыне, дасведчанасць і ўменне выдатнага Францыска Скарыны з Полацка, доктара мастацтваў і медыцыны, ды жадаючы дзеля гэтага адарыць яго асаблівай нашай ласкай, мы знайшлі патрэбным даць яму гэтыя льготы і прывілей. Яму мы іх даём і пастанаўляем гэтай граматай наступнае: няхай ніхто, акрамя нас саміх альбо спадчыннікаў нашых, як у Каралеўстве, так і ў Вялікім Княстве Літоўскім, на землях Прусіі і Жамойціі ды і ў іншых уладаннях нашых не мае права прыцягваць яго да суда і судзіць, якой бы ні была важнай ці нязначнай прычына яго выкліку ў суд».

Скарыну з турмы тады выпусцілі, але друкарня ў Прусіі так і не была створана.

Чытаю: «Паміж дзвюх палачанскіх рэк — Палата і Заходняя Дзвіна — пабудавана казка — Полацкі Сафійскі Сабор».

Заходняя Дзвіна? Чаму Заходняя? Адкуль мы на яе глядзім? Калі з Мінска — то яна для нас Паўночная. А калі з Масквы, з Расіі: то рака і сапраўды Заходняя. А для нас, беларусаў, яна проста Дзвіна. Усяго толькі. Як для латышоў — Даўгава. Не скажуць жа яны: Заходняя Даўгава…

Як намаляваць белы снег на белай, як снег, паперы? Якімі фарбамі?

А ніякімі! На белай паперы трэба маляваць усё, што ты хочаш намаляваць, а тое, што ты не зачапіў, не замаляваў, якраз і будзе ім, белым-белым снегам.

— Добрай раніцы, мая радасць! Я хачу, каб гэтыя ружы хутчэй пабачылі цябе...

Яна мела ідэальную, дасканалую постаць, у якой не было анічога лішняга, што б хацелася прыбраць, і ва ўсім свеце не існавала нічога такога, што б можна было дадаць да гэтай прыгажосці.

* * *

Каханне! Ты спрадвек з крыламі,
Што нас ласкава абнялі.
І ты заўсёды будзеш з намі
Пакуль жывём мы на зямлі.

І куды б нас лёс не кінуў,
Які б нам не паслаў прасцяг, —
За нашай радаснаю спінай
Яны, як ветразі, трымцяць…

* * *

Ён расказваў мне:

— Памятаю, як я, быццам хлапчук, упершыню па-сапраўднаму закахаўся. Не, я ўжо на той час не быў наіўнім хлапчуком. Гэта здарылася ва ўніверсітэце, на другім, здаецца, курсе. А на журфак я прыйшоў з раённай газеты — ужо, лічы, журналістам. Вопытным хлопцам.

Вядома ж, я сябраваў з дзяўчатамі, абдымаўся і цалаваўся з імі, але ўсё гэта было не так і не тое.

Менавіта «тое» раптоўна ўдарыла ў ноздры, нібы маланка, нейкім своеасаблівым, невядомым мне да гэтага пахам.

Яго нельга было ні злавіць, ні растлумачыць. Тым больш — зразумець. Ён быў ні на што не падобны. То быў нейкі незямны пах.

Гэта быў не фізічны пах. Аднак менавіта ім пахла для мяне ўсё навокал.

Была якраз ранняя вясна. Былі вясновыя калюжыны. Яны за ноч зацягваліся лядком, які раніцою хрупасцеў, ламаючыся, пад нагамі. І ён, гэты лядок, гэты хрупат, таксама пах для мяне тым жа — каханнем: мне мроілася, што гэта яна бяжыць да мяне...

Быў яшчэ халаднаваты, нават такі рэзкі, з вострымі, як у ільдзінках, краямі, вецер, аднак і ён, ці паверыце, здаваўся мне ласкавым, бо меў той жа самы пах.

Паветра пахла ім, промні, што па-вясноваму спрабавалі быць далікатнымі, пахлі ім, яе словы, якія я, адкуль бы яны ні даляталі, лавіў вуснамі, пахлі ім і цішыня, калі я не бачыў яе і не чуў, таксама пахла ім, каханнем. Ага, ага — і цішыня мела той жа самы пах. І менавіта цішыня больш за ўсё так пахла.

Потым я даведаўся, што і яна закаханая. Вельмі моцна! Аднак не ў мяне. Я, горды і абражаны, не стаў нічога высвятляць: а што, ды навошта, ды я ж...

І ўсё знікла. Усё! Акрамя паху! Таго, чым пахне каханне. Дзіўна, але той пах хвалюе мяне часам і сёння. Ударыць нечакана ў нос — як шаравая маланка. Во, во, мусіць яно, тое маё каханне, так і пахла — як шаравая маланка...

Пачакайце, а хто-небудзь ведае, як пахне шаравая маланка? Не? І я таксама не ведаю. Аднак перакананы: тады мне ўсё пахла менавіта шаравою маланкаю...

Матылі — гэта таксама кветкі. Але толькі тыя, што ўжо навучыліся лятаць.

Самы канец ліпеня. Афінаген. Лета пераступіла свой самы спякотны ўзрост. Замаўкаюць птушкі. Яны задумваюцца.

Раса жыве раніцою.

Лета двойчы на год не бывае.

Уздыхнуў мароз.

— Каб вы на хлеб спявалі! — значыць, каб жабравалі, спяваючы, і песняю выпрашвалі сабе міласціну. Ну і народ! Хто скажа пра яго лепей, чым ён сам пра сябе?

Смеласць растка. Такі маленькі, а такія амбіцыі! Я выраcту! Я буду дрэвам!

Хто прачытаў мае кнігі — усё ведае пра мяне: што я люблю, што ненавіджу, і да чаго адношуся так сабе, ці, як цяпер кажуць, індэферэнтна.

Што люблю? Вельмі люблю рыхтаваць дровы. І ўсё хачу рабіць сам — і рэзаць, і калоць, і асабліва складаць іх у сцірту. Роўненькія плашачкі, адна да адной. І каб ніводная не западала і не вытыркалася з кастра. Пальцамі пацягнеш яе да сябе, калі запала, і даланёю зраўняеш са сціртаю, калі вытыркнулася.

Затое глядзець потым — насалода. Асабліва калі складзены не колатыя дровы, а ўсяго толькі парэзаныя кругрякі. Навонкі — толькі кружочкі, кружкі і кружышчы. Гладзенькія, беленькія, роўненькія... Прыгажосць! Не адвесці вачэй! Як усё роўна мастацкая карціна якая. Шэдэўр!

Не, калі б я жыў у вёсцы і зімою, у мяне ўсе глухія сцены хаты і пабудоў ля яе былі б абкладзены такімі шэдэўрамі.

Калі ў мяне на сустрэчах пытаюцца, у каго я як празаік, вучыўся, не задумваючыся, адказваю:

— У Пушкіна! У Аляксандра Сяргеевіча!

— У паэта? — здзіўляюцца некаторыя.

— У паэта! — упэўненна паўтараю я. — Пушкін — цудоўны расказчык. І я вучуся ў яго гэтак жа, як ён, проста, нязмушана пісаць і расказваць само жыццё.

А ці можна пісьменніку вучыцца ў сваіх папярэднікаў? Каб упэўнена сказаць: «Вось мой настаўнік, а я — яго вучань»?

Можна і трэба. Аднак не ў нейкага аднаго, да прыкладу, паэта ці празаіка, а адразу ва ўсёй сусветнай літаратуры.

У мяне багатая бібліятэка. І таму ўсе пісьменнікі свету — мае настаўнікі: Пушкін і Уітмен, Ду Фу і Багдановіч, Леў Талстой і Гамер, Адам Міцкевіч і Максім Танк, Шолахаў і Мележ.

Вялікія. Яны сябравалі. Хоць і былі надзіва розныя.

А чаму, прабачце, трэба здзіўляцца гэтаму? Так і павінна быць, бо якраз непадобных людзей цягне адно да аднаго вось гэтая непадобнасць.

Пушкін, як сцвярджаюць яго сучаснікі, гаварыў «з запалам, часам дасціпна, але не гладка».

Міцкевіч — наадварот: «ціха, плаўна і заўсёды лагічна».

Але гэта знешне. Унутрана ж, недзе ў глыбінях, яны былі такія падобныя! І душы ў іх, здаецца, былі блізкія.

Абодва бунтарна-тужлівыя: адзін на чужыне, а другі, як ні дзіўна, дома, на радзіме.

Абодва марылі пра волю і шчасце — і сваіх, і чужых, прыгнечаных, народаў.

Абодва, захопленыя жаночай прыгажосцю, зачараваныя самым цудоўным, што ёсць у гэтым свеце, — жанчынаю.

Абодва маладыя, амаль трыццацігадовыя. Пра што гаварылі яны? Ці толькі пра паэзію ды пра ўратаванне чалавецтва, як гэта і павінна быць у вялікіх?

Ды не ж! Вялікімі яны стануць потым, а тады яны былі звычайнымі, поўнымі жыцця, маладымі людзьмі і гаварылі якраз пра тое, пра што і павінны гаварыць равеснікі.

Гнаны Міцкевіч і апальны, у няміласці, Пушкін, сустрэліся ў Маскве ў 1826 годзе.

За імі ўжо паўстанне дзекабрыстаў, а перад імі яшчэ, як кажуць, польскае паўстанне.

Міцкевіч, задумаўшыся, уважліва слухае трагедыю «Барыс Гадуноў», якую чытае сам паэт, і захапляецца ёю, а Пушкін, схіліўшы кучаравую галаву, слухае «Конрада Валенрода» таксама ў аўтарскім выкананні і, уражаны прыгажосцю і глыбінёю паэмы, перакладае ўступ да яе.

Яны часам нават думаюць у адным накірунку.

Калі Пушкін расказвае Міцкевічу, што хоча напісаць паэму, такую, як «Тысяча і адна ноч», але на рускім матэрыяле, вясёлую і разумную, Міцкевіч здзіўляецца: ён таксама думаў пра такую ж паэму!

Перастывораны верш-містыфікацыю з сербскага фальклору — «Морлак у Венецыі» Праспера Мерымэ чамусці на польскую мову перакладае і Міцкевіч.

У сваім пісьме да сябра Міцкевіч пісаў пра Пушкіна:

«Неяк напішу пра яго больш падрабязна; цяпер толькі дадам, што я знаёмы з ім, і мы часта сустракаемся. Пушкін амаль аднаго са мною ўзросту (на два месяцы маладзейшы), у размове вельмі дасціпны і захоплены; ён многа і добра чытаў, ведае навейшую літаратуру; яго ўяўленні пра паэзію чыстыя і ўзвышаныя».

Пушкін любіў паэзію свайго наваградскага сябра, яму былі блізкія злосць і сіла міцкевічаўскіх радкоў, выбух пачуццяў, якія напаўнялі вершы — яны гучалі так натуральна, што здавалася: нараджаюцца самі сабою...

Знаёмае было ім абодвум потым і неразуменне, і цяжкое маўчанне, якое падзяляла, разлучала іх. Міцкевіч з болем успрымае вершы сябра, якія асуджаюць яго польскае паўстанне, — тыя вершы, што з далёкага Пецярбурга даходзяць на захад у спісах.

А Пушкін не разумее Міцкевіча і ягонай апантанасці яднання з гэтым паўстаннем, гаворыць пра яд у яго вершах і пра зласлівы голас паэта.

І ўсё ж у некралогу на смерць Пушкіна Міцкевіч напіша:

«Ніводнай краіне не дадзена, каб у ёй, больш чым адзін раз, мог з'явіцца чалавек, які спалучае ў сабе такія выдатныя і такія разнастайныя здольнасці».

І падпішацца: «Сябра Пушкіна».

Дзе падзяваліся, дзе зніклі вершы Адама Міцкевіча, якія ён пісаў на беларускай мове?

Якая гэта велічная, рупная і нялёгкая, але вельмі ўдзячная праца для будучых удумлівых даследчыкаў гісторыі нашай роднай літаратуры!

* * *

«Літаратура — гэта духоўная дзяржава нацыі, — сказаў Мустай Карым, вялікі башкір і растлумачыў: — «Народ і без нас, паэтаў, пражыве», — нярэдка кажам мы, прыніжаючы саміх сябе. А, па сутнасці ж, народ без паэта — яшчэ не народ, чалавечы статак. Народам гэты статак робяць навука, паэзія, мастацтва. Народ, які не прызнае, забывае сваіх паэтаў, зноў ператвараецца ў статак».

Леў Талстой разважаў: «Я ёсць — смерці няма. Смерць прыйшла — мяне не будзе».

І яшчэ: «Замест таго, каб тыя, на каго працуюць, былі ўдзячны тым, хто працуе, — удзячны тыя, хто працуе, тым, хто іх прымушае на сябе працаваць. Што за вар’яцтва!» — абураўся ў патаемным дзённіку для сябе ўсё той жа Леў Мікалаевіч.

Мы з Уладзімірам Караткевічам нарадзіліся на памежжы двух славянскіх светаў — усходняга і заходняга. Орша, Магілёў, Віцебск. Своеасаблівы памежны трохкутнік: адсюль аднолькава блізка і туды, і туды. І да Масквы, і да Варшавы.

Аднак адусюль нам яшчэ бліжэй да Полацка, сталіцы нашай першай беларускай дзяржавы — Полацкай Зямлі, да Вялікага Полацкага княства.

Мы крывічы. З дняпроўска-дзвінскага племя.

Мора мяняецца, але толькі зверху. А ў глыбінях — яно заўсёды вечнае, заўсёды адно і тое ж, заўсёды аднолькавае. Такое ж, як і ўчора, год назад, сто гадоў назад, мільён гадоў таму: моцнае, спрасаванае, нерухомае, энергічнае і самадастатковае. Стабільнасць і спакой заўсёды ўнутры яго.

Ці не тая ж раскоша ўпэўненасці ў сіле зямлі, у велічы дубоў і ў звычайным паху звычайных суніц.

Чалавек, які, спяшаючыся жыць, таропка ідзе наперад, нібыта сціскае ўсе дні перад сабою — як хвалі. І ўжо за ім яны зноў расслабляюцца, расціскаюцца і сцелюцца пад ногі іншым пакаленням.

Дзіўнае малое: дзіця верыць у казкі! Яно менавіта гэтым вылучаецца між сваіх равеснікаў, што верыць у казкі! Вакол камп’ютары, ноўтбукі, мабільнікі каля вушак немаўлят, а ён, гэты дзівак, верыць у казкі. Нонсенс! Якія казкі?! Якая вера?!

А мы ж у сваім дзяцінстве ў казкі верылі пагалоўна. Казкі былі нашым жыццём — незвычайным, віртуальным, але ж жыццём. Нейкім неверагодным, аднак усё роўна нашым. Мы не сумняваючыся верылі, што тое, пра што чыталі і чулі, і насамрэч было. Можа, не ў нашых Зубрэвічах, можа, блізка ад іх, а, можа, і вельмі-вельмі далёка, але ж было!

Здараліся і між намі тыя, хто не верыць у казкі. Але гэта былі ўсяго толькі адзінкі.

А цяпер адзінкі — унікальна! — тых, хто верыць у іх...

І нашы дзеці, успамінаю, яшчэ таксама шчыра верылі казкам. Пасля таго, як Дзед Мароз павіншаваў майго сына з Новым годам, уручыў яму падарунак — машынку, якія сын вельмі любіў (дарэчы, цяпер, дарослы, не любіць машын), і пайшоў да суседзяў пераапранацца, ён, увесь расхваляваны, расчулены і крыху разгублены, паклікаў маму ў куток і там ціхенька, каб ніхто яго не пачуў, прызнаўся:

— Мама, ты ведаеш, якую я тайну адкрыў? Гэта ж быў не Дзед Мароз, а наш тата!

Ужо наш час. Дзве дзяўчынкі пасварыліся.

— У цябе куртка з блашынага рынку, — сказала адна.

— А ў цябе джынсы за 20 тысяч, — з'едліва адказала другая.

З-за гэтага яны так счапіліся, так разышліся, што дарослым ледзь удалося разняць і супакоіць іх.

Успамінаю сваё дзяцінства, нават юнацтва. У школу мы тады хадзілі хто ў чым — у каго што было, тое і, не саромячыся, апраналі. Самымі звыклымі для нас былі футболачкі. З начосам і без яго. З маланкаю і без яе. З гумкаю, уцягнутай знізу: што хочаш кладзі запазуху — не вываліцца. У яблыкі ў іх было вельмі зручна хадзіць. Я, сірата, такім чынам нават і свае дакументы на журфак у Мінск вазіў. Запазухай. У футболачцы. На гумцы. На даху вагона. Не выпалі!

А на сваім выпускным вечары ў школе я быў у тапачках. У звычайных дэрмацінавых тапачках. Без каблукоў. Не было ў мяне чаравікаў. Касцюм, праўда, меў добры. Цёмна-сіні, шавіётавы. Бацькаў. Той, у якім ён вянчаўся з мамаю. У Зубрэвіцкай царкве. Калі яна яшчэ была жывая.

Дзеньгуб. Тое ж, што і гультай. Якое ёмкае слова! Разумееце, і дзень згубіў, і два згубіў, і тры згубіў... Адным словам, не чалавек, а дзеньгуб. Губіць, губляе цэлыя дні.

Так у маіх Зубрэвічах не гавораць. Аднак па ўсім адчуваю, што гэтае слова можа прыжыцца і ў нас.

Гартаю «Руска-беларускі слоўнік» братоў Гарэцкіх — Максіма і Гаўрылы, што выйшаў у 1918 г. у Смаленску. Якія свае мне ў ім словы: ведама, нашча, нехаця, барзджэй, тутацька, ідзець!

Бяру з паліцы рэпрынтнае выданне першай кнігі прозы Максіма Гарэцкага «Рунь», якую яшчэ ў 1914 годзе выдаў у Вільні сам Марцін Кухта. Чытаю, выпісваю: нанач, пуня, вазёкацца, замятуха, склычаны (пакамечаны), аткуля, німа, зюкаць, куваць (не каваць каня), мільгом, Пархвір, мялле, камлём (у веніку) заеду, знецейку, цёпацца венікам, «п'ецъ ханджу як ваду, а Язэп мажыць ею ногі ат прастуды», лацвей ім, саўсім, кулдык (перакуліцца), палепшаіць, кухан, балонка (шыба), банька (у касе), камлыжка, пушачка (скрыначка) і г. д.

Дык гэта ж як усё роўна нехта запісаў у маіх Зубрэвічах! Менавіта так гавораць у нас.

Памятаю, як Гаўрыла Іванавіч, які амаль на ўсе нашы пісьменніцкія вечары прыходзіў у Дом літаратара са сваёю жонкаю і з якім заўсёды было вельмі прыемна вітацца, неяк сказаў мне:

— Ведаеце, я сачу за вашай творчасцю. Ваша мова падобная на мову майго брата. У ёй я знаходжу і нашы, багацькаўскія, словы.

Я пакуль што яшчэ, на вялікі жаль, і на яшчэ большы сорам не пабываў у вёсцы Малая Багацькаўка, дзе нарадзіліся браты Гарэцкія — Максім і Гаўрыла.

Але мне светла думаць, што і там, у Багацькаўцы, людзі спрадвек шанавалі роднае слова, гатовыя былі яго, шаноўнае, пакласці сабе запазаху — грэцца ад яго і грэць яго самога — гэтак жа, як і мае прашчуры ў маіх Зубрэвічах.

Мы ж — побач. Да таго ж, калі я быў у камандзіроўцы ў Горках, мне казалі, што ў раёне ёсць вёскі, дзе жыве шмат Сіпаковых.

А на карце маштабам: у адным сантыметры 25 кіламетраў, ад маіх Зубрэвіч да Горак усяго толькі нейкіх два дзяленні...

Раптам мяне пачалі шукаць з кінастудыі «Беларусьфільм». З вытворчага аб'яднання «Летапіс». Перад гэтым мы з Анатолем Клышкам у 1973 г. зрабілі сцэнарый дакументальнага фільма «Белавежская пушча», і таму я думаў, што спатрэбіўся там у сувязі з гэтым. І не памыліўся.

На кінастудыю прыйшло пісьмо:

«Мы з сям'ёй у часопісе «Экран» прачыталі запіс пра выпуск кароткаметражнага фільма «Белавежская пушча». Сцэнарыстамі гэтага фільма былі А. Клышка і І. Сіпакоў. Нас, Сіпаковых, у пасёлку Стаўрова многа, але да гэтага часу мы не сустракалі, акрамя нашых, такіх прозвішчаў. Пераканаўча просім паведаміць: адкуль родам Ваш супрацоўнік І. Сіпакоў, ці хай бы ён сам адказаў нам — проста для ўдакладнення нашага прозвішча. Просім Вас адказаць па адрасе:

Уладзімірская вобласць,
Собінскі раён,
п. Стаўрова
Сіпакову Аляксандру Андрэевічу.
13/XII.73 г».

На пісьме была строгая рэзалюцыя тагачаснага дырэктара кінастудыі: т. Раманаву. «Прошу связаться с т. Сипаковым, рассказать о письме и ответить адресату. Адрес Сипакова указать с его согласия».

Я сам адказаў цёзку па прозвішчы, а можа, — чым чорт не жартуе! — і якому далёкаму родзічу, што тут, у Зубрэвічах, жылі мой бацька, мае дзяды, прадзеды і прапрадзеды, а далей я і сам нічога не ведаю, а таму і не магу растлумачыць, адкуль узялося ў гэтых мясцінах наша прозвішча.

Парадак заўсёды пачынаецца з непарадку. Са смецця! Вэрхал, тлум, друз. У душы і наяве. Прыбраў, падмёў, памыў, супакоіўся. І ўжо чыста! І парадак ужо! Ва ўсім — у думках, у галаве і ў целе.

Раней пісалі: кавалер ордэна. Цяпер пішуць: кавалер медаля. Што здарылася?

У малога спыталіся:

— Чым адрозніваецца карова ад быка?

— У каровы чатыры цыцкі, а ў быка — адна, — адказаў ён.

— Што ты нарабіў! Мусіць, ты, шаноўны, ніжняй сваёй галавою думаў.

Ён і гарэлку, як дрэннае парася, цэдзіць праз зубы.

— Ай, дык і мы ж не з адных цвятоў сабраныя.

У адзін паважаны часопіс я аддаў сваё апавяданне. Яго надрукавалі, а невялікі кавалак вярнулі назад. Вось што яны скарацілі:

«І праўда, я і сам памятаю, як фашысты бесцырымонна выпускалі з сябе газы — дзе стаіць, там і выпускае. Асабліва нас здзіўляла, што яны нібы спаборнічалі, хто зробіць гэта мацней і галасней, пукалі за сталом, за ядою. І задаволена рагаталі. Гэтая асаблівасць стала прычынаю нечаканай прыгоды, якая здарылася ў Нямеччыне з маім сябрам Толем Круцікавым.

Ён служыў у Заходняй групе войск у Германіі. Стаяў там на пасту. А каля яго праходзілі хлопец з дзяўчынаю. Ідуць, цалуюцца і пукаюць. Наперменку — то ён, то яна. І смяюцца.

Толю ж здалося, што маладыя немцы з яго здзекуюцца, пасміхаюцца з савецкага салдата — забыўся ён пра гады акупацыі, ці што? Ён тады «Калаша» з плячэй і ўгору: тра-та-та, тра-та-та...

Закаханыя спалохаліся, пападалі, ляжаць ні жывыя, ні мёртвыя. А ён для пэўнасці яшчэ раз: тра-та-та-та, тра-та-та-та.

Прыбегла начальства, адабрала аўтамат, пытаюць, што здарылася?

А ён ім адказвае:

— А чаго яны мне пад нос смярдзяць!

Толю за гэта камісавалі — у Зубрэвічы яго прывёз салдат і здаў пад распіску маці.

Толя ж, як быў жывы, часта смяяўся з тае стральбы:

— Але ж смярдзець перада мною яны тады перасталі».

Дэцыбелы. Як мы ратуемся ад шуму! Аднак і поўная цішыня таксама шкодная. Яна — штучная. Трэба, абавязкова трэба, каб недзе зашаптаў лісток, заныў камар, варухнуўся ў зямлі расток, уздыхнуў конь...

Як прыемна, светла і ўцешна ўмець радавацца і смуткаваць-маркоціцца адначасова.

Думка — заўсёды старэйшая за чалавека: яна звычайна перажывае таго, хто яе стварыў.

Нямір’е — гэта не толькі вайна. Гэта, часам, усяго толькі незадавальненне.

Кажуць, няшчасце — гэта добрая школа жыцця. Але ж кожнаму б хацелася ў сваім асабістым жыцці ўвесь час заставацца без гэтакай школы.

Ліст да незнаёмкі. У адказ на яе пісьмо. Ні самаго пісьма, ні нават прозвішча яе, ні адраса ў мяне не засталося. Толькі імя і дзень напісання пісьма.

Мінск, 21 ліпеня 1983 г.

Добры дзень, Лена!

Вось прачытаў Ваша пісьмо і нібыта сам памаладзеў аж напалову, вярнуўшыся, дзякуючы Вам, у сваю маладосць. І задумаўся: чакай, а дзе ж гэта я быў у свае дваццаць адзін год? Успомніўся студэнцкі інтэрнат на Бабруйскай вуліцы (гэта ля самага вакзала), крык цягнікоў (тады яшчэ паравозы галасілі на ўсю моц) і мы, галодныя і вясёлыя, што зацята спрачаліся — усе і пра ўсё. Спрэчкі былі гарачыя, апантаныя, я ўжо не помню зараз пра што, адзінае помню толькі, што мы ўсе згаджаліся, што ў жыцці павінна быць у кожнага чалавека нейкая вялікая мэта, якая заўсёды трымае ў спартыўнай форме і не дае магчымасці сумаваць, расслабляцца. І што дзіўнае, Лена, — вось прайшло столькі часу, а мне і зараз здаецца, што тая студэнцкая думка і сёння вартая ўвагі. Я веру ёй! Мэта не абавязкова павінна быць нейкай экстравагантнай (марыць можна не толькі пра генеральскае жазло ці пра поспехі славутай актрысы, але і пра лёс выдатнай, да прыкладу, швачкі, якая любіць сваю работу і якую паважаюць людзі, захапляючыся яе ўмельствам). Мэта не заўсёды можа быць дасягальнаю, але і імкненне да яе, дарога да яе ўжо сама па сабе ёсць найвышэйшая асалода і радасць, што асвятляе чалавеку не зусім лёгкае яго жыццё.

Неяк думаў пагаварыць з вамі больш звычайна, а цяпер, перачытаўшы напісанае, убачыў, што гэтая размова ў мяне атрымліваецца нейкаю па-газетнаму ўзнёслаю і павучальнаю. Гэта, мусіць, таму, што, нягледзячы на Ваша цікавае пісьмо, я ўсё роўна мала вас ведаю.

Адзінае толькі мне стала зразумела з Вашага ліста, што ніякіх сур'ёзных прычын для вашай хандры няма, не было і, вельмі шчыра спадзяюся, не будзе. А ўсё гэта маладое, выпадковае, калі перабольшваюцца самыя нязначныя дробязі, і яно з узростам звычайна праходзіць, а калі навальваюцца іншыя, дарослыя, клопаты, чалавек (і сам я ў тым ліку) пачынае адкрываць сваё свята ва ўсім звычайным, будзённым.

Лена, я раіў бы Вам вельмі шчыра не хадзіць ні да якіх дактароў і не займацца ніякімі таблеткамі. Гэта ўсё Вам не трэба! Ваш самы лепшы доктар — ваша маладосць, вашы самыя лепшыя лекі — таксама маладосць. А яшчэ, мне здаецца, Вам вельмі хораша можа памагчы ваша мама, якая, я спадзяюся, як усе мамы на свеце, добрая і ласкавая, — даверыўшыся ёй, Вы можаце справіцца са шмат якімі сваімі засмучэннямі...

І яшчэ з Вашага пісьма мне здалося, што Вы дужа ўражлівы чалавек. Дык не трэба гэтага баяцца! Вядома, уражліваму крыху цяжэй жыць, чым таўстаскураму, але ж гэта добра! Хіба, вы думаеце, лепей жыць тым, хто нічога не адчувае і каго нічога не хвалюе? Я перакананы, думаю, што і Вы згодзіцеся са мной, што так жыць вельмі і вельмі нецікава. Тым больш, калі гэты чалавек піша вершы...

Цікава было б пазнаёміцца з Вашымі вершамі. Прышліце, калі ласка. Магчыма, яны дадуць усе падставы для таго, каб запрасіць Вас на штогадовую нараду маладых пісьменнікаў.

А пакуль поспехаў Вам ва ўсім! Святла Вам і радасцей! Не сумуйце, не журыцеся.

З павагаю да Вас — Янка Сіпакоў.

Лена не адказала на ліст. Лена не прыслала сваіх вершаў. Веру, што яе клопаты і насамрэч былі несур'ёзныя, і яна іх хутка пераадолела сама.

Падарыў ёй кветку, і яна, дзеўчынёха, ужо ягоная. А ён усяго толькі, нават не гледзячы на яе, мімаходзь, нібыта між іншым, уторкнуў тую кветку, той рамонак, у яе далоньку.

А іншыя завальваюць кветкамі сваіх абранніц — і ўсё міма, міма, міма: не маё гэта, не маё...

Кветкі смяюцца і абдымаюцца. Кветкі кахаюць і жэняцца. Яны раўнуюць і жывуць сексуальным жыццём. Яны лашчацца і мілуюцца. Абдымаюцца пялёсткамі і тужліва глядзяць адно на аднаго сумнымі вачыма, калі абняцца не могуць. Каб дакрануцца пялёсткамі, яны скарыстоўваюць усе магчымасці: ловяць ветрык, лезуць пад ногі чалавеку і жывёле, абы толькі самім, між сабою дакрануцца пялёсткамі. Яны настойліва дамагаюцца кахання і потым ціхамірна, у пакоры заціхаюць. Як жанчына, якая ўжо спеліць, гадуе ў сабе мужчынскае семя.

Каханне кветак даследаваў шведскі батанік Карл фон Ліней. Пра інтымныя сакрэты кветак у яго кнізе «Дзеці зямлі».

Ліней пісаў:

«Кветкі — гэта выяўленне кахання раслін. Гэта радасць расліны. Кветаложа — гэта шлюбны ложак, дзе песцік і тычынка ўступаюць у саюз».

Дарэчы, у сваіх кваліфікацыях раслін і жывёл Ліней чалавека аднёсіў да жывёльнага свету, да класа прыматаў.

Была вясна, быў месяц май, калі нават трэска на трэску лезе...

У лазні.

— Ну, ну, дык пакажы, чым вы там грушы «околачиваете», абіваеце.

Толькі за адзін выкід мужчынскага семя выштурхоўваюцца да 120 мільёнаў сперматазоідаў. Сто дваццаць мільёнаў змагаецца ўсяго толькі за адно жыццё! Бо толькі той, хто прыбяжыць *туды* першы, і народзіцца. А ўсе астатнія загінуць. Во гэта конкурс! Во гэта прага жыцця! Адзін са ста дваццаці мільёнаў! І ўсяго толькі на адно вакантнае месца...

Хоць гэта, можа, нам і няёмка гаварыць, а чуць, — і тым болей, але ж усе мы, людзі, — кожны з нас паасобку, і ўсе мы разам — на самым пачатку былі сперматазоідамі.

Асалода — абавязковы дадатак да здароўя. Вельмі важная таблетка жыцця.

«Трымай яе, як птушку ў далонях — пяшчотна, але моцна. Крыху лішне прыціснеш — можаш прыдушыць, паслабіш далоні — вылеціць».

Гэта пра яе, каханую. Нібы сваеасаблівая інструкцыя. Яму, каханаму.

Першы курс журфака. Мы, першакурснікі, як гэта прынята, як гэта было і да нас, жывём, радасныя і шчаслівыя, што паступілі, у старэнькім, амаль не прыстасаваным для жыцця інтэрнаце на Нямізе і паступова прывыкаем да Мінска, да ўніверсітэта, да свайго пакоя, адзін да аднаго. А ў нашым пакоі — адны будучыя славутасці: Барыс Сачанка — будучы вядомы пісьменнік, Віця Дашук — будучы вядомы кінарэжысёр, Юра Нікалаеў і Пеця Казачонак — будучыя вядомыя журналісты — галоўныя рэдактары Ашмянскай раённай газеты і «Калининградской правды» ў Расіі.

І вось аднойчы ўжо надвечар расчыняюцца раптам дзверы і ў пакой нехта ўпіхвае веласіпед і заходзіць сам. За ім гэткім жа чынам укочваецца і яшчэ адзін ровар.

Адзін з хлопцаў кідаецца да мяне з абдымкамі. Гэта Федзя Юзафатаў, мой аднакласнік з Ленькавіч, з якім мы разам закончылі Зубрэвіцкую школу.

Мой сябра падгаварыў свайго сябра, яны раніцою ў Ленькавічах селі на веласіпеды і к вечару былі ўжо ў Мінску.

Што рабіць з веласіпедамі? Трэба парада каменданта. Камендант замкнуў іх у нейкую каморку. А паколькі ў нашых клопатах ужо задзейнічаны камендант, — трэба пачостка. Збегаў у магазін. А хлопцам ужо не да пачосткі — вядома, адкруціць цэлы дзень педалямі, ім ужо не піць, а адпачыць хочацца.

— Ведаеш, — расказваў мне ў мінулае лета Федзя, калі мы, аднакласнікі, збіраліся ў роднай школе, — вы там нешта гаворыце, весела жартуеце, а ў мяне вочы самі сабою зліпаюцца, галасы вашы здаляюцца, здаляюцца і зусім знікаюць... А тады і галава сонна боўтаецца на грудзі.

Словам, яны пераначавалі ў нашым пакоі. Спалі доўга, а мы іх і не будзілі — была якраз нядзеля, выхадны дзень і для студэнтаў.

Але Федзя прыехаў не проста так, не дзеля прагулкі. Мэта ягонай экскурсіі была зусім іншая.

У школе ён закахаўся ў маю стрыечную сястру Алю Сіпакову. Аля была прыкметнаю, прыгожаю і разумнаю дзяўчынаю, і ў яе ўлюбляліся хлопцы не толькі з нашага класа. Яна ж, здаецца, яшчэ не кахала нікога.

Алка вучылася ў Мінску, у радыётэхнікуме. І, як я ведаў, ужо сустракалася з хлопцам, з Валерам Агіевічам, сынам вядомага на той час крытыка Уладзіміра Агіевіча.

Федзя ж настойліва загадваў:

— Знайдзі Алю. Дай нам магчымасць сустрэцца. Я хачу ўбачыць яе. Пагаварыць з ёю. Ужо сама сустрэча, якая б яна ні была, стане для мяне святам.

І я знайшоў Алю. І яны сустрэліся. І яны доўга гаварылі. Пра што яны гаварылі, я не пытаўся ні ў Алі, ні ў Фёдара. Не адважыўся спытацца нават цяпер, калі мы ўжо ў добрых гадах, а Алкі даўно няма з намі.

А тады Федзя адразу стаў абыякавым да ўсяго і амаль моўчкі паехаў назад у свае Ленькавічы.

Аля ж неўзабаве выйшла замуж. За Валерыя.

Студэнцкія гады. Аўдыторыі. Лекцыі. Былі і цікавыя. Вельмі. Іх шмат. Ніна Аляксандраўна Сніцарава, маладая, прыгожая і разумная жанчына, шаноўны кіраўнік маёй дыпломнай працы. Рыгор Васільевіч Булацкі, які любіў усіх нас, студэнтаў, — і добрых, і благіх. Леў Антонавіч Шакун, што натхнёна, з найвялікшым пачуццём, аж закрываючы вочы ад насалоды, чытаў нам біблейную «Песню песняў» і заахвочваў да перакладаў яе на нашу родную мову.

Давід Яўсеевіч Фактаровіч. Ён звычайна пачынаў сваю першую лекцыю так: «И этот вертикальный козёл в штанах», і мы ўжо ўсе развешвалі вушы. А Іван Васільевіч Гутараў, вясялун і жартаўнік, былы беспрытульнік і доктар навук, прафесар. «И это я, Ванька Гутарёв» — казаў ён пра сябе. Я прысутнічаў на іхняй дыскусіі, Гутарава і Фактаровіча, на ўсеўніверсітэцкім рысталішчы ў самай вялікай аўдыторыі. Спаборніцтва ў красамоўстве (і не толькі) было бліскучым, але, шчыра кажучы, вельмі жорсткім.

Навум Ісакавіч Лапідус. «Плюс мой канспект» — звалі мы яго — гэтак ён тлумачыў нам, што трэба прачытаць перад экзаменамі. Ён нам выкладаў антычную літаратуру. З яго вуснаў мы пачулі: «Гнев, о богиня, воспой Ахилеса, Пелеева сына». Калі я працаваў у «Маладосці», ён нярэдка заходзіў да мяне — проста так, каб пагаварыць.

І, ад'язджаючы за акіян, таксама зайшоў. Развітацца.

А Іван Антонавіч Карабань, які чытаў нам рускае мовазнаўства. «Ай, писали, говорили, а всё-таки ясности в этом вопросе нет, не было и не будет». А Барыс Ізраілевіч Касоўскі з яго апантанай любоўю да раскрытыкаванага Сталіным вучэння аб мове Н. Я. Мара!

Ну, і вядома ж, ён, наш усеагульны любімец Марк Саламонавіч Зярніцкі! Мы яго з любоўю, за вочы, часам называлі : «Маркс Аламонавіч». Ён ведаў пра гэта і не крыўдзіўся. Прыходзіць аднойчы на лекцыю. «Ці чыталі вы «Не хлебам адзіным» Дудзінцава? — пытаецца. — Абавязкова пачытайце. Твор надрукаваны ў «Новом мире». Геніяльны раман, выдатнейшы твор». А праз дзень — ужо зусім іншае: «У, гэты нікчэмны Дудзінцаў! Такі шкодны, такі антысавецкі раман напісаў».

«Што здарылася?» — здзіўляліся мы. Аказваецца, гэты раман у пух і прах ужо раскрытыкавала «Правда»...

Паўтаруся: былі лекцыі цікавыя, змястоўныя. А былі і так сабе. А то і зусім ніякія.

Тады кожны з нас займаўся на лекцыі, чым хацеў. Я, адзін, нават стварыў цэлае выдавецтва «Мы самі з вусамі». Сам пісаў «кнігі» і сам «выдаваў» іх. На лекцыях.

Выдзіраў з канспекта чысты ліст, разрываў яго на дзве часткі, складаў палавінкі разам і згінаў пасярэдзіне. Атрымліваўся сшытачак на восем старонак. На першай старонцы пісаў: «Ыгігала» і назву твора, які збіраўся стварыць. Ыгігала — гэта мой псеўданім. У Зубрэвічах кажуць: «Чаго ты ыгігаеш?» Гэта значыць: чаго хіхікаеш, смяешся, прасміхаеш. Таму — Ыгігала. Ыгігала паспяваў за лекцыю напісаць твор у сшытачку, у канцы абавязкова паставіць: «Выдавецтва «Мы самі з вусамі», пусціць брашурку па радах, і ўсе аднакурснікі паспявалі прачытаць яе да званка. Звычайна мае «кнігі» назад

да мяне не вярталіся. Думаю, што некаторыя, як кампрамат, і сёння, можа, захоўваюцца ў некаторых маіх дасье некаторых арганізацый.

Але адна кніжачка да мяне ўсе ж вярнулася.

Цікава яе зноў пагартаць! Вось яна: «Ыгігала. Барацьба за жыццё. Эцюд».

«Іх двое. Ён і ён. Першы вялікі, тонкі, даўгі, з худым, бы ў старэнькага дзядулі, тварам. Другі — дзіўная супрацьлегласць першаму: маленечкі, кругленькі, з чырвона-бурай скураю. Такое ў іх адрозненне. Але, нягледзячы на гэта, іх робіць падобнымі між сабою адна думка, адно жаданне:

— Есці!

Праўда, першы еў нядаўна. Аднак гэта не дапамагло яму. Калі няма стыпендыі, тады, як назло, вельмі хочацца есці. Халера на яго, здаецца ж, усяго толькі тыдзень назад ёў, а ужо і зноў хочацца. Э, есці, брат, кожны дзень студэнту не дазволена, не паложана. Ваду пі і паветра нюхай. Калі ласка! А ты, таварыш студэнт, панам хочаш быць і аж раз у дзень есці гарохавы суп! Не, не выйдзе!

Студэнт уздыхнуў. Другі пачуў гэта. Яму стала сорамна за свае разбойніцкія думкі. Ды гэта ж эгаізм! «Дзе яна, тая мая гуманнасць падзелася?» — пытаўся ў самога сябе другі.

Але ж... Вышэй пупа не скокнеш. Ён таксама доўга не еў! Аж цэлых 5 год 364 дні і 23 гадзіны. А не еўшы яны, клапы, могуць жыць цюцелька ў цюцельку толькі шэсць год. Клоп пачаў разважаць. Гэты год не высакосны. Значыць, ён мае 365 дзён. Значыць, жыць мне засталося толькі адну гадзіну. Што рабіць? Калі я нап’юся крыві ў гэтага змардаванага дахадзягі — студэнта, то ён сёння ж памрэ ад малакроўя. Калі не нап’юся — я сам загнуўся вось на гэтай мурзатай прасціне. Памру і ніхто, паверце, не пашкадуе мяне. Не, так не будзе!

Але ж шкода, бедака... Што, шкода? Ага, шкода. Не, не, не — ніякага шкадавання, ніякага жалю! Хіба яны шкадавалі мяне ўчора, як упяцёх прыпякалі ў шчыліне стала? Не, ніякай літасці! Далоў гуманнасць!

Раптам ён успомніў словы Льва Талстога: «Возлюби ближнего»… Што? «Возлюби ближнего», а памры сам? Да клапоў гэтую думку, да ўсіх клапоў!

І галодны клоп упіўся ў цвёрдую, як мазоль, скуру студэнта, які ўжо спаў. Ён чакаў, што вось зараз хлыне ў яго і разальецца па ўсім целе цёплая ратавальная кроў. Але хабаток упёрся ў штосьці яшчэ больш цвёрдае. Костка! А кроў усё не цякла — у студэнта крыві ўжо не было...

Ад укуса студэнт усё-такі перавярнуўся. Клоп пачуў, як бразнулі адна аб адну яго косці. Выціраючы абсмаленымі запалкамі лапкамі свае вочы, з якіх паліліся шчырыя слёзы шкадавання, клоп пачаў адпаўзаць ад гэтага бразгатлівага мяшка касцей.

«У мяне засталося дваццаць хвілін, — думаў ён. — Калі паспею дапаўзці да другога ложка — выжыву. Не дапаўзу... ну, што ж... Такі ўжо мой лёс...»

І ён папоўз да ложка, на якім шумна дыхаў ва ўсе свае дзіркі студэнт аддзялення журналістыкі Лявон Лукашонак».

Выдавецтва «Мы самі з вусамі».

У гэтым жа маім выдавецтве «Мы самі з вусамі» мы з Віктарам Дашуком — дарэчы, ён і тады ўжо быў выдатным фотамайстрам, — зрабілі і своеасаблівы фотаплакат «Мы журналісты, мы скандалісты». На ім чамусьці змясцілі толькі здымкі хлопцаў з нашага курса з дасціпнымі, а, часам, і не вельмі, подпісамі. Думаю, гэты плакат ёсць і сёння ва ўсіх хлопцаў-аднакурснікаў. «Мы самі з вусамі» жартавала нязлосна, асабліва не лезла ў палітыку, а таму тыя, каму было даручана сачыць за намі, студэнтамі, не вельмі хваляваліся і паблажліва закрывалі, мусіць, вочы на наша блазнаванне.

Дыпломную працу я пісаў творчую. Упершыню на журфаку. Раней былі даследчыцкія: «Асвятленне такой і такой тэмы ў такой і такой газеце». А я замахнуўся на серыю нарысаў. Вядома ж, пра нашых сучаснікаў. Дазвол на гэта даваў нават рэктарат.

Я ўжо на той час працаваў у часопісе «Вожык». Павел Кавалёў, тагачасны галоўны рэдактар «Вожыка», узяў нас с Барысам Сачанкам на працу яшчэ студэнтамі.

Мне ж патрэбны быў час для стварэння дыпломнай. Павел Нічыпаравіч ва ўсім разумеў мяне і дапамагаў. І я адразу ж ірвануў на навабудоўлі Беларусі.

Найперш паехаў у Салігорск. Не, ілгу — ніякага Салігорска тады яшчэ не было, і я паехаў у Старобінскі раён. У вёску Вішнёўка. Сам Салігорск яшчэ быў у чыстым полі. У планах. Архітэктары і будаўнікі яшчэ толькі чарцілі яго — літаральна пад лінейку. Таму і атрымаўся горад — роўненькі-роўненькі. Кожная вуліца — сама дасканаласць, дамы таксама роўненька пастаўлены да яе.

А тады, пяцьдзесят гадоў назад, калі я прыехаў туды, — у чыстым полі стаяла адно некалькі хацінак ды бытоўкі для будаўнікоў і шахцёраў. У адной з іх жыў і я.

Прыехаў я на будучы калійны камбінат з камандзіроўкаю «Звязды» — галоўнай тады нашай газеты. Але камандзіроўку я нікому не паказваў. Пайшоў у аддзел кадраў — таксама ў хацінцы! — і мяне ўзялі на працу. Вучнем праходчыка! Камбінат толькі пачынаўся, сваіх шахцёраў у Беларусі не было і, зразумела, іх трэба было шукаць.

Трапіў у звяно Івана Зайко з брыгады Мургі: Жора Субота, Валя Гарошка, Коля Якаўлеў, Ваня Сіпакоў і Грант Майцясян — усе, апрача Гранта, — вучні праходчыка, і толькі адзін Майцясян — праходчык. Пасля першага аванса знік Жора Субота. Знайшлі яго. «Хлопцы, — тлумачыў ён, — калі ў мяне ёсць грошы — не магу!» Абмяркоўвалі Жору ў ствале, моцна пакрытыкавалі, узялі на парукі.

Пасля зарплаты знік і Валя Гарошка. Жонка шукала цэлыя суткі. Дапамаглі. Знайшлі і Валянціна...

Мы на той час прабівалі першы ствол, які чамусьці лічыўся трэцім. У забой спускаліся ў бодні — ніякай пад'ёмнай клеці яшчэ не было і заваду. Мы з нагамі і інструментамі залязалі ў бодню, і рукаятчык Коля Жалудок асцярожна, паціху апускаў нас на глыбіню. Гэткім жа макарам мы выбіраліся і на паверхню. І пароду мы дастаўлялі на «гара» ўсё ў той жа бодні: напаўнялі яе да краёў, торгалі за канат, і Жалудок выцягваў наверх тое, што мы напрацавалі.

Карыстацца адбойным малатком мяне вучыў сам Мурга. На жаль, забыўся ягонае імя. Ды мне здаецца, што яго я і не ведаў. Усе яго называлі Мургой. Гэта нібыта было і яго імем, і імем па бацьку, і прозвішчам. Мурга — і ўжо ўсё сказана. Ён прыехаў у вёску Вішнёўку аднекуль з Расіі, з нейкай вялікай шахты і меў ужо аграмаднейшы шахцёрскі вопыт.

Ён вучыў мяне з якога боку лепш падступацца да даламітаў, каб было зручней узламваць іх і разбураць. Яго інструктаж заўсёды быў арыгінальны:

— У шахце самае галоўнае што — глядзі ўгору і пад ногі: каб нічога не звалілася табе на галаву і каб ты сам не паваліўся.

Калі я пытаўся пра расолапрыёмнікі, ён толькі ўсміхаўся:

— Расолапрыёмнікі, кажаш? Легенды ходзяць, што нехта з шахцёраў купаўся ў падземных салёных азёрах, у якіх, каб і захацеў, не патонеш — такая, шчыльная там вада. Не вер ім, хлопча, і не бойся іх.

З Грантам мы мацавалі цюбінгі ў забоі, якія ўмацоўваюцца зверху штольні, каб прадухіліць абвалы.

Калі я усё ж, развітваючыся з брыгадаю, прызнаўся Мургу, хто я, ён толькі пашкадаваў: «Дарэмна, хлопец. З цябе б атрымаўся неблагі праходчык, — і памаўчаўшы, дадаў, — сказаў бы раней, дык я б цябе на розных аб'ектах абкатаў. Ты б больш пабачыў. А то: бодня — Коля Жалудок, Жора Субота — бодня».

Потым «Звязда» ў некалькіх нумарах друкавала мае нарысы з Салігорска.

А затым і з Наваполацка. Пасля Салігорска я паехаў у Наваполацк, дзе толькі што пачынаў нараджацца Полацкі нафтаперапрацоўчы завод. Зноў жа ў адзеле кадраў мяне прынялі на працу падсобным рабочым і накіравалі ў адну з лепшых камсамольска-маладзёжных брыгад муляраў, якую ўзначальваў Уладзімір Стральцоў.

Брыгада была дружная, нейкая сяброўская, свойская, як сям'я. Амаль адны дзяўчаты. Яны яшчэ сумавалі па дому. Зразумела, ніхто не паказваў гэтага, аднак яно ўсё ж часам прарывалася: «Дзяўчаткі, мне ў місу трапіў лаўровы ліст — значыць, пісьмо будзе».

Як яны прыехалі сюды, расказвалі мне самі. Прыехалі надвечар. Стомленыя і змэнчаныя — толькі адпачываць. А яны знайшлі нейкі парожні вясковы клуб, вымылі яго і зрабілі ў ім такія танцы! Як кажуць, аж да ўпаду.

Такое яно было, маё пакаленне — вясёлае, жыццярадаснае і адказнае: жылі ў палатках, а будавалі палацы.

Нам было *цікава* жыць!

Мы будавалі ці не першы жылы дом у Наваполацку. Пасярод вясковых хат. На землях навакольных вёсак, якія ўжо былі асуджаны. Ля яшчэ жывых студняў, з якіх бралі ваду і мы, ля хлявоў, з якіх яшчэ чулася лагоднае «М-у-у».

Праз колькі дзесяткаў гадоў, дзесяцігоддзяў, будучы ў Наваполацку, я шукаў той дом, які мы будавалі ў 1958 годзе. І не знайшоў. Абхадзіў шмат якія вуліцы, аблазіў многія двары і праспекты, а са сваёй маладосцю, сваім домам так і не сустрэўся. Помнік першай палатцы, той палатцы, першы калок для якой быў забіты 15 чэрвеня 1958 года, знайшоў, а таго дома — не.

Любуючыся горадам-прыгажуном, я ўспомніў словы аднаго камсамольскага работніка таго часу, які, ледзь не плачучы, гаварыў мне:

— А ты ведаеш, каб не мы, камсамольцы 60-х гадоў, такіх гарадоў, як Салігорск, Наваполацк, Новалукомль і на свеце ўвогуле не было б.

І яшчэ ўспомнілася нейкая вельмі зажураная сучасная песня:

Доживает свой век дорогое моё поколение
На обломках когда-то великой и гордой страны.

А сваю дыпломную працу — серыя нарысаў, — я абараніў на «выдатна». Вельмі ж годна прадстаўляла яе Ніна Аляксандраўна Сніцарова, шаноўны мой дыпломны кіраўнік.

Я і да сёння лічу, што дзяржава дзяржаў — Савецкі Саюз, была найвялікшаю сусветнаю цывілізацыяй, якой раней за ўсю сваю гісторыю не ведала да гэтага чалавецтва і якой доўга, на жаль, на вялікі жаль, вельмі доўга, а, можа, і ніколі не будзе на Зямлі.

Вось такімі мы былі ў нашым юнацтве:

«Дарагія мама, Коля і Паўлуша!
Дзень добры!

Заўтра іду ў паход, будзе 22 чалавекі, ідзём да 9 сакавіка. Мяне і тут выбралі ў начальства: я староста і памочнік загадчыка гаспадаркі. Будзем

несці прадукты: жанчыны — па 12 кг, мужчыны — па 15 кг (праўда, несправядліва, мужчыны маглі б несці і па 20 кг) гэта акрамя асабістых рэчаў. Там нам выдадуць штармоўкі і штаны (брюки) цёплыя, так што холадна не будзе. Білеты назад я ўжо заказала на 15 сакавіка на 22.30 з Петразаводска. 16 сакавіка буду ў Ленінградзе, а потым — у Мінск. Жывём у гасцініцы, бо турбаза «Косылма» закрытая, там аварыя — рамонт, замёрзла ўся сістэма. Жыву ў нумары адна, сплю з адчыненым акном, пад дзвюма цёплымі коўдрамі. Тут, у Петразаводску, пазнаёмілася з сям'ёй дактароў. У Ленінградзе мне на вакзале перадалі перадачу для сустракаўшых мяне ў Петразаводску. Мяне ў Петразаводску сустрэлі, запрасілі на чай, а там і на абед. Потым яны мяне праводзілі да аўтастанцыі, а там была аб'ява, што «Косылма» закрыта (гэтая турбаза знаходзіцца ў 35 км ад Петразаводска), і яны мяне праводзілі да гасцініцы «Карэлія», там я ўладкавалася, і мы пайшлі гуляць далей па Петразаводску. Да вячэры прыйшла, а там пазнаёмілася з нашай групай і на агульным сходзе мяне выбралі старастай, хаджу ў пашане, усе мне глядзяць у рот, што я скажу і як (о, умелі мы пахваліцца тады!) усе прадукты буду размяркоўваць я, ад дзяжурства на кухні мяне вызвалілі і па печцы таксама (тапіць печкі ў «прыютах» — гэта таксама наш клопат). Купіла кнігу Жуль Верна, карэльскі эпас і яшчэ сёе-тое. Цяпер спяшаюся на вячэру, кормімся пры гасцініцы ў рэстаране, кармёжка няважная, але мяне яна поўнасцю задавальняе. Заўтра мы з рукзакамі ідзём 10 км, затым да наступнага прыюта —18 км, потым — 26 км, далей — па 20 км. Абяцалі мяне не кінуць, бо без старасты і загадчыка гаспадаркі ім не абысціся. Пастараюся ў свой рукзак пакласці толькі макароны, яны лёгкія і аб'ёмістыя: рукзак будзе вялікі, але лёгкі ( а не, шаноўная, гэта ўжо не наша — мы тады былі не такія: стараліся ў свой рукзак пакласці ўсё цяжкое, каб іншым было лягчэй!). Да пабачэння. Цалую вас усіх. Прывітанне Галцы, Лідзе. Мама! Яшчэ раз віншую цябе са святам 8 Сакавіка! Напішу пасля паходу. Прывітанне Нікалаеву, калі пазвоніць».

Бачыце, якімі ўпэўненымі, мэтанакіраванымі, непаседлівымі былі мы: паходы, прытулкі, плечакі. Як настойліва ішлі мы па зямлі!

Маці заўсёды называла сваю дачушку: «Сонейка ты маё!» І раптам малая пачула, што яна з гэткімі ж словамі звяртаецца і да іншай, чужой, дзяўчынкі. Дачушка разгубілася, зніякавела, пакрыўдзілася. Спыталася:

— Мама, дык а колькі ж у цябе сонейкаў?

Натуральна, калі дзіця абавязкова смяецца і абавязкова плача, а пісьменнік — любіць і ненавідзіць. Адначасова. Тое, што хочацца любіць — любіць, а што не хочацца — ненавідзіць.

— Напомніце, калі ласка, мне, што я тут павінен рабіць? — пасля прызначэння, ужо новы начальнік, спытаўся ў таго, хто яго прадстаўляў.

— Вось я, маладая і прыгожая, аднак не разумею толькі, чаму мне гэтак многа гадоў?

Неба, натуральнае, блакітнае і неабдымнае — ад небаспаду да небаўздыму, — можна ўбачыць толькі ў вёсцы. У горадзе, абстаўлены высокімі дамамі, на яго глядзіш, як з калодзежа.

Каляды — свята ў гонар нованароджанага. Гэтае нованароджанае — Сонца! Сонца прыбаўляе ў першы ж дзень на адну хвіліну. На цэлую хві-

ліну! Дзіўна, аднак гэтую хвіліну мы ўжо заўважаем — нібыта, і праўда, пасвятлела.

Бачым, то паварот на лета. Нараджаецца сонца — нараджаецца лета. І пачынае паміраць зіма. У самы разгар зімы? У самы разгар! Мы ўжо молімся на хлеб, думаем пра яго: як сеяць, як даглядаць, як жаць ды малаціць. Спяваем калядкі, а самі думаем пра хлеб. Просім сонца быць літасцівым да нас і да коласа, а зямлю, якая неўзабаве прачнецца, — спагадліваю. Слухаем гукі — што дзе рыпне, што дзе гаўкне, хто дзе крыкне. Бо хлеб жа — наша асноўнае багацце, найшаноўны скарб беларуса.

Дзеля яго, хлеба, мы слухалі лес, слухалі свой падворак, слухалі вуліцу. Прыглядаліся, як гарыць лучына, ці хутка разгараюцца дровы ў печы, як цячэ вада ў рэчцы — каб зразумець, добрае што ці дрэннае чакае нас наперадзе.

Абсыпалі зернем, зерневым хлебам і хату, і гаспадара. Бацька хаваўся за абстаўленым ежаю сталом і пытаўся:

— Ці бачыце вы мяне?

— Не, не бачым, — адказвалі дзеці.

— Каб вы гэтак жа не бачылі мяне і за сцяною жыта! — Нібыта ўжо і цяпер, зімою, радаваўся ўраджаю бацька.

Каляды — зімовае свята, але думае яно заўсёды пра вясну ўжо, а то нават і пра восень.

Душу немагчыма пачуць і тым больш — убачыць, а яна баліць. Мусіць, гэта нейкі, незразумелы від энергіі, якую нельга вызначыць ці хоць бы пазначыць. Але яна непарыўна звязана з фізічным целам чалавека і абавязкова ўплывае на наш целавы і духоўны стан.

Душа не памірае. Яна ўваходзіць у Тонкі Свет — у іншасвет.

А, можа, на самай справе ўсё прасцей? Можа, каханне, любоў, прыгажосць, дабрыня, гармонія якраз і ёсць яна, наша душа?

Ён ужо такі стары, хоць ты запалкі ад яго хавай.

«Як еў я з голаду зямлю...» Радок, які ніколі не стане маім вершам.

Былі часіны, калі старажытныя славяне бралі даніну з пераможных бярозавымі венікамі.

Моцныя, тоўстыя, доўгія і высокія сцены вакол пабудоў — ці не помнікі гэта не чыёйсьці сілы і магутнасці, а ўсяго толькі звычайнай чалавечай баязлівасці?

Мяне расчульвае, калі чытаю, як настойліва, натхнёна, з любоўю і замілаваннем, Мірэй Мацье кідалася ў абарону цудоўнай французскай мовы.

Неспадзявана адкрыў для сябе — самая любімая кветка эстонцаў, як і ў нас на Беларусі, звычайны, сціплы, блакітнавокі васілёк.

На Саарэмаа даведаўся, што сімвалам Эстоніі з’яўляюцца някідкі на абыякавае вока ядловец і рукакрылы вятрак — цярплівы, нястомны і настойлівы шукальнік працоўнага ветру.

З павагаю зразумеў, што эстонец гэтак жа, як і беларус, шануе дрэва, мае яго за сябра, нават за сем’яніна — усюды, дзе толькі абжываецца сам, адразу ж закараняе яго ля сябе, селіць ля хаты. Эстонцы кажуць, што пабудаваць хату — гэта зрабіць усяго толькі палову справы. Другая палова справы, і не менш важная, пасадзіць ля хаты дрэва.

Усё гэта згадваецца з тых ласкавых дзён між вясною і летам, калі ў Таліне, яшчэ ў СССР, сама цвіў бэз, які ў Мінску ўжо адкрасаваў, адпеніўся, калі, здаецца, паўсюль у Эстоніі трапятліва лунала эмблема Дзён літаратуры і мастацтва Беларусі — тры сабраныя ў кветку сцягі-пялёсткі: зялёны, што ўвабраў у сябе колер беларускіх лугоў і дуброў, сіні, што набраўся колеру эстонскага мора і неба, і чырвоны — наш, агульны, тады, колер нашага супольнага сцяга.

Усё гэта з тых дзён, калі адбывалася яднанне нашых літаратур, песень, народаў. І моў — таксама. Калі так незвычайна ласкава гучала «тэрэ тулімаст!» (эстонскае «калі ласка!») і яму адгукалася наша, роднае «дзякуй!»

Гэтае яднанне працягвалася ўжо і потым, на беларускай зямлі, калі ў нашых гарадах і вёсках, прапахлых спелымі антонаўкамі і сцішаным на восень сонцам, гасцінна гучала наша «калі ласка!» і яму адказвала пакуль што незнаёмае нам «айцях!» (дзякуй).

Дні Эстоніі святкавала Беларусь.

Беларусь знаёмілася з літаратурай Эстоніі.

Беларусь знаёмілася з культурай Эстоніі.

Беларусь знаёмілася з мастацтвам Эстоніі.

Эстонія — самая маленькая і па тэрыторыі (яна займала ўсяго толькі 0,2 працэнта тэрыторыі Савецкага Саюза), і па насельніцтву (усяго толькі 1,5 мільёна чалавек) рэспубліка. Але яна вялікая сваёю літаратураю, агульнай культураю, самабытным мастацтвам, вялікаю самапавагаю, якія могуць быць такімі пры высокай агульнай культуры не толькі інтэлігенцыі, а і ўсяго народа.

Вялікі хлапчук Крысцьян Яак Петэрсан, які і памёр усяго ў дваццаць адзін год ад сухотаў, так і не здзейсніўшы тое, што яму наканавана было здзейсніць, стаў пачынальнікам эстонскай паэзіі. Гэта ён, вывучыўшы нямецкую, шведскую, лацінскую, грэчаскую, рускую, французскую і англійскую мовы, складаючы вершы па-нямецку, раптам, у XIX стагоддзі, задумаўся: «А чаму нельга пісаць на роднай эстонскай мове, якой гаворыць народ?!» Ён зразумеў, што можна і трэба, і застаўся ў народзе назаўсёды — і сёння паэт, бронзавы, натхнёны, з кійком у руцэ, у самым цэнтры Тарту ідзе па гары Таамямягі — даўнім гарадзішчы старажытных эстаў. Пясняр, творы якога праляжалі ў рукапісах амаль сто гадоў.

Дапамог эстонцам зразумець сябе і адчуць гордасць за сваю зямлю і ён, Фрыдрых Рэйнхальд Крэйцвальд, які вярнуў свайму народу яго ж эпас «Калевіпоэг» — шчаслівае спалучэнне працы народа і працы пісьменніка, плённае яднанне фальклору і асабістай творчасці.

І, канечне ж, яна, Лідзія Койдула, якая столькі зрабіла менавіта для самапавагі свайго народа, якая спявала пра радзіму і ў вершах прызнавалася, што не ведае і не помніць іншых песень, апроч тых, дзе гаворыцца пра родны край. І таму не дзіва, што калі на заключным канцэрце Дзён Беларусі ў Эстоніі хор Дзяржтэлерадыё пад кіраўніцтвам Віктара Роўды выконваў песню на яе словы «Мая Эстонія — мая любоў», уся вялікая зала слухала яе стоячы — як гімн.

А колькі іншых руплііўцаў на ніве роднай культуры ведаў эстонскі народ!

А сённяшняя эстонская літаратура — сучасная па форме, свая па змесце — сумленная, самабытная.

Беларускі верасень — тая ручаіна, па якой наша лета пераліваецца ў восень, — стаў эстонскім.

А перад вачыма ўсё яшчэ тыя шчырыя дні мая — чэрвеня, у якія пачыналася эстонскае лета.

І вялікія статкі камянёў, якія раскашуюцца і ўсюды ўзбоч дарог, і асабліва на астравах Маанзундскага архіпелага.

І вуліцы Таліна, на якіх у цесна-вабнае сярэднявечча ўрываўся стракатым натоўпам турыстаў наш тагачасны дваццаты век.

І рукі на мемарыяле Маар'ямягі, да якіх нясуць кветкі, рукі нібыта засланяюць ад усіх нягод і кожнага з нас паасобку, і разам усіх нас, людзей.

А беларуская восень тады ад усёй шчырасці была напоўнена словамі дружбы і павагі — усюды гучалі «калі ласка!», што па-эстонску будзе «тэрэ тулімаст!», і «айцях!», што на Беларусі вядома як «дзякуй!»

Максім Танк — глыбока нацыянальны, менавіта беларускі паэт, паэт свайго народа — і па мове, і па светапоглядзе, і па мысленні, і па адносінах да чалавека, да жывой і нежывой прыроды. Але ж яго паэзія якраз дзякуючы гэтаму і з'яўляецца інтэрнацыянальнаю, калі хочаце, сусветнаю, прыдатнаю для ўсіх народаў зямлі.

Ён знаходзіць свае вершы ля помніка Авідзію і ля помніка Янку Купалу, ля вясковага беларускага калодзежа і ля неапалітанскай затокі, ля наваградскай гары і ў аснежаных Татрах.

Яго вершы растуць у роднай Пількаўшчыне, якую, як ён сам, усміхаючыся, расказвае, заснаваў вясёлы, такі ўжо беларускі-беларускі грэк, і на сцежках Суомі, што сціпла і годна, як і паэтава радзіма, не адразу і не кожнаму раскрывае хараство прастораў і людзей; на беразе Нарачы і ў Парыжы, у афрыканскіх джунглях і ля ціхай лясной крыніцы.

Да паэта можа проста і звычайна прыйсці Хрыстафор Калумб і сказаць: «Браце, а я цябе тры дні шукаю». А ўсе гэтыя прывабныя дзяўчаты з Коста-Рыкі, венеры мілоскія, манашкі і іншыя цудоўныя вобразы цудоўных жанчын свету, якімі так шчодра населена паэзія Максіма Танка, — якія ж яны беларускія, свае, з маленства знаёмыя, з мілым і светлым клопатам жыць, жаць, кахаць, нараджаць і люляць дзяцей.

А вобразы беларускіх жанчын з Танкавай лірыкі! Яны, сарамлівыя і ласкавыя, прыгожыя і цнатлівыя, пяшчотныя і вясёлыя, працавітыя і годныя, дастойна ўпісваюцца ў кветнік жанчын свету, і іх з пашанаю можна паказваць у любым Луўры зямлі.

Вось гэтае натуральнае спалучэнне нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў мудрай і змястоўнай паэзіі Максіма Танка заўсёды ўражвала і ўражвае. Ён заўсёды будзе ў вельмі паважаным нашым шэрагу: Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Танк…

Якая гэта радасць і насалода чытаць родную літаратуру ў арыгінале, а не ў самых найлепшых перакладах на самыя лепшыя мовы свету самымі выдатнымі перакладчыкамі!

Падчас дзён беларускай літаратуры ў Ленінградзе ў 1968 годзе фотамайстра Н. Хандогін зняў мяне з Максімам Танкам, жывым класікам, маім кумірам, на беразе Фінскага заліва. Убачыўшы здымак, ленінградскія пісьменнікі казалі мне:

— Дык вы ж з Танкам як сын з бацькам. Падобныя!

Прачытаў у шаноўным нашым часопісе «Роднае слова»:

«У грамадзяніна Скурко, вёска Пількаўшчына, Мядзельскага раёна, бацькі беларускага паэта Максіма Танка, забараняецца ўсім партызанскім атрадам і групам, якія знаходзяцца часова або пастаянна ў гэтай мясцовасці, рабіць нарыхтоўку як харчавання, так і абмундзіравання і асабістых рэчаў».

Гэтую даведку 14 лістапада 1943 года выдаў Івану Фёдаравічу Скурко начальнік ваенна-аператыўнага адзела Партызанскага цэнтра Вілейскай вобласці Маркаў.

У нас у вайну таксама была такая даведка. Напісаў яе нам прыкладна ў той жа самы час мой стрыечны брат Мікалай Кантроўскі. Ён адразу ж разам з сястрой Марыяй, настаўніцай, пайшоў у партызаны, ствараў у Альхоўскім лесе першы партызанскі атрад, які потым увайшоў у брыгаду Кірпіча «Чэкіст», як атрад Клюшнікава. І таму, калі нейкія не нашы партызаны пачалі рабаваць нас, мы адважыліся аднойчы паказаць ім Мікалаеву паперку. Як узвіліся яны, пачытаўшы даведку, і як наадварот пачалі з яшчэ большай лютасцю забіраць у нас усё, што трапляла ім на вочы.

Я не разумеў: чаму? навошта? У нас жа вось паперка — нічога не браць... А яны, гэтыя вельмі злосныя, нейкія нелюдзімыя партызаны, гатовыя былі пазнімаць з нас, дзяцей, нават апошнія нашы транты.

Бацькоў у нас ужо не было — як забралі вясною 1943 года ў гестапа, так мы іх і не бачылі. А што магла зрабіць з імі, бандытамі, наша цёця Алеся, якая абараняла нас?!

Яны груба піхалі цёцю, білі нас прутамі, дубцамі. Мне здавалася, што яны робяць усё, каб мы ўзненавідзелі не толькі іх, але і ўсіх партызан наогул... Яны знарок паводзілі сябе так, каб выклікаць у нас злосць, абурэнне і нават агіду. Да сапраўдных партызан.

Потым я зразумеў, а затым і ў Лаўрэнція Цанавы, у яго кнізе «Усенародная партызанская вайна ў Беларусі супраць фашысцкіх захопнікаў» прачытаў, што гэта былі не партызаны.

У 1943 годзе фашысты ўзмацнілі барацьбу з беларускімі партызанамі. Памянялі і тактыку. Хітрасць і каварства паклікалі яны сабе ў памочнікі. Гестапаўцы пачалі ствараць ілжэпартызанскія атрады, якімі зручней было высочваць дыслакацыі сапраўдных партызан. Але найперш для таго, каб выклікаць у людзей нянавісць да сваіх, родных партызан.

Не сумняваюся, што і тыя «партызаны», што прыходзілі рабаваць нас, былі ілжывымі, створанымі гестапаўцамі.

Якраз на іх фашысцкую хітрасць і вераломства і папаліся мае тата і мама.

Неяк раней мне вельмі захацелася, заманулася, закарцела перакласці на беларускую мову вершы правадыроў свету, якія імі забаўляліся для асабістай насалоды. Разумееце, паэзія — гэта ж штосьці чыстае-чыстае. А тут войны, рэвалюцыі, катастрофы, забойствы. Хіба можна спакойна пісаць вершы, калі ведаеш, разумееш, што вось зараз па тваёй віне гінуць дзясяткі, сотні, а то і тысячы ні ў чым не вінаватых людзей?!

А вершы ж пісалі Сталін, Мао Цзэдун, Гітлер, Мусаліні, Хо Шы Мін... Цікава пакапацца ў іх мысленні. Што яны адчувалі тады?

Аднак з усіх правадыроў я пераклаў толькі «Турэмны дзённік» Хо Шы Міна...

І яшчэ ў мяне было жаданне перастварыць па-беларуску рускія паэтычныя шэдэўры ваенных гадоў, якія зрабіліся найпапулярнейшымі савецкімі песнямі і якія спявала ўся наша вялікая на той час краіна — Савецкі Саюз: «Землянку» А. Суркова, «Жди меня» К. Сіманава, «Священная война» В. Лебедзева-Кумача, «Враги сожгли родную хату» М. Ісакоўскага. Але ўвесь час нешта замінала ажыццяўленню гэтай задумы. З усіх названых шэдэўраў мне ўдалося перакласці адно «Враги сожгли родную хату». І то вось цяпер, толькі што. Хацелася, каб гэты шэдэўр застаўся шэдэўрам і ў перакладзе.

Спалёна ворагамі хата
З усёй ягонаю сям'ёй.
Куды ж цяпер ісці салдату,
Каму панесці смутак свой?

Пайшоў салдат з тугой і болем
На дзвюх дарог цяжкі суток,
Знайшоў салдат у чыстым полі
Зямлі ўтравелае грудок.

Стаіць салдат і, нібы ком’е,
Засела ў горле у яго.
Сказаў салдат: «Страчай, Праскоўя,
Героя — мужа ты свайго.

Рыхтуй частунак для салдата,
На стол пара ўжо накрываць —
Свой дзень, свайго вяртання свята
К табе прыйшоў я святкаваць».

Ніхто не адказаў салдату,
Ніхто салдата не сустрэў,
І толькі цёплы вецер кратаў
Траву магільную між дрэў.

Ён уздыхнуў, рамень паправіў,
Раскрыў мяшок салдацкі свой,
Бутэльку горкую паставіў
На шэры камень над труной.

«Не асуджай мяне, Праскоўя,
Што вось такі каханы твой:
Хацеў я выпіць за здароўе,
А мушу піць за супакой.

Збяруцца сем’і зноў на святы,
Ды не сысціся разам нам...»
І піў салдат з паходнай кварты
Віно з журбою напалам.

Ён піў — салдат, вайны надзея,
І з болем сумным гаварыў:
«Ах, як спяшаўся да цябе я,
я тры дзяржавы пакарыў».

Хмялеў салдат, слязой каціўся
Надзей нязбытных даўні жаль,
А на грудзях яго свяціўся
За горад Будапешт медаль.

Ах, якая гэта да немагчымасці, да слёз шчымлівая песня...

Не ведаю ні мамінага, ні татавага дзён нараджэння. Нават гадоў не ведаю, калі яны нарадзіліся.

Пісаў цёці Мальвіне, малодшай мамінай сястры, якой мая мама нібыта таксама была калісьці за маму. Думаў, што яна ведае, успомніць. Не ўспомніла. Прыслала толькі пісьмо.

«Ванечка, нават не ведаю, што табе напісаць пра маму. Вельмі мала памятаю даўняе, а калі я падрасла, то зразумела, якой яна была добрай, ласкавай, бо я ж расла пры ёй як з мамаю, не адыходзіла ад яе, нават калі яна ішла гуляць да сяброўак, я вельмі плакала, а калі да яе прыходзілі — я вельмі радавалася. Яна была харошай жонкаю, ласкавай маці. Умела жыць з людзьмі, яе ўсе любілі і да

яе звярталіся за парадаю, дапамогаю. Была добраю гаспадыняю, у яе ўсё было. Карацей, я дрэнных якасцей не памятаю, толькі памятаю з добрага боку.

Адносна яе ўзросту дакладна, дакументальна я нічога не ведаю, яе аднагодкаў ужо нікога няма. А вось што памятаю з яе слоў, то гэта і будзе дакладна. Калі да яе прыходзіла сяброўка, то яны з ёй гаварылі пра замужжа. Яна казала, што ёй 27 гадоў і каб выйсці замуж — няма чаго і думаць. Гэта я добра памятаю. А яшчэ яна размаўляла з цёцяй Улітай (з Шаўковіхай, маёй бабуляй, якая прымала роды, здаецца, ці не ва ўсіх зубраўчанак) — яна часта прыходзіла у Тумінічы да нас з Зубрэвіч, і яны зноў жа вялі размовы пра замужжа і пра гады. Потым яна выйшла замуж за твайго бацьку. Не ведаю, у якім гэта было годзе. Толькі ведаю, што вяселле было летам, бывае такое свята «Пятро», пасля гэтага Пятра ў нядзелю. Яны пражылі тры гады і тады ў іх нарадзілася Ніна. Дык вось трэба лічыць колькі Ніне гадоў і гады тваёй мамы да нараджэння Ніны. І гэта будзе дакладна. А калі я буду ў Тумінічах — там яшчэ жыве адна старая, якая ведала яе, — я спытаюся ў яе. Потым напішу. Хрысціліся мы ўсе ў Зубрэвіцкай царкве, а што цяпер знойдзеш там, якія запісы, калі і самой царквы ўжо няма?

Ну вось пакуль і ўсё. Пішы, Ванечка, і пра сябе, і пра сваю сям'ю. Да пабачэння».

Я падлічваў. Выходзіла, што яны, мае бацькі, нарадзіліся яшчэ ў пазамінулым стагоддзі. Ім абаім было б, каб былі жывыя, ужо недзе далёка за сто гадоў...

Мама. Яна заўсёды смуткуе, калі смуткую я, і радуецца тады, калі я радуюся. А часам я яшчэ радуюся, а яна ўжо смуткуе. А, здараецца, я яшчэ журуся, а яна ўжо радуецца. Мама нібыта ведае ўсё, што чакае мяне наперадзе.

Я кажу пра мамін партрэт, які стаіць у мяне ў кніжнай паліцы. Мамін твар, здаецца, мяняе свой настрой у залежнасці ад майго. І нібыта папярэджвае мяне пра нейкія непрыемнасці: глядзі, сынку...

Маміны вочы ўвесь час глядзяць туды, куды я ні пайду ў хаце. Пайду налева — глядзяць налева, пайду направа — і яны паварочваюцца направа. У любым месцы, у любым кутку маміны вочы знаходзяць мяне.

Можа, гэтая здольнасць толькі ў мамінага партрэта? Ці гэта незвычайныя магчымасці кожнага здымка?

Мой дзядзька Пятрок памёр маладым. Я, малы, ведаў яго і любіў. Часам нават гулялі з ім на нашай агульнай сцежачцы: ён у мяне кіне каменьчык, я падыму той каменьчык і кіну ў яго. І абодва — смяёмся, смяёмся, нават рагочам.

Памёр ён, як казалі, ад вады.

Было жніво. Была спякота. Дзядзька Пятрок, напрацаваўшыся і сасмягшы, прыйшоў дадому і, нагнуўшы над сабою поўнае вядро з халоднай — аж зубы заходзяцца! — вадою, прагна, са смакам піў яе доўга і шмат.

І памёр. Як зноў жа казалі зубраўцы:

— Вада ў яго жываце зрабілася каменем.

Я ўвесь час сумняваўся: як гэта ад вады можна памерці?

Аказваецца, і праўда, вадою, чыстай вадою, можна атруціцца.

Гэта называецца воднаю інтаксікацыяй, ці пітною хваробаю. Вада не паспявае прайсці праз ныркі і паступае ў іншыя органы, якія ад лішкаў яе набухаюць. А ныркі могуць прапусціць толькі адзін літр вады ў гадзіну...

* * *

У тыя, расчыненыя насцеж, дзверы
Прывядзе нас усіх адна дарога.

Сыдуць туды жабракі і мільярдэры,
І ніхто не забярэ з сабою анічога...

* * *

Я пазбавіў дрэва жыцця —
Я зарэзаў бярозу!
А лісткі, як жывыя, трымцяць
І галінкі не чуюць пагрозы.
Пакуль што...

* * *

Паміж намі і небам,
Паміж пеклам і намі
Толькі наша жыццё —
Як зялёны цунамі...

У Хімах. Пчаляр-аматар. Да яго ў парожнія вуллі ўляцелі самі і адразу аж пяць раёў. Яму казалі, што гэта вельмі дрэнная прыкмета. Не верыў. Радаваўся.

А праз месяц і праўда памёр.

— Адбіўся ад пчалы, — сказаў ён.

А я падумаў: «Бач ты яе, здавалася б, такая маленькая, безабаронная, а ад яе трэба во як сур'ёзна адбівацца».

І яшчэ падумаў: «Пчалу немагчыма перамагчы — яна не адчэпіцца. Яе можна толькі забіць».

Стаю ў садзе, крыху нават далекавата ад вулляў. Раптам тонка, далікатна, ненавязліва запахла мёдам, і я адчуў нейкі лёгенькі, ледзь улоўны ветрык — нават уявіў як бы ён, калі б у мяне былі крылы, нябачны і нячутны, падсунуўся пад іх і падняў бы мяне над зямлёю.

Пчолы вентылявалі, праветрывалі сваё жытло. Было лета, была заціш і, нягледзячы на надвячорак, стаяла ўсё яшчэ духата. І я, нібыта наяве ўбачыў як там, у вуллі, тысячы, не, дзесяткі тысяч пчолак, такіх ужо руплівіц, нястомна трапечуць сваімі крылцамі, асвяжаючы паветра. Той ветрык, народжаны ў вуллі, даходзіў і да мяне, гладзіў далікатна мой твар, і быў ласкавы-ласкавы і прыемны.

Ён таксама пах мёдам.

У нас, беларусаў, амаль арыйская, як у старажытных арыяў, любоў і павага да каровы: «Вось жонка твая, і вось твая карова».

У яго як усё роўна заечая губа на вялікім пальцы — вайстрыў касу мянташкаю і разрэзаў.

Характары. Сядзяць яны праз дарогу. Кожны на сваёй лавачцы.

— Дай прыкурыць, — кажа адзін.

— Хадзі, прыкуры, — адказвае яму другі. — Ці ты, можа, хочаш, каб я табе прынёс? Не дачакаешся.

— А ты кінь карабок. Я злаўлю.

— На, лаві, — у злосці крычыць сусед і кідае карабок з запалкамі — сабе пад ногі.

Той, хто прасіў, здзіўлены, змоўк. Маўчыць і гэты. Той пасядзеў, пасядзеў і так і не прыкурыўшы, пайшоў у свае веснічкі. Другі таксама, яшчэ крыху счакаўшы, падняў з пылу карабок, абтрос яго, абхукаў, паклаў зноў у кішэню і таксама моўчкі пайшоў у сваю хату.

Вецер, як птушка, упаў у канюшыну, пашастаў там, пакруціўся, пашамацеў, лётаючы, і нечакана заціх, стаіўся.

Калі б мы яго, гэты вецер, маглі вось зараз убачыць, заўважылі б, як ён, падклаўшы пад сябе доўгае і пругкае, але невідомае, крыло, прыснуў. Усяго толькі на хвілінку.

Прырода мае чалавечую душу! Не, яна мае сваю душу. Можа, яшчэ больш гарманічную, чым наша чалавечая.

Прырода — гэта паралельнае жыццё на планеце зямля. Побач з чалавечым. Усё на Зямлі мае сваю душу. Гэта своеасаблівыя «людзі» — і дрэва, і кветка, і мурашка, і грыб, і рака. Усё жывое! І вада ў рацэ — таксама жывая!

Дождж быў жывы. Ён ішоў. І лашчыўся.

— Я, радасны, падаю табе ўсе свае дзесяць пальцаў і кажу: «Дзень добры!»

Ён быў голы — нават больш голы, чым чарвяк.
І не меў нічога, што б можна было згубіць.
І не жадаў анічога, што б хацелася ўсяго толькі знайсці.

«Сочные гроздья её полных, спелых грудей».

Калі б я пісаў на рускай мове, мне б вельмі захацелася калі-небудзь ў сваіх творах знайсці месца для гэтага сказа, які проста заварожвае мяне:

«Сочные гроздья её полных, спелых грудей».

Зімны і зімні. Гэтыя словы часам блытаюць.

А яны ж — такія розныя! Зімні — гэта зімовы: зімовы часнок. А зімны — гэта халодны: зімны вецер, зімнае паветра.

«Кароў пагналі на пастушню». Іменна так — пастушня! Пагналі не ў поле, а на пастушню. Вельмі дакладнае слова!

Цета, Плаксіч, Ціжба (мітусня) — старажытныя язычніцкія імёны.

Я хачу пабыць у лесе як паветра. Каб нікога і нічога не зачапіць.

Я хачу пабыць у лесе як праменні. Каб нікому і ніяк не замінаць.

Я хачу пабыць у лесе і як вецер. Калі і зачапіць які лісток, то толькі для таго, каб палашчыць яго ці проста павярнуць іншым бокам да сонца.

Калі думаю пра сваё, ужо, лічы, пражытае жыццё, разумею, што нічога ў сваіх творах не выдумаў, а ўсяго толькі запісаў тое, што мне расказвалі свае дрэвы, травы, кветкі, сцежкі, дарогі, свае пушыстыя сонечныя промні і свае сняжынкі, а таксама чужыя вада і снег з акіянаў ды з полюсаў, горы і цясніны між імі, саксаулы, фіёрды і джунглі, якія я бачыў і якіх не бачыў, а самае галоўнае і каштоўнае ўпрыгажэнне майго жыцця — людзі, сярод якіх, з якімі быў я часцей за ўсё шчаслівы.

У ягадах. Іду па лесе, і раптам вочы міжволі натыкаюцца на яго. Ён, увесь натапыраны, узлаваны, непрыступны — адны рэбры, — злосна і пагрозліва глядзіць на мяне з гушчару. Страшны-страшны. Рашучы-рашучы. Сярдзіты-сярдзіты. Не падыходзь! Ногі яго — а іх многа! — падабраны ўжо, і ён вось — вось скочыць на мяне...

Я ласкава ўсміхнуўся яму. Кажу: «Ну, ну, дарагі мой дружа, дык пакажы ж ты мне, што ты так аддана беражэш, што хаваеш там, куды не хочаш пускаць мяне».

Абыходжу яго, прадзіраюся праз гушчар, двойчы падаю на бураломах, нарэшце, выходжу на палянку між нетраў і аж нямею ад радасці: уся палянка ўсыпана буйнымі, чырвонымі, сакаўнымі, нікім не чапанымі, суніцамі!

Дык вось што ты ахоўваў, дарагі мой страхотнічак, шкілецік, рэбрысты каркасік высахлай верхавінкі ёлкі, з якой абсыпаліся даўно ўсе іглiцы! Дзякуй табе, што збярог палянку для мяне!

Была звычайная летняя раніца.

На ўсю сваю ласку свяціла сонца — быццам хацела пагладзіць усё, што трапіцца яму пад промні.

Ва ўсе вочы, захоплена і зацікаўлена, глядзела, азіраючыся вакол сябе, ядраная і зыркая раса — нібыта ўсё гэта яна бачыла ўпершыню.

Раскашавалася ў гэтай харашыні, увачавідкі расла і большала бучная трава — яна задаволена варушылася, выслабаняючы з зямлі кожны лісток, раскрываючы як найлепей кожную кветку.

І спакойна, на ўсе грудзі, дыхала зямля.

Шчасце жыцця, сэнс яго — мусіць, у самім жыцці.

**2009—2010 гг.**





## Юрый ФАТНЕЎ

### РЭЧКА БЕСЯДЗЬ

Далеч весніцца, чыстая, сіняя…
Рэчка Бесядзь, спакой падары.
Ты нясі мяне, ты нясі мяне
Ў беларускія вечары!

Маладзенькі там месяц над возерам,
То й не дзіва, што ён — маладзік.
На бярозе радзімка там росіцца,
Як радзімы зняверанай крык.

Там паводкі гудзяць несупынныя,
Там крыніцы — схіліся ды пі!
Рэчка Бесядзь, вадой хуткаплыннаю
Проста з ганка мяне падхапі.

Падхапі, як ільдзінку застылую,
Зружавелую ад зары.
І няхай памахаюць мне крыламі
Дзіва-птушкі Чырвонай Гары.

Ў два вяслы свае рукі раскіну я —
І туды, да апошняй зары…
Ты нясі мяне, ты нясі мяне
Ў беларускія вечары!

---

***Фатнеў Юрый Сяргеевіч*** *нарадзіўся 10 лютага 1938 года ў сяле Акімаўка Краснашчокаўскага раёна Алтайскага краю ў сям'і ваеннаслужачага. У 1941 годзе з бацькамі пераехаў у Беларусь. Вучыўся ў Новасвержанскай сярэдняй школе Стаўбцоўскага раёна. З 1956 года жыў і працаваў у Казахстане, Беларусі, Расіі. З 1990 года жыве ў Гомелі.*

*Аўтар паэтычных кніг «Любимое» (1962), «Общий вагон» (1964), «Поёт рожок у Сожа» (1967), «Лирика» (1971), «День прозренья» (1978), «Костёр на пристани» (1983), «Птицы ночи» (1994), «Сны Земли» (2005), рамана «У эха нет лица» (2008) і інш.*

* * *

Васількі Расіі, дзеці жытняй далі,
У мяне імя вы нават не спыталі.

Толькі ледзь ад ветру затрымцелі, можа.
Я для вас, напэўна ж, як і ўсе, прахожы.

Многія праходзяць у вячэрнім гуле.
На мяне здаля вы, як на іх, зірнулі.

Васількі Расіі, вам я невядомы,
Бо не рос я з вамі, кінуты ад дому…

Разам з васількамі дні перабіраю,
Дні сваёй самоты па бацькоўскім краі.

Васількі Расіі, дзеці жытняй далі,
У мяне імя вы нават не спыталі.

## ЧОРНАЯ КАШУЛЯ

Я чорную кашулю зашываю —
І будзе зноў кашуля як жывая.

Як апрану — жыццё пачну спачатку:
Яна ўмясціла чорных дзён пячатку.

Кашуля, дзён журботных апранаха,
На мне сядзела змрочная, як птаха.

Я мыў кашулю — час ляцеў злюцела,
Але яна ніколькі не святлела.

Кашуля, дзён журботных апранаха,
На мне сядзела змрочная, як птаха.

Расстацца з ёй — адно наклікаць згубу.
Навечна ў ёй запомніўся я любай.

Чакала — мо прыйду ў кашулі белай,
Ды толькі гусі міма праляцелі…

І з кім цяпер мне бавіць час вячэрні?
Адна кашуля засталася вернай.

Кашуля, дзён журботных апранаха,
На мне сядзела змрочная, як птаха.

Я чорную кашулю зашываю —
І будзе зноў кашуля як жывая.

* * *

Столькі адмераў жыццёвай дарогі!
Поўдзень жыццёвы. Няшмат удалося.
Ў гэтай краіне не стрэў анікога,
Быццам нікога і не засталося.

Дах бы знайсці, каб уткнуцца ў падушку,
Высніць нанова і Русь, і Расію.
Шчасця не трэба — я выпусціў птушку,
Дый залятаць у душу не прасіў я.

Мне ўжо гадоў засталося нямнога.
Хочаце — трохі накіньце-прыбаўце.
Дожджык сляпы пераходзіць дарогу,
Палачкай светлай звініць па асфальце.

Ласкі даўно не чакаю ад Музы:
Счэзла душа, і пустэча ў паглядзе.
Вербы галінка — адзіны саюзнік —
Твар мой лагодна-пяшчотна пагладзіць.

Радасці рэдкія — кусцік ажыны,
Лепет дзіцячы, што сэрца сціскае…
Не разлюбіў, хоць дайшоў да мяжы я.
Можа, ў жыцці толькі гэта й трымае…

## КОНІ П'ЮЦЬ ВАДУ З ДЗЯСНЫ

Сонца з небнай сінізны
Залаціла кроны,
Як пілі ваду з Дзясны
Спутаныя коні.

Восень пошумам бяроз
Калыхала грывы,
І чамусьці быў да слёз
Я тады шчаслівы.

Дні не вернуцца назад,
Толькі й сёння помню:
Быццам коні, мой пагляд
Мкнуў да рэчкі поўнай.

Як пражыў я між людзей?
Шмат зрабіў ці мала?..
Проста быў пагодны дзень —
І душа спявала…

Дзе тут ява, а дзе сны? —
Мчыць гадоў пагоня…
Ды ваду ўсё п'юць з Дзясны
Спутаныя коні.

## ВЕЦЦЕЙКА ЗЯЛЁНАЕ

Па жыцці чарговы крок —
І агню агонія.
Ды кранецца незнарок
Веццейка зялёнае.

Веццейка зялёнае,
Шчэ не засмучонае.
Ах ты, лёс мой, марны лёс —
Мною праваронены.

Хутка ўлада цемнаты,
Хутка ўсё зыначыцца.
І чаму так позна ты
Пажадала ўбачыцца?

Каб не спаў я давідна
Са сваімі бедамі?..
Абяцаеш мне спаўна
Тое, што не зведана.

Помню й сёння праз гады:
Быў і я зялёненькі.
Уяўлялася тады
Ты лазінкай тоненькай.

Да цябе спяшаў штоміг,
Шлях быў не кароценькі.
Не хапала сіл маіх
Твае гладзіць коцікі…

Веццейка зялёнае,
Шчэ не засмучонае.
Ах ты, лёс мой, марны лёс —
Мною праваронены.

## ЧЫТАЮЧЫ АЛЬБЕРА КАМЮ

Бываюць гарады — такія, як Фларэнцыя.
Там столькі цішыні і радасцяў зямных.
Я з горыччу ўздыхну, стрымаць не ў сілах сэрца я, —
Як воблакі, яны растаюць цераз міг.

У гэтых гарадах, дзе сэрца разрываецца,
Ніколі мне не жыць, ніколі мне не жыць.
Язмін там цэлы год цвіце, не асыпаецца,
А лодкі ўсё плывуць, і ўсё вада бяжыць.

Даносіцца здалёк дзівослівая музыка,
Пачуцці неўпрыкмет душу вярэдзяць мне.
Здаецца, што брыду я вуліцаю вузенькай
Стагоддзяў пяць назад, і, можа быць, у сне.

Нібыта клавесін. Ці гэта толькі чуецца?..
Не ведаю, куды па музыцы плыву.
Далейшае жыццё з душой маёй нітуецца.
Здаецца, што я там, што я не тут жыву.

З гадамі ўсё цяжэй мінулае вяртаецца.
І калі тут памру — там застануся жыць.
Язмін там цэлы год цвіце, не асыпаецца,
І лодкі ўсё плывуць, і ўсё вада бяжыць.

Бываюць гарады, такія, як Фларэнцыя…

## ЧЫРВОНЫЯ ЛАДДЗІ

Спіць Грэцыя даўно. Славуты чэзне Рым.
Плывуць яны, свой лёс адпрэчваюць адчайна —
Чырвоныя ладдзі пад сонцам залатым,
Густую сінь нябёс расплёскваюць, як чайкі.

Мажліва, ўсё ж яны — мной выснены міраж
І ў гэту прыгажосць паверыў я замнога.
За гэты свой прыдум мне сёння страшна аж,
Нібыта за жыццё, пражытае без Бога.

Гарбату піў, хоць знаў, што ісціна ў віне,
І вецер часта кляў: то ўсходні, то заходні.
Так дзень прайшоў, і так астатні час міне,
Ды ўспомняцца ладдзі і ў час перадзыходні.

Няўклюдам я не быў, як і не быў крутым,
Калі перада мной шчасліва прамільгнулі
Чырвоныя ладдзі, ды быў шчаслівы тым,
Што гэты цудны міг я ўсё ж падкараўуліў.

І ўпэўніўся тады: святы ці не святы,
На вёслы налягай — і знікнуць павароты…
Чырвоныя ладдзі. Круг сонца залаты.
І дай жа Бог не знаць пра ўсё, што будзе потым.

* * *

Данясецца музыка… Дзіўная, ласкавая.
Ці анёлы плачуць там, дзесь на небясі,
Ці мо хто загадкавы, як бы паміж справамі,
Музыкай захоплены, сеў за клавесін?

Навявае вечнае вішня веснім вечарам,
Ля акна я слухаю перазвон гітар.
Вішня ўся прасветлена, ласкаю расквечана:
У цыліндры казачным падышоў ліхтар.

Ад кахання ў горычы, а яшчэ ў нясмеласці
Моўкне прад паненкаю. Вось табе і на!
А, па праўдзе кажучы, можа б, і не стрэліся,
Каб не гэта музыка дзіўная адна.

Слухаю — і мрояцца вузенькія вулачкі,
Дахі чарапічныя, ціхі гарадок.
А ліхтар даверліва хіліцца-сутуліцца,
Музыкай атулены з галавы да ног.

Ды мае зайздроснікі гнеўна абураюцца:
Што ж такую музыку чую я адзін?!.
А ліхтар з паненкаю танчаць аж да раніцы,
І ў акне расчыненым плача клавесін.

* * *

Ты прыйдзеш да мяне са снежнае прасторы
Ў гасцініцу маю ў раённым гарадку.
І будзе снег ісці, і калыхацца штора,
І будзе грэць рука самотную руку.

Не ведаю цябе, ці ты каго любіла,
За што цябе люблю, не верачы ў гады.
На хвілю злучыць нас няведамая сіла,
А потым развядзе няўмольна назаўжды...

Травою прарасту, і мо вякоў праз дваццаць
Паўторыцца усё ў далёкім гарадку.
І будзе снег ісці, і штора калыхацца,
І будзе грэць рука самотную руку…

* * *

Я ў цябе. Па кватэры так молада
Сонца промень прабег паласой.
Абсыпай жа мяне скіфскім золатам
Спакушальных сваіх валасоў!

Я ў тваім жаўтападзе гадзінамі
Так люблю адзіноту суняць.
І падасца на хвілю адзіную:
Валасы твае ціха звіняць.

Мне інакшыя нават не мараццa.
Я пакуль што не пыл і не міф.
Не маліўся ніколі я Арасу
І дароў не падносіў сваіх.

Да сябе я не клікаў аракулаў,
Каб па кроплі выпытваць свой рок.

Мне ў дваццатым стагоддзі патрапіла
Закахацца ў цябе незнарок.

Ні канём не валодаў, ні горадам —
Толькі скарбам: тваёю красой…
Абсыпай жа мяне скіфскім золатам
Спакушальных сваіх валасоў!

* * *

Мора так бэзава-сіне ўскіпела,
Ці за акном расцвіла ўжо вербена…
Яхта чырвоная з ветразем белым —
Быццам бы прывід над кужалем пены.

Локцем адчуць гэты борт разагрэты,
Поглядам піць далягляд зухавата…
Дзесьці за гладдзю пяшчотнага лета
Скіфы жывуць, навальнічаць сарматы.

Пыл замяцеліць у стэпе ссівелым —
Думкі нясуцца за ржаннем нязвонкім.
Шле гарачынь агнявейныя стрэлы,
Ці працінаюць вякі амазонкі?

Невад закінеш — здабычы так многа.
Песні ракушак я б слухаў без меры.
Чуецца посах аэда сляпога,
Прывідны поступ самога Гамера.

Міфамі нехта прастору засеяў.
Востраў прымроіцца... Можа, Ітака.
Вецер, абвеяўшы твар Адысея,
Шмат навявае легенд усялякіх.

Бачыцца Азія досыць заможнай.
Хтось за рабынь рве яшчэ залатоўку.
Тыя ж, як рукі апусцяць на сцёгны, —
Стануць падобны на амфары зноўку.

Іх хараство ты паглядам прыгубіш,
Аж пазайздросцяць на небе святыя.
Пі прыгажосць, покуль жыць яшчэ любіш!
Пі! Не спустошацца амфары тыя!..

Працверазець бы ад вечнага хмелю,
Погляд аб'ясніць імгненнем адзіным…
Яхта чырвоная ветразем белым
Светла махне, бы крылом лебядзіным.

***Пераклад з рускай Міколы Шабовіча.***

Васіль ШУР

# ОНІМ-ЭТНОНІМ *ІВАН* У ТВОРАХ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ І ФАЛЬКЛОРЫ

У моўнай практыцы, асабліва ў мове мастацкай літаратуры, уласныя імёны паслядоўна выкарыстоўваюцца пераважна з улікам традыцый фальклору, народна-дыялектнай мовы, папярэдняга вопыту мастацкай літаратуры, часу стварэння твора, а ў пэўнага аўтара — яшчэ і з улікам яго індывідуальнага стылю, густу і схільнасцей.

Імя *Іван* — тыповы анамастычны тэкстаўтваральны кампанент у творах беларускіх, рускіх, украінскіх пісьменнікаў. Гэты онім у выніку шырокага ўжывання ў грамадстве, фальклоры, творах мастацкай літаратуры выяўляе самыя разнастайныя назыўныя асаблівасці і мастацка-эстэтычныя канатацыі, спалучаючы намінацыйную і характарыстычную функцыі: перадае індывідуальна-аўтарскую афарбаванасць, выступае як онім-сімвал, з'яўляючыся спецыфічным этнанімічным сродкам адлюстравання рэчаіснасці. Імя *Іван*, як прасачылі даследчыкі (М. Фасмер, Н. Пятроўскі, А. Супяранская і інш.), з'яўляецца ва ўсходнеславянскіх помніках пісьменства з XIV стагоддзя, яно бярэ свой пачатак са старажытнаяўрэйскага *Иоханан* — Яхве (Бог) — той, каго мінуе Бог. Трапіўшы спачатку ў мову грэкаў, гэта імя ў самых розных варыянтах замацавалася як вельмі распаўсюджанае ў многіх мовах свету: *Іван* — у Расіі, Беларусі, Украіне, Балгарыі, Малдавіі; *Ян* — у Польшчы, Чэхіі, Славакіі; *Хуан* — у Іспаніі; *Іаганн (Іаханн)*, а таксама *Ханс (Ганс)* — у Германіі, Аўстрыі; *Джон* — у Англіі, Канадзе, ЗША, Аўстраліі; *Джавані* — у Італіі; *Вано* — у Грузіі; *Жан* — у Францыі; *Юхан* — у Эстоніі і Фінляндыі; *Яніс* — у Латвіі і інш.

У рускай мове прозвішча *Іваноў*, якое ўтворана ад імя *Іван*, — адно з самых ужывальных, прычым, як прасачыў У. Ніканаў, у рускіх яно лакалізуецца пераважна на паўночным захадзе краіны — у Наўгародскай, Санкт-Пецярбургскай, Цвярской, часткова Смаленскай губернях, дзе кожны дзявяты жыхар мае такое сямейнае імя. Частотнасць зразумелая, бо на працягу стагоддзяў самым ужывальным імем рускіх было *Іван*, у сялян яго насіла адна чацвёртая частка ўсіх мужчын… Па звестках Маскоўскага адраснага бюро за 1964 год самыя частыя прозвішчы ў сталіцы: Івановы — 90 тысяч, Кузняцовы — 78 тыс., Смірновы — 58 тыс., Паповы — 30 тыс. [1, с. 36—37].

Ва ўсходнеславянскіх прыказках гэтым іменем, якое там пераважна ўжываецца з абагульняльным значэннем, называючы «чалавека ўвогуле» або як онім-сімвал, эксплікуецца менталітэт рускіх, беларусаў, украінцаў, іх адносіны да працы, рэлігіі, суседніх народаў, кантакты ў соцыуме, сям'і. Праілюструем гэта прыкладамі са зборніка У. Даля «Пословицы русского народа» ў 2-х тамах (М., 1984): *Иван Марье обычный друг* [2, т. 2, с. 173]; *Не всяк Иван Иванович, а кому бог дает* (дразнят калмыков) [2, т. 1, с. 39]; *Нагуляется Иван — достанется и нам* [2, т. 1, с. 85]; *На Ваньке далеко не уедешь* [2, т. 2, с. 173]; *С именем Иван, без имени — болван* [2, т. 2, с. 173]; *Емеля дурачок, Иванушка дурачок, Мотря дура* [2, т. 2, с. 173]; *Иванов, как грибов поганых* [2, т. 2, с. 173]; *Один Иван — должно; два Иван — можно; три Иван — никак не возможно* (сказал немец

про Ивана Ивановича Иванова) [2, т. 2, с. 173]; *Люби Ивана, да береги карманы* [2, т. 2, с. 145].

У беларускіх казках, запісаных А. Сержпутоўскім, засведчаны *Іванка Прастачок* — персанаж народнай чарадзейнай казкі. Да 30 гадоў быў маленькім і слабым, пакуль чарадзейная музыка трох старцаў не ператварыла яго ў мудрага і смелага змагара за народнае шчасце. Зрабіў дудку-весялушку, якая гуртавала людзей і несла праўду, клікала на барацьбу са Змеем і ягоным слугам, якія «ўсё к сабе грабуць, а з мужыкоў шкуру дзяруць». У алегарычнай форме ў казцы раскрываецца вялікая сіла вызваленчых ідэй, што здольныя аб'яднаць і павесці людзей на барацьбу.

З імем *Іван*, як адзначаюць даследчыкі рускага анамастыкону, рэалізуюцца вобразы *Івана-Царэвіча, Івана-сялянскага сына, Івана-купецкага сына.* У такіх спалучэннях у фальклоры казачны Іван, як правіла, абаяльны, станоўчы герой. Як піша Л. Зубкова, калі герой імянуецца, напрыклад, *Іванам-царэвічам,* то ён носьбіт высокіх маральных якасцей, барацьбіт за справядлівасць. *Іван-сялянскі сын* і *Іван-купецкі сын* як прадстаўнікі сацыяльных слаёў здольны замяшчаць *Івана-царэвіча.* Яны маладыя, разумныя, здзяйсняюць подзвігі [3, с. 101].

Шырокае ўжыванне гэтага оніма засведчана таксама і ў фразеалагізмах, агульных для ўсходнеславянскіх моў. Так, украінскія даследчыкі М. Разумейка і Я. Рагушэўскі адзначаюць, што актыўнасць выкарыстання ўласных імёнаў у фразеалагізмах адлюстроўвае агульную тэндэнцыю іх функцыянавання ў народна-дыялектнай мове. У гэтых адзінках асабліва частотнымі з'яўляюцца імёны *Іван* і *Хама*, у меншай меры рарытэтныя *Мацвей, Юхім, Захар, Грыцько, Макар, Піліп...* Як правіла, з такімі імёнамі фразеалагізмы маюць адценне фамільярнасці, грубаватасці: *Корчити з себе Ивана*; *ростом з Ивана, а розумам з балвана; Иван носить плаху, а Настя булаву;* часта імя *Іван* у фразеалагізмах абазначае «бядняк»: *що вільно понові, не вільно Іванові* [4, с. 101].

У тлумачальным слоўніку У. Даля пра гэта імя сказана, што яно «па ўсёй азіяцкай і турэцкай мяжы нашай, ад Дуная, Кубані, Урала і да Амура азначае рускага» [2, т. 2, с. 115]. Папулярнасць, шырокая вядомасць некаторых імёнаў у соцыуме, а таксама ў грамадстве ў цэлым абумоўлена тым, што выбар імёнаў раней рэгуляваўся царквою, а імя *Іван* сярод праваслаўных у дарэвалюцыйнай Расіі было самае частае сярод асноўнай часткі насельніцтва: у царкоўных святцах на працягу аднаго года яно паўтараецца 167 разоў. Адсюль, відаць, і яго высокая частотнасць сярод простага люду, у прыказках і іншых жанрах беларускага, рускага і ўкраінскага фальклору, у творах мастацкай літаратуры. Такія вельмі вядомыя ў народзе і ў літаратуры онімы, як сведчаць даследчыкі, утвараюць у носьбітаў мовы не толькі анамастычныя, але і вобразныя (мастацкія), а часам і энцыклапедычныя асацыяцыі.

У творах фальклору, рускай мастацкай літаратуры, у самых розных яе жанрах асаблівасці оніма *Іван* падрабязна прасачылі М. Гарбанеўскі, Л. Зубкова, А. Рогалеў, у прыватнасці, выявілі, што гэта імя з'яўляецца там самым частым, яго носяць прадстаўнікі самых розных саслоўяў — ад простага мужыка да царэвіча. У грамадстве яно набыло ўласцівасць ужывацца з самымі рознымі дадатковымі адценнямі, выступаючы ў функцыі другаснага, асацыятыўна-вобразнага наймення самых розных асоб, часцей за ўсё рускіх па нацыянальнасці. А. Рогалеў прыводзіць прыклады ўжывання імя *Іван* у творах самых розных аўтараў, дзе гэта імя, апрача назыўной функцыі, мае самыя розныя канатацыйныя «прырашчэнні»: *Россия вся единый Иван...* (У. Маякоўскі); *Полюшко стало неминное там, где Иван прошагал* (Ф. Чуеў); *Хоть и есть пословица, что на Иване далеко не уедешь, однако ж этот постоит за себя и своих* (І. Лажэчнікаў); *А это по-татарски. У них все если взрослый русский человек — так Иван, а женщина — Наташа, а мальчиков они Кольками кличут* (М. Ляскоў) [5, с. 98].

Ва ўсе часы на беларускім этнаграфічным арэале імя *Іван* заўсёды было ў ліку найбольш прадуктыўных. Так, на захадзе Беларусі (Гродзеншчына, Брэстчына) у XIV—XVIII стагоддзях ужывальнасць, частотнасць асобных уласных імёнаў, паводле афіцыйных пісьмовых дакументаў, прасочаных Г. Усціновіч, была наступнай: з 268 мужчынскіх і 67 жаночых, адзначаных у актах земскіх судоў, найбольш пашыранымі былі: *Ян, Іван, Андрэй, Мікалай, Павел, Станіслаў, Пётр, Марцін, Фёдар, Марына, Анна, Еўдакія*. Набор імёнаў ва ўказаныя часы амаль не змяніўся, аднак было выяўлена, што адны імёны шырока ўжываліся ў XVI стагоддзі (*Багдан, Аляксей, Андрэй, Войцех, Анна, Марына, Сафія*), другія (*Аляксандр, Казімір, Крыштоф, Екацярына, Раіна*) — у XVII—XVIII стагоддзях [6, с. 168].

У творах беларускай мастацкай літаратуры імя *Іван* таксама набыло абагульняльны сэнс, называючы прадстаўніка з народа, якому пераважна ўласцівы прыродны розум, дасціпнасць, уменне знайсці выхад з самых складаных сітуацый і перыпетый. Так, у паэме Якуба Коласа «На шляхах волі» створаны абагульнены вобраз *Івана* — простага чалавека з народа: «*Кранула вестка гэта ўсіх : // «Няўжо ад трону цар адшыты? // Адрокся, кажуць, сам і квіта! // Ну, як то сам? Няма дурных! // Бо дзе ж то відана, чувана, // Каб вось такія ўладары // Ды самі злазілі з гары // Або мянялі годнасць пана // На ролю простага Івана // — Вось панства моў, Іван, — бяры*» [7, т. 10, с. 291]. У артыкуле Якуба Коласа «Цені мінулага» імя *Іван* воляй пісьменніка набыло ўжо адмоўны сэнс, называючы самых розных турэмных заправілаў сярод зняволеных. У гэтым творы *Іван* — канатацыйна абагульненая назва сярод арыштантаў, якія прыцясняюць іншых: «*Кожная камера ўгалоўных мела свайго «Івана», а то і некалькі такіх «Іванаў»: «Іван» — гэта начальнік, заправіла камеры, біч і страх арыштантаў. І званне сваё, і сваю пасаду яны набывалі самі. Але дзеля гэтага трэба было мець свайго роду «цэнз». Гэты «цэнз» складаўся з самае натуры «Івана»: здаровых кулакоў, добрага гарладзёрства, цвёрдасці і рашучасці характару... Угневаны «Іван» мог загнаць пад нары сваю ахвяру і аставіць там яе на ўсю ноч... Ніякія жалабы на чыннасць «Іванаў» не памагалі, бо «Іваны» жылі ў добрай згодзе з адміністрацыяй астрога і дзяліліся з ёю сваімі здабыткамі*» [7, т. 11, с. 12]. З'яўленне дадатковай канатацыі ў гэтым імя падкрэсліваецца тым, што пісьменнік паслядоўна ўжывае яго, беручы ў двукоссе, тым самым сігналізуючы пра нетыповае выкарыстанне ў кантэксце. У такіх онімах намінацыйная функцыя зусім мінімальная, на першы план выстаўляецца яго кантэкстуальнае канатацыйнае значэнне, сітуацыйна абумоўленае спецыфікай канкрэтнага твора. Такім чынам, онімам «Іван», узятым у двукоссе, пісьменнік эксплікуе яго падтэкставую пеяратыўную семантыку, перадаючы тыя своеасаблівыя ўзаемаадносіны, якія склаліся паміж арыштантамі і турэмнымі заправіламі.

У якасці сінонімаў да імя *Іван* у артыкуле ўжываюцца кантэкстуальныя перыфразы «*заправіла камеры*», «*біч і страх арыштантаў*», «*бог і цар*», якія фактычна раскрываюць канатацыйны аспект оніма. Да нашага часу турэмны лексікон узбагаціўся, і да імя «*Іван*», выкарыстанага ў гэтым кантэксце, можна падабраць сучасныя сінонімы *пахан, злодзей у законе*, якія актыўна выкарыстоўваюцца зараз у перыядычным друку, трапіўшы туды з мовы арыштантаў. У маўленні звычайна такія онімы набываюць значэнне агульных назоўнікаў з характарыстычнай функцыяй. Фармант множнага ліку ў такіх апелятызаваных адзінках, як заўважыў В. Болатаў, прыводзіць іх у аднароднае няпэўнае мноства, інакш кажучы, у мноства, тыповае для імёнаў агульных [8, с. 106]. Падкрэслівае канатацыйны бок гэтага оніма і яго адметнае графічнае афармленне, а таксама ўжыванне ў форме множнага ліку ў адным мікратэксце. Так, этнанімічны зрух у асноўным у перыяд Вялікай Айчыннай вайны выявіўся ў імёнах *Іван*, *Фрыц*, што прывяло да ўтварэння на іх аснове перыферыйных

этнанімічных адзнак канатацыйнага характару: *іваны* — рускія, беларусы, украінцы і нават прадстаўнікі іншых народаў былога СССР — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны; *фрыцы* — нямецкія (фашысцкія) салдаты. Сярод іншых функцыянальных асаблівасцей гэтага імя, як некаторых іншых і частых, тыповых і ўжывальных у творах Якуба Коласа, прыкметна вылучаецца багацце іх эмацыйна-стылістычных варыянтаў, што звычайна перадаюць канатацыйны змест такіх уласных адзінак у кантэксце. Напрыклад, у мове Коласа засведчана больш як 30 варыянтаў гэтага імя (*Іване, Іванка, Іванок, Іванька, Іванькя, Івась, Іваш, Іан, Ясь, Яська, Яська-кравец, Ян, Яне, Янaчка, Янка, Янось, Янь, Янка-Іван-Ваня, Янук, Янэк* і інш.).

Фактычна ў названым вышэй артыкуле Я. Коласа імя *Іван* канатацыйна значымае, дзе набыло характарыстычную, негатыўна-адмоўную семантыку. Прыкладна такую ж абагульняльную функцыю ў беларускім фальклоры маюць і некаторыя іншыя кананічныя імёны, за якімі замацаваліся дадатковыя ўласцівасці. Параўнайце: *Міхайла* — непаваротлівы, няўклюдны работнік або зяць; *Васіль* — гультай; *Юрка* — бесклапотны весялун (у беларусаў ёсць нават народны танец «Юрачка»); *Андрэй* — хвалько; *Кацярына* — легкадумная дзяўчына або жанчына і інш.

Тыповасць і натуральнасць імя *Іван* для беларускай мовы пацвярджаецца і наступным дыялогам Лабановіча з вучнем Цельшынскай школы з аповесці Я. Коласа «У палескай глушы»: — *Скажы ж ты, галубок, — звярнуўся Лабановіч да аднаго хлопчыка, які падышоў запісвацца. — Як ты завешся? Хлопчык маўчаў і пазіраў на настаўніка сваімі яснымі вочкамі. Відавочна ў гэтым запытанні яму пачулася штось падазронае: ці няма тут якое хітрасці, каб падашукацца часамі? Запытанне, з яго пагляду, было зусім нецікавае і непатрэбнае: Хто ж не ведае, як ён завецца? Але настаўнік не адступаўся і зноў запытаў, як яго зваць. — Або ты не ведаеш? — у сваю чаргу спытаў хлопчык. — Не, не ведаю, бо каб ведаў, то не пытаўся б. — Ну, як жа? Іван, ды і ўсё! — прамовіў хлопчык з адценнем лёгкай усерджанасці* [7, т. 9, с. 38—39]. Такім чынам, постпазіцыйнай рэплікай хлопчыка акцэнтуецца ўвага на тыповасці гэтага імя ў соцыуме, а таксама кантэкстуальна выяўляецца дзіцячая непасрэднасць, абумоўленая спецыфікай канкрэтнага мыслення хлопчыка, чым ствараецца праўдападобнасць дыялогу і сітуацыі.

Ужо ў наш час С. Бут-Гусаім, аналізуючы мову твораў пісьменніка Г. Марчука, адзначала, што імя *Іван* у іх надзвычай ужывальнае і засведчана ў наступных варыянтах: *Іван, Янэк, Янка, Ян, Вано, Іванко, Ваня, Ванюша, Яська* і інш. Дыяпазон эмоцый і пачуццяў, якія выражаюцца з дапамогай такіх формаў, надзвычай шырокі. Гэта пяшчота, сяброўская фамільярнасць, зняважа, ласка, афарбаваная іранічнымі адценнямі і інш. Ужыванне той ці іншай формы імені абумоўлена прагматычным кантэкстам [9, с. 86].

Сімвалічны абагульняльны сэнс у творах Коласа набылі і некаторыя іншыя ўласныя імёны. Так, усё дарэвалюцыйнае сялянства абагульнена названа ў вершы «Мікалаю ІІ» гутарковымі сялянскімі імёнамі *Янка, Грыц, Кузьма*: *Дзесяць год Мікола думаў, // І прыдумаў ён думу. // Пасадзілі разам з панам // Янку, Грыца і Кузьму* [7, т. 1, с. 45]. У драме «У пушчах Палесся» Якуб Колас павялічвае спіс такіх імёнаў, якія абагульнена называюць беларускае сялянства часоў Грамадзянскай вайны, гатовае выступіць супраць захопнікаў. Гэта выяўляецца і ў дыялогу Мартына Рыля з панам Крулеўскім: <u>*Крулеўскі.*</u> *Хто твае хаўруснікі? І дзе яны?* <u>*Мартын.*</u> *Мае хаўруснікі — Іван, Сцяпан, Даніла, Кірыла, Кандрат, Ігнат, Яўхім ды Трахім, ды Мацей з Аўдзеем* [7, т. 10, с. 100]. Такой канцэнтрацыяй тыповых сялянскіх імёнаў у параўнальна сціслым кантэксце пісьменнік ствараў уяўленне масавасці народнага гневу, пратэсту супраць акупантаў. Алюзійна выразную асаблівасць гэтага тэксту ўзмацняе і спецыфічная ампліфікацыя онімаў-імёнаў, якія яшчэ і рыфмуюцца, ствараючы дасціпна-саркастычны адказ пану. Канатацыйны

кампанент гэтых анамастычных адзінак тут дамінуючы, а іх назыўная функцыя мінімальная.

Такія «сялянскія» імёны тыпу *Іван, Кандрат, Трахім* і інш. у творах пісьменнікаў нярэдка выступаюць як кантэкстуальныя кантрастывы да імёнаў, уласцівых, напрыклад, для беларускага шляхецкага анамастыкону. Так, В. Ляшчынская заўважыла, што ў паэтычных творах Янкі Купалы апазіцыя «сялянскія — шляхецкія імёны» нярэдка выступае сродкам адрознення персанажаў па сацыяльнай прыналежнасці, асабліва пры іх супастаўленні ў адным і тым жа творы. Яна прыводзіць пераканальныя прыклады з верша «Паніч і Марыся» і паэмы «Адплата кахання», дзе паэт супастаўляе сялянскія і шляхецкія імёны як кампаненты-кантрастывы, дабаўляючы да іх адпаведныя класіфікатары (сын мужыцкі і шляхцянка): *«А шчыра ж, а міла і Зося, і Янка — // Янук, сын мужыцкі, // А Зоф'я, шляхцянка»* («Адплата кахання»). Імя *Іван*, як заўважыла даследчыца, не ўласціва яго паэтычным творам: «...сярод аналізаваных імёнаў, падабраных Янкам Купалам для сваіх персанажаў, няма імені *Іван*, за выключэннем байкі «Два мужыкі і глушэц», дзе імя *Іван* асацыіруецца з Расіяй, прадстаўляе рускіх у адносінах да Беларусі» [10, с. 37]. У яго мастацкіх творах адпаведнікам да *Іван* выступае онім *Янка*.

Такое разнапланавае ўжыванне імёнаў у мове Я. Купалы і Я. Коласа і іншых пісьменнікаў тлумачыцца агульнанацыянальнымі і некаторымі рэгіянальнымі і канфесійнымі традыцыямі, бо ў беларусаў ужо ў перыяд сярэднявечча выявіліся імёны, асабліва ўжывальныя ў асобных канфесійных групах праваслаўнага, каталіцкага і ўніяцкага насельніцтва. Як адзначаюць даследчыкі-этнографы, значная разнастайнасць уласных імёнаў, якімі карысталіся нашы продкі, спалучалася з наяўнасцю груп найбольш ужывальных антрапонімаў, што было выклікана праяўленнем кансалідацыйных тэндэнцый. Так, згодна інвентару 1622 года, на ўсё мужчынскае насельніцтва ўладання Смаргонь прыходзілася 111 імёнаў, сярод якіх найбольш распаўсюджанымі былі *Іван* (27), *Грышка* (25), а таксама іншых, менш ужывальных — *Фёдар, Мікалай, Пётр, Сцяпан* (ад 11 да 14) [11, с. 134].

А ў народна-дыялектнай мове багацце пераважна дэмінутыўных і іншых варыянтаў імёнаў *Іван* і *Ян* (Янка) (адпаведна праваслаўны і каталіцкі варыянты да старажытнаяўрэйскага *Иоанн*) прасачыў М. Бірыла. Паводле яго абагульненняў самае папулярнае і частае ва ўсходніх славян імя *Іван* мае ў розных рэгіёнах Беларусі 44 варыянты (*Іван, Іваначка, Іванок, Іванчык, Іваська, Ванёчак, Ванютка, Ванюшык* і інш.), *Ян* (Янка) — 34 варыянты (*Янак, Янік, Янчык, Янучок, Ясь, Яська, Ясёк, Ясюня* і г. д.). Зарэгістраваныя даследчыкам вытворныя варыянты ўваходзяць у два словаўтваральныя рады: першы складаюць дэрываты ад невытворных асноў, другі — ад разнастайных вытворных [12, с. 64—69]. А ў айканіміі Віцебшчыны імя *Іван* у розных варыянтах стала словаўтваральнай базай для назваў 55 паселішчаў: *Іванава, Іванаўка, Іван-Бор, Івашкава, Івашня; Янава, Янавічы, Янопаль, Янукі, Яськава, Ясюкі* і інш. [13, с. 134]. В. Фанякова на падставе матэрыялаў «Слоўніка рускіх асабовых імёнаў» Н. Пятроўскага прыводзіць больш за 40 дэмінутыўных варыянтаў да гэтага самага тыповага ў рускай мове оніма (шматлікія памяншальна-ласкальныя і фамільярна-экспрэсіўныя варыянты). На яе думку, ні адно агульнае імя не можа даць такі лік моўных варыянтаў з памяншальна-ласкальнымі і павелічальнымі суфіксамі. Разнастайнасць такіх канатацыйных формаў у анамастычнай намінацыі стварае багацце сродкаў выражэння эмацыйна-экспрэсіўных адценняў у размоўным асяроддзі, якіх асабліва многа сярод асабовых уласных імёнаў і меней у прозвішчах, мянушках і амаль няма сярод тапонімаў [14, с. 20].

Такім чынам, услед за М. Гарбанеўскім можна сцвярджаць, што гэты онім прайшоў усе ступені адаптацыі ва ўсходнеславянскіх мовах; па-першае, ён упісаўся ў фанетычную сістэму гэтых моў і вымаўляецца па іх правілах; па-другое, ён поўнасцю ўвайшоў у граматычную сістэму; па-трэцяе, ужо на ўсходнеславянскай тэрыторыі гэты онім паслужыў асновай для шэрагу вытворных прозвішчаў,

мянушак, айконімаў і інш. [15, с. 24]. Канатацыйны патэнцыял гэтага імя ва ўсіх усходнеславянскіх літаратурах па-майстэрску выкарыстоўваецца пісьменнікамі самых розных пакаленняў. Так, у камедыі Д. Фанвізіна «Брыгадзір», антрапонімы ў якой прааналізаваў А. Рогалеў, ёсць вобраз моднага галамана *Івана*, сына Брыгадзіра, Ігната Андрэевіча. Мова *Івана-Іванушкі* перасыпана галіцызмамі і выразна кантрастуе з яго лексіконам і ходам думак гэтага двараніна, сапсаванага антырускім выхаваннем. Па яго развагах, быць рускім — недахоп. *Іван* прызнаецца, што хацеў бы мець такую жонку, з якой ён мог бы гаварыць толькі па-французску. Як лічыць гэты даследчык, Д. Фанвізін хутчэй за ўсё свядома выбраў недалёкаму розумам галаману імя *Іван*, каб чытачу яно нагадвала вядомую прыказку «*Іван, які не помніць радства»* [5, с. 122].

Звяртаючыся яшчэ раз да імя Іван, А. Рогалеў пераканальна тлумачыць канатацыйную асаблівасць, што замацавалася за онімам у «Аповесці пра тое, як пасварыўся Іван Іванавіч з Іванам Нічыпаравічам» М. Гогаля. Па волі мастака слова гэты онім аказаўся ключавым, значымым элементам аповесці. «Сумна ў ціхім доміку, дзе дажываюць свой век *Афанасій Іванавіч* і *Пульхерыя Іванаўна*, сумна ў *Міргарадзе* сярод бязлікіх *Іванаў Іванавічаў* і *Іванаў Нічыпаравічаў*, дробных і пошлых абывацеляў, што марнатравяць жыццё». У такім кантэксце прастата называння персанажаў — *Іван Іванавіч, Іван Нічыпаравіч* — своеасаблівы мастацкі прыём: розныя *Іваны* набываюць асаблівасці другаснага абагульнення, становячыся ў значнай меры апелятызаванымі адзінкамі з выразна маркіраваным значэннем «чалавек увогуле», сумяшчаючы ў сабе асабова-іменнае і агульна-назыўное значэнні. Адсюль і пайшлі самыя разнастайныя сцвярджэнні тыпу *«на Іванах Русь трымаецца», «на Івана дзе сеў, там і злезеш»* і інш. [16, с. 158].

Сярод беларускай творчай інтэлігенцыі канца XIX — пачатку XX стагоддзя выпрацавалася няпісаная іменалагічная традыцыя ў выбары псеўданімаў і дыферэнцыяцыі імёнаў *Іван* і яго варыянтаў *Ян, Янка, Янук*, якія, гаворачы словамі Ю. Карпенкі, *«знаходзіліся ў жорсткіх аковах узусу традыцый»:* імя *Іван* на той перыяд, як мы ўжо адзначалі, у некаторых беларускіх аўтараў выкарыстоўвалася для называння пераважна рускага па паходжанні, а імёны *Янка, Ян, Янук* — беларуса.

Мабыць, пад уплывам творчасці Івана Луцэвіча (Янкі Купалы) некаторыя беларускія паэты і пісьменнікі імёны *Янка, Ян* і інш. сталі актыўна выкарыстоўваць як кампанент з выразным нацыянальна-культуралагічным падтэкстам для ўтварэння новых псеўданімаў, улічваючы самыя разнастайныя крытэрыі і патрабаванні для такіх найменняў: *Янка Маўр* (Іван Фёдараў), *Янка Журба* (Іван Івашын), *Янка Бярозка* (Павел Кавалёў), *Янка Шарахноўскі, Шарахоўскі* (Іван Шарахоўскі), *Янка Бобр* (Станіслаў Шушкевіч), *Ян Баранскі* (Уладзімір Корбан), *Янка Кліч* (Зміцер Жылуновіч), *Янка Нёманскі* (Іван Пятровіч), *Янка Маланка* (Іван Маразовіч), *Янка з Часнік* (Іван Баркевіч) і інш. Частка творчай інтэлегенцыі пад уплывам папярэднікаў сваё ўласнае імя *Іван* замяніла на *Ян, Янка — Янка Брыль, Янка Сіпакоў, Янка Саламевіч, Ян Скрыган* і інш.

Янка Саламевіч, аўтар першага ў беларускай мове слоўніка псеўданімаў, якога сябры жартоўна называюць «каралём псеўданімаў», меў больш за 200 самых розных такіх антрапонімаў, створаных самымі рознымі спосабамі: *М. Кракоцкі, Барыс Лісавец, К. Ракоцкі, Я. Вароніцкі, Ян Бегер* і г. д. Чаму ён карыстаўся такім мноствам псеўданімаў і чаму ён абраў імя *Янка* замест атрыманага ў сям'і *Іван*, Саламевіч тлумачыць наступным чынам: «У прамежку 1993—2003 гадоў я шмат пісаў і друкаваў у адрыўным календары «*Родны край*», і каб маё прозвішча не мігцела перад чытачом, я мусіў падпісваць свае шматлікія публікаткі псеўданімамі і нават крыптанімамі. Некаторыя мае псеўданімы сустрэнуцца ў «*Літаратуры і мастацтве*», у часопісе «*Роднае слова*», у літаратурна-мастацкім календары «*Кола дзён*»… У нас, беларусаў, імю *Іван* адпавядае імя *Ян — Янка*. То мне падумалася: чаго гэта я павінен звацца нейкім *Іванам*, які да ўсяго яшчэ

не помніць свайго роду. Гэтак жа думалі, мусіць, і мае папярэднікі — *Янка Купала* і *Янка Брыль*. Яны ж таксама былі ахрышчаныя на *Іванаў*. Але, пасталеўшы, асэнсаваўшы ўсе перыпетыі свайго хросту, перахрысцілі самі сябе, зыходзячы з народнай традыцыі, на *Янкаў*… Менавіта з гэтымі імёнамі яны ўвайшлі ў нашу гісторыю … Мабыць, разважаючы пра іх перахрост, пад іх уплывам і я стаў *Янкам*» [17, с. 187—193].

Яну Скрыгану давялося нават правесці невялікае даследаванне, высвятляючы функцыянаванне і межы бытавання імёнаў *Ян* і *Янка* ў беларускай мове і яе гаворках. «Я прагледзеў, — пісаў ён, — назвы паселішчаў, утвораных ад імёнаў *Ян* і *Янка*, ад карэнных жыхароў бог ведае якога даўняга часу. Па Віцебскай вобласці аказалася: ад імя *Ян* утворана 22 назвы паселішчаў (*Яновічы, Янава, Янкаўшчына* і пад.). Па Мінскай вобласці: ад гэтага імя ўтворана 12 айконімаў (*Янавічы, Янаўка, Янава, Янаўшчына* і пад.); ад імя *Янка* — 5 такіх найменняў (*Янкавічы, Янкава, Янкоўцы* і пад.). Пасля такой экскурсіі ў тапаніміку, як зазначыў далей Я. Скрыган, я паспакайнеў: выходзіць, што ў мяне імя даўняе, тутэйшае, не чужое [18, с. 230].

Яшчэ і ў наш час, як сведчаць публікацыі, даследчыкі творчасці Яна Скрыгана шукаюць адказ на пытанне, чаму ў апошнія гады жыцця, ён, ужо вядомы беларускі пісьменнік Янка Скрыган, вярнуўся зноў да імя сваёй літаратурнай маладосці — *Ян*. Як мяркуе Л. Карпава, даследчыца яго творчасці, пісьменнік зрабіў такі зварот да першага варыянта свядома, растлумачыўшы такую метафару ў апавяданні «Імя»: шчыры ў сваіх памкненнях і думках малады літаратар, тактоўны і паважны, выхаваны мудрым народным асяроддзем, інтэлігент у першым пакаленні, не мог сабе дазволіць падпісвацца імем *Янка* таму, што ў роднай літаратуры быў *Янка Купала* і «нікому другому гэткім імем карыстацца няможна» [19, с. 104].

Сярод значнай плеяды беларускіх пісьменнікаў — ураджэнцаў усходняга Палесся — выразна выдзяляюцца «тры Іваны» — Іван Паўлавіч Мележ, Іван Пятровіч Шамякін, Іван Якаўлевіч Навуменка — народныя пісьменнікі Беларусі, удастоеныя самых высокіх дзяржаўных узнагарод, усенародна прызнаныя класікі беларускай літаратуры, чый шматгранны талент мастакоў слова засведчаны ў разнастайных класічных творах, вядомых не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. На долю гэтых пісьменнікаў, іх пакалення, выпалі самыя вялікія выпрабаванні лёсаў. Несумненны і ўнікальны талент ураджэнцаў Палесся, «края лясоў і балот», гартавалі і выпрабоўвалі на трываласць надзвычай трагічныя і гераічныя падзеі XX стагоддзя — станаўленне маладой Рэспублікі Саветаў, супярэчлівая калектывізацыя ў 30-я гады, небывалыя па трагізме і гераізме гады Вялікай Айчыннай вайны, росквіт і заняпад ідэй і планаў пабудовы сацыялізму і камунізму на адной шостай частцы планеты, вяртанне са шматлікімі праблемамі да сваіх спрадвечных вытокаў у дзяржаўным будаўніцтве, станаўлнне нацыянальнай ідэі і інш. Усё гэта прайшло праз лёсы гэтых пісьменнікаў і персанажаў іх твораў.

Адметнасць і непаўторнасць на фоне іншых беларускіх пісьменнікаў выявілася нават на іх імёнах. Яны засталіся тымі Іванамі, якія заўсёды помнілі сваё радство. Яны паламалі ўсталяваную традыцыю, створаную беларускай нацыянальнай інтэлігенцыяй канца XIX — пачатку XX стагоддзя, калі яе прадстаўнікі, ідучы за модай, ламаючы канфесійныя традыцыі, выбіралі сабе псеўданім. І тады *Іван* традыцыйна станавіўся *Янкам, Янам:* Іван Неслухоўскі → *Янка Лучына*, Іван Луцэвіч → *Янка Купала*, Іван Фёдараў → *Янка Маўр* і г. д. Стаўшы знакамітымі пісьменнікамі, яны не сталі Янамі, Янкамі. Такім кансерватызмам, на наш погляд, яны (Іван Мележ, Іван Шамякін, Іван Навуменка) выразна падкрэслівалі цесную сувязь са сваёй малой радзімай — Усходнім Палессем, дзе імя *Іван* сярод палешукоў самае тыповае, самае частае, а імёны *Янка, Ян* — рэдкія.

Сімвалічны сэнс гэтага імя яшчэ больш актуалізаваўся пасля 1945 года, бо менавіта Іваны — г. зн. беларусы, рускія, украінцы ўнеслі самы значны ўклад у перамогу ў Вялікай Айчыннай вайне, гэта імя ў беларускай літаратуры больш за іншыя перадае нацыянальна-культуралагічны фон, а ўсе «Тры Іваны» дастойна прадстаўлялі свой народ у адказны для ўсяго чалавецтва перыяд. Магчыма, што гэтыя мастакі слова бралі пад увагу і тое, што ў вялікай сусветнай літаратуры, культуры былі вельмі вядомыя *Іван Вазаў, Іван Тургенеў, Іван Бунін, Іван Айвазоўскі* і інш.

Між іншым, імя *Іван*, як было заўважана даследчыкамі, у беларускай літаратуры актыўна стала паяўляцца сярод пісьменнікаў толькі ў пасляваеннай літаратуры: *Іван Шамякін, Іван Мележ, Іван Навуменка.* Потым больш смела пайшлі і іншыя *Іваны: Новікаў, Грамовіч, Пташнікаў, Чыгрынаў, Капыловіч.*

**Літаратура:**

1. Никонов, В. А. География фамилий [Текст] / В. А. Никонов. — М.: Наука, 1988. — 192 с.

2. Даль, В. Толковый словарь живого великорусского языка: В 4 т. / В. Даль. — М.: Гос. изд-во иностр. и нац. слов, 1956. — Т. 1—4.

3. Зубкова, Л. И. Имя Иван в языковом сознании русских людей 2-й половины XX века / Л. И. Зубкова // Русская речь. — 2009. — № 3. — С. 99—103.

4. Разумейко, М. С. Власні назви у структурі фразеологізмів / М. С. Разумейко, Е. С. Рагушевський // Шоста Республіканська ономастична конференція: 4—6 грудня 1990 року: Тези доповідей і повідомлень. Опісове та прикладна ономастика. — Одеса, 1990. — С. 101.

5. Рогалев, А. Ф. Ономастика художественных произведений: Пособие / А. Ф. Рогалев. — Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины, 2003. — 194 с.

6. Усціновіч, Г. К. Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны (XIV—XVIII стст.) / Г. К. Усціновіч. — Мінск: Навука і тэхніка, 1975. — 175 с.

7. Колас, Якуб. Збор твораў: У 14 т. / Я. Колас. — Мінск: Маст. літ., 1974—1976.

8. Болотов, В. И. Множественное число имени собственного и апеллятива / В. И. Болотов // Имя нарицательное и собственное / под ред. А. Суперанской. — М.: Наука, 1978. — С. 98—112.

9. Бут-Гусаім, С. Ф. Варыянтнасць і прагматычная значнасць уласных асабовых імёнаў у кантэксце твораў Георгія Марчука / С. Ф. Бут-Гусаім, І. М. Міцкевіч // Имя и слово (проблемы семантико-прагматического взаимодействия в славянских языках): материалы Междунар. научн. конф., Брест, 19—20 апр. 2007 г.: в 2 ч. / Брестский гос. ун-т; ред. В. И. Сенкевич [и др.]. — Брест, 2007. — Ч. 1. — С.

10. Ляшчынская, В. Слова ў паэзіі Янкі Купалы / В. Ляшчынская; навук. рэд. А. І. Падлужны. — Мінск: Бел. навука, 2004. — 271 с.

11. *Этнаграфія* беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя / рэд. В. К. Бандарчык [і інш.]. — Мінск: Навука і тэхніка, 1985. — 215 с.

12. Бірыла, М. В. Беларуская антрапанімія: Структура ўласных мужчынскіх імён / М. В. Бірыла. — Мінск: Навука і тэхніка, 1982. — 319 с.

13. Мезенка, Г. М. Каляндарнае імя ў айканіміі Віцебшчыны / Г. М. Мезенка. // Актуальные вопросы славянской ономастики: матер. II Междунар. научн. конф. «Славянская ономастика в ареальном, этимологическом и хронологическом аспектах» / отв. ред. Р. М. Козлова. — Гомель: ГГУ им. Ф. Скорины, 2004. — 304 с.

14. Фонякова, О. И. Имя собственное в художественном тексте / О. И. Фонякова. — Л.: ЛГУ, 1990. — 104 с.

15. Горбаневский, М. В. Иван да Марья. Рассказы о русских именах отчествах, фамилиях, прозвищах, псевдонимах / М. В. Горбаневский. — М.: Наука, 1987. — 149 с.

16. Рогалев, А. Ф. Имя и образ: Художественная функцыя имён собственных в литературных произведениях и сказах / А. Ф. Рогалев. — Гомель: Барк, 2007. — 224 с.

17. Содаль, Ул. Эрудыт з Малой Кракоткі / Ул. Содаль // Полымя. — 2008. — № 10. — С. 187—193.

18. Скрыган, Ян. Некалькі хвілін чужога жыцця / Ян Скрыган. — Мінск: Маст. літ., 1990. — 330 с.

19. Карпава, Л. Пераадоленне наканаванага / Л. Карпава // Полымя. — 2005.— № 11. — С. 104.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 2 снежня 2009 года.

Васіль Шур
«Онім-этнонім *Іван* у творах
мастацкай літаратуры і фальклоры»

**Рэзюмэ**

У артыкуле даследуецца спецыфіка ўжывання імя *Іван* і яго разнавіднасцей у творах мастацкай літаратуры і фальклоры, а таксама сімвалічны сэнс гэтага імя на прыкладзе лёсаў беларускіх пісьменнікаў.

Vasil Shur
«Onim-ethnonym *Ivan* in works of literature and folklore»

**The Summary**

The specific character of using the name *Ivan* and his varieties in works of fiction and folklore is examined in this article. The symbolic meaning of this name on the examples of the fates of Byelorussian writers is also the subject of the author's study.



# Валерый Анісенка:
# «ТЭАТР ПАЧЫНАЕЦЦА... З РАДЗІМЫ!»



*Валерый Анісенка.*

Пра такіх людзей звычайна кажуць: пацалаваны Богам. Альбо — улюбёнец лёсу. Што датычыцца першага, то тут можна цалкам пагадзіцца. Валерый Данілавіч Анісенка і сапраўды не пакрыўджаны Богам: выдатны акцёр, таленавіцейшы рэжысёр, прыроджаны педагог. Ягоны талент прызнаны не толькі захопленымі, удзячнымі гледачамі, але і патрабавальнымі, нярэдка дастаткова раўнівымі калегамі-прафесіяналамі. Пра гэта сведчаць дзесяткі розных прызоў, у тым ліку і галоўных, атрыманых Валерыем Данілавічам на шматлікіх прэстыжных міжнародных фестывалях. Яго актыўная, плённая праца на ніве тэатральнага мастацтва высока ацэнена і афіцыйнымі органамі. Ён — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта рэспублікі «За духоўнае адраджэнне», кавалер ордэна Францыска Скарыны…

І аднак пры ўсім пры тым назваць Валерыя Анісенку ўлюбёнцам лёсу не выпадае. Так, цяпер ён — вядомы, знакаміты чалавек, дырэктар і мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, прафесар дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, акадэмік міжнароднай Кірыла-Мяфодзіеўскай акадэміі славянскай асветы. Але як жа няпроста, часам нават драматычна складваўся гэты кар’ерны поспех, якія неймаверныя цяжкасці і перашкоды даводзілася пераадольваць на шляху да цяперашніх творчых вышынь!

Тройчы ён пачынаў усё з самага пачатку. У 1979 годзе яму, галоўнаму рэжысёру тэатра юнага гледача, прапанавалі ўзяцца за арганізацыю новага калектыву — тэатра кінаакцёра. Па праўдзе кажучы, што гэта будзе такое — ніхто толкам не ведаў: ні ў чыноўніцкіх колах, ні ў тэатральных. Але Валерый Данілавіч без асаблівых ваганняў пакінуў, што называецца, абжытую пасаду і з галавой акунуўся ў новую, клопатную справу. А клопатаў тут аказалася нават больш, чым ён уяўляў, бо прыйшлося не толькі ствараць тэатральную трупу, але і займацца будаўніцтвам памяшкання будучага тэатра — прабіваць праект, даставаць будаўнічыя матэрыялы, сачыць за якасцю работ. Паралельна — падбіраць акцёраў, весці рэпетыцыі, здабываць неабходны рэквізіт. Больш за два гады доўжылася гэтая пякельная, амаль кругласутачная праца, пакуль нарэшце 31 сакавіка 1982 года новы тэатр урачыста адкрыўся.

І… нечаканы ўдар у спіну. Пасля дзвюх бліскучых прэм’ер Валерыя Анісенку звольнілі. Звольнілі вераломна, цынічна, па-хамску. Ад перанесенай душэўнай траўмы ён, здаецца, не ачуўся і да гэтага часу. Было не толькі крыўдна, невыносна балюча — не хацелася жыць. У яго не проста адабралі любімую справу — пазбавілі сэнсу жыцця.

Цэлых паўгода Валерый Данілавіч быў без работы. Для яго кіпучай, няўрымслівай натуры гэта сталася нялёгкім выпрабаваннем. Не, ён не піў, як гэта звычайна бывае з несправядліва пакрыўджанымі, не скуголіў, не скардзіўся. Ён шукаў сябе ў новай справе! І такая справа знайшлася. На Беларускім радыё, куды яго запрасілі на пасаду галоўнага рэжысёра. Ішоў туды нібыта часова, а затрымаўся надоўга, на цэлых васемнаццаць гадоў. І гэта былі, бадай, лепшыя гады ў ягоным жыцці. Ён здолеў стварыць унікальны тэатр у эфіры, які карыстаўся незвычайнай папулярнасцю ў радыёслухачоў і які паспяхова перажыў перабудову, развал Савецкага Саюза, з годнасцю сустрэў XXI стагоддзе. І жыў бы да гэтага часу, калі б…

Калі б Валерыя Анісенку не спакусілі новай прывабнай прапановай: узначаліць тэатр беларускай драматургіі, які тады трапіў у сур’ёзны крызіс. Яго не палохалі цяжкасці, яго прыцягвалі перспектывы. Яму, як ахарактарызаваў Анісенку адзін з крытыкаў, вядомаму парушальніку творчага спакою, рухавіку тэатральных ініцыятыў, мадэратару сцэнічных праектаў, ужо бачылася ў мроях, як ён выводзіць крызісны тэатр з прарыву, стварае тут атмасферу сапраўднага творчага пошуку, беларускасці. Але трупа не зразумела ягоных шчырых, высакародных парыванняў і сустрэла новага кіраўніка тэатра байкотам. Гэта была яшчэ адна балючая душэўная рана, якая смыліць і па сённяшні дзень.

Вось вам і ўлюбёнец лёсу…

Аднак Валерый Данілавіч ніколі не скардзіўся і не скардзіцца на свой лёс. Наадварот, лічыць, што ён склаўся ў яго даволі шчасліва. У сямнаццаць гадоў з першай спробы паступіў у тэатральна-мастацкі інстытут. Пасля выпуску трапіў у Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, а пасля і ў праслаўлены купалаўскі калектыў. Стаў стваральнікам тэатра сваёй мары, таго тэатра, які закліканы сёння быць надзейнай апорай у працэсах развіцця і ўмацавання дзяржаўнага суверэнітэту рэспублікі, у памнажэнні гуманістычных і дэмакратычных каштоўнасцей у нашым грамадстве.

А што датычыцца драматычных момантаў, то Валерый Анісенка ўспрымае іх хоць і балюча, але па-філасофску. У сваёй аўтабіяграфічнай кнізе «Нататкі пачынаючага» ён зазначае, што так, напэўна, і павінна быць, у гэтым якраз і складаецца мудрасць жыцця, што нараджэнне і смерць — дзве субстанты, два галоўныя моманты — якія ад цябе не залежаць. І толькі ў трэцім складніку, самім жыцці, ты можаш прыняць актыўны ўдзел і хоць неяк паўплываць на свой лёс.

«Мы ўсе — вучні ў Жыцця, — лічыць знакаміты рэжысёр. — Ва ўсякім выпадку, у мяне жаданне нечаму навучыцца, спасцігнуць — было вызначальным… І па сённяшні дзень не прытупілася, жыве ўва мне прага пазнання, спасціжэння сутнасці сваёй прафесіі».

І яшчэ адно характэрнае прызнанне. «Успаміны дзяцінства: лезу на высокае дрэва. І страшна, і хочацца ўзабрацца на самую вяршаліну. І чым вышэй дрэва, тым мацней яно разгойдваецца, а вось лезу… Вяршыня заўсёды разгойдваецца… Мы на шляху да вяршыні».

Мне ўжо даўно хацелася пра ўсё гэта пагаварыць з Валерыем Данілавічам, але так складваліся абставіны, што сустрэчу кожны раз даводзілася адкладваць. А між тым Анісенка не пераставаў здзіўляць: то ён атрымаў чарговы фестывальны гран-пры, то ўзбударажыў публіку незвычайным беларуска-амерыканскім праектам, то ашаламіў прэм’ерай чэхаўскай «Чайкі» пад адкрытым небам, у натуральных прыродных дэкарацыях… І чым болей трапляла да мяне такой інфармацыі, тым усё мацнейшым станавілася маё жаданне сустрэцца з гэтай неардынарнай асобай. І вось аднойчы я зразумеў: болей адкладваць не магу.

На маю тэлефонную просьбу Валерый Данілавіч адказаў проста і па-дзелавому:

— Заўтра ў 12 гадзін зможаце? Тады — чакаю.

Да майго сораму, я моцна спазніўся — ніяк не мог знайсці месца для паркоўкі. І ў тэатры пачалася рэпетыцыя. Я чакаў ад Майстра заслужанага раздражнення. Аднак той з усмешкай перапыніў мае сумбурныя тлумачэнні-прабачэнні і добразычліва сказаў:

— Тым лепш… Пабачыце нашу «кухню».

І прапанаваў пабыць на рэпетыцыі спектакля «Сонечка» паводле рамана Ф. М. Дастаеўскага «Злачынства і пакаранне».

Пасля рэпетыцыі Валерый Данілавіч папрасіў яшчэ паўгадзінкі — добра было б падвезці актрысу Насцю Баброву ў мэблевы магазін і памагчы ёй выбраць якую-небудзь канапку, а то спіць літаральна на падлозе. А калі патрэбнай канапы не падабралі, падкінулі дзяўчыну ў іншы магазін, але і там нічога не знайшлі. Насця збянтэжана падзякавала свайму дырэктару і развіталася. Анісенка зірнуў на гадзіннік і нечакана сказаў:

— А ведаеце што? Паехалі да мяне на лецішча. Там мы і пасядзім колькі захочам, і заадно я пакажу вам свой летні тэатр.

Летні тэатр на ўласным лецішчы!.. Такога вы больш не ўбачыце нідзе. Гэта толькі Анісенка з яго нястрымнай фантазіяй і неўтаймаванай энергіяй мог задумаць і ажыццявіць падобнае. Скарыстаўшы прыродны рэльеф — пасярэдзіне ўчастка якраз праходзіць лагчына — на адным яе схіле было выкапана «чароўнае» возера, на другім — пастаўлены дыхтоўныя драўляныя лаўкі, на якіх могуць размясціцца да 150 гледачоў, а над самой лагчынай абсталявана сцэна з усімі неабходнымі атрыбутамі — заслонай, сафітамі, кулісамі… А вакол — хвоі, бярозы, яблыні. І — цішыня, толькі плёскат вады чуваць ды спеў птушак…

— Вось у такіх умовах, — абводзіць рукою вакол Валерый Данілавіч, — мы і давалі прэм’еру чэхаўскай «Чайкі». У першы і, баюся, у апошні раз. Я прапанаваў Міністэрству культуры зрабіць гэты летні тэатр пастаянна дзеючым, але мая ідэя падтрымкі пакуль не знайшла…

Стаяў спякотлівы ліпеньскі дзень, але тут, на лецішчы, у засені дрэў, на беразе рукатворнага азярца было ўтульна і прахалодна. Мы прыселі на адну з лавак, і я ўключыў магнітафон.

## Спасцігаць сутнасць чалавечую

***— Валерый Данілавіч, дазвольце пачаць нашу гутарку з даволі трывіяльнага, але лагічнага і заканамернага пытання. Гэты год для вас асаблівы, адметны дзвюма важнымі датамі: Рэспубліканскаму тэатру беларускай драматургіі спаўняецца дваццаць гадоў і роўна дзесяць гадоў як вы ў ім мастацкі кіраўнік і дырэктар. Добрая нагода, як кажуць, падвесці першыя вынікі, падсумаваць зробленае і нязробленае, асэнсаваць пражытае і перажытае. У рэшце рэшт, як вы збіраецеся адзначаць гэтыя юбілеі?***

— Ну, канечне ж, з аркестрам і кветкамі (смяецца)… А калі да гэтага пытання паставіцца ўсур’ёз, то нагадаць, безумоўна, ёсць што. Самае галоўнае — я стварыў мадэль тэатра, які хацеў мець. Да гэтага ішоў усё жыццё.

***— А чым мадэль вашага тэатра адрозніваецца ад іншых тэатраў, скажам, ад Купалаўскага альбо Рускага?***

— Прынцыпова — нічым. Па школе — мы прыхільнікі рэалістычнага тэатра, які развіваецца ў рэчышчы сістэмы Станіслаўскага, але ёсць у маім тэатры свая адметнасць. І тут я мушу крыху шырэй адказаць на ваша пытанне…

Мае тэатральныя ўніверсітэты пачыналіся ў час так званай хрушчоўскай адлігі. У грамадстве, асабліва ў моладзі, акрыялі ноткі надзеі, спадзявання, што наша жыццё зменіцца да лепшага. Надыходзіць новы час — час асобы, час дзеяння.

Неабходна толькі вера ў ідэалы, твае намаганні — і ўсё задуманае здзейсніцца. Надышла пара рамантыкаў… Першае наймацнейшае тэатральнае ўзрушэнне — спектакль «Два цвета» маладога на той час (1961 год) тэатра «Современник» па п'есе Зака і Кузняцова.

Менавіта там, на спектаклях «Современника», на публікацыях часопісаў «Новый мир», «Юность» і праходзілі мае тэатральныя і жыццёвыя ўніверсітэты. Таму студыйнасць, тэатр адзінадумцаў для мяне не пусты гук і, спадзяюся, для маіх калег. Парасткі студыйнасці нараджаюць своеасаблівую атмасферу ў тэатры і, калі хочаце, сваю адметную манеру акцёрскага выканання. Вядома, не ва ўсіх выканаўцаў і не ва ўсіх спектаклях. Але тэндэнцыя відавочная, аб чым неаднаразова сведчылі гледачы.

***— Тэатральныя крытыкі, спецыялісты адзначаюць, як адно з важнейшых вашых дасягненняў, тое, што за гэтыя гады вы здолелі стварыць самы цікавы і самы пладавіты калектыў.***

— Я рады такой ацэнцы. Гэта праўда — створана і выхавана адна з лепшых тэатральных труп. Асабліва яе жаночы састаў. Я думаю, на сённяшні дзень ён найбольш гарманічны і найбольш моцны ў Беларусі. Я толькі назаву вам некалькі імён. Таццяна Мархель — заслужаная артыстка рэспублікі. Талент унікальны, шматгранны, з глыбокім адчуваннем нацыянальнага характару, народнай душы. Я не люблю слова «зорка», але калі ўжыць гэты тэрмін, то Мархель — сапраўдная тэатральная зорка, на якую глядач спецыяльна ходзіць да нас.

Далей. Людміла Сідаркевіч ці, як мы ўсе яе любоўна называем, Люся. Выдатнейшая актрыса шырокага творчага дыяпазону. Чалавек неверагоднейшай адданасці справе. Разумніца. Працаголік… Галіна Чарнабаева — шматгранная асоба. Многа год працавала мастацкім чытальнікам у філармоніі, і гэта дапамагае ёй у працы над самымі складанымі ролямі… Ганна Маслоўская — своеасаблівая, цікавая актрыса з унікальным вопытам. Яна 15 год з'яўляецца кіраўніком клоўнаўскай групы, якая працуе ў хоспісе ў Бараўлянах, групы, якая лечыць хворых дзяцей смехам. Ганна стала адным з лепшых спецыялістаў у гэтай справе. Яна давала майстар-класы ў Маскве, у Швейцарыі… Вырастае ў адметную актрысу Ганна Палупанава. Нядаўняя кінапрэм'ера, у якой яна знялася, засведчыла яе неаспрэчны талент і самабытнасць.

З маладзейшых магу назваць Вераніку, Веранічку Буслаеву. Сёння яна вельмі запатрабаваная актрыса. Многія рэжысёры ірвуць яе літаральна на часткі.

Апошнім часам у тэатр прыйшлі зусім маладыя актрысы — выпускніцы ўніверсітэта культуры і мастацтваў: Насця Баброва, Маша Пятровіч, Юля Шаўчук, Надзя Цвяткова. Вельмі здольныя дзяўчаты, кожная з іх — індывідуальнасць. І што не менш важна — цьфу, цьфу, каб толькі не сурочыць — хораша ўпісаліся ў калектыў.

***— А што з мужчынскаю часткай трупы?***

— З мужчынскаю крыху складаней, не ўсе нішы пакуль запоўненыя. Тым не менш і тут у нас ёсць свае асобы. Я думаю, што кожнаму больш менш дасведчанаму гледачу добра вядома імя Ігара Сігава. Хаця б таму, што сёлета ён быў намінаваны на Оскараўскую прэмію за выкананне ролі ў дакументальным фільме. А тэлегледачы запомнілі яго ў цікавым, шырокамаштабным праекце тэлеканала ГРТ «Гарады-героі». Ну, а ў нашым тэатры ён заняты амаль кожны вечар і, як правіла, у галоўных ролях. Ігар — безумоўны лідар як па прафесійных, так і па чалавечых якасцях. Я, прызнацца, паціху выхоўваю яго ў адпаведным напрамку. Упэўнены: прыйдзе час і я змагу смела перадаць тэатр у яго рукі.

Яркі, таленавіты артыст Саша Марчанка, мой былы студэнт. Цяпер ён не толькі заняты ў многіх папулярных спектаклях, але і кіруе цэнтрам драматургіі і рэжысуры, які не так даўно адкрыўся пры нашым тэатры. А ў пачатку будучага года едзе вучыцца ў Маскву на рэжысёрскія курсы. Не сумняваюся: з яго вырасце цікавы, самабытны рэжысёр. Вельмі каларытны акцёр Андрэй Дабра-

вольскі, мой вучань, абсалютна адданы тэатру, вырас у яркую творчую і чалавечую індывідуальнасць.

Не буду называць усіх, хто заслугоўвае ўвагі і пахвалы — няхай яны мне даруюць. Але паверце: у тэатры шмат таленавітых людзей, і наша трупа сапраўды адна з самых цікавых і творча дзеяздольных. Хаця яна і нешматлікая — усяго 29 чалавек.

***— І вы пры гэтым умудраецеся даваць штогод па чатыры—пяць прэм'ер?***

— Так. А ў лепшыя гады здаралася і болей. Наш пастаянны рэпертуар складаецца з 30 спектакляў. У нас няма праблемы з занятасцю. Гэта, можа, і цяжкавата, затое дае магчымасць акцёрам быць заўсёды ў тонусе.

***— Скажыце, калі ласка, а што з пастаўленага за гэтыя гады ўвайшло ў залаты фонд вашага тэатра, а можа, і ў цэлым беларускага тэатральнага мастацтва?***

— Мне цяжка гаварыць за ўсё мастацтва, а што тычыцца нашага тэатра, то я з задавальненнем назаву некалькі работ, якія — і не толькі на маю думку, але і на думку спецыялістаў — сталі сапраўдным творчым набыткам.

Гэта перш за ўсё — спектакль па п'есе маладога беларускага драматурга Мікалая Рудкоўскага «Жанчыны Бергмана». Спектакль незвычайны ў многіх адносінах. Тут усяго дзве дзеючыя асобы — былая оперная спявачка Інгрыд, якая страціла голас і ад гэтага перажывае глыбокую драму, і медыцынская сястра Ліў, якая страсна жадае хоць чым-небудзь дапамагчы даведзенай да адчаю жанчыне. Інгрыд на працягу ўсяго сцэнічнага часу не прамаўляе ні слова, але дзякуючы майстэрству Таццяны Мархель перад гледачамі разгортваецца ўсё жыццё яе гераіні — поспех, слава, хвароба… Яднанне дзвюх адзінокіх жанчын — адной, якая страціла сэнс жыцця, і другой, якая гэты сэнс пакутліва шукае — і складае галоўны нерв, пафас і сутнасць спектакля. І ўсе тыя дзве гадзіны, што доўжыцца дзеянне, спагада, нібы вольтава дуга, яднае сцэну і глядзельную залу. Дарэчы, магу зазначыць, што спектакль гэты вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь за 2010 год.

Ужо каторы год застаецца ў рэпертуары тэатра пастаноўка Сяргея Кавальчыка «Адвечная песня» паводле твораў Янкі Купалы. Пастаноўка была задумана тэатрам да 125-гадовага юбілею паэта. Ідэяй захапіўся наш малады, таленавіты рэжысёр (цяпер ён, праўда, ужо не наш, а галоўны рэжысёр Рускага тэатра) і вельмі хутка і арыгінальна яе ажыццявіў. Класны атрымаўся спектакль! Дзе мы яго ні паказвалі — усюды атрымоўвалі ўзнагароды. Гэта спектакль пра нас, пра лёс беларускага народа. Купалаўскія тэксты гучаць надзіва сучасна і актуальна.

Яшчэ адна наша ўнікальная работа — спектакль «Дзённік паэта», які паказвае нам генія беларускай паэзіі Максіма Багдановіча. Над пастаноўкай працавалі драматург Сяргей Кавалёў і рэжысёр Віталь Баркоўскі. Асаблівасць гэтай работы ў тым, што яна арганічна спалучае дзве часавыя плыні — мінулае і сучаснае, а таксама два мастацкія стылі — рэалізм і мадэрнізм з ярка акрэсленымі элементамі сатыры і нават гратэску. Між іншым, спектакль ужо запрошаны на фестываль у Бялград, які адбудзецца ў сакавіку будучага года.

Чаму я адзначаю гэты спектакль? У ім ёсць пошук, навізна, арыгінальнасць сцэнічнага ўвасаблення і, самае галоўнае, — думка, якая звернута да самых балючых духоўна-маральных праблем сучаснасці. Спектакль ідзе з аншлагамі і мяне асабліва радуе, што ў глядзельнай зале пераважае моладзь. Значыць, мы яшчэ не ўсё страцілі, значыць, нацыянальная самасвядомасць жывая, і яна яшчэ абудзіцца, ў наступных за намі пакаленнях.

***— Кажучы пра нацыянальную самасвядомасць, вы акцэнт зрабілі на «Дзённіку…» і не назвалі «Каласы пад сярпом тваім» — спектакль паводле рамана Уладзіміра Караткевіча. Спектакль, які ў адной з нашых вядучых газет быў названы падзеяй, з'явай. Не часта нашы рэцэнзенты расшчодрываюцца на такія ацэнкі…***

— Не часта, не часта. Гэта праўда. Сапраўды, «Каласы…» гучаць надзвычай сучасна, напамінаючы гледачам пра цэлы вузел балючых праблем беларускай інтэлігенцыі, страту яе дамінуючых пазіцый, маральны пачатак ва ўчынках і дзеяннях, пачуццё адказнасці. На сённяшні дзень для мяне гэта, магчыма, самы галоўны, самы важны спектакль.

Я доўга думаў, як яго паставіць. Пакуль не прыдумаў такую форму: чытаем Караткевіча. Гэта значыць — выбраныя старонкі з рамана. Такі ход даў мне магчымасць сканцэнтраваць увагу на тых раманных эпізодах, якія найбольш сугучныя сённяшняму дню.

***— Тады чаму апошнім часам яго не бачна ў афішы тэатра?***

— Справа ў тым, што пры ўсім відавочным поспеху і папулярнасці спектакля, з цягам часу ў мяне паявіліся да яго і сур’ёзныя прэтэнзіі. Што такое насамрэч «Каласы…»? Гэта крык збалелай душы. Гэта — шчымліва-тужлівы аповед пра нашу гісторыю, нашы карані. Пра тое, як шмат мы згубілі і працягваем губляць. Найперш — сваю нацыянальную годнасць. Мы не гаворым на матчынай мове. І хто б што ні сцвярджаў, але калі мы не гаворым на роднай мове — мы непаўнацэнныя, наша свядомасць абдзеленая. Гэта — бяда нацыі… Вось што хацелася ў першую чаргу данесці да гледача, абудзіць яго розум і сэрца, прымусіць усхвалявацца, задумацца. У пэўнай ступені нам гэта і ўдалося зрабіць. Але толькі ў пэўнай. Бо знутры я ўбачыў: сапраўдных беларусаў на сцэне няма. Ёсць таленавітыя акцёры, якія з належным майстэрствам прамаўляюць свае дыялогі і маналогі, але за імі не адчуваецца болю ці, дакладней сказаць, ён адчуваецца слаба, невыразна. Для таго ж, каб выказаць гэты боль — аднаго майстэрства мала. Трэба рэальна жыць тымі праблемамі, пра якія ідзе гаворка. На вялікі жаль, многія з нашых акцёраў кепска ведаюць гісторыю роднага краю, кепска валодаюць беларускаю



*Валерый Анісенка разам з Марленам Хуцыевым*
*і Сяргеем Кавальчыкам на гастролях у Волагдзе.*

мовай. Яны на ёй размаўляюць, але гэтая мова для іх толькі рабочая. Па гэтай прычыне я часова «Каласы…» зняў з рэпертуару і думаю, як зрабіць спектакль больш арганічным, усхваляваным, напоўненым.

***— Валерый Данілавіч, ваш тэатр, адпаведна свайму статуту, заклікань садзейнічаць працэсу развіцця нашага нацыянальнага тэатра. Іншымі словамі, ён павінен быць для сучаснай беларускай драматургіі своеасаблівым лабараторным цэхам. Ці ўдаецца вырашаць гэтую адказную і няпростую задачу?***

— Спадзяюся, што ўдаецца. Хай сабе, можа, і не ў поўнай меры, але многае ўдаецца. У рэшце рэшт, усё тое, пра што мы зараз гаварылі, — гэта вынік творчага пошуку, сцэнічнага эксперымента. У нас няма ніводнага спектакля, якія былі б падобны адзін да аднаго. Пры ўсім пры тым, што мы прытрымліваемся, як я ўжо казаў, псіхалагічнага, рэалістычнага напрамку, у нас надзвычай багатая жанравая і стылёвая разнастайнасць. Гэтая разнастайнасць захоўваецца нават у межах месячнага рэпертуару: тут побач з монаспектаклем стаіць ансамблевы спектакль вялікай формы, у якім удзельнічае ледзь не ўся трупа; эпічная пастаноўка суседнічае з лірычнай; сучасны моладзевы мюзікл змяняецца гістарычнай драмай…

Наш галоўны клопат — сістэмная, прадуманая работа з беларускімі аўтарамі. У тэатры мы адкрылі каля сарака новых імён. У нас дэбютавалі альбо зрабілі новы крок у сваёй творчасці такія драматургі, як Мікалай Рудкоўскі, Вячаслаў Панін, Андрэй Карэлін, Святлана Бартохава, Сяргей Кавалёў, Андрэй Шчуцкі, Сяргей Патаранскі, Ягор Конеў, Яўген Таганаў, Дзіяна Балыка…

***— Валерый Данілавіч, некаторых дзівіць тое, што ў тэатры беларускай драматургіі ёсць пастаноўкі, створаныя па п'есах рускіх альбо еўрапейскіх аўтараў. Чым гэта можна растлумачыць?***

— Нічога дзіўнага тут няма. Нельга варыцца толькі ва ўласным саку. Так можна творча зачахнуць. Судакрананне з таленавітай драматургіяй іншых народаў, веданне лепшых узораў замежнага тэатральнага мастацтва ўзбагачае нас, дае магчымасць больш дакладна адчуваць, на якім свеце мы знаходзімся, лепей разумець і свае дасягненні, і свае недахопы.

Таму наш тэатр адкрыты ўсяму новаму, цікаваму, лепшаму. Мы пачалі актыўна асвойваць рускую класіку — Чэхава, Дастаеўскага… Два гады таму адбылася прэм'ера чэхаўскай драмы «Іванаў». Гэта адна з самых неадназначных п'ес класіка. І адна з самых няпростых для рэжысёрскага ўвасаблення. Крытык Тамара Гаробчанка на абмеркаванні спектакля адзначыла неардынарнасць трактоўкі Іванава ў выкананні Ігара Сігава, назвала шмат іншых цікавых акцёрскіх работ.

А летась я рызыкнуў выйсці на суд грамадскасці з прэм'ерай «Чайкі». Рызыка была не столькі ў тым, што прапанаваў чарговую, можа, тысячную, версію неўміручай чэхаўскай камедыі, колькі ў тым, што я адважыўся следам за героем п'есы — Косцем Трэплевым — паставіць яе ў натуральных, прыродных дэкарацыях. Так, так, у тых самых, якія вы толькі што бачылі. І на прэм'еру запрасіў тэатральных крытыкаў, работнікаў літаратуры і мастацтва, грамадскіх дзеячаў, сваіх сяброў. Я хваляваўся як ніколі. На шчасце, патрабавальныя гледачы ацанілі нашу работу даволі высока.

***— Валерый Данілавіч, а чаму вы звярнуліся да Чэхава? Чаму выбралі менавіта ягоную «Чайку», п'есу, здавалася б, далекаватую ад нашых цяперашніх праблем? Задаю гэтыя пытанні таму, што ў свой час вы сказалі (цытую): «сацыяльна-псіхалагічны клімат нацыі, грамадства яшчэ не гатовы да Чэхава. Яго нараджэнне — пачатак веку, перамены, чаканні, надзеі… Тэма адзіноцтва. Настальгія па звону душы, па клічу да чысціні… У нас жа яшчэ ідзе аб'ядалаўка. У нас яшчэ набіваюць, як кенгуру, свае сумкі. Яшчэ не наеліся. А павінна наступіць задаволенасць, сытасць. Пасля — адыход да самога сябе, а пасля ўжо — настальгія па сабе. Тады нам стане зразумелы Чэхаў. Зразумелы не толькі розумам. Розумам мы яго спасцігалі заўсёды. Спасцігалі, але не адчувалі. Дык вось Чэхаў — аўтар заўтрашняга дня для нашага грамадства».***

***Так разважалі вы трыццаць гадоў таму. А сёння што, вы думаеце ўжо па-іншаму? Грамадства перамянілася?***

— Хутчэй за ўсё перамянілася не грамадства, а я. З гадамі я зразумеў, што Чэхаў, акрамя ўсяго іншага, яшчэ і прарок, які прадказаў многія экалагічныя беды свету. Ці не пра гэта вядомы маналог Ніны Зарэчнай? «Мировая душа» ўсяго жывога раз у сто гадоў спускаецца на зямлю, каб папярэдзіць нас пра небяспечныя катаклізмы, а мы яе не чуем. І калі нас сёння то залівае, то засушвае, то калоціць землятрус — гэта не віна прыроды. Гэта мы давялі планету да такога стану. Гэта вынік нашых дзікунскіх адносін да прыроды, вынік нашай злачыннай безадказнасці. Магчымы канец свету, а мы возімся са сваімі комплексамі і недахопамі, мучаем адзін аднаго. Вось пра што чэхаўская «Чайка»! І мне падалося вельмі важным данесці гэтыя думкі-папярэджанні да сённяшняга гледача.

***— Зразумела. А чым вас прывабіў Дастаеўскі?***

— У Дастаеўскага я выбраў геніяльны раман «Злачынства і пакаранне». Вядомы драматург Алена Папова зрабіла інсцэніроўку «Сонечка». Мяне тут займае праблема: якую мужнасць трэба мець маладой душы, каб не згубіцца ў гэтым свеце, каб пераадолець усе спакусы, каб пачуць самога сябе…

І, вядома ж, многае нам дае ўдзел у розных міжнародных фестывалях. Гэта — своеасаблівыя тэатральныя агледзіны, якія даюць выдатную магчымасць, як кажуць, і сябе паказаць, і іншых паглядзець. А паглядзець там заўсёды ёсць што. Паглядзець, павучыцца, пераняць — у сэнсе цікавых тэатральных ідэй, новых метадалогій і тэхналогій нашай прафесіі.

Таму мы ахвотна адгукаемся на такога кшталту запрашэнні нашых замежных калег. Я неяк сеў і падсумаваў, дзе наш тэатр пабываў за дзесяць гадоў маёй працы. Аказалася, геаграфія даволі шырокая — Францыя, Германія, Румынія, Егіпет, Польшча, Расія… А ўсяго мы прынялі ўдзел больш як у сарака міжнародных тэатральных фестывалях. І амаль з кожнага прывозілі тую ці іншую ўзнагароду. Калі не гран-пры, то прыз за арыгінальнае рэжысёрскае вырашэнне, за лепшую жаночую ролю. Вось і зусім нядаўна наша актрыса Ганна Палупанава атрымала ўзнагароду за лепшую ролю другога плана на міжнародным фестывалі «Смаленскі каўчэг» у спектаклі «Палёты з анёлам».

***— Тады чаму вы не ўдзельнічаеце ў фестывалях, якія праводзяцца ў нашай рэспубліцы?***

— Ведаеце, фестываль фестывалю — вялікая розніца. Скажам, брэсцкая «Белая вежа» даволі прыстойнага ўзроўню. І мы там напачатку ўдзельнічалі — прывозілі «Рычарда III» і «Макбета». Былі запрошаны яшчэ раз, але тады ўжо там было шмат гасцей і арганізатарам было не да нас. А я не люблю, калі дзеляць на сваіх і гасцей. Праўда, трэба аддаць належнае размаху і арганізаванасці гэтага фестывалю.

А вось мінская «Панарама» вызначаецца абсалютнай неарганізаванасцю, непрафесіяналізмам, пачынаючы ад выбару спектакляў, іх выпадковасці, аднатыпнасці, аднафарматнасці, і канчаючы суб’ектыўнасцю ацэнак журы.

Магу прывесці прыклад фестывалю высокага класа. Гэта — міжнародны маладзёжны форум «Март-кантакт», які праводзіцца ў Магілёве. Абсалютна бліскучае мерапрыемства — і па выбары спектакляў, і па арганізацыі, і па тым, як працуе маладзёжная рэдакцыя. Там кожны год бывае па два-тры спектаклі-з’явы, спектаклі-ўзрушэнні. Фантастыка!

***— Вернемся, аднак, да набыткаў…***

— Я думаю, што мы можам смела ганарыцца і тым, што стварылі ў тэатры прыстойныя ўмовы для працы. Калі я сюды прыйшоў, былі ўсяго два службовыя пакойчыкі і адзін тэлефон. Сёння мы маем цэлы паверх з мноствам падсобных памяшканняў і неабходнай колькасцю тэлефонных нумароў. Ёсць тры рэпетыцыйныя залы, службовыя грымёркі. Гэтага ж нічога не было! Больш таго, за апошнія гады змаглі абсталяваць для акцёраў спартыўную залу з найсучаснымі

трэнажорамі, танцзалу з люстранымі сценамі, выдзелілі асобны пакой для маладых крытыкаў, адкрылі цэнтр драматургіі і рэжысуры — своеасаблівы эксперыментальны палігон для пачынаючых. Словам, правялі генеральную рэканструкцыю тэатра. І хоць гэта каштавала мне Бог ведае колькі нерваў, сіл і здароўя, затое цяпер прыемна да нас зайсці. Праўда, ваш брат-журналіст ацаніў гэта своеасабліва. Мяне ў прэсе сталі называць гаспадарнікам. Як быццам усе гэтыя гады ў нас не было творчых дасягненняў. Такая «ўвага» да маёй сціплай персоны была несправядлівая, тэндэнцыйная, але я стараўся ні на што не рэагаваць. Галоўнае, каб жыў і развіваўся тэатр. А ён, дзякаваць богу, жыве!

Канечне, многае і не ўдалося. Як па аб'ектыўных прычынах, так і па суб'ектыўных. Але мне, па праўдзе кажучы, пра гэта нават не хочацца гаварыць. Гэта — жыццё. Не ўдалося сёння, удасца заўтра.

***— Давайце глянем на тэатр крыху шырэй. Ёсць два супроцьлеглыя погляды на гэты від мастацтва. Адны лічаць, што тэатр створаны для падману і забавы. Ён не можа быць тым, кім ён імкнецца стаць. Яго роля больш простая. Гэта — цырк на сцэне, фрывольнасць у паводзінах персанажаў, спрошчанасць да ўбогасці дэкарацый і іншыя сучасныя «прелести». Другія ж, у прыватнасці К. Станіслаўскі, разглядаюць тэатр як самую магутную кафедру, яшчэ больш моцную па сваім уплыве, чым кніга і прэса.***

***Наш вядомы артыст Генадзь Гарбук у адным са сваіх інтэрв'ю зазначыў: калі тэатр перастае быць трыбунай выхавання, ён немінуча скочваецца ўніз і ператвараецца ў забаўлянку. Мне вельмі блізкая такая пазіцыя. А вам, Валерый Данілавіч?***

— Мне таксама. Уласна кажучы, мой тэатр — гэта ўсё, што вакол Чалавека, яго душы, яго сэрца. Жыццё чалавечага духу — галоўная мэта псіхалагічнага, рэалістычнага тэатра, а значыць, і галоўная задача яго рэжысёра. Таму для мяне заўсёды былі і застаюцца ў цэнтры ўвагі так званыя вечныя тэмы: што я ёсць? у чым сэнс жыцця? барацьба дабра і зла… Тэатр закліканы выхоўваць у чалавеку не проста «ценителя прекрасного», не проста культурнага чалавека, а грамадзяніна. Мастак павінен быць чуйным да духоўных запатрабаванняў сучаснасці, востра адчуваць грамадзянскія жарсці часу.

А што мы бачым? Ідзе татальны наступ на псіхалагічны тэатр, фарматворчасць запаланіла свет. Бываючы на шматлікіх фестывалях, я здзіўляўся неверагоднай колькасці рэжысёрскіх прыдумак, багаццю тэатральных прыстасаванняў, фарбаў, гукаў, незвычайнаму валоданню умоўных прыёмаў, вобразнасці, метафарычнасці і гэтак далей. Але я на такіх спектаклях, прызнаюся, сумаваў. Мне хацелася ўбачыць што-небудзь чалавечае. Ціхае і сардэчнае. І каб яго не глушыла, не забівала знешняе майстэрства. Усе гэтыя «ізмы», па вялікім рахунку, — ад бяссілля спасцігнуць сутнасць чалавечую.

***— Але ж і зусім адмаўляцца ад пошуку, ад эксперымента ў мастацтве нельга…***

— А хто кажа, што трэба адмаўляцца? Наадварот, сучасны тэатр абавязаны ўсё цікавае, усё разумнае браць на ўзбраенне, творча засвойваць, узбагачаць рэалістычныя сродкі выразнасці. Сутнасць праблемы ў тым, дзеля чаго ўсё гэта мы выкарыстоўваем — для стварэння ці разбурэння? Тэатр павінен быць не для вока, а для душы. Не забаўляць, не закалыхваць чалавека, а трывожыць у ім памяць і сумленне, не даваць яму заставацца абыякавым у крутаверці штодзённых спраў.

Тэатр душы павінен, абавязаны ўзрушаць. Не дарма ж вышэйшым жанрам літаратуры лічаць трагедыю, драму. Мне ў свой час удалося пабачыць лепшы сусветны псіхалагічны тэатр. Пачынаючы з 60-х гадоў мінулага стагоддзя — а я ўпершыню трапіў на спектаклі юнага маскоўскага тэатра «Современник» зімой 1961 года — да сярэдзіны 80-х Масква па ўсеагульным прызнанні і па праве лічылася тэатральнай Меккай свету. Рэжысёрскія імёны Алега Яфрэмава, Анатоля Эфраса, Андрэя Ганчарова, Барыса Львова-Анохіна, Георгія Таўстано-

гава, Ігара Уладзімірава, Барыса Равенскіх, Леаніда Хейфеца, Анатоля Васільева, Марка Захарава — вось залатая абойма савецкай рэжысуры, рускага тэатра. У гэтага тэтра я вучыўся і вучуся.

***— Рускі класічны тэатр засноўваўся на трох важнейшых прынцыпах: мастацкасці, маральнасці і грамадзянскасці. А на якіх прынцыпах будуеце, развіваеце свой тэатр вы?***

— Я падтрымліваю і падзяляю згаданыя вамі прынцыпы. Гэта — самы надзейны і самы жыватворны грунт, на якім толькі і можна вырасціць нешта прыстойнае. Што такое мастацкасць? Гэта ўменне шэрагам спецыфічных прыёмаў у вобразнай, эмацыянальнай форме перадаць гледачу сэнсавы зарад спектакля. Здавалася б, так проста. Але гэта падманлівая прастата. Для таго, каб нешта перадаць, трэба гэтае «нешта» мець у сваёй душы. Гледача трэба пераканаць, зацікавіць, усхваляваць, пасеяць сумненне, прымусіць задумацца і многа, многа яшчэ чаго іншага. Канечне, лягчэй гледача забаўляць з дапамогай розных сцэнічных прыёмаў і прыёмчыкаў, якіх цяпер безліч навыдумлялі. Але што могуць выклікаць у душы гледача хай сабе і самыя арыгінальныя, самыя найноўшыя рэчы, калі яны пабудаваны па-за сістэмай маральных каардынат, у прасторы поўнай адноснасці дабра і зла, святла і цемры?

Што тычыцца грамадзянскасці, то мы пра гэта ўжо часткова гаварылі. Яе чамусьці маладыя рэжысёры саромеюцца, цураюцца. З сучаснага тэатра, на вялікі жаль, сышла душа народа. Жыццё асобных характараў, індывідуальныя шляхі яшчэ праглядваюцца, а вось лёс народа, святло яго ідэалаў, сэнс гісторыі — ледзь-ледзь бачны.

***— Ёсць розныя формы тэатра: псіхалагічны, тэатр перажывання, тэатр прадстаўлення, натуралістычны тэатр, абсурдзісцкі і гэтак далей. Сёння ў вялікай пашане рэжысура формы, калі спектакль мае кідкую форму і экстравагантнае рашэнне. А што бліжэй вашай душы, вашаму густу?***

— Мне, канечне ж, бліжэй тэатр псіхалагічны. Іншая справа, што сёння такая пазіцыя малапапулярная. Мы ўсё гонімся за еўрапейскай модай, пераймаем чужое. Ахаем і охаем, як там цікава, арыгінальна, здорава. І забываем ці не ведаем, што ўсё гэта ў нас ужо было. Было ў 20—30-я гады. У тэатры Меерхольда, Таірава і іншых бунтаўшчыкоў мастацтва. Было і сышло, як цікавае, але малаплённае. Навошта ж паўтараць мінулае?

***— У гэтай сувязі хачу нагадаць вам адну цытату. «Ці дастаткова новых тэатральных ідэй нараджаем мы сёння на нашай сцэне? Ці распрацоўваем мы новыя спосабы тэатральнай выразнасці, без якіх няма руху ў нашым мастацтве, альбо маніпуліруем старымі, ужо засвоенымі? Якім чынам сёння ажыццяўляецца вялікае прызначэнне тэатра, яго выхаваўчая функцыя?»***

***Гэтыя пытанні вы задалі самому сабе трыццаць гадоў таму. І адказалі на іх у газетным артыкуле. А як бы вы адказалі на іх сёння? Яны не страцілі сваёй актуальнасці?***

— Гэта я быў такі разумны (смяецца)… На жаль, і праз трыццаць гадоў магу сказаць, што пытанні гэтыя сваёй актуальнасці не страцілі. Па-першае, не ўсё так проста. Новыя тэатральныя ідэі нараджаюцца не па заказе і не кожны год. Калі Чэхаў пачаў пісаць новыя п’есы, не так, як было да яго, — вось гэта была новая ідэя. Але гэта, паўтаруся, адбываецца не кожны дзень.

І па-другое, як казаў паэт, «мы ленивы и не любопытны». У нас вельмі мала жывога тэатра. Пачынаючы ад тэмы размовы і канчаючы тым, як гэта робіцца. Халтуры многа. Недакладнасцей. Непрафесіяналізму. Наша вялікая бяда — дылетантызм.

**— Растлумачце, калі ласка, што такое новыя спосабы тэатральнай выразнасці.**

— Ну от, напрыклад, прыехалі мы ў Іркуцк. На гастролі. Горад, вакол якога тайга, на дзесяткі, сотні кіламетраў суцэльны лес. Таму іркуцяне на дэкарацыі

драўніны не шкадуюць. У іх усё на сцэне сапраўднае — слупы, вагоны, пакоі… А мы прыехалі з «Адвечнай песняй», дзе ўся дэкарацыя — круг дыяметрам тры метры ды сялянскія граблі. І тым не менш гэта было выразна, вобразна, здорава. Старшыня заканадаўчага сходу Іркуцкага краю пасля на абмеркаванні нашых гастроляў выказаў шчырае захапленне. Аказваецца, зазначыў ён, можна і не траціць дзесяткі кубаметраў драўніны, абыходзіцца мінімумам. Ды яшчэ з большым поспехам.

І гэта сапраўды так. Новыя сродкі тэатральнай выразнасці даюць магчымасць пазбягаць натуралізму, шырэй ужываць вобразнасць, метафарычнасць. Але пры гэтым не трэба забываць, што самы выразны сродак — гэта артыст на сцэне. І самы істотны сродак.

Цяпер жа могуць рабіць (і робяць!) дэкарацыі на сто тысяч долараў. Гэта ўжо спаборніцтва тэхналогій, і яно да мастацтва іншым разам ніякага дачынення не мае.

***— А ў самога акцёра новыя сродкі выразнасці таксама паявіліся?***

— Канечне. Так, як размаўлялі на пачатку мінулага стагоддзя і цяпер — гэта дзве вялікія розніцы. Сцэнічная мова мяняецца. Мяняюцца некаторыя акцёрскія прыёмы. Але галоўным было і застаецца патрабаванне — каб ты быў чутны, выразны, зразумелы. На гэты конт у мяне нават ёсць свой асабісты афарызм: зачаць дзіця можна розным спосабам, а нараджае яго і каралева, і сялянка аднолькава — у пакутах, з крывёю. Так і ў тэатры. Што б ты ні прыдумляў, галоўнае — каб канчатковым вынікам адбывалася судакрананне душ. А для гэтага акцёр павінен валодаць пэўным наборам прафесіянальных якасцей.

***— Ну вось мы лагічна падышлі да аднаго з самых складаных пытанняў: традыцыі і наватарства, традыцыі і мода… Гэта — адвечныя тэмы для спрэчак, для дыскусій. Розныя тэатры ці, дакладней сказаць, розныя мастацкія кіраўнікі тэатраў ставяцца да гэтай праблемы па-свойму. Адны, як скажам, маскоўскі Малы тэатр, строга прытрымліваецца традыцый класічнай драматургіі. Другія, як тэатр Любімава, поўнасцю адданыя навацыям, эксперыментам. А якога накірунку прытрымліваецеся вы ў сваёй рэжысёрскай практыцы?***

— Я прытрымліваюся хутчэй традыцыйнага рэчышча. Але пры гэтым стараюся адпавядаць дню сённяшняму. На прыкладзе дэкарацый я ўжо паказаў вам, як гэта адбываецца на практыцы. Павінна быць разумная дыялектыка, разумнае ўзаемадзеянне паміж традыцыямі і наватарствам. Аднак аснова — традыцыі.

***— Агульнавядомая ісціна: няма сапраўднай драматургіі — няма і тэатра. Мне даводзілася прысутнічаць на адной дыскусіі, падчас якой выказваліся прама процілеглыя думкі. Рэжысёры сцвярджалі, што цікавых п'ес беларускіх аўтараў няма, а драматургі пераконвалі, што п'ес дастаткова, але яны абсалютна не цікавяць нашых рэжысёраў. Дзе тут праўда?***

— Пасярэдзіне. Таму што сцвярджаць нібыта беларускіх п'ес няма — гэта няпраўда. Дастаткова паглядзець на афішу нашага тэатра: беларускі рэпертуар займае 75 працэнтаў. І пры гэтым запаўняльнасць на такіх спектаклях амаль 90 працэнтаў. Значыць, беларускія п'есы не толькі ёсць, але яны і дастаткова цікавыя.

Іншая справа, што іх мала. Але іх і ніколі не было многа. Дзве-тры харошыя п'есы — гэта нармальна.

***— Вы мяне ўразілі лічбаю 75 працэнтаў. Такога, бадай, няма ні ў адным з тэатраў рэспублікі.***

— Няма. Ведаю гэта дакладна.

***— А як у вас ідзе падбор і адбор п'ес? Хто гэтым займаецца? Хто прымае канчатковае рашэнне?***

— У прынцыпе гэтым павінны займацца прадстаўнікі літаратурнай часткі. Але паколькі іх у мяне, на жаль, практычна няма, то многа даводзіцца чытаць самому. А п'ес у нас шмат. І прыносяць, і прывозяць, і прысылаюць. Канечне, не ўся гэта плынь трапляе на мой пісьмовы стол. Адбор ідзе на розных узроўнях,

і адбор карпатлівы, сур'ёзны. А канчатковае рашэнне, зразумела, прымаю я. На мне як мастацкім кіраўніку ляжыць вялікая адказнасць за лёс тэатра, за яго поспехі і няўдачы. І гэтая адказнасць пачынаецца ўжо пры выбары п'есы. Я павінен прадугледзець, куды і ў што гэта выльецца.

І яшчэ. Нельга сядзець склаўшы рукі і чакаць, што да цябе самахоць прыплыве геніяльная п'еса. Такое, можа, і бывае, але дужа рэдка. Часцей за ўсё трэба праяўляць ініцыятыву самому — шукаць новых аўтараў, працаваць з імі, падказваць нешта ім, памагаць. Тады ў выніку сумеснай працы магчыма штосьці прыстойнае і народзіцца.

***— Валерый Данілавіч, тэатру не раз прарочылі смерць. Першы раз, калі паявілася кіно. Пасля — з паяўленнем тэлебачання. Цяпер падставаю для песімістычных прагнозаў стаў Інтэрнэт з яго сапраўды неабмежаванымі, унікальнымі магчымасцямі. А тэатр, дзякаваць богу, жыве. Чаму?***

— Тэатр не памрэ ніколі! Таму што гэта жывое мастацтва, вельмі неабходная форма чалавечых зносін. Калі хочаце, гэта своеасаблівае лякарства ад раз'яднанасці. Ён, па вялікім рахунку, і існуе толькі тады, калі паміж сцэнай і залай узнікае тая самая «вольтава дуга», пра якую ўжо мы гаварылі і якая і ёсць сутнасць тэатральнага мастацтва.

Некаторыя нашы тэатры ў пагоні за гледачом ідуць на знарокавую палітызаванасць, гоняцца за вострай публіцыстычнасцю, злабадзённасцю. Ці варта гэта рабіць? Я думаю, варта. Тэатр можа быць розным. Але ён усё ж павінен выконваць сваю галоўную справу, якой служыў на працягу доўгіх тысячагоддзяў — даследаваць чалавечую душу. Каб гаварыць аб відавочных праблемах часу, не трэба быць мастаком. Дастаткова быць рэпарцёрам. У тэатра ж іншае прызначэнне. З яго нельга выходзіць разбітым і расціснутым. Калі гаварыць аб тым, што чалавек па сваёй сутнасці мярзотнік і ніколі іншым не будзе, жыццё наша лягчэйшым і святлейшым не стане. Ганаровая місія нашай прафесіі — узняць чалавека, паказаць яму неба і зоркі, даць крылы надзеі.

***— Тэатр у XX стагоддзі быў рэжысёрскім, так званым пастановачным тэатрам, дзе асоба акцёра мае другаснае значэнне, становіцца сродкам выразнасці, сродкам увасаблення рэжысёрскай ідэі. А якім, на вашу думку, будзе тэатр у XXI стагоддзі?***

— Я думаю, што ён і будзе такім. Таму што рэжысёр — усеабдымная, інтэгральная прафесія. Рэжысёр — лідар, бацька тэатра, бацька спектакля. Канечне, добра, калі і акцёр становіцца саўдзельнікам, сааўтарам пастаноўкі. Але ўсё роўна само па сабе дзейства не атрымаецца, яго трэба арганізоўваць.

## Здзіўляць не формаю, а думкаю

***— Валерый Данілавіч, я ведаю, што вы па адукацыі — акцёр. І больш як дзесяць гадоў працавалі менавіта акцёрам. Чаму і як прыйшлі да рэжысуры?***

— Думка пра тое, каб стаць рэжысёрам нарадзілася ў мяне яшчэ ў інстытуцкія гады. Калі паглядзець мае студэнцкія запісы, лекцыі, то там у мяне многа розных паметак, заўваг адносна рэжысуры. Я ўжо тады свядома ці паўсвядома нібыта рыхтаваўся да гэтай прафесіі. Помню, як мы разам з маім аднакурснікам Андрэем Андросікам марылі, што пасля заканчэння інстытута створым сваю вандроўную трупу і будзем ездзіць на вазах, выступаць у самых аддаленых куточках Беларусі.

Так што рана ці позна я, відаць, усё роўна прыйшоў бы ў рэжысуру. Проста гэта магло быць больш павольна, больш мякка, а не так рэвалюцыйна, як у мяне атрымалася. Таму што я вельмі любіў акцёрскую прафесію. Вельмі. І нікім сябе другім не бачыў. Аднак лёс склаўся так, што я, хораша пачаўшы ў Віцебску, праз два сезоны прыйшоў у Мінск, у Купалаўскі тэатр. На маю бяду, пакуль афарм-

ляўся перавод, у тэатры змяніўся і дырэктар, і мастацкі кіраўнік. І мяне там ніхто не чакаў. Горш таго, у трупе акцёраў майго плана аказалася чалавек пяць-шэсць. Тарасаў, Белахвосцік, Мілаванаў, Гарбук… І я амаль дзесяць гадоў быў на падхваце. Нават калі атрымоўваў галоўныя ролі, яны былі ўжо адыграныя. Таму маё самалюбства, кажучы па-руску, было сильно уязвлено. Хаця я не крыўдзіўся, нікому не скардзіўся. Чэсна працаваў усе гэтыя гады.

***— І як вы выйшлі з гэтай, прама скажам, мала прыемнай сітуацыі?***

— Я вырашыў пайсці вучыцца ў Маскву на рэжысёрскія курсы. Тым больш, што ў мяне ўжо сякі-такі вопыт быў. У 1976 годзе адбыўся мой рэжысёрскі дэбют на радыё. Я паставіў паўгадзінны радыёспектакль «Крык чайкі» па аднайменным апавяданні Алеся Асіпенкі. Дэбют аказаўся паспяховым. Спектакль быў адзначаны як лепшая рэжысёрская работа. Гэта мяне, безумоўна, акрыліла, надало ўпэўненасці, і я зрабіў рашучы і круты паварот у сваім лёсе.

***— Памянялі любімую акцёрскую прафесію на рэжысёрскую, а прэстыжнае, стабільнае становішча купалаўца — на поўную невядомасць і хісткую няпэўнасць?***

— Прыкладна так. Хаця, паўтаруся, рана ці позна я ўсё роўна прыйшоў бы ў рэжысуру. Гэта — мая справа, таму што маім здольнасцям заўсёды было мала адной справы. Мне хацелася паспрабаваць свае сілы і ў тым, і ў тым, і ў тым. А рэжысура якраз усё гэта аб'ядноўвае. Ёй усяго мала. Колькі б ні ведаў — мала. Бясконцая прафесія.

***— А якіх якасцей патрабуе гэтая прафесія?***

— Вельмі многіх. Перш за ўсё моцнага характару, волі. Для таго, каб арганізаваць творчы працэс, трымаць дысцыпліну, захапіць трупу сваімі ідэямі. Не стамляцца вучыцца. Не бранзавець. А то многія дзеячы майго пакалення ўжо на вы самі з сабой. Выпрабаванне ўладай і славай — ох якая няпростая рэч! А яшчэ рэжысёру вельмі важна бачыць перспектыву. Спектакля яшчэ няма, а я яго бачу, і цягну туды ўсіх. І на заключным этапе ўмець звязаць усё ў адно цэлае: ігру акцёраў, святло, музыку, дэкарацыі… І пасля гэтага — здараецца цуд альбо не здараецца.

***— І ў гэтым увесь драматызм вашай прафесіі.***

— Гэта — мастацтва. Тут стопрацэнтнай гарантыі не бывае. О, гэта гераічная, унікальная, ашаламляльная прафесія!

***— Вы неяк сказалі, што рэжысура, акрамя іншых прафесійных якасцей, яшчэ і каласальная здольнасць да супраціўлення. Што гэта значыць?***

— Я скажу. Сёння на рэпетыцыі вы маглі трохі бачыць, як некаторыя акцёры спрабавалі цягнуць коўдру на сябе. У прынцыпе, гэта добра, калі акцёр праяўляе ініцыятыву. Але тут трэба быць вельмі пільным. Калі дазволіць гэта рабіць увесь час, без кантролю, без адсеву — акцёры расцягнуць усю рэжысёрскую задуму. Спектакль, можа, і атрымаецца, але ў ім не будзе твайго бачання, твайго адчування, твайго тэмпарытму.

Рэжысёру патрэбна ўменне трымаць усё ў сваіх руках. Нешта прыняць, недзе пайсці на кампраміс, а ад нечага і рашуча адмовіцца. Словам, напружваючы сілу волі, кіраваць гэтым складаным працэсам. Прычым старацца не задавіць акцёраў, каб яны маглі імправізаваць, адчуваць сябе творцамі, маглі паважаць сябе.

***— Ведаеце, Валерый Данілавіч, чытаючы вашу кнігу «Нататкі пачынаючага», мяне вельмі ўразілі тыя старонкі, дзе вы апавядаеце, з якімі цяжкасцямі, якімі пакутамі нараджаўся ваш першы спектакль «Паляванне на качак» па п'есе Аляксандра Вампілава. А цяпер, маючы за плячыма амаль сорак гадоў рэжысёрскага вопыту, спектаклі нараджаюцца хутчэй, лягчэй?***

— Не, не. Гэта як з дзіцём. Яно можа нарадзіцца і ў сем месяцаў. Але каб яно было здаровае, нармальнае, яго трэба вынасіць. Так і ў маёй справе. Усё трэба вынасіць, выпакутаваць, выпеставаць, пакуль народзіцца нешта вартае ўвагі. І пры тым я павінен прызнацца, што ідэальным не магу лічыць ніводнага свайго

спектакля. Нават таго, у якім я іграю галоўную ролю і які сабраў ужо цэлы букет розных узнагарод.

***— Пасля такога прызнання міжволі напрошваецца пытанне: дык рэжысёрам нараджаюцца ці ўсё ж такі ім становяцца?***

— Становяцца, канечне. Але, безумоўна, адпаведныя прыродныя даныя павінны быць. Творчы пачатак. Лідарскія здольнасці. Астатняму, пры вялікім жаданні, можна навучыцца. Самае галоўнае, на маю думку, выхаваць у сабе асобу, свае адценні ў светаўспрыманні жыцця. Пры ўсім пры тым, якія б жыццёвыя складанасці не выпрабоўвалі цябе, калі ты Мастак, Творца — найпершае: самавыхоўвайся, беражы сябе, развівай.

***— «Увесь мой шлях у рэжысуру — гэта самаадукацыя», зазначылі аднойчы вы. Але ж у вас за плячыма не толькі тэатральна-мастацкі інстытут, а і вышэйшыя рэжысёрскія курсы. Што, гэтай адукацыі, каб паўнацэнна працаваць рэжысёрам, вам не хапіла? Вы і цяпер працягваеце самаадукацыю?***

— Абавязкова! Як толькі спыніўся, вырашыў, што ўжо ўсё ведаеш, усё спасціг — гэта канец.

***— Якім жа чынам вы павышаеце свой прафесіянальны ўзровень?***

— Для мяне вельмі многае даюць фестывалі. Я прагна фіксую ўсе тэатральныя навінкі, знаходкі, адзначаю, у якім напрамку ідзе пошук новых выразных сродкаў. Акрамя гэтага многа гляджу спектакляў на відэа. У мяне ёсць «талерка» — гляджу канал «Культура». Цікаўлюся спецыяльнай літаратурай. Вось і зараз чытаю цудоўную кніжку Сяргея Юрскага «Кто держит паузу». Кожны раз, калі бываю ў Маскве, я абавязкова наведваю кніжныя магазіны. Апошнім разам набраў кніг на трыста долараў. Ну і само сабой — чытаю прэсу. Я ў курсе тэатральных спраў.

***— Ведаю, што вы яшчэ абавязкова ходзіце на прэм'еры ў іншыя тэатры. Гэта — з ветлівасці, з цікаўнасці ці таксама з надзеяй убачыць што-небудзь новае, карыснае для сябе?***

— Так, хаджу. Не заўсёды, праўда, атрымоўваецца, але стараюся. Трэба ведаць, што робіцца ў калег. І сабе ведаць цану. Я ў адрозненне ад некаторых маладых калег, якія ўяўляюць, што яны пачынаюць з чыстага ліста, помню, што былі папярэднікі, ёсць багатая гісторыя, ёсць вялікі пласт культуры і што я знаходжуся толькі на нейкай прамежкавай прыступцы.

***— Прабачце, калі ласка, але я спашлюся яшчэ на адну вашу думку. Калісьці, на пачатку сваёй рэжысёрскай кар'еры вы сказалі: «Галоўнае ўменне рэжысёра — не перашкаджаць акцёру. Буду вучыцца гэтаму. Навучыцца б яшчэ памагаць». Навучыліся?***

— Думаю, што так. І вялікую ролю ў гэтым адыграла мая першая, акцёрская адукацыя. Рэжысёры, якія не ведаюць, што гэта такое, яны баяцца акцёраў. І тады хаваюцца за розныя сцэнічныя прыёмы — за лямпачкі, за дымы, усялякую мішуру. Але ж акцёр ніколі не зробіць ролю сам. Яму патрэбен павадыр. Нават самы вялікі акцёр патрабуе рэжысёрскага вока і рукі.

***— Акцёрскі стаж вам на карысць?***

— Канечне! Чаму я цяпер так упэўнена адчуваю сябе? Таму што я ведаю акцёрскую прыроду. Ведаю, як там выспявае тое ці іншае рашэнне ролі. Ведаю, як каму зрабіць заўвагу, нават з якой танальнасцю ў голасе да каго падысці. Гэта ўсё вельмі тонкая і далікатная справа. Адзін няправільны крок — і чалавек саб'ецца, сціснецца ў кулачок. А я ўмею (спадзяюся, што ўмею) зрабіць так, каб акцёр разняволіўся, раскрыўся, вочы яго загарэліся, душа затрапятала.

Аднойчы Таня Мархель (я заву яе Таняй, ёй гэта падабаецца) прызналася мне: сяброўкі пытаюцца ў яе, што ты ўсё квітнееш? А яна ім і адказвае: як жа мне не квітнець, калі галоўны рэжысёр кожны дзень кажа мне, якая я прыгожая, якая таленавітая. І, напэўна, і па гэтай прычыне яна прыходзіць на рэпетыцыі з задавальненнем.



*З дачкой Анютай і ўнучкай.*

Не менш важная дапамога рэжысёра і ў тэхналогіі распрацоўкі ролі, у спасціжэнні розных хадоў. Глядач пасля бачыць толькі адзін з мноства разабраных і замацаваных, адобраных рэжысёрам хадоў. Але гэты адзіны трэба было знайсці, вынасіць, выпакутаваць, вымаўчаць, выдыхаць, умыцца слязою…

***— Таццяна Арлова, наш вядомы тэатральны крытык, рэцэнзуючы адну з лепшых вашых пастановак, зазначыла: «Анісенка як рэжысёр добра ведае цану рэжысёрскага дыктату ў спектаклі. Ён выявіў дэспатызм, каб зрабіць акцёра аўтарам ягонай ролі».***

— Воля, пра якую я ўжо казаў. Яснае бачанне мэты. Я ведаю, што ў спектаклі павінна быць. Ведаю, як гэта шукаць ці, па крайняй меры, ведаю, дзе гэта шукаць. Без такой цвёрдай волі, без выразнага, акрэсленага разумення, чаго ты хочаш, чаго дабіваешся — да вызначанай мэты не дойдзеш. Ты будзеш добрым, мяккім, пухнатым, але ты не будзеш рэжысёрам. Гэта — адна з прынцыповых умоў прафесіі.

***— Хачу задаць вам пытанне, якое мяне (і, думаю, не аднаго мяне) даўно хвалюе. Гэта — адносіны да класікі. Чамусьці стала ледзь не паўсюднай з'явай, калі геніяльныя творы Шэкспіра, Астроўскага, Чэхава і іншых класікаў становяцца аб'ектам рэжысёрскага самавольства, калі не сказаць мацней. Што, на вашу думку, з'яўляецца галоўнай прычынай такога валюнтарызму: адсутнасць культуры, недастатковы прафесіяналізм ці жаданне вылучыцца любой цаной?***

— У канчатковым выніку — прафесійная негрунтоўнасць. Вось цяпер усе гавораць пра тое, як смела і арыгінальна пастаўлены ў тэатры Вахтангава «Дзядзя Ваня». Як там гвалцяць Соф'ю прама на возе і яшчэ шмат чаго іншага.

Я так не раблю не таму, што не магу ці нечага баюся. Не. Разумееце, ёсць яшчэ этыка, святыя правілы. Ёсць аўтарская зона, якую трэба спасцігаць. Не трансфармаваць яе, не ламаць, не рабіць з Чэхава Стрынберга і наадварот, а спа-

сцігаць аўтара. А гэта, безумоўна, куды цяжэй, чым здзіўляць гледача чымсьці знешнім, экстравагантным.

Дык вось у тэатры вельмі часта сваё прафесіянальнае бяссілле рэжысура хавае за форму. Чаму? Калі ты калупнеш нейкага малавядомага Івана Іванавіча — гэта нікога не ўразіць, а вось калі дасі па твары класіку — будуць лічыць цябе смелым чалавекам. А на самай справе такі чалавек выцяў не класіка, а самога сябе.

Вы маеце рацыю: гэта пытанне культуры. Маё выхаванне не дазваляе мне рабіць такое. Я стараюся менавіта спасцігаць аўтара, асабліва калі гэта сусветна прызнаны класік. Здзіўляць трэба не толькі формаю, а і зместам, думкаю.

***— Дарэчы, наконт здзіўлення. Вы не так даўно зрабілі даволі смелы крок — узяліся за пастаноўку ў нашым оперным тэатры класічнага твора «Алека». І, здаецца, не без поспеху. Ва ўсякім разе, Маргарыта Ізворска-Елізар'ева так пракаменціравала ваш дэбют: «Анісенка вельмі музычны чалавек і на інтуітыўным узроўні ў сваіх вырашэннях больш дакладны за музыкантаў, захопленых канцэптуальнасцю. У яго творчым метадзе шмат карыснага для развіцця спевака-акцёра...» А як вы самі ацэньваеце сваю працу ў новым амплуа?***

— Я задаволены ўжо тым, што на гэтым праекце не загінуў. А мог бы і загінуць, бо справа была абсалютна новая, спецыфічная, складаная. Дзякаваць богу, выжыў.

Гэта, па-першае.

Па-другое, працаваць у новым амплуа мне было вельмі цікава. Праўда, не ўсе салісты опернага валодаюць акцёрскай тэхнікай і тут давялося, як кажуць, папацець. Але спевакам падабалася, яны з задавальненнем працавалі. Цікава, што на мае рэпетыцыі нават прыходзілі дырэктар тэатра, галоўны дырыжор, галоўны рэжысёр. І ўсё здзіўляліся, што за некалькі заняткаў спевакоў было не пазнаць... На жаль, не ўсё мне ўдалося зрабіць з таго, што было задумана. Мала рэпетыцый, не ўсім выканаўцам аказалася па сіле пастаўленая задача. І тым не менш гэта быў карысны вопыт, і калі яшчэ раз надарыцца такая магчымасць, я да яго абавязкова вярнуся.

***— А вось адна з нашых вядучых газет даволі негатыўна ацаніла пастаноўку...***

— Ведаю, ведаю. Што ж, кожны мае права на сваю думку.

***— А як вы наогул адносіцеся да крытыкі? Чытаеце рэцэнзіі на спектаклі свайго тэатра? Ці задавальняе вас стан сённяшняй тэатральнай крытыкі?***

— Рэцэнзіі чытаю. Пэўны час нават раўніва адносіўся да крытычных заўваг. Цяпер ужо супакоіўся, таму што бачу, як яно часам бывае ўсё і неаб'ектыўна, і несправядліва. Тут дае пра сябе знаць усё тая ж кланавасць. У лепшым выпадку — суб'ектыўнасць, асабісты густ аўтара. Але здараюцца і сур'ёзныя матэрыялы, дзе даецца не просты пераказ дзеяння, а глыбокі аналіз сцэнічных рашэнняў, выказваюцца цікавыя думкі. Такую крытыку я прымаю з удзячнасцю.

***— А прафесіяналізму нашай крытыцы хапае?***

— Не. Грунтоўных, аналітычных артыкулаў амаль не засталося. Маладыя аўтары ўсё больш слізгаюць па паверхні. Такія матэрыялы мне не цікавыя. Трэба, каб крытыка раскрывала на нешта вочы, падказвала, памагала, клікала наперад. Так , як гэта робіць памянёная вамі Таццяна Арлова.

***— Валерый Данілавіч, вы ў рэжысуры ўжо каля сарака гадоў. Што самае цікавае ў вашай прафесіі?***

— О, гэта такое ўсеабдымнае пытанне!.. Але калі адказаць коратка, то гэта, відаць, — пошук. Магчымасць пошуку. Таму што кожны спектакль трэба адкрываць сваім ключыкам. Чэхаў — гэта адно, Дастаеўскі — другое... І ты ідзеш у нязведанае. Бывае і роспач, і адчай. Затое, калі адбываецца нейкае судакрананне з сапраўдным мастацтвам, калі знаходзіш неабходную ідэю, правільны ход — якая гэта радасць!

***— А што самае цяжкае ў прафесіі рэжысёра?***

— Работа з акцёрамі. Па вялікім рахунку, кожнага з іх трэба перавыхаваць у сваю веру. Тэатр — не проста калекцыя яркіх індывідуальнасцей, а моцны, згуртаваны калектыў аднадумцаў. Зрабіць такі калектыў — задача галоўнага рэжысёра, мастацкага кіраўніка. Але і гэта яшчэ, паверце, не самае складанае. Куды цяжэй бывае падцягнуць творчы, інтэлектульны, псіхафізічны ўзровень акцёра, узровень, які і вызначае яго талент, яго магчымасці. Канечне, я не Бог, каб цалкам перарабіць чалавека, але калі займацца сістэматычна, мэтанакіравана многае можна ў ім раскрыць, развіць, сфарміраваць.

## Акцёр — прафесія ўнікальная

***— Ну што ж, раз мы ўжо выйшлі на размову пра акцёра, то давайце яе і прадоўжым. Скажыце, калі ласка, а з чаго складаецца прафесіяналізм акцёра? У чым і як ён праяўляецца?***

— Прафесіяналізм складаецца з многіх уменняў. Пачынаючы з дысцыпліны, якая павінна быць выхавана, забіта ў свядомасць, у падсвядомасць жалезна. Без гэтага ўсе астатнія якасці могуць быць марнымі. Далей — пачуццё адказнасці. Разуменне, дзе ты працуеш. Усведамленне, што кожны твой крок на віду, паводзіць сябе прыстойна. І не толькі ў тэатры — усюды, заўсёды, таму што ты — публічны чалавек. І, канечне ж, набор абавязковых прафесіянальных навыкаў: валоданне голасам, целам, уменне будаваць дылог і гэтак далей. Плюс яшчэ працавітасць. Як бачыце, усё проста, ніякага шаманства.

***— Вы нічога не сказалі пра талент…***

— Дык гэта само сабой зразумела. Талент — найпершая ўмова, неабходны грунт, на якім вырастае, будуецца прафесіяналізм.

***— Што вы больш за ўсё цэніце ў акцёры?***

— Тры якасці: прыродную арганічнасць, узровень інтэлекту і здольнасць да імправізацыі.

***— Чаму менавіта вы вылучылі імправізацыю?***

— Таму што сёння вельмі распаўсюджаны спажывецкі тып акцёраў. Рэжысёр для іх — павінен! Павінен захапіць, расказаць, паказаць, накіраваць, арганізаваць і гэтак далей. Згодзен, у рэжысёра многа прафесіянальных задач у нараджэнні спектакля, у тым ліку і названыя мною. Але ўсё гэта задачы прыкладныя, калі іх можна так назваць. Галоўная ж, на мой погляд, мэта — зрабіць артыста аўтарам сваёй ролі і, як вышэйшы пілатаж, аўтарам спектакля. А для гэтага якраз і патрэбна імправізацыя, творчы падыход да справы.

Акцёр павінен думаць! І не толькі падчас рэпетыцый, але і на сцэне. Характар героя, яго светапогляд нярэдка падаюцца гледачу ўжо ў гатовым выглядзе, а яму хочацца бачыць, як гэты характар фарміруецца, як ідзе работа думкі. Тэкст, не аплоднены думкаю, — не можа прэтэндаваць на мастацкасць.

Даводзіцца з сумам канстатаваць: страчваецца старая, добрая тэатральная школа, губляецца глыбіня прафесіі. Нават тое, чаму добрасумленна вучылі студэнта ў акадэміі мастацтваў, застаючыся незапатрабаваным у тэатры, сыходзіць, забіваецца сучаснымі рытмамі, «кліпавым мысленнем», прыводзіць да страты прафесіянальных навыкаў. А тут яшчэ і лянота акцёрская… Калі, скажам, спеваку неабходна трымаць дыханне, ведаць ноты, распяваць голас, танцору — рабіць штодзённыя, да сёмага поту трэніроўкі, то наш брат, артыст драмы, здавальняецца агучваннем чужога тэксту, так і не зрабіўшы яго сваім, не напоўніўшы яго думкай, падтэкстам. Між тым, аб'ём, глыбіню, шматвырыянтнасць сказанаму дае менавіта падтэкст, той унутраны пасыл, тое жаданне, думка, якую ты, акцёр, павінен данесці да гледача. І чым ён як асоба больш псіхалагічна-эмацыянальна тонкі, чым больш глыбокі, аб'ёмны яго інтэлект,

чым шырэйшы яго кругагляд — тым больш выразным, пераканаўчым ён будзе на сцэне.

У рэжысёра свой шлях, а ў акцёра — свой. І кожны яго абавязаны добрасумленна прайсці.

***— Нярэдка мы чуем ходкі выраз «сцэнічная культура». Чуем, але не заўсёды дакладна разумеем, што гэта за матэрыя такая…***

— Растлумачу. Па-першае, гэта элементарная пісьменнасць. Вы заўважылі, якая цяпер непісьменная мова ў некаторых нашых сродках масавай інфармацыі, асабліва на тэлебачанні. І словы перакручваюць, калечаць, і націскі не там ставяць. Жах! А непісьменнасць — гэта ўжо бескультур'е.

Тое ж самае можна сказаць і ў дачыненні да сцэны. Акрамя таго, тут ёсць яшчэ свае спецыфічныя законы, скажам, закон валодання прасторай альбо закон арганізацыі мізансцэны. Законы гэтыя адкрытыя, абавязковыя. Іх трэба ведаць і свята захоўваць.

Сцэнічная культура залежыць ад многіх рэчаў. Возьмем, напрыклад, касцюмы. Калі яны адпавядаюць эпосе, калі яны пашытыя стыльна, акуратна, калі іх носяць прыгожа — прэтэнзій да такога спектакля не будзе. А калі чалавек апрануў фрак, а садзіцца як партовы грузчык — усім целам ляпаецца ў крэсла, ды яшчэ сядзіць, згорбіўшыся, — ну якая гэта культура?!

А паглядзіце, як некаторыя джэнтльмены цалуюць даме ручку. Цягнуць яе да свайго носа і слюнявяць так, што хоць ты бяры даставай насоўку і хуценька выцірайся. Словам, акцёру многія і многія дэталі трэба ўлічваць, каб адпавядаць нормам высокай сцэнічнай культуры.

***— А вось такія якасці, як грамадзянская, сацыяльная сталасць, ідэйна-маральная скіраванасць уваходзяць пры вызначэнні прафесіяналізму акцёра?***

— Я думаю, што гэта ўваходзіць ці ва ўсякім разе павінна ўваходзіць у лік абавязковых кампанентаў нашай прафесіі. Лепшыя дасягненні савецкага тэатра ва ўсе перыяды яго існавання былі якраз заснаваны ў тым ліку і на высокай грамадзянскасці, дакладнасці ідэйна-маральных пазіцый мастака. Гэта факт неаспрэчны. І так і павінна быць. Таму што калі недабор у мастацкім увасабленні ў горшым выпадку абернецца напалавіну пустой залай, невыкананнем плана, то невыразнасць, расплыўчатасць грамадзянскай пазіцыі пагражае намнога большым.

Недаацэнка гэтага не такая ўжо і бяскрыўдная. Звярніце ўвагу на драматургію апошняга дзесяцігоддзя… Што мы іграем? Якія спектаклі, фільмы атрымоўваюць найбольшае прызнанне ў гледача? На першым плане ўсё ж такі творы буйнога грамадска-сацыяльнага гучання. Могуць здзіўляць, захапляць розныя «Дазоры», «Рускія вадэвілі», але гарачыя, зацікаўленыя дыскусіі ўзнікаюць вакол «Сымона-музыкі», «Вечара», «Адвечнай песні»…

Хачу зазначыць, што для такой драматургіі неабходны асаблівы акцёрскі тып. Старая акцёрская тэрміналогія вызначала яго як «сацыяльны герой». Іншымі словамі, неабходны артыст, які здольны вырвацца за рамкі бытавога падабенства праўды, здольны да абагульнення. Артыст асобага духоўнага складу!

На жаль, выканаўцаў такога тыпу мала. Да крыўднага мала. Я вам прыводзіў прыклад з «Каласамі…» па Караткевічу. Спектакль, у якім павінен гучаць матыў самасвядомасці, нацыянальнай годнасці, беларускасці, а акцёры не могуць дацягнуцца да аўтара, часцяком бяруць не тую ноту.

І што застаецца рабіць? Не выканаць рэжысёрскую ўстаноўку нельга, а для выканання — не той духоўны вобраз. І пачынаецца гульня. Артыст спрабуе ўсяляк пераканаць рэжысёра, што ён працуе з поўнай аддачай — і сапраўды працуе, фармальна прыдрацца нібыта няма да чаго, а пошук ідзе міма. Пошук ідзе па-за стылістыкай задуманага спектакля. А гэта значыць, што і зарад пастаноўкі — міма мэты.

Прафесія акцёра — жорсткая прафесія. Альбо параза, альбо перамога! Трэцяга не дадзена. Шэрасць — за рамкамі мастацкасці. Я перакананы: мера грамадзянскасці артыста ёсць мера яго мастацкай грунтоўнасці.

***— У тэатры павінны быць свае куміры, свае зоркі. На іх звычайна ходзіць глядач. Як вы лічыце, зоркі нараджаюцца, яны ад Бога ці іх можна выхаваць?***

— Ёсць, канечне, і ад Бога. Але часцей за ўсё зорак выхоўваюць. Той жа Марк Захараў выхаваў цэлую плеяду зорных артыстаў — Мікалая Карачанцава, Аляксандра Абдулава, Іну Чурыкаву і многіх іншых.

Але я выхоўваю не зорак. Я выхоўваю ўвесь тэатр. Мая галоўная мара, каб быў тэатр-ансамбль. Тэатр як мастацкі арганізм — унікальная рэч. Таму што тут збіраюцца яркія індывідуальнасці. Асобы. Без асобавага пачатку няма акцёра. У яго павінна быць завышаная самаацэнка. Ён павінен верыць у свой талент. І калі гэтыя таленты збіраюцца разам — бывае цеснавата. І вось тут трэба быць уважлівым, пільным. Як таму пчаляру з пчоламі. Стаяць побач з дымаром. Ледзь што — раз дымком! — і страсці аціхнуць. Я за гэтым пастаянна сачу. Таму ўсе адзначаюць асаблівую атмасферу ў нашым тэатры.

## Дарога да храма

***— Валерый Данілавіч, вы з дзяцінства марылі стаць артыстам?***

— Што вы! Пра тое, што на артыста вучацца, я даведаўся недзе ў класе восьмым. У мой родны Талачын прыехаў на гастролі віцебскі тэатр. І вось аднаго вечара, пасля спектакля, артысты ішлі ў гасцініцу. А гэта якраз міма майго дома. Я набраўся смеласці, падышоў да самага мажнага, усмешлівага мужчыны (як пасля я даведаўся, гэта быў народны артыст Беларусі Анатоль Шэлег) і запытаўся: «Дзядзечка, а як у артысты трапляюць?» «Вучыцца трэба», — па-добраму ўсміхнуўся мужчына. Так я даведаўся, што ў Мінску ёсць спецыяльны інстытут, у якім вучацца на артыста.

Эпізод як быццам мімалётны, але ён далёка не выпадковы. Справа ў тым, што мяне ўвесь час, асабліва ў старэйшых класах, цягнула да акцёрства. Я чытаў са сцэны вершы, спяваў, танцаваў. Актыўна ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці, і не толькі школьнай, але і пры гарадскім Доме культуры. А ў дзясятым класе я ўжо працаваў у народным тэатры. І мама мне не забараняла. Нават не дужа пярэчыла, калі я сказаў, што буду паступаць у тэатральны.

Праўда, спачатку, пасля васьмігодкі, я хацеў паступаць у Коханаўскі тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі. Ужо нават сабраў дакументы, але чамусьці не панёс. А калі заканчваў дзясяты клас, да нас з Ленінграда прыехаў прадстаўнік ваеннага вучылішча радыёэлектронікі набіраць абітурыентаў. Я быў рослы, фізічна моцны хлопец, і ён за мяне ўчапіўся. Але я не прайшоў медкамісію — падвяло вуха, якое я зглуміў яшчэ пастушком.

Як бачыце, лёс мяне нібыта ўвесь час падштурхоўваў да маёй цяперашняй прафесіі. Нездарма ж у народзе кажуць: тое, што табе наканавана, ні пешкі не абыдзеш, ні валамі не аб’едзеш. Адным словам, у сямнаццаць гадоў я паступіў у тэатральны інстытут. Быў самы малады на курсе. Паступіў з першага разу. Тады я нават здзіўляўся, чаму мяне так лёгка прынялі. А пасля, калі ўжо сам стаў выкладаць, зразумеў: я быў самабытны.

***— Кажуць, лёс — гэта характар…***

— Характар у мяне сапраўды лёсавызначальны (смяецца)… Ён — ад маёй мамы, Антаніны Ягораўны. Мама пражыла цяжкое жыццё. Але ніколі не хныкала, не раскісала, і ні ў кога нічога не прасіла. Усяго дабівалася сваім розумам, сваім мазалём. Працаўніца. Праўдалюбка. Строгая, але справядлівая. І нас такімі ж выхоўвала. І хоць з такім характарам нялёгка ісці па жыцці, але я ні разу аб гэтым не пашкадаваў. Характар дапамог мне выстаяць у самыя крытычныя,




*Віншуюць калегі на 65-гадовым юбілеі.*

самыя драматычныя моманты майго жыцця, дазволіў зрабіць некалькі сур'ёзных учынкаў. Адзін з іх — калі я сышоў з Купалаўскага тэатра. Я мог бы працаваць там усё жыццё, атрымаць званне народнага артыста, кватэру — усё было б як трэба. А я ўзяў і крута павярнуў на новую, малазнаёмую сцяжыну… А другім учынкам я лічу той факт, калі пакінуў пасаду галоўнага рэжысёра ў тэатры юнага гледача. Пакінуў, каб узяцца за рызыкоўную, абсалютна непрадказальную справу — стварэнне тэатра кінаакцёра. І я такі тэатр стварыў! Чым з поўным правам магу сёння ганарыцца.

***— Дарэчы, вы можаце ганарыцца не толькі гэтым. Вы стаялі ля вытокаў беларускага радыётэатра, у якім выпусцілі ў эфір каля ста спектакляў, і, можна сказаць, занава стварылі тэатр беларускай драматургіі. Што з гэтага далося вам найцяжэй? Які з трох тэатраў вам найбольш блізкі, дарагі?***

— Найбольш дарагі тэатр беларускай драматургіі. І я думаю не трэба тлумачыць чаму. А вось найцяжэй мне даўся тэатр кінаакцёра. Давялося будаваць сапраўды з нуля. Будаваць у самым прамым сэнсе: выбіраць месца размяшчэння, выбіваць праект, узгадняць дзясяткі рэчаў, ваяваць з будаўнікамі за выкананне планаў, за якасць…

Што датычыцца радыё, то я прыйшоў туды не на пустое месца і не знянацку. Яшчэ з чацвёртага курса інстытута разам з іншымі маладымі акцёрамі актыўна спасцігаў таямніцы эфіра. У той час там працавалі выдатныя, вядомыя на ўсю краіну дыктары Ілья Курган, Ліля Стасевіч, Уладзімір Шэліхін, Леў Валодзін, у рэжысуры бліскуча тварылі Марына Троіцкая, Таццяна Аляксеева, Ігар Лапцінскі, Соф'я Гурыч, Ірына Андрэева і шмат іншых майстроў, якія стваралі высокі дух творчасці і непаўторную атмасферу інтэлігентнасці ў Доме радыё.

Трэба зазначыць, што мастацкае вяшчанне ў тыя гады на Беларускім радыё было на вышыні. Штодзённа ў эфіры гучалі вершы, радыёкампазіцыі, літаратурныя партрэты, мастацкая проза і, нарэшце, радыёспектаклі. Так, яны ставіліся тут і да мяне, толькі з маім прыходам у якасці галоўнага рэжысёра гэтая праца набыла пэўную сістэмнасць і мэтанакіраванасць. Мы сталі выпускаць да

15 спектакляў за год. І ў першую чаргу гэта былі пастаноўкі па творах беларускіх аўтараў — Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, Ніла Гілевіча…

Недзе каля дзесяці, а, можа, і болей маіх радыёспектакляў прайшло па Усесаюзным радыё. Звычайна спектаклі саюзных рэспублік вельмі рэдка ішлі ў саюзны эфір. Нам гэта ўдавалася часцей за іншых. Думаю, тлумачыцца такое высокім мастацкім узроўнем беларускага радыётэатра. Нездарма ж, відаць, менавіта ў нас, у Беларусі, упершыню за ўсю гісторыю савецкага радыёвяшчання Дзяржаўнай прэміі рэспублікі ўдастоены спектакль рэжысёра Соф'і Гурыч «Хамуціус» па паэме Аркадзя Куляшова і мае радыёспектаклі па аповесцях Васіля Быкава «У тумане» і «Кар'ер». А ў 1994 годзе на 1-м Міжнародным фестывалі ў Маскве мой радыёспектакль «Чорная быль Беларусі» атрымаў высокую ацэнку журы і запрашэнні на пастаноўку ў шасці краінах Еўропы.

Цяпер гэта відавочна: на радыё я правёў свае лепшыя гады. І гэта была своеасаблівая школа. Праца на радыё адточвае, шліфуе майстэрства, вучыць прафесіі, дакладнасці, тонкасці. Радыётэатр наогул, мне здаецца, мастацтва элітарнае. Індывідуальнае. Душа ў душу.

***— Валерый Данілавіч, вы ўпамянулі пра драматычныя моманты ў сваім жыцці. Што вы мелі на ўвазе?***

Адзін з такіх момантаў — гэта прыход у тэатр беларускай драматургіі, асабліва самыя першыя дні.

Да мяне тэатрам кіраваў Валерый Мазынскі, ён жа фактычна яго і арганізаваў. Але выдатны, таленавіты рэжысёр празмерна захапіўся палітыкай і гэта не лепшым чынам сказвалася на рэпертуары. Міністэрства культуры, занепакоенае такім становішчам, вызваліла Мазынскага ад пасады кіраўніка тэатра, пакінуўшы яго радавым рэжысёрам. Аднак трупа актыўна змагалася за вяртанне Мазынскага на ранейшую пасаду.

Таму, калі мне прапанавалі ўзначаліць тэатр беларускай драматургіі, першае, што я спытаў: «А як з Мазынскім?» Мне сказалі, што яго вяртання не будзе. І толькі пасля гэтага я даў згоду. А падалі справу так, нібыта я адабраў у яго хлеб. Гэта не так. Гэта няпраўда. Не будзем удавацца ў дэталі, але як перад Богам кажу, што я ні ў кога нічога не адбіраў. Яшчэ да майго прыходу Мазынскі ўжо тры месяцы не быў мастацкім кіраўніком, а з пасады дырэктара яго знялі яшчэ раней…

І так сталася, што мне давялося пачынаць усё з самага пачатку. Было вельмі цяжка, складана. Маладыя, без вопыту артысты. У рэпертуары адзін-два спектаклі. Але было шмат энтузіязму, ініцыятывы, жадання тварыць. У трупе стварылася харошая атмасфера, студыйная. Тыя акцёры, што засталіся, паводзілі сябе цудоўна — падтрымлівалі мяне, вучылі моладзь. Дзякуючы гэтаму, ужо ў першы год маёй работы мы зрабілі адзінаццаць прэм'ер. Адзінаццаць! Гэта быў сапраўдны прарыў. Тэатр стаў на ногі. Мы пачалі ездзіць на гастролі, удзельнічаць у фестывалях. Нас сталі ўспрымаць як сур'ёзны, самабытны калектыў.

***— А вы ўсё не супакойваецеся. То пачынаеце ў тэатры кардынальную рэканструкцыю, то штурмуеце чыноўнікаў новымі ідэямі. Пра вас ужо celebrating рознае кажуць. Некаторыя з вашых калег, напрыклад, успрымаюць вас як чыстай вады кар'ерыста, як асобу няўрымслівую, непрадказальную. А спецыялісты, тэатральныя крытыкі, наадварот, бачаць у гэтым якраз станоўчыя якасці, ацэньваючы вас як неўтаймоўнага парушальніка творчага спакою, рухавіка тэатральных ініцыятыў, імпульсіўнага мадэратара сцэнічных праектаў. Скажыце, навошта вам гэты лішні клопат, гэты вечны неспакой?***

— Не хвалюйцеся, я не хворы (смяецца)… Я думаю, усё гэта ідзе ад маіх каранёў, ад майго сялянскага дзяцінства. А яно ў мяне было вельмі нялёгкім. Нас чацвярых мама выхоўвала адна. У сям'і мы не ведалі слоў «хачу» альбо «не хачу». Трэба! Вось што было галоўным, вызначальным у нашым жыцці.

Трэба — і зімою, у пяць гадзін раніцы, у мароз і завіруху, ішлі на ферму, мама, сястра Эма і я, каб напаіць, накарміць і падаіць кароў. І так тройчы за суткі. Летам маім галоўным клопатам была пасьба. Я пас кароў, свіней, авечак, коз… Словам, кожны дзень, з ранку і да вечара, праца, праца і праца.

Так і ў тэатры — я не прывык сядзець без справы. Больш таго, я стараюся рабіць усё добра, па максімуму. І гэта, паверце, не дзеля кар’еры, не дзеля таго, каб мяне нехта пахваліў, а выключна толькі для таго, каб рэалізаваць свае патэнцыяльныя магчымасці, свае ўнутраныя патрэбнасці. На шчасце, і па сённяшні дзень не прытупілася, жыве ўва мне прага пазнання, спасціжэння сутнасці прафесіі.

***— Ёсць вядомы біблейскі выраз: «Не ствары сабе куміра». І ўсё ж, як мне здаецца, у кожнага творчага чалавека ёсць свой персаніфікаваны ідэал, свой эталон у мастацтве, да якога ён імкнецца. Хто з акцёраў, рэжысёраў быў ці з’яўляецца і цяпер для вас узорам, прыкладам для пераймання?***

— Я скажу. Вельмі доўга, асабліва ў юнацтве, такім узорам быў для мяне Алег Яфрэмаў. Можа таму, што першым тэатрам, які я наведаў у Маскве, быў тэатр «Современник», дзе галоўным рэжысёрам тады працаваў Яфрэмаў. Усе спектаклі, якія мне пашчасціла паглядзець, узрушылі мяне да глыбіні душы, сталі ўзорам высокага мастацтва.

А з беларускіх акцёраў самым любімым, самым шаноўным быў і застаецца Віктар Тарасаў. Таленавіцейшы, унікальнейшы чалавек. Я абагаўляю яго. Тым больш, што ён спрычыніўся пэўным бокам і да майго лёсу. «Палявання на качак» без яго ўдзелу не адбылося б. Я рады, што ў апошнія гады мы асабліва зблізіліся. Калі ён ужо цяжка хварэў, я ездзіў да яго ў вёску і мы падоўгу гаварылі.

Шчаслівы, што і па сёння магу вучыцца ў майго любімага настаўніка, легендарнай асобы Ільі Львовіча Кургана.

Я вельмі падатлівы да ўплыву іншых людзей. Заўважаю, убіраю кожную каштоўную драбніцу, выхоўваю сябе на лепшых узорах.

***— Валерый Данілавіч, амаль паўстагоддзя вы ў тэатральным мастацтве, і палову гэтага часу — на галоўных, адказных пасадах. Ці ёсць задавальненне ад зробленага? Што вы лічыце самым важным у сваім жыцці?***

— Прынята ў такіх выпадках гаварыць: не, не, я сабе цаны не ведаю, аб’ектыўную ж ацэнку можа даць толькі глядач… Глупства ўсё гэта! Мастак, асоба ведае сабе цану. Самае галоўнае, я лічу, заключаецца ў тым, што я застаўся прыстойным чалавекам. А гэта ох як няпроста! Многія з нас падгніваюць, чарвівеюць. Суцяшаюць сябе, што, маўляў, гэта дробязь, маленькі чарвячок, які нікому не бачны. Няпраўда! Усё бачна. І нічога не праходзіць бясследна. Гэта як крупінка звышцяжкага металу можа пераважыць сотні кілаграмаў звычайнага, так і тут — адна загана ў тваіх паводзінах можа закрэсліць усё добрае, што ў табе ёсць.

Таму і лічу самым важным тое, што я адбыўся як чалавек. Не спіўся. Не згуляўся. Не забранзавеў. Заслужыў, як мне здаецца, шчырую павагу калег, сяброў. Уганараваны высокімі адзнакамі дзяржавы.

Задавальненне ад зробленага? Канечне ж, яно ёсць. Але — няпоўнае. Я мог бы зрабіць куды больш. Крыўдна, што лепшыя гады патрачаны на працэс нятворчай барацьбы. Я і цяпер далёка не ўсім задаволены. Вось кажуць, што статус нашага тэатра асаблівы, што ён павінен быць эксперыментальнай пляцоўкай, лабараторыяй для развіцця нацыянальнай драматургіі. Правільна кажуць. І мы многа цікавага ў гэтым напрамку зрабілі. На жаль, у апошнія пяць гадоў на тэатр робіцца страшэнны націск. Нас пазбавілі ўсіх прэферэнцый. Загналі ў такія планавыя паказчыкі, што ні ўздыхнуць, ні вохнуць. Мы вымушаны іншы раз даваць па 35 спектакляў за месяц. Займацца ў такіх умовах лабараторнай работай немагчыма. Я даслаў дзесяткі пісем у розныя інстанцыі з просьбаю вызваліць нас з-пад гэтага ўціску — не чуюць.

Часта забываецца, што гэта — тэатр, тэатр беларускай драматургіі, тэатр-лабараторыя. Што мы не можам і не павінны даваць прыбытак. Наадварот, мы маем права разлічваць на прэферэнцыі. А нам замест гэтага — штраф.

Справа, вядома, не ў штрафе. Нешта недаладу ў самім механізме адносін да тэатра, калі такіх працаголікаў, як мы, штрафуюць. Значыць, нешта тут няправільна ў прынцыпе. Гэта памылкова заганяць нас у рамкі звычайнага рэпертурнага тэатра і пры гэтым патрабаваць, каб мы былі асаблівымі. Неймавернымі намаганнямі мы і застаёмся асаблівымі, але колькі гэта будзе доўжыцца — не ведаю.

А ў мяне столькі новых ідэй, столькі цудоўных мар! Нам хацелася б мець не адзін паверх, а ўсе тры. На адным зрабіць невялічкую, нумароў на 20—30 гасцінічку. На другім абсталяваць 5—6 службовых кватэр. Мы ж запрашаем маладых, а часам і не зусім маладых артыстаў і не можам даць ім аніякага жылля, нават месца ў інтэрнаце. А самае галоўнае — дадатковая плошча дазволіла б нам палепшыць умовы для працы. У прыватнасці, можна было б пашырыць сцэну, павялічыць над ёю прастору.

І ўсё гэта абсалютна рэальна. Запэўніваю вас, пры добрай волі начальства, можна было б зрабіць выдатнейшы тэатр. Наладжваць тут міжнародныя фестывалі тэатраў малых формаў. Людзі ехалі б з Англіі, Францыі, Германіі, Польшчы… Я ж з імі пастаянна сустракаюся, яны такое жаданне маюць. А гэта ж — прэстыж краіны. І я гэта магу зрабіць! Але, але, але…

Калі праз нейкі час я зайшоў у тэатр, каб удакладніць сякія-такія дэталі, Валерый Анісенка сустрэў мяне загадкавай фразай:

— Вам трэба часцей да нас завітваць.

— А што такое?

— Пасля нашай сустрэчы вось якая навіна прыйшла ў калектыў. Чытайце…

І ён падаў мне аркуш паперы, дзе паведамлялася, што пастановаю ўрада за высокія дасягненні ў галіне тэатральнага мастацтва і значны ўклад у развіццё нацыянальнай культуры Рэспубліканскаму тэатру беларускай драматургіі прысвоена званне «Заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь».

— Шчыра віншую. Гэта добры знак напярэдадні юбілею.

— Дай Бог! Але для нас гэта знак перш за ўсё таго, што мы павінны працаваць яшчэ лепш, яшчэ больш эфектыўна, каб апраўдваць высокі давер.

***Гутарку вёў Зіновій Прыгодзіч.***



Казімір КАМЕЙША

# ЯРКАЙ МОВАЙ ДАКУМЕНТА

Я заўсёды з павагай стаўлюся да людзей, якія маюць справу з архівамі, нават зайздросціў ім. Як-ніяк яны не толькі ведаюць «смак» папяровага пылу і не даюць яму застаяцца, ім дадзена шчаслівая магчымасць выходзіць на рандэву з самой гісторыяй. Гэта тыя ж золаташукальнікі, якія па крупінцы шукаюць каштоўныя залацінкі нашай мінуўшчыны, вяртаючы жыццё забытаму, часам недарэчна згубленаму, але не знікламу. Пакуль ёсць замкі, за якімі хаваецца сама праўда, заўсёды будуць і тыя, хто ўмее знаходзіць ключы да гэтых замкоў. Бо той, хто шукае ў мінулым, заўсёды думае пра наступнае, гэтым самым ён мацуе і нашу памяць. А капаць і шукаць нам ёсць што. Якую выспачку гісторыі ні вазьміце, якое пашанотнае імя ні згадайце, — усюды свае таямніцы, сакрэты, яшчэ непрачытаныя старонкі. Здавалася б, даўно ўжо ведаем ледзь ні кожную дробязь з таго, што ўмяшчаюць у сябе абсягі жыццёвых лёсаў нашых народных песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Аднак жа не, яшчэ далёка не ўсё ведаем. Нават каб ажыццявіўся поўны збор дакументаў пра жыццё і творчасць слынных суайчыннікаў (падобнае выданне пра жыццё і творчасць А. С. Пушкіна даўно ёсць у Расіі), нейкімі асобнымі штрыхамі партрэты абодвух класікаў усё роўна час ад часу дамалёўваліся б. У гэтым нас пераконвае і задуманае выданне дакументаў і матэрыялаў у дзвюх кнігах «Купала і Колас, вы нас гадавалі». Пакуль што чытачы атрымалі першую кнігу. Яна пабачыла свет у РВУ «Літаратура і Мастацтва». Яе ўкладальнікі Вячаслаў Селяменеў і Віталій Скалабан, рыхтуючы гэты ўнікальны зборнік, задзейнічалі вядомых літаратуразнаўцаў, архівістаў, супрацоўнікаў бібліятэк і музеяў. У падрыхтоўцы дапамагалі супрацоўнікі НАРБ, а таксама сын Якуба Коласа М. К. Міцкевіч і ўнучка В. Д. Міцкевіч.

Аснову зборніка склалі неапублікаваныя дакументы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь і Расійскага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва. Іншае адшукалася ў сховішчах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, у Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці, Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, Цэнтральным архіве КДБ Рэспублікі Беларусь, навукова-даследчым аддзеле кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь, аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАНБ, Расійскім дзяржархіве сацыяльна-палітычнай гісторыі і Санкт-Пецярбургскім філіяле Архіва Расійскай АН.

Радкі верша Петруся Броўкі, адзін з якіх і паслужыў назвай гэтай цікавай кнігі, гучаць своеасаблівым да яе эпіграфам:

Часамі скарынкі не маючы самі,  
Хадзілі, блудзілі  
Ад хаты да хаты…  
Не раз пагражалі вам чорныя краты…

Спынімся на гэтым апошнім радку, бо і самі адчуем далей у многіх тэкстах дакументаў, што «краты» сапраўды чорным ценем блукалі за абодвума паэтамі.

Таму і даводзілася часамі апраўдвацца ў тым, у чым яны на самай справе былі не вінаваты. Да тэкстаў апраўдальных дакументаў мы яшчэ будзем звяртацца ў нашай гаворцы. Нагадаем, што самі дакументы і матэрыялы зборніка ахопліваюць сабой адрэзак часу ў тры дзесяцігоддзі, пачынаючы з 1909 года і заканчваючы першымі месяцамі 1939 года. Што ж дадаюць нам да ўжо вядомага жыццяпісу песняроў новыя звесткі? Думаю, што чытачу будзе цікава даведацца пра фальклорныя клопаты Янкі Купалы. Друкуюцца і запісы вершаваных тэкстаў з паметкай: «З-пад Мінску м. Акопы. Ад панны Леакадзіі Луцэвіч». Ёсць меркаванне, што летам 1911 года Я. Купала і А. Грыневіч былі ў Акопах і разам запісвалі ад сястры паэта Л. Д. Луцэвіч, і ў наваколлі народныя песні. Цікавыя самі па сабе і заўвагі на палях некаторых песень. Вось да прыкладу запіс песні «Купальская»:

Сядзела Купалле на плоце,
Яго галовачка ў злоце.

Просіць у Бога пагоды
На гэту ночку вясёлу.

Ды будуць музыкі іграць,
Будуць паненкі гуляць.

Гэту песню з-пад Ракава запісаў А. Грынкевіч ад Качаніхі ў м. Акопы. Чытаем заўвагу Янкі Купалы: «Купалле — міф стараславянскі, «паненкі» — слова навейшай фармацыі. Дзеванькі /?/ Я. К.»

А вось запіс яшчэ адной песні «Калядная», зроблены А. Грыневічам у вёсцы Жукаўка Радашковіцкай воласці. На гэты раз яна гучала наступным чынам:

«Ня вей, ня вей, ды мяцеліца.
Каляда, каляда.
Ды не замітай сцежкі-дарожкі.
Каляда, каляда.
Я к мамцэ іду ды вянок ую.
Каляда, каляда.
А ад мамачкі — развіваю.
Каляда, каляда.
Ды па кветаццэ раскідаю.
Каляда, каляда.

Вядомы збіральнік музычнага фальклору і выдавец Антон Антонавіч Грыневіч, вядома ж, цаніў думку Янкі Купалы. На гэты раз яна гучала наступным чынам: «Алегорыя і досыць туманная. Мажэбна, што ідзе са службы, і — на службу, такжэ ад мужа і — да мужа. Напэўна — гэта образнае выражэнне пацехі, ідучы к матцэ, і нядолі, ідучы ад маткі. Я. К».

Дакументы і друкаваныя матэрыялы, што ахопліваюць трыццацігадовы адрэзак часу, нясуць адбітак тых грамадскіх клопатаў і захадаў, якімі жыла Беларусь у прадчуванні вялікіх змен. Пачатак дваццатых гадоў для маладой рэспублікі адзначыўся сапраўды вялікім творчым уздымам, пошукам шляхоў нацыянальнага адраджэння. У Наркамасвеце ствараецца Акадэмічны цэнтр, супрацоўнікамі якога становяцца Янка Купала і Якуб Колас, калегія навукова-літаратурнага аддзела дбае аб выданні кніг беларускіх аўтараў, у тым ліку падручнікаў і хрэстаматый, распрацоўваецца сістэма аўтарскіх ганарараў. У верасні 1922 года па прыкладзе расійскай Цэнтральнай камісіі па паляпшэнні быту вучоных пры СНК ствараецца аналагічная камісія пры СНК БССР. Яе ўзначальвае У. М. Ігнатоўскі, у склад камісіі ўваходзяць рэктар БДУ У. І. Пічэта, старшыня Інбелкульта С. М. Некрашэвіч, прадстаўнікі народных камісарыятаў асветы, харчавання, фінансаў, земляробства БССР, сельгасінстытута, прафсаюза работнікаў асветы.

Камісія аказвае матэрыяльную і харчовую дапамогу, падтрымлівае навуковую дзейнасць вучоных, у тым ліку Я. Купалы і Я. Коласа. У зборніку друкуюцца пратаколы пасяджэннняў, спіс навуковых работнікаў. Камісія праіснавала да красавіка 1924 года, а потым яе функцыі былі перададзены секцыі навуковых работнікаў Наркамата асветы.

Дбаюць у рэспубліцы і пра настаўніцкія кадры. Летам 1923 года Наркамасветы БССР ва ўсіх павятовых гарадах арганізоўваюцца палітыка-педагагічныя курсы для настаўнікаў. Якубу Коласу выпала выкладаць беларускую мову і методыку роднай мовы на курсах у Слуцку, якія адкрыліся 29 чэрвеня 1923 года. У зборніку змяшчаюцца пратаколы пасяджэнняў Рады курсаў, а таксама расклад лекцый з прозвішчамі выкладчыкаў. Па змесце саміх пратаколаў сёння няцяжка прасачыць, якая атмасфера панавала на тых курсах. Вядома ж, вялікая ўвага ўдзялялася самой дысцыпліне курсантаў. Вось што запісана адным з пунктаў пратакола ад 10 ліпеня 1923 года: «Ад адсутнічаючых курсантаў без дазволу ў першы раз патрабаваць тлумачэння адсутнасці, у другі раз — апавяшчаць прозвішчы адсутнічаючых, у трэці раз — звальняць з курсаў». І яшчэ адзін немалаважны факт у арганізацыі саміх курсаў. Прывядзём тут адзін пункт ужо з пратакола іншага пасяджэння: «Працу курсантаў палегчыць вынасам па магчымасці ўсіх практ. работ на паветра, у сад, таксама палепшыць ежу і г. д.»

13—16 сакавіка 1924 года ў Мінску прайшоў VI Надзвычайны Усебеларускі з’езд Саветаў, які ўвойдзе ў гісторыю як з’езд узбуйнення БССР. Як сёння вядома, на ўрачыстым пасяджэнні з’езда прысутнічала 694 чалавекі. Але ў гэту лічбу не ўвайшлі многія ганаровыя госці, у ліку якіх былі члены ЦВК, а таксама Я. Купала і Я. Колас. Ім было выдзелена 47 мандатаў з правам дарадчага голасу. Спіс іх і змяшчаецца на старонках зборніка. Ёсць у пераліку ганаровых гасцей і Уладзімір Дубоўка, якога дэлегавалі на з’езд беларускія зямляцтвы пралетарскага студэнцтва Масквы.

Храналагічна-тэматычная паслядоўнасць матэрыялаў і дакументаў зборніка, аб’яднанне іх у тэматычныя раздзелы, да якіх укладальнікамі даюцца яшчэ і кароткія лаканічныя прадмовы, дазваляюць чытачу больш канкрэтна засяродзіцца на ўсіх тых дэталях і штрыхах, што прама ці ўскосна тычацца жыцця і творчасці народных песняроў, яскрава адчуць саму палітычную атмасферу таго часу. Вядома, які гэта быў час. Ішоў 1925 год, і ў краіне, дзе шырока грымела сацыялістычнае будаўніцтва, спяваліся яму не толькі ўзнёслыя гімны, але ўпарта вышукваліся і тыя, хто перашкаджаў ці мог перашкодзіць гэтаму будаўніцтву. Ворага, як вядома, прасцей за ўсё апярэдзіць, чым потым траціць сілы на барацьбу з ім. Ворагаў апярэджвалі.

Ужо ў кастрычніку 1925 года атрымала агалоску так званая справа «лістападаўшчыны» (ад прозвішча арыштаванага настаўніка Ю. Лістапада). У кола падазроных трапляе і Якуб Колас. Канстанцін Міхайлавіч пазнаёміўся з Ю. Лістападам і настаўнікамі, якія праходзілі па справе «лістападаўцаў» на курсах у Слуцку. У справе фігуруе верш настаўніка М. Мяцельскага «Дзе». Гэты верш у перакладзе на рускую мову змяшчаецца ў зборніку. Вось толькі пачатковая страфа з яго:

Где свободный дух народа?
Где свободных мыслей рой?
Где желанье стать стеною,
За свободу идти в бой?

Пасля гэтага ідзе зусім абсурднае і мала тычнае паэзіі. 24 кастрычніка на кватэры Коласа адбываецца вобыск. А ўжо на наступны дзень пісьменнік дае паказанні ў ДПУ. Пытанні следчага ў асноўным групуюцца вакол верша Мяцельскага, які ў пратаколе называецца «Гдзие?» Вось невялікая вытрымка з допыту: «Вопрос: Считаете ли Вы, что обнаруженное у вас при обыске стихотворение

Мяцельского, переданное им Вам для отзыва под названием «Гдзие», антисоветское по своему содержанию?

Ответ: Я его нахожу несовершенным по своей идеологии. В детали я не вникал.

Вопрос: Вы говорите, что не вникали в детали указанного стихотворения, однако вы дали отзыв, указав на его несовременность, чем можно объяснить такое противоречие?

Ответ: Я свой отзыв дал по поверхностному ознакомлению со стихотворением.

Вопрос: Не предупреждали ли Вы Мяцельского с его творами быть поосторожней, так как они написаны в антисоветском духе?

Ответ: Я Мяцельского не предупреждал о осторожности в смысле хранения его творов, я ему лишь сказал, что его творы отброшены самой жизнью и что их лучше совсем не писать».

А вось якое рашэнне прымае Палітбюро ЦК ВКП(б) на сваім пасяджэнні 28 студзеня 1926 года:

1) вокруг процесса политического шума не подымать:

2) слушать дело не в Высшем суде Белоруссии, а в общем порядке — в окружном суде, по подсудности;

3) политическое обвинение сосредоточить на следующих моментах:

а) связи обвиняемого Листопада с польской офензивой (так у тэксце) и на его к.-р. прошлом, б) антисемитском характере группы, в) стремлении группы приурочить для вооруженного восстания именно момент возможной в будущем войны, д) на роли интеллигенции и в частности Мицкевича;

4) приговор, ввиду молодости членов группы и неопытности их — по карательной санкции, должен быть не выше 3—5 лет тюрьмы.

Вось такі сцэнарый, падпісаны самім Сталіным, адрасаваўся для яго ажыццяўлення беларускім таварышам.

У сакавіку пачаўся судовы працэс па справе «лістападаўшчыны». Праходзіў ён якраз у рамках вышэйзгаданага сцэнарыя. А 16 сакавіка газета «Савецкая Беларусь» надрукавала наступны матэрыял:

«Лістападаўшчына»

Паказанне сведкі Міцкевіча

Сведка кажа, што на папярэднім дазнанні ён даведаўся аб існаванні контррэвалюцыйнай арганізацыі. Ведае Лістапада, Курбыку і Мяцельскага. З Лістападам і Курбыкай пазнаёміўся ў 1923 г. на курсах, дзе сведка быў выкладчыкам, а з Мяцельскім — год таму назад. Мяцельскі бываў у сведкі на кватэры. Макарэні сведка даў у сваім часе запіску да Каранеўскага, ад якога залежала назначэнне Макарэні на пасаду настаўніка.

Старшыня суду пытаецца, ці была ў сведкі перапіска з падсуднымі, на што сведка адказвае, што меў перапіску толькі з Мяцельскім.

На запытанне суду, у якіх адносінах быў сведка з Мяцельскім, сведка кажа, што Мяцельскі заходзіў да яго і начаваў у яго 4 ночы (Мяцельскі павінен быў здаць дадатковы экзамен і прымушан быў жыць некаторы час у Менску).

Мяцельскі рабіў спробу завесці з сведкай гутаркі на палітычныя тэмы, але сведка ад гэта ўхіліўся і палітычных поглядаў падсуднага не ведае.

Сведка кажа, што Мяцельскі прыслаў яму для перагляду вершы, дзе былі контрэвалюцыйныя думкі, але сведка прачытаў гэта павярхоўна і не звярнуў на іх увагі…»

Сёння, з адлегласці часу, усе тыя дакументы, скампанаваныя ўкладальнікамі ў храналагічным парадку, часам нагадваюць добра адладжаны ўмелым рэжысёрам спектакль, дзе кожнае дзейства ланцугова цягне за сабой наступнае, дзе ёсць цвёрдая логіка суцэльнасці і непарушнасці. Хоць і ставіўся той спектакль на вялікай сцэне Часу, а рэжысёр адзіны сапраўды ў ім быў, — сур'ёзны, удумлівы, бяз-

літасны і бескампрамісны. Сёння мы гэта ведаем. І нічога ў тым, часта трагічным спектаклі, на жаль, ужо памяняць не можам. У яго дзействы даўно засведчаны пячаткай самой гісторыі. Але тое, што для адных сталася вялікай трагедыяй ды выпрабаваннямі, для іншых мусіць стацца ўрокам.

«Лістападаўшчына» была толькі пралогам і пачаткам трагічных падзей, якія наступалі следам. Ужо не за гарамі, выспявае і неўзабаве выбухне так званая справа «Саюза вызвалення Беларусі». У 1930 годзе ДПУ БССР арыштуе больш як сто дзеячаў навукі і культуры. Усе яны былі абвінавачаныя ў прыналежнасці да «Саюза вызвалення Беларусі». Тое ж самае абвінавачванне адрасавалася і Янку Купалу. Прычым па версіі ДПУ ён уваходзіў у склад кіраўніцтва СВБ. 20 лістапада 1930 года Янка Купала робіць спробу самагубства. Ужо на наступны дзень першы сакратар ЦК КР(б)Б К. В. Гей паведамляе сакратару ЦК ВКП(б) П. П. Постышаву:

«Считаю необходимым сообщить Вам, что вчера, 20 ноября утром покушался на самоубийство Янка Купала — народный поэт Белоруссии. Покушение было несерьёзным. Купала ударил себя перочинным ножом в правый бок, жизнь его вне опасности, и если не будет сепсиса или других осложнений, то дней через пять он будет здоров». Даводзіцца здзіўляцца, з якім лёгкім уздыхам пішуцца гэтыя радкі. Гей, які шмат намаганняў прыклаў у барацьбе з так званай «нацдэмаўшчынай», пры якім быў раскручаны сфальсіфікаваны ў нетрах ДПУ працэс па справе СВБ жадаў вось чаго: «Мы решили не требовать от Я. Купалы признания участия в Союзе вызволения Белоруссии и сосредоточить свои силы на требовании выступить с открытым осуждением контрреволюционной деятельности группы белоруских интеллигентов, арестованных по делу СВБ. Думаю, что это нам удастся». І гэта ім удалося. І Купалу, і Коласу давядзецца пісаць пакаянныя лісты.

У дакументах, як вядома, праўды больш ці менш не бывае. Яе заўсёды ёсць столькі, колькі ёсць. А вось у так званых вымушаных прызнаннях яе заўсёды трэба шукаць недзе ў падтэксце і не толькі з дапамогай інтуіцыі, а і цвярозым узважваннем сваіх жыццёвых фактаў і рэалій. Тады ўжо зусім не зможаш пагадзіцца з пакаяннымі словамі Якуба Коласа ў заяве, што зроблена 6 снежня 1930 года ў ДПУ БССР «Рэвізуючы сваю пройдзеную дарогу і ўясніўшы сабе сутнасць беларускага нацыянал-дэмакратызму, як контррэвалюцыйную з'яву, і прымаючы пад увагу вялікі гістарычны этап сацыялістычнага будаўніцтва, этап напружанага змагання за сацыялізм ва ўмовах небяспекі капіталістычнай інтэрвенцыі, я безагаворачна прызнаю свае нацыянал-дэмакратычныя памылкі, сваю змычку з нацыянал-дэмакратызмам і яго рэальнымі носьбітамі, катэгарычна асуджаю яго і адмаўляюся ад яго. Усе рэшткі яго я вытручу і вырву, каб цалкам, без хістання, перайсці на пазіцыі пралетарскай ідэалогіі, поўнасцю аддаўшы свае сілы справе сацыялістычнай культуры і сацыялістычнага будаўніцтва».

Ёсць, вядома, і весялейшыя старонкі ў жыцці Купалы і Коласа, якія сустракаюцца ў згаданым зборніку. Тут варта ўспомніць тыя юбілейныя вечары і ўганараванні песняроў, радыёвечар з кватэры Янкі Купалы, паездкі творцаў за мяжу.

Думаю, зацікавяць чытача і некаторыя матэрыялы акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, што праходзіла 14—19 лістапада 1926 года ў Мінску. Ужо само паіменнае галасаванне, прозвішчы галасуючых, што згадваюцца ў надрукаваных пратаколах пасяджэнняў, гавораць пра многае, у прыватнасці — і пра тыя самыя спрэчкі, разнагалоссі, якія разгараліся на тых пасяджэннях. Не трэба быць і даследчыкам, каб адчуць усё гэта.

Часам з дакументаў вынікаюць і зусім пацешныя гісторыі, якія мелі месца ў жыцці нашых класікаў. Згадаем тую ж гісторыю з шахматным столікам. Адбывалася тое ў 1928 годзе. Вялікі аматар шахматаў Янка Купала неяк будучы ў Дзяржаўным музеі ўпадабаў столік з мармуровай шахматнай дошкай. І вось пра што нам кажа адзін з дакументаў Народнага камісарыята асветы БССР:

«Акт

1927 года студзеня 19 дня камісія ў складзе А. Ляўданскага, Ф. Выхадцава і Л. Барсуковай зláжылі гэты акт у тым:

Грамадзянін Янка Луцэвіч (Купала) запрапанаваў абмен на столік з устаўленай мармуровай шахматнай дошкай, запісаны ў кнігу паступленняў музею пад № 17 (па кнізе аддзелу № 286), за які прапануе: 1) сярэбраны крыжык вылажаны туркусамі (біруза); 2) шкляное баккара цыліндрычнай формы, на якім на малінавай асноведзі маюцца класічныя выабражэнні фаўнаў і інш.; 3) жалезны замок трыкутнай формы мясцовай старасвецкай работы.

Камісія згадзілася зрабіць такі абмен, прызнаючы прапанаваныя рэчы раўнацэннымі століку, які добры як мебель, але музейнай каштоўнасці не мае і, акрамя таго, мае расклееныя і разбаўтаныя ножкі.

Камісія Ляўданскі
Выхадцаў,
Барсукова

Памета: Зацвердзіць 31. 1.—28 С. Некрашэвіч».

Навуковы сакратар Сінякоў пацвярджае рэзалюцыю старшыні Галоўнавукі на такі абмен. Асабіста мяне, сённяшняга чытача, крыху засмуцілі гэтыя «расклееныя і разбаўтаныя ножкі». Іх жа, напэўна, давялося рамантаваць самому Івану Дамінікавічу.

Думаецца, зацікавіць чытача рукапіс Я. Дылы, які мае форму анкеты-біяграфіі Янкі Купалы, зроблены ў 1928—1929 гадах, дзе зафіксаваны факты ў выглядзе пытанняў і адказаў. Можна толькі гадаць, ці запісваліся адказы адразу ў час гутаркі, ці яны з удакладненнем занатоўваліся пазней, паколькі многае, як бачна з анкеты, засталося без адказу. Заканчваецца апытанне 1922 годам, калі выйшаў з друку зборнік «Спадчына». З анкеты мы даведваемся, што 12 ліпеня 1882 года будучы паэт ахрышчаны ксяндзом Станіславам Сульжынскім у фальварку Вязынка Замбржыцкага, жонка якога Алімпія была хрышчонай маці. А яшчэ: «У Сенніцы паступіў у школу народную. (Янку — панічка за каўнер білі сьнежкамі.) Вучыцелька жыва, здаецца, і зараз».

Цікавыя самі па сабе і пытанні без адказу. Хоць бы тыя, што тычаць знаёмства з В. Брусавым і К. Бальмонтам, якія гасцявалі ў Вільні.

Мы перагарнулі толькі некаторыя старонкі гэтай цікавай кнігі-дакумента, чытачу ж даецца магчымасць пазнаёміцца з ёю больш дэталёва, магчыма, спасылаючыся і на іншыя гістарычныя і літаратурныя крыніцы. Гэта толькі палова таго, што падрыхтавалі нам шлях удумлівай і стараннай працы яе ўкладальнікі Вячаслаў Селяменеў і Віталій Скалабан. Наперадзе сустрэча з другой, не менш цікавай часткай. А мы спыняемся на 1939 годзе. Чытаем словы развітання з пісьменнікам Эдуардам Самуйлёнкам, што надрукаваны 14 лютага ў газетах «Звязда» і «Советская Белоруссия». Першымі пад некралогамі падпісаліся Янка Купала і Якуб Колас. Ужо з іншых крыніц даведваемся і пра лёс самога Канстанціна Гея, які так шчыраваў у праследаванні Янкі Купалы ў так званай справе СВБ. 25 лютага 1939 года ён будзе прыгавораны да расстрэлу. Трыццаць дзевяты толькі пачынаецца. Не будзем спяшацца парушаць храналогію і мы, чытачы. Новыя старонкі яшчэ наперадзе.



**Мікола МІКУЛІЧ**

# «ХАЙ БУДЗЕ СВЯТЛО!»

***Сентыментальны эцюд***

Я ўспамінаю яго штодня. І ў радасці, і ў рэдкіх праблісках задавальнення і шчасця, і ў тлумным клопаце, у шматлікіх праблемах і подступах бяды, «Калі горыччу перапоўнена сэрца», як заўважаў ён у вершы, напісаным 17 верасня 1994 года, у апошні раз адзначаючы дзень свайго нараджэння. І тады, калі асэнсоўваю працэсы развіцця заходнебеларускай паэзіі ці думаю над тым, што адбываецца ў нашым сучасным літаратурным жыцці, і тады, калі наведваю бурлівую і шумную, як Нарач падчас навальніцы, Камароўку, дзе мы аднойчы выбіралі яму гародніну, і тады, калі бываю побач з мурамі педагагічнага ўніверсітэта, у якім некалі прайшлі мае студэнцкія гады і які цяпер носіць яго імя. Зразумела, не кажучы ўжо пра тыя часіны, калі, шукаючы душэўнага спакою, свядома звяртаюся да яго кніг, пераглядаю напоўненыя дарагімі для мяне думкамі і разважаннямі і напісаныя ўжо зусім аслабелай рукою лісты і паштоўкі, а таксама фотаздымкі, на многіх з якіх ён хоць і прыкметна пазіруе, аднак, як зазвычай, з-за сваёй сціпласці трымаецца за спінамі іншых, на другім плане.



*Максім Танк.*

Асабліва часта прыгадваецца яго светлы вобраз, калі сутыкаюся з чэрствасцю і абыякавасцю, прыстасаванствам і крывадушнасцю ў жыцці, а тым больш адкрытым хамствам і хлуснёю. Ён паўстае нязменна ў абрамленні дружалюбнай увагі і высакароднай дабрыні, непадробнай шчырасці і шчодрай цеплыні, чысціні і даверу. У такія хвіліны аблачынкі тужлівай задумлівасці і лёгкай памрокі ахінаюць душу, набягаюць на сэрца. Святло шчымлівага ўспаміну выхоплівае з сутоння часу яго самавітую постаць, няспешныя рухі, мяккі, думны твар, стомленыя і сумныя, але лагодныя вочы, засланяючы сабою самыя актуальныя і вострыя падзеі і факты…

Гэты вобраз заўсёды стаіць перад вачамі, калі ўспамінаю абмытую цёплым жнівеньскім дажджом нарачанскую раніцу, прыадчыненыя бухматыя веснічкі на знакамітае лецішча паэта, мокрую шпакоўню на разлапістай яблыні ў агародзе направа, плямкі вохрыста-рудога, загадкава-фасфарычнага святла ў вокнах будынка на першым паверсе.

Дзесьці там, на высокім утравелым Слабадскім пагосце, абгароджаным «толькі заламанымі ў роспачы рукамі», і ўлетку, і ўзімку самотна гавораць з выгоністымі соснамі два жалобна-чорныя крыжы, сімвалы жыцця і смерці шмат каму блізкіх і дарагіх людзей — Любові Андрэеўны ды Яўгена Іванавіча. Памятаецца, як я ледзьве не задыхнуўся ад каўтка здзіўлення, радасці і ўдзячнасці, раптоўна здалёк убачыўшы ў паўзмроку на чорнай мармуровай надмагільнай пліце гарачы камячок ярка-чырвоных кветак.

Максім Танк, народны паэт Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі, дзяржаўных і літаратурных прэмій СССР і БССР, Герой Сацыялістычнай Працы, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР і БССР… Пятнаццаць гадоў прамінула пасля яго назаўсёднага адыходу. «За гэты тэрмін дрэва» пятнаццаць «раз убор зялёны» змяніла, пятнаццаць «пакаленняў салаўіных» выкалыхала «на сваіх галінах»… Не сказаць, каб праімчаў буралом часу, аднак зусім відавочна — адышла цэлая эпоха ў нацыянальным прыгожым пісьменстве, і яна болей ніколі не вернецца. Не стала не толькі М. Танка, сышлі з жыцця яго літаратурныя супольнікі — П. Панчанка, В. Быкаў, І. Шамякін, І. Навуменка — выдатныя пісьменнікі і грамадска-культурныя дзеячы, духоўна-грамадзянская транспазіцыя і мастацкая светаканцэпцыя якіх шмат што вызначалі ў свядомасці нашага сучасніка, чалавека другой паловы XX — пачатку XXI стагоддзя.

Увесь гэты час жыву адчуваннем вялікай таямніцы, далучанасці да яго высокага чалавечага дару, яркай і каларытнай мастацкай душы, адчуваннем прасякнутасці яе магутнай чараўнічай сілай і вабнасцю.

Гарэзлівы вецярок ціхмяна гуляе ў лістоце недалёкай мінскай бярозы. Трывожліва-агнянымі пляйстрамі дагарае святло на дварэ, драбкі палахлівага блакіту маўкліва растаюць у сутонлівай пamроцы летняга вечара. Вохрыста-залацістыя мазкі няспешна спаўзаюць з кучматых крон прысамотненых дрэў на дахі і сцены прылеглых будынкаў, а адтуль — на ўтравелы пагорак наўзбоч стадыёна «Трактар», асядаюць на дол. Гэты матыў пабудзіў знаёмую думку, якая маўкліва паплыла за далёкі далягляд, у шэрую нябесную імжу. Вярэдзячы даўнія пачуцці, яна зноўку павяла за сабою ў тыя, ужо няблізкія, часы, калі я наведваў паэта на яго кватэры, гутарыў з ім пра самыя розныя з’явы і працэсы беларускага грамадскага жыцця і літаратурнай гісторыі.

Не пагубляліся, караняцца ў памяці сюжэты нашых сустрэч, эпізоды гутарак.

Схілак жыцця Максіма Танка быў надзвычай цяжкім і пamрочлівым, адна за адной навальніцы перажыванняў накрывалі яго знямоглую душу. Хваробы і пакуты абвастралі многія ранейшыя адчуванні і ўяўленні. Ён, як ніхто іншы, умеў слухаць сваё сэрца і ў той жа час тонка адчуваў чалавека, яго стан, настрой і характар, даражыў цяплом і сілай сяброўства і любові, чуласці і спагады. Гаворачы пра чалавека — дзяржаўнага дзеяча, калегу-літаратара ці проста суседа, Яўген Іванавіч ніколі не акцэнтаваў увагу на яго недахопах, нібы і не заўважаў іх, шукаў і падкрэсліваў у ім станоўчае, пазітыўнае, дабратворнае. Аснова жыцця — стваральная праца, чыстае сумленне, «найцяжэйшая за ўсё на свеце» праўда, высакароднае дабро, «сіла дружбы, што рве путы», ахвярная вернасць, узаемнае каханне, прыгажосць, гармонія. Ён паўтараў гэта на розныя лады, нібыта замову ці запавет, як вялікую філасофію быцця і свету.

У вершы «Калі ж?» паэт шчыра і заклапочана пытаўся: «Калі ж мы пабачым на троне Свайго Гаротніка — Мазаля?» Ён зыходзіў з таго, што трэба «з галодным Свой хлеб разламаць напалову, З бяздомным — начлежным Цяплом ачага падзяліцца» («Я веру»). Дужа пранікнёна і пераканаўча гучаць яго радкі, напісаныя за некалькі месяцаў да смерці:

Калі перад Судом Апошнім апынуся
І запытаюць, у грахах ці каюся, спашлюся
На тое, што ў жыццёвым амбарасе
На гэта, Спадары, не меў я часу,

У няспынных будучы камандзіроўках,
У пошуках сваіх дарог нялёгкіх.
А з нейкаю пярэваратняў зграяй
Не буду грукаць я і ў дзверы рая…

*(«Калі перад судом»)*

Сцвярджэнню галоўных каштоўнасцей народнага жыцця ён прысвяціў увесь свой душэўна-чалавечы, грамадзянска-патрыятычны і мастацка-творчы талент.

Працуючы на адказных пасадах, Максім Танк, як мог, дапамагаў людзям — каму ў налічэнні пенсіі ці пераглядзе судовай справы, каму ў выданні кнігі ці ўступленні ў Саюз пісьменнікаў, каму ў атрыманні кватэры ці матэрыяльнай дапамогі ў сувязі з пажарам і стратай маёмасці. Ён не дзяліў людзей на добрых і кепскіх і спрыяў усім, хто прасіў дапамогі. Многія злоўжывалі даступнасцю і даверлівасцю народнага паэта і звярталіся са сваімі просьбамі да яго зноў і зноў, але гэта іншая тэма…

Працяглы час Максім Танк перапісваўся з Ларысай Геніюш, Міхасём Забэйдам-Суміцкім, а таксама з Пятром Бітэлем, які знаходзіўся ў зняволенні ў пасёлку Джэзказган Карагандзінскай вобласці Казахстана. У пачатку 1956 года, працуючы галоўным рэдактарам часопіса «Полымя», ён паслаў Бітэлю ў турму рэцэнзію на яго пераклад паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш» і дзве бандэролі розных кніг. Скажыце, ці шмат хто на такое здольны?..

Колькі часу таму я падрыхтаваў да друку лісты Пятра Бітэля да Максіма Танка. У адным з іх (ад 04. 04. 1956 года) ёсць наступныя характарыстычныя радкі: «Паважаны Грамадзянін Рэдактар! Атрымаў я абедзве Вашы бандэролі. Шчыра, шчыра дзякую. Прызнацца, я ўжо пасля, раздумаўшыся, шкадаваў, што выслаў Вам пісьмо з просьбай прыслаць кнігі, бо ані маё з Вамі знаёмства, ані сучаснае становішча не ўпаўнаважвала мяне на гэткі крок. Я паступіў бястактна і дзеля гэтага быў амаль упэўнены, што Вы маёй просьбы не выпаўніце. Тым большая была мая радасць, калі мне паведамілі аб прыбыцці бандэроляў і пасля, калі я разгарнуў іх. Вы — цудоўны чалавек! Вы адгадваеце чужыя думкі! Я не адважыўся папрасіць Вас прыслаць мне зборнікі Вашых апошніх твораў, а Вы гэта зрабілі самі. Не ведаю, як Вам за гэта дзякаваць. З вялікім захапленнем углыбіўся я ў чытанне, і выхадны дзень 1. IV. 56 года стаўся для мяне найпрыятнейшым выхадным за ўсе апошнія пяць «з гакам» год».

Шчырай удзячнасцю і захапленнем выдатнымі чалавечымі якасцямі і ў цэлым асобаю Максіма Танка поўняцца многія іншыя лісты, адрасаваныя паэту. «Найбольшай нагародай і радасцю для мяне з’яўляецца ўсведамленне, — пісала, напрыклад, 17 студзеня 1966 года Паўліна Мядзёлка, — што ёсць на свеце людзі вялікага сэрца і дабраты, як Вы, дарагі Яўген Іванавіч, як тыя, што памятаюць і клапоцяцца аба мне…» А гэтыя радкі з ліста Ларысы Геніюш: «Вельмі добра, што Вы ёсць на свеце. Я зусім не хвалю Вас, гэта я перабіраю ў думках маё жыццё і жудасна мне ад зла людзкога… Я так баюся, каб Вы не сталіся інакшым! Людзям так трэба ціхай, непрыкметнай і пэўнай, як скала, дабраты. У мяне нейкі голад той дабраты. Смешна, але ў жыцці маім кожны хацеў ад мяне помачы і сілы. Бесканечна. Я крыху змучылася, і мне здаецца часам, што Вы — нерэальнасць…» І далей: «Я з Вамі гутару як з Міхаськай. Ходзіць тут не аб узроўні гутаркі, але аб яе чысціні, першапачатковай беззаганнасці нейкай. Будзьце заўсягды такі, Максім Танк, я баюся, што прачнуся некалі і Вы станеце такі, як усе людзі… Я заўсягды сеяла сілу і вытрываласць, барацьбу і змаганне, але вечна жыла ўва мне і гэтая другая душа, не, не слабая, толькі жаночая... Першы раз я на некага апіраюся (акрамя мае веры ў дабро) і вельмі гэта адчуваю… Лучыць мяне з Вамі супольнасць шляху, на якім Вы — вялікая сіла…» І яшчэ: «Мне здаецца часамі, што Вы мой брат і мне так добра гутарыць з Вамі, аб усім, як з некім родным. Дзіўна, але Вас вельмі любіць і мой муж! Ён рэдка каго любіць!..» (ад 20 лютага 1967 года).

Нічога падобнага ў гісторыі беларускай літаратуры і культуры я болей не ведаю.

Нехта запытае: чаму людзі са сваімі бедамі і праблемамі ішлі пераважна да Максіма Танка? Таму што ведалі: ён будзе памагаць і паможа. Танк вырас у дружнай, працавітай сялянскай сям'і ва ўмовах заходнебеларускага асяроддзя, сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасці і народна-вызваленчага руху, у ім жыло абвостранае адчуванне праўды, дабрыні, чуласці, спагады, надзеі, святла.

Я бачыў, паэт востра адчуваў непазбежнасць развітання з жыццём, роднай зямлёй, мілымі і дарагімі абшарамі і краявідамі, з мінулым і сучасным, сябрамі і аднадумцамі, таварышамі па пяры і вучнямі, проста шчырымі і добрымі людзьмі. Апошнія месяцы ён, «стрыножаны недамаганнямі», фактычна жыў болем развітання як выратаваннем ад цяжкіх фізічных і маральных пакут. Высокі духоўны сум развітання я адчуваю і ў вершы «Аптымістычная рэзігнацыя», і ў вершы «Веснавая капэла», і ў вершы «Прасвет»…

Тыя вершы, якія паэт чытаў падчас нашых сустрэч і гутарак, грэлі ўжо, калі можна так сказаць, адгарэлым, вячэрнім святлом. У іх ён вяртаўся ў мінулае, акцэнтаваў увагу на самым важным і вызначальным у ім, блукаў «Па сваіх снах, Па замініраваных сцежках Успамінаў», прыгадваў асобныя здарэнні і эпізоды, асэнсоўваў пражытае. Адышлі ў лепшы свет, далучыліся «да большасці» многія сябры і калегі. Мала хто ўжо званіў яму, хіба толькі І. Шамякін ды А. Ліс, а тым больш заходзіў. Тыя ж, што засталіся, жылі сваімі балючымі праблемамі, часцей за ўсё звязанымі з матэрыяльнымі клопатамі, выжываннем.

Гэта была ўжо шмат у чым размова з самім сабою, са сваёй душою…

Мне пісаць пра яго лёгка, нібыта глядзець у мару. Я слухаю сваю душу, як заўсёды, давяраю пачуццям, а яны зноў і зноў завуць на радзіму народнага паэта.

Пількаўшчына, бацькоўскі хутар, роднае котлішча Максіма Танка… І сёння не верыцца, што гэты, здаецца, нічым асаблівым не прыкметны зелянцова-рудаваты лапік нарачанскага краявіду — першавыток аднаго з самых яркіх і самабытных талентаў у гісторыі беларускай нацыянальнай літаратуры. Тут у адвечных сялянскіх турботах і нялёгкай працы на немалой гаспадарцы (дзед Хведар Маркавіч меў семдзесят пяць гектараў зямлі), на ўлонні маці-прыроды пачынаўся ён як творца, арыгінальны мастак слова, каларытная асоба. Адсюль вялікі лёс выдатнага паэта і грамадска-культурнага дзеяча павёў яго ў вялікі свет народнага жыцця.

На гэтым усімі забытым хутары жыла памяць пра бацьку Івана Хведаравіча і маці Домну Іванаўну, самых блізкіх і дарагіх яму людзей, шчырых, сумленных, руплівых і ахвярных працаўнікоў-земляробаў, жылі іх душы. Характэрным і паказальным у дадзеным плане з'яўляецца адзін з дасюль невядомых дзённікавых запісаў мастака. «Атрымаў тэлеграму ад Мілкі, — адзначаў ён 23 лютага 1968 года, знаходзячыся ў камандзіроўцы ў Маскве. — Памёр папа ўчора вечарам 22-га. Я многіх страціў, але гэта страта — страшная і балючая. Адышоў чалавек, якому я абавязан усім і нічым яму не змог дапамагчы, адудзячыць, кроме пустой славы, што ён — бацька вядомага паэта. Ехаць у Мінск не хацеў — не хацеў адрывацца ад зямлі і быць хоць крыху залежным ад дзяцей. Які гэта быў сціплы і вялікі чалавек! Вялікі і святы». Да шчымоты ў сэрцы кранаюць дзённікавыя радкі, занатаваныя 1 кастрычніка 1970 года: «Быў на Нарачы. Як заўсёды, Міхася Ціханавіча застаў ля яго любімага вогнішча. Сёлета ўпершыню мы з ім так і не парыбачылі. Чуецца ён крыху лепш, хоць тэмпература чамусьці не спадае ніжэй 37 градусаў...» І далей: «Не зважаючы на бездарожжа, дабраўся і да сваёй Пількаўшчыны. Мама стрэла на ганку. Ёй, кажа, крыху, памагла вада ад урокаў. Час ад часу не забывае яе наведаць і галоўурач А. Бажанава. Абышоў я асірацелы свой хутарок. Заглянуў у пуню. Аж галава закружылася ад паху свежага сена, ад успамінаў. Усё напамінае бацьку: і плуг пад страхой гумна, і каса над свірнам, і маткі лазы на лапці, і сякера на дрывотні, і старыя вуллі ў садзе. І нейкі боль

сціснуў сэрца. Бо ўжо і мама апошняй свечкай дагарае на гэтай святой для мяне сялібе...»

Паэта бязмерна цягнула сюды, дзе б ён ні быў, і ў сонечную спёку, і ў асенняе разводдзе, і ў зімовую сцюжу.

Хутар стаіць спрэс ва ўладзе святла і паветра, гарманічных колераў і фарбаў і чароўных гукаў, ён выпраменьвае дабратворную энергетыку, жыццядайны спакой і раўнавагу, цеплыню і лагоду. Можна сказаць, тут шмат і эпасу, і лірыкі, паўсюль ляжыць каларытная, ядраная, крамяная натура. Я яе бачу і ў старой, каржакаватай, разгаліста-кашлатай грушы на агародзе, якую ўсё збіраецца выкарчаваць ці хоць бы спілаваць (не дае расці бульбе) брат паэта Хведар Іванавіч, і ў набрынялых водарам сялянскай працы калёсах на гумавым ходу з задранымі ўгору, у самае неба аглоблямі, і ў мажнай «калодзе з дрывотні». Амаль як у тым вершы «Сярод пісем розных адно атрымаў…» са зборніка «За маім сталом». Вядома, не кажучы ўжо пра галоўны натуральны аб'ект сядзібы — нізенькую і прыгорбленую, укленчаную пад замшэлым дахам і ўрослую ў зямны дол старэнькую хатку, што ледзь не сто гадоў таму назад нарадзіла паэта, адправіла яго ў шэрагі актыўных удзельнікаў заходнебеларускага культурна-асветнага руху і нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

Здаецца, тут паўсюль і ва ўсім уладарыць высокая боская жыццёвая сіла і праўда.

Каторае дзесяцігоддзе на хутары жыве ў вялікай і прасторнай хаце, якая стаіць побач са старой, Хведар Іванавіч з жонкай Марыяй. Натуральна, жыве з няхітрай сялянскай працы, традыцыйных на Беларусі клопатаў пра хлеб, бульбу, буракі, сенакос ды шмат што яшчэ.

Дрэмле, нібы сумуючы па нечым няпэўным і невыразным, блакітна-сонечны прастор. Зажураная светлая густая цішыня вісіць у разамлелым наваколлі. Наталяючы смагу гэтай цішынёю, няспешна крочу берагам Нарачы, да якой падбягае малады падлесак, а кусты ляшчэўніку дык, нібы адпіхваючы адзін другога, літаральна лезуць у прахалодную тонь вады. Накрытае вогкім паветраным каўпаком, возера ціха зыбаецца ў вохрыста-блакітнай дымцы, пакалыхвае сваё люстра ў акаймленні полымя зялёнай квецені, кустоўя ды разнатраўя, рудаватых выспаў ды чаротавай завадзі.

На кронах і ствалах стромкіх соснаў і елак ледзь прыкметна варушацца плямкі святла і ценю. Тонкі сонечны промнік, нясмела тыцкаючыся ў зялёную лістоту статнай бярозы, нечакана адважна лізнуў грыўку падвялай травы ля шэрага лабатага каменя. Лагодна-казытлівым халадком абзываецца подых лёгкага ветрыку, на вадзе паказалася густаватае рабацінне дробненькіх імклівых кучаравых хвалек. Па вузенькай намітцы мокрага жаўтлявага пяску лена гуляе, куляючыся, белая пена. Час ад часу млява ўскрыкваюць над прозалаццю вады стомленыя ад гарачыні і млоснасці чайкі, нібы закалыхваючы цішыню і спакой. Там далей, за купавіннем забалатку з асакой і чаротам, а таксама маладымі бярозамі і алешынамі, за Чараўкамі, пачынаюцца перасыпаныя пералескамі паплавы.

Усё дыхае салодкім водарам нарачанскага лета. Хутка тут ляжа верасень, любімая пара Максіма Танка. Як зазвычай, будзе стаяць ясная, празрыстая, вільготная цішыня, пачнуць распранацца дрэвы, усцілаючы вымашчаныя пліткай сцежкі парчовымі дыванамі лістоты.

Я пазіраю на гэтыя абшары і краявіды сваёй і нібы не сваёй, яго душою. Колькі ў іх высокага духаноснага зместу, беларускага нацыянальнага характару, пладаноснай сілы, цяпла і дабрыні! Якія буйныя і раздольныя, жывыя і натуральныя прыродныя аксесуары, яркія і насычаныя мазкі і светлацені! Які смелы каларыт! Пазіраю і пераконваюся, што тут усё вельмі дарэчы: і няпэўнага паходжання рудая плямка на ўтравелым пагорку, і мілагучны звон жыватворнай крынічкі, які саграе ладны прагалак прыбярэжнага наваколля, і паджары цыбаты дзяцел, што даволі гулка дзяўбе лагодную цішу на высокай кражыстай сасне, і раскацісты

вокліч нечым дужа ўзрадаванай маладзіцы на веласіпедзе, і барвова-шызы пасак сухмарак акурат над галавой у небе…

Тут усё нібы адчынена насцеж, не хаваецца ад чужога вока і нават не прадугледжвае самога факта, што яно, гэтае вока, можа быць чужым. Паўсюль ляжыць паэзія, здаецца, бяры яе, смакуй, захапляйся, радуйся жыццю.

Сэрца шчыміць успамінамі, кругі настрояў, думак і перажыванняў разыходзяцца ва ўсе бакі. Час ад часу просяцца ў душу рэшткі некалі цэльнага размашыстага сюжэта, прыгадваюцца асобныя куртатыя эпізоды і выпадкі. То блісне ў памяці адзінокі партрэт маці Домны Іванаўны на сцяне ў старой хаце побач з адмыслова падвешанымі (ад мышэй ды пацукоў) мяхамі мукі і жыта, то паўстане заклапочаны выраз твару самога паэта падчас нашых пошукаў разеткі для падключэння магнітафона, то абзавецца спічак цяжкога, натужна-скрыпучага калодзежнага жураўля на падворку з адметным прысмакам сцюдзёнай, да паколвання ў зубах і звону ў падлобку вады з іглікай і лістоўем, то пакажацца шэрая плямка разамлелага ад сонца і гарачыні сабакі, які лена пераступае з нагі на нагу каля свайго падрапанага буданка, або цёплы камячок мешкаватага ката на ўтульнай прызбе.

Лаўлю сябе на тым, што хочацца яшчэ і яшчэ раз адчуць гэтыя трапяткія нарачанскія матывы, сагрэць сваю душу іх адмысловым каларытам і водарам, анталагічным спакоем і раўнавагаю. Я ўпэўнены: кожны, хто пабывае тут, абавязкова адчуе ўздзеянне магутнага духоўна-псіхалагічнага поля, насычанага жыватворнай чараўніцай-песняй Максіма Танка, якая, без сумненняў, назаўжды застанецца ў літаратурнай гісторыі Бацькаўшчыны-Беларусі.

Толькі на радзіме народнага паэта па-сапраўднаму адчуваеш усю каранёвую моц і вялікую духоўна-сацыяльную сілу і эстэтычную вабнасць яго песні, глыбіню і значнасць выяўлення ў ёй адвечных зместавых таямніц жыцця і чалавека. Тут, у сваёй роднай стыхіі, гэтая песня, як і належыць ёй, лунае шчыра і натуральна, урачыста і велічна, ачышчаючы душы і супакойваючы сэрцы сваіх шматлікіх прыхільнікаў.

Прайшло шмат гадоў з таго часу, калі я ўпершыню пазнаўся з паэзіяй Максіма Танка, аднак і па сёння застаюся ў палоне той чысціні, цеплыні, святла і музыкі, якія яна шчодра выпраменьвае. Мастак умеў здабываць цяплынь і красу з самых звычайных, някідкіх, будзённых, а то і халодных, змрочных з’яў і падзей, колераў і фарбаў. Яны ў яго творах іграюць, пераліваюцца, песцяцца, рэфлексуюць.

Максім Танк валодаў надзвычай яркім, самабытным, непаўторным паэтычным дарам. Як і Уладзімір Конан, я абсалютна перакананы ў тым, што па ўзроўні мастацкай творчасці, культуры эстэтычнага мыслення ён нічым не саступае знакамітым лаўрэатам Нобелеўскай прэміі, а ў шэрагу выпадкаў і пераўзыходзіць іх. Ён, напрыклад, некалькімі акварэльна-жывапіснымі штрыхамі мог выявіць вертыкальны зрэз нашага нацыянальнага лёсу, вызначальныя асаблівасці гістарычнай долі беларускага народа. Згадаем радкі, напісаныя Танкам яшчэ ў 1934 годзе, калі ён рабіў фактычна свае першыя крокі ў літаратуры:

Нарач, як мора, шуміць
і на бераг круты наступае,
Дыміць над выгарамі і над палямі туман.
З ветрам узняўшыся, кружыцца вывадак чаек,
Спуджаных скрыпам абозаў і звонам кайдан.

І чуваць, па-над намі
лятуць недзе гусі у вырай.
Развітальны іх крык патанае ў глухой лебядзе.
Ды балюча скрыпяць і галосяць калёсы па жвіры,
Па мядзельскім тракту
бясконцы этап наш брыдзе.

Малады Максім Танк вучыўся ў сваіх папярэднікаў і настаўнікаў, класікаў беларускай літаратуры — Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча. Мы ведаем, Купала быў вялікім рамантыкам, Колас — угрунтаваным эпікам, духоўны светапогляд Багдановіча вызначалі асаблівасці філасофска-аналітычнага асэнсавання жыцця і чалавека. Творчасць Максіма Танка цікава і арыгінальна паяднала ў сабе характэрныя рысы лірыка-апавядальнай, рамантычнай і філасофска-аналітычнай, інтэлектуальнай мастацка-стылявых плыняў развіцця беларускай паэзіі, у ёй рэалістычнае адлюстраванне падзей і фактаў спалучаецца з дзёрзкім вымыслам, маштабнай фантазіяй, заангажаванасць ва ўнутраны свет асобы, медытатыўны аналіз рэчаіснасці — з рамантычным палётам у будучыню, звернутасцю да высокага духоўна-эстэтычнага ідэалу, прамоўніцка-публіцыстычным пафасам. І ўсё гэта своеасабліва нанізваецца на стрыжань раскаванага мастацкага мыслення, даволі часта ўвасоблена ў форме свабоднага верша, верлібра, якому ўласціва перапляценне канкрэтна-пачуццёвай і ўмоўна-асацыятыўнай вобразнасці.

Што мы бачым у цытаваным вершы «Нарач, як мора, шуміць…»? Абшары Заходняй Беларусі, закаваных у жалезныя кайданы, дарэшты стомленых, знямоглых, але няскораных палітзняволеных пад канвоем гоняць па этапе. Першая страфа — гэта звычайны лірыка-апавядальны эцюд, а далей: «І чувацъ, па-над намі лятуць недзе гусі у вырай. Развітальны іх крык патанае ў глухой лебядзе…» Колькі тут усяго да болю знаёмага і зразумелага беларусу! Колькі жыццёвай праўды і драматызму, высокай эстэтыкі чалавечага духу і ахвярнасці, шчымлівай самоты і як пра гэта глыбока і пранікнёна сказана паэтам! Ад цяжкіх дум і стомы лірычнаму герою няма як падняць вочы, гусей ён не бачыць, а чуе. Натуральна, вобраз гусінага выраю сімвалізуе надзею, веру ў светлы пачатак. У вершы выявіліся асаблівасці нашага нацыянальнага менталітэту, гістарычнага краявіду Беларусі. Зрокавае тут пераплятаецца са слыхавым, знешняе, геаграфічна-ландшафтнае, прыродна-біялагічнае — з унутраным, духоўна-псіхалагічным. Такой культуры перажывання і мыслення нельга навучыцца, яе трэба выпакутаваць. Максім Танк выпакутаваў…

Танкаўскія вершы «Нарач, як мора, шуміць…» і «Спатканне» я заўсёды чытаю з даўкім камяком у горле, нейкім асаблівым душэўным утрапеннем, якое не праходзіць з гадамі. Успамінаецца тужлівы расказ паэта пра тое, як плакала маці Домна Іванаўна, калі яго, юнака-падпольшчыка, забірала з хутара паліцыя. Плакала і прасіла не біць…

Сёння, бадай, кожны ведае, што Максім Танк вызначаў сваё паэтычнае веравызнанне, грунтуючыся на жыццядайнай, духаноснай, гуманістычнай светаканцэпцыі. Ён пісаў неабыякавым, неспакойным сэрцам, гарачай душой, пачуццямі здзіўлення, радасці, любові, болю, гневу, надзеі, захоплена дзяліўся з чытачом шчасцем адкрыцця шчырасці, праўды, дабрыні, святла, прыгажосці. Яго творы дыхаюць высокімі сацыяльна-маральнымі думкамі і перажываннямі, у іх зусім не адчуваецца традыцыйнага пісьменніцкага клопату пра тэму і ідэю, змест і форму, сюжэт і кампазіцыю, жанр і стыль.

Гэта быў не толькі выдатны паэт, мастак слова, але і мудры філосаф-жыццялюб, які імкнуўся не толькі да адлюстравання з'яў і падзей навакольнага асяроддзя, раскрыцця ўнутранага стану асобы, але і да пошукаў і выяўлення найвышэйшага сэнсу быцця. У яго фактычна кожны верш прасякнуты адчуваннем спаконвечных глыбіняў жыцця і свету, спавіты душэўнай дабрынёй, дыялектычнай пластыкай аналізу, гарманічнай суладнасцю інтэлектуальнага і эмацыянальнага.

Паэзія Максіма Танка прывабліваала і прываблівае мяне шчырасцю і непасрэднасцю перажывання, свабодай і нязмушанасцю душэўнага самапачуцця лірычнага героя — носьбіта вялікага нацыянальнага крэатыўнага патэнцыялу, узвышанасцю яго маральнага імператыву, сілай уяўлення і фантазіі і адначасова мудрай сардэчнасцю і разважлівасцю, народнай ёмістасцю і трапнасцю назіранняў і ацэнак. Яна ўражвае арганічнасцю і адаптаванасцю натхнення і адлюстра-

вання, выяўлення, канцэнтраваным успрыманнем чалавека і свету, сакавітым фактурным жывапісам, насычанасцю каларыстыкі, уменнем надаць жывой натуры эстэтычную шматмернасць, разняволенасцю ўмоўна-асацыятыўнага мыслення. Складваецца ўражанне, што паэт заўсёды бачыў дыялектыку сучаснага і мінулага, паяднанасць матэрыяльнага і ідэальнага, натуры і духу; ён раскрываў з'яву ў яе гістарычным лёсе, сацыяльна-маральнай перспектыве. У Танка асобнае, прыватнае насычалася агульным, калектыўным, народным, а агульнае, калектыўнае, народнае рэалізоўвала сваю зместавую сутнасць праз канкрэтнае, індывідуальна своеадметнае. Відаць, менавіта таму ў яго кожная мастацка-вобразная адзінка не крычыць-выпінаецца, прыгнятаючы і глушачы астатнія, а, можна сказаць, свядома і мэтанакіравана шукае іншую, імкнецца да гарманічнага сумоўя з усімі суб'ектамі творчага акта ў агульным ідэйна-эстэтычным цэлым.

Нібы казачны асілак, Максім Танк перакуліў у нашай свядомасці многія традыцыйныя ўяўленні і падыходы ў поглядзе на жыццё чалавека і яго каштоўнасці. Ён, мабыць, першым у беларускай літаратуры даў выдатныя ўзоры высокага ўслаўлення роднай зямлі і працы на ёй, сцвердзіў гэты аспект мастацкай творчасці як скразную, законадаўчую тэндэнцыю ў развіцці айчыннай паэзіі. Танк, можна сказаць, прымусіў шырокага чытача пранікнуцца каштоўнасцямі жыцця вясковага асяроддзя, захапіцца працай хлебароба, непасрэдна ворывам, сяўбой, касавіцай, адвечным сялянскім рыштункам. Калі б не ён, наўрад ці з'явіліся б у нашай паэзіі выдатныя творы на гэтую тэму Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, П. Макаля, В. Зуёнка, М. Арочкі, А. Сыса ды многіх іншых аўтараў.

Максім Танк хоць і быў камуністам, членам ЦК КПБ, аднак не дужа стараўся ў плане сцвярджэння і рэалізацыі камуністычных ідэалагем, прынцыпаў і норм жыццядзейнасці, не так паэтызаваў іх, як маніфеставаў ці канстатаваў. Камуністычныя ідэі і перакананні арганічна спалучаліся ў яго духоўнай свядомасці з нацыянальна-патрыятычнымі, больш за тое — грунтаваліся на апошніх. Можна смела сказаць: Максім Танк найперш быў беларусам, а пасля камуністам, ён, як ніхто іншы, выдатна ведаў цану народна-патрыятычным традыцыям і каштоўнасцям. Падчас адной з нашых гутарак паэт разважаў: «Кожная мова — гэта непаўторны скарб, якім трэба даражыць. З выкрэсліваннем яе не толькі ты становішся нікім, а і бяднее, губляе многа непаўторных якасцей міжнародная культура... Вось ёсць, скажам, з боку мовы, здавалася б, бедныя народы. Але тыя ж чукчы на адно толькі апісанне снегу маюць каля сотні слоў. Ні ў адной з самых развітых еўрапейскіх моў мы гэтага не знойдзем... Здавалася б, куды ўжо багатая руская мова, а вось: «миру — мир». Не хапіла табе аднаго слова... Я люблю сабаку і люблю чалавека. Я люблю і я кахаю — гэта ж два розныя словы…

Мова — неад'емная якасць кожнага чалавека, і трэба даражыць гэтай якасцю. Справа не толькі ў тым, што гэта твая мова; калі ты даражыш мовай сваёй, то ты будзеш даражыць яшчэ і мовай суседа. Таму што праз яе ты навязваеш кантакт з іншымі, узмацняеш братэрскія сувязі і самога сябе».

Чытаеш яго творы і бачыш: гэта паэзія не разамлела-кволых думак, танных разважанняў і тамліва-мройлівай самазадаволенасці, штучнага пазёрства і манернасці і сентыментальна-зацішных пейзажаў, чым сёння грашаць многія маладыя і не вельмі маладыя літаратары, а шчырых захапленняў і адчайнага ўздыху, гулкіх воклічаў і балючых сумненняў, адмабілізаванага пратэсту і гарачага сцвярджэння. У ёй гудуць вятры, бліскаюць маланкі, шугаюць навальніцы, а таксама пячэ сонца, пяе жаваранак, кіпіць праца, важка ступае за плугам араты, звініць жытні колас. Калі цішыня ў паэта — дык трапяткая, калі рэха — дык разгоністае, гулкае, ядранае, калі гнеў — дык абавязкова кіпучы, а радасць — дык звонкая, жыццядайная.

Максім Танк, можа, як ніхто іншы ў нашай паэзіі, шчыра давяраў прыродзе, апеляваў да яе, нібы да высокай духоўна-філасофскай субстанцыі, адзінства і разнастайнасці непаўторных сутнасцей. Мастак адчуваў прыроду душой і сэрцам, бачыў яе з'явы і працэсы глыбокім падсвядомым зрокам. Яго паэзія сведчыць

культ жывой натуры, самакаштоўнасць некранутага каларыту, адкрытага прастору, густога, насычанага водару, трапяткой фарбы, чароўнай музыкі, энергію непадробнага чалавечага пачуцця, іх арганічную суладнасць і ўзаемаперапляценне.

Ну, вось верш «Кажуць людзі, на ложку цяжэй паміраць…», які даследчыкі неяк абыходзяць сваёй увагай. Ён вызначаецца глыбінёй гуманістычнага светаадчування аўтара, духоўна-патрыятычнай заангажаванасцю лірычнага героя, тонкай пластыкай суб’ектыўнага перажывання, каларытнасцю прыроднай натуры. Ва ўсім і за ўсім тут — яркая асоба чалавекалюба, сына роднай зямлі, багатая, тонка інструментаваная душа псіхолага.

Кажуць людзі, на ложку цяжэй паміраць,
Пад страхою душа доўга мучыцца, покуль
Знойдзе выхад да зораў, што ў небе гараць,
Да вандроўных аблокаў.

І таму я заўжды ў падарожжах сваіх
На начлег пад страху не прашуся ніколі,
А спыняюся недзе ля дрэў баравых,
Ля калоссяў у полі…

Гэтыя радкі Максіма Танка, дарэчы, напісаныя ледзь не паўстагоддзя таму назад, з’яўляюцца ўзорам падкрэсленай непасрэднасці, шчырасці і чысціні, раскаванасці (на мяжы з дэкаратыўнасцю) мастацкага мыслення, якая асацыіруецца з яркім, самабытным талентам і прыходзіць з вялікім творчым майстэрствам. Яны — нібы каўток крынічнай вады, подых ранішняга баравога ці лугавога водару.

Узятую на пачатку ўмоўна-рамантычную ноту вянчае заключны густы мазок (ці нават два), як падагульняльны душэўна-пачуццёвы выдых, таямнічае прызнанне, галоўная радасць жыцця:

Каб між сэрцам маім і карэннем бяроз
Было толькі лісцё траў ды верас мядовы,
Каб між песняй маёй і блакітам нябёс
Толькі — пошум дубровы.

Мы бачым, лірычнае дзеянне разгортваецца ў вершы на аснове цёплых кантрастаў, на мяжы быцця і небыцця, аб’ектыўнай праўды і летуценнай фантазіі. Рэальнае ў ім паядноўваецца з выдумкай, ірэальным, дакладныя, зрокава наглядныя, пластычна выяўленчыя колеры і фарбы кладуцца ў цэлым на ўмоўна-рамантычны каркас малюнка, развіваюць арыгінальны матыў, у якім актыўна рэфлексуюць зялёны, жоўты і блакітны каларыстычныя тоны. У сваю чаргу яркасць і незвычайнасць вобразна-асацыятыўнага бачання, характэрная рамантычная палётнасць прадугледжваюць усведамленне мудрай красы і велічы зямной рэчаіснасці. Якая тут — да вусцішнасці ў душы — неверагодная праўда (верыш і не верыш ёй), шчырая і непасрэдная прастата і лёгкая свабода! Здаецца, і не словамі гэта напісана, а самім прасторам, прыроднай воляй, сардэчнай радасцю яднання з усеагульным цэлым, Сусветнай душой, адчуваннем гармоніі быцця і свету, зачараванасцю музыкай адзінства матэрыяльнага і духоўнага, зямнога і нябеснага, прамяністай энергіяй чысцюткай мастацкай энтэлехіі.

Лірычны герой верша знаходзіць паразуменне з усім чыстым светам. Душа прыроды і душа паэта нібы зліваюцца ў адзінае цэлае. Несумненна, аўтар добра адчуваў тое, што адчувалі дрэвы, калоссе, трава, зоры, аблокі і інш.

Я слухаю гэты гулкі матыў і, здаецца, лаўлю цэлую паводку сонечнага святла, замглёна-бязмежнага блакіту, вогкай беларускай прыроднай цвярозлівасці. Ён вырастае на адных мастацкіх іскрынках.

Верш Максіма Танка «Кажуць людзі, на ложку цяжэй паміраць…» звяртае на сябе ўвагу адчуваннем таямнічых духоўных абсягаў жыцця, рухам адмысло-

вых каляровых рэфлексаў, характэрнымі рытмамі святла і ценю, экспрэсіўнай формай, хуткімі жывапіснымі штрыхамі, у якіх абмалёўка пластычнай натуры пераплятаецца з выяўленнем глыбіні прастору. Тонкія душэўна-псіхалагічныя зрухі ў ім спалучаюцца з асаблівасцямі высакароднага спакою, стрыманасцю аўтарскага перажывання.

Іншымі словамі, тут ёсць і тое, што называецца багатым настроем, і тое, што называецца ёмістым каларытам, і тое, што называецца суладнасцю і гармоніяй. У вершы пануюць смелыя, рашучыя мазкі, адкрытыя і глыбокія колеры і фарбы, буйныя, звонкія вобразы. Якраз усё гэта і забяспечвае яго мастацкую сілу.

Асоба Максіма Танка як выдатнага паэта і старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі дынамізавала ідэйна-творчыя пошукі многіх беларускіх аўтараў, цэнтралізавала нацыянальны літаратурна-мастацкі працэс. Яна заўсёды выпраменьвала дабратворную, пазітыўную энергетыку, несла цеплыню і высакароднасць, узаемаразуменне і дапамогу. Сваім прыкладам Танк вучыў літаратурную моладзь таму, як трэба жыць і пісаць. Высокая настаўніцкая сіла яго грамадскай дзейнасці і мастацкага слова бадзёрыла духоўна, вяла па жыцці прадстаўнікоў розных пакаленняў беларускіх паэтаў. Сёння ў нас жыве культ свайго, асабістага, а тады, у часы Максіма Танка, умелі радавацца і чужому, вядома, калі яно таго заслугоўвала, калі яно было таленавітым, яркім, адкрыўчым. Але і сёння можна пачуць высокія, стромкія, захопленыя словы пра народнага паэта і яго творчасць ад М. Аўрамчыка, Н. Гілевіча, В. Зуёнка, У. Паўлава, Р. Баравіковай, М. Мятліцкага ды шмат каго яшчэ.

Я бачу, як убіраецца ў сілу, актыўна разгараецца вохрыста-перламутравы ранак на Нарачы, як у добра знаёмы садок на лецішчы паэта пасля вогка-прахалоднай ночы паціху ліецца цёплы ясны блакіт, асвяжаючы яго сонечнай празрыстасцю і пазалотай, як рэдкі сівы туманок асядае на вільготны дол.

Стрэмкаю ў душы смыліць думка пра тое, што не наведваў яго часцей. Паэт цёпла, можна сказаць, сардэчна вітаў кожнае маё з’яўленне ў яго кватэры-працоўні, з разуменнем, адгукліва і добразычліва рэагаваў на шматлікія пытанні і просьбы, шчыра запрашаў званіць, пісаць і прыходзіць. Столькі засталося непрасветленага, неспазнанага ў літаратурным жыцці Заходняй Беларусі і пасляваеннай БССР… Сёння мне відавочна: ніхто не ведаў і не ведае таго, што ведаў Максім Танк, і ніхто ўжо не раскажа таго, што ён мог расказаць…

Ён жыў сумленна, самагодна, высока, ахвярна. Назаўсёдна пайшла з ім, мабыць, растварыўшыся ў зялёна-блакітных нарачанскіх абшарах і краявідах, шчырая, светлая, трапяткая душа — чысцюткая, быццам слязінка ці ранішняя лугавая расінка. Але не, я памыліўся, яна дзесьці тут: ціха і самотна лунае над не астылым яшчэ родным бацькоўскім хутарам, нячутна і нябачна кружыць над дарэшты састарэлымі хацінай і грушай. Хто ж, калі не яна, першым сустракае тут узыход сонейка, раннюю песню жаўранка, што будзіць наваколле?! Ды і мяне, што каторы ўжо раз няпрошана ступіў на гэты гістарычны лапік старажытнай беларускай зямлі…

Ён рабіў дабро і толькі дабро, парывіста адгукаўся на чужы боль, людское гора, жыў самымі светлымі думкамі і ідэямі, якімі можа жыць чалавек, і таму пакінуў яркі след у нашых душах і сэрцах, у гісторыі роднай Беларусі.

Мне вельмі не хапае Максіма Танка…



**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# ПАСЛАНЦЫ Ў ЗАЎТРА

**Алесь МАРЦІНОВІЧ. Пяшчота апалага лісця:** эсэ, нарысы. Мінск. Мастацкая літаратура. 2010.

Часта здараецца так, што ў выпадку, калі значны мастацкі праект развівае і ўвасабляе ў айчыннай культуры наш сучаснік, ацэнкі зробленаму не спяшаюцца выносіць. Відаць, з-за трывалай звычкі чакаць таго дня, калі на здабыткі можна будзе зірнуць з вышыні. Гаварыць добрыя словы, выказваць станоўчыя ацэнкі таму, хто поруч ідзе да істотных здабыткаў, неяк не ў традыцыі. І дарэмна. І добрае слова, і станоўчыя ацэнкі маглі б паспрыяць болей шырокаму ўсталяванню новага і важкага грунту для выхавання развітой, духоўна трывалай асобы. А хіба ж не на гэта павінна быць скіравана літаратура, увогуле прыгожае пісьменства?

Апошнія дзесяцігоддзі настойліва і надзвычай напружана, і гэта дазваляюць меркаваць абсягі зробленага, белетрызацыяй, апісаннем біяграфій слаўных сыноў і дачок Айчыны займаецца пісьменнік, які піша на гістарычныя тэмы, Алесь Марціновіч. Болей як дзесяць яго кніг складаюцца з нарысаў пра знакамітых асоб у гісторыі Беларусі. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» нават аўтарскую серыю аддала творчым праектам Алеся Марціновіча — «Гісторыя ў асобах», што таксама з’яўляецца выпадкам пасвойму ўнікальным і не зусім традыцыйным для беларускага кнігавыдання. Часам мы баімся праяўлення чыіхсьці амбіцый, самі таго не разумеючы, што акрэсліванне індывідуальнага ёсць дарога да большай выразнасці калектыўных праяў. А ў выпадку з творчасцю якія ж здабыткі без палёту творчай фантазіі, асаблівага таленту адзінкі, індывідуума? І ў маім прыватным кнігазборы кнігі гэтыя стаяць поруч, утвараючы ладны раздзел бібліятэкі: «Зерне да зерня» (Алесь Марціновіч за гэты зборнік быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь), «У часе прасветленыя твары», «Элегія забытых дарог», «Хто мы, адкуль мы...» (дарэчы, пад гэтай назвай выходзілі некалькі зборнікаў — спярша двухтомнікам, пасля аднатомнікам — як арыгінальная кніга, затым яшчэ ў трох кнігах — ужо выбранае з нарысаў Алеся Марціновіча), а следам — згаданая серыя «Гісторыя ў асобах». Усё ж назавём кожную з кніг — «Сполахі далёкіх зарніц», «Свечка на золкім ветры», «Птушкі ў пакінутых гнёздах», «Маладзік над заснежаным шляхам». Новая кніга — «Пяшчота апалага лісця».

Гэтым разам пад адной вокладкай сабраныя нарысы пра Скрэву, Аляксандру Брачыславаўну, Бірутэ, Соф’ю Гальшанскую, Францыска Скарыну, Кацярыну Ягелонка, Антонія Тызенгаўза, Іосіфа Аляшкевіча, Адама Сузіна, Альфрэда Ромера, Ірыну Паскевіч, Мікалая Нікіфароўскага, Зыгмунта Урублеўскага, Івана Сініцкага, Браніслава Пілсудскага, Якуба Чахаўскога, Ірму Яўнзем. Усе чатырнаццаць постацей у той ці іншай ступені вядомы чытачу дасведчанаму, таму, хто з павагай ставіцца да гісторыі Айчыны. Скарына — і ўвогуле гонар нашай нацыі, асоба, жыццяпіс якой падрабязна раскрыты не толькі гісторыкамі, але і паэтамі, празаікамі, драматургамі. Дастакова згадаць хаця б празаічныя і драматургічныя творы Алега Лойкі, Івана Чыгрынава, Алеся Петрашкевіча, Міколы Арочкі... Здавалася б, не паўтарыцца нельга. І на прыкладзе нарыса Алеся Марціновіча пра Скарыну («Зробленае — лекі душэўныя») хацелася б заўважыць пра адметную рысу ў рабоце пісьменніка над стварэннем партрэтаў гістарычных персанажаў. Але — спярша невялікая

цытата. «Сітуацыя больш чым дзіўная. У параўнанні з іншымі дзеячамі нацыянальнай культуры, якія жылі некалькі стагоддзяў назад, Францыск Скарына ўвагай не абыдзены, — піша на пачатку нарыса Алесь Марціновіч. — Пра яго напісана і выдадзена нямала кніг, яго імя часта згадваецца ў шматлікіх артыкулах. Разам з тым трэба засведчыць, што пра Скарыну мы ведаем яшчэ вельмі мала. Прынамсі, павінны ведаць куды больш, калі па-сапраўднаму паставіцца да здзейсненага ім. А зроблена Скарынам так шмат і на гэткім высокім узроўні, што невыпадкова яго імя ставіцца побач з імёнамі тытанаў эпохі Адраджэння, як Леанарда да Вінчы і Альбрэхт Дзюрэр. Але ж яны ў кожнага, па сутнасці, на слыху. Пра Скарыну ж большасць з нас ведае толькі з праграмы навучання сярэдняй школы». Аўтар нарыса знаходзіць той аптымальны шлях, які дазваляе яму папулярна, даступнай мовай паказаць (і разам з тым — не адхіляючыся на другаснае) велічыню постаці Скарыны. Пісьменнік не абмінае дзяцінства і юнацтва першадрукара, лаканічна прадстаўляе асобу бацькі Францыска, паказвае атмасферу тых мясцін, дзе фарміраваўся светапогляд легендарнага асветніка. Месцамі Алесь Марціновіч прапаноўвае чытачу і свае версіі, пабудаваныя на дэталёвым вывучэнні часу Скарыны, яго эпохі. І гэта асабліва важна. Не з'явіўся ж першадрукар са сваімі памкненнямі з вакуума — гістарычнага і нацыянальнага. За ім стаялі эпоха і папярэднікі ў развіцці ідэалаў гуманізму, маралі. Як бы цяжка ні было першапраходцу, але ж грунт меўся. І яго дапамагае разгледзець аўтар нарыса «Зробленае — лекі душэўныя». Мо таму ён так падрабязна распавядае пра часы навучання Скарыны, тую школу, якая паспрыяла будучаму першадрукару атрымаць званне доктара медыцыны. Алесь Марціновіч не баіцца задаваць мноства пытанняў. І тым самым не столькі свае сумненні выказвае, колькі запрашае чытача да разваг. Выяўляецца своеасаблівая філасофія дыялогу з тымі, хто адкрые кнігу. Але разам з тым і інфармацыі ў нарысе роўна столькі, каб чытач атрымаў пэўны адказ. І подзвіг Скарыны, яго выключнае месца ў гісторыі Беларусі, усіх усходнеславянскіх краін становяцца ў такім выпадку зразумелымі. Па-новаму, дзякуючы нарысу А. Марціновіча, лагічнасці і спакою яго разважанняў, становяцца блізкімі і адкрытымі словы першадрукара: «Як ад нараджэння звяры, што ходзяць у пустыні, ведаюць ямы свае; птушкі, што лётаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і падобныя ім бароняць вуллі свае, — гэтак і людзі, дзе нарадзіліся і ўскормлены ў Бога верачы, да таго месца вялікую ласку маюць».

У значнай ступені фантастычнай па велічыні затрачанага часу можна назваць работу аўтара кнігі «Пяшчота апалага лісця» ў адкрыцці біяграфіі тых ці іншых важных для гісторыі асоб. Пісьменнік — і гэта відавочна, калі аглядаць хаця б толькі серыю яго кніг «Гісторыя ў асобах» — збірае інфармацыю гадамі. Стараецца не прапусціць кожную згадку пра персанажа, які абраны ім у героі будучага нарыса. Магчыма, таму ў межах адной кнігі збіраюцца асобы розных часін, стагоддзяў. Аўтар выводзіць сваю версію (дастаткова часта — і адзіную ўвогуле, калі мець на ўвазе нарыс, эсэ такіх памераў, як у яго кнігах, здараецца, да друкаванага аркуша і болей) тады, калі ён сам дастаткова ўсведамляе месца і ролю асобы ў гісторыі. Беларусь ва ўсе вядомыя нам стагоддзі знаходзілася на перакрыжаванні шляхоў і падзей. Ваяўнічыя наступы з Усходу і Захаду, паходы праз Беларусь, сутыкненні чужых інтарэсаў на тэрыторыі нашай Айчыны — усё гэта было... І ўраджэнцы Беларусі даволі часта, кожны па-свойму разумеючы лёсавызначальны характар тых ці іншых падзей для сваёй радзімы, аказваліся рупліўцамі, дзеястваральнікамі грамадскага, палітычнага, культурнага жыцця ў Расіі і Польшчы, ва Украіне і Літве, у іншых, часам тэрытарыяльна далёкіх ад нас, краінах свету. І гэта былі не толькі падарожнікі і даследчыкі чужой культуры, чужой гісторыі. Гэта былі асобы, якія, аднойчы палюбіўшы іншую старонку, станавіліся стваральнікамі дзяржаў і армій, флотаў і нават іншай літаратуры, іншай мовы. Чужое станавілася родным, сваім. Шчыраванне было галоўным кірункам жыцця. Прыкладаў такога кшталту неверагодна шмат. Пра многіх носьбітаў такога лёсу — і ў нарысах Алеся Марціновіча.

А ў кнізе «Пяшчота апалага лісця» — пра Аўрама Весялоўскага, яго пакручасты, няпросты лёс (нарыс «Быў рэзідэнтам, стаў дысідэнтам»). Нарадзіўся Весялоўскі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай, як і многія іншыя прадстаўнікі «літвы», разам з бацькамі пераехаў у Маскву. Праз некаторы час юнак становіцца пад'ячым у Пасольскім прыказе. Але хутка трапляе на вочы Пятру І, які прызначае маладога чалавека асабістым сакратаром. Разам з імператарам удзельнічае ў Палтаўскай бітве. 28 чэрвеня 1709 года Пётр І накіроўвае сакратара са спецыяльным пісьмом да дацкага караля, каб хутчэй падзяліцца радасцю перамогі. У Капенгагене праз некаторы час Весялоўскі і становіцца рускім рэзідэнтам. А пасля, у 1715 годзе, займае такую ж пасаду ў Вене. Паспяховая дзейнасць на карысць рускай дзяржавы ўсё ж у хуткім часе аказала нашаму суайчынніку нядобрую паслугу. Пётр І даручыў Весялоўскаму адшукаць царэвіча Аляксея. Розныя гісторыі адбыліся на гэтым шляху. Як вядома, імператар усё ж расправіўся са сваім сынам, выцягнуўшы яго ў Расію. А Весялоўскага ў хуткім часе афіцыйна выправадзіў з Вены аўстрыйскі ўрад. Праўда, падазраючы змену адносін да яго і ў роднай імперыі, Аўрам не дужа спяшаўся дадому. Праз год апынуўся ў Лондане, дзе рэзідэнтам працаваў яго брат — Фёдар. Тым самым і яго паставіў пад удар. Пецярбург вырашыў адклікаць дадому яшчэ аднаго Весялоўскага. Але і Фёдар не пажадаў вяртацца. Пад арышт Весялоўскіх падводзілася палітычная аснова. Маўляў, жадаеце сябраваць з Расіяй — Англія і Францыя, то аддайце нам братоў-рэзідэнтаў, якія сталі ўжо, відавочна, дысідэнтамі. Хутчэй за ўсё Пётр І не жадаў, каб свет ведаў падрабязнасці яго ловаў уласнага сына. Аўрам Весялоўскі і быў якраз самай дасведчанай асобай у гэтай справе. Але Англія не выдала братоў, патлумачыўшы сітуацыю тым, што яны, маўляў, у Расіі не асуджаны. Пасля смерці расійскага імператара на некаторы час пра дысідэнтаў забыліся. А ў час праўлення імператрыцы Ганны Іаанаўны зноў успомнілі. Але ўспомнілі і... забыліся.

Ужо імператрыца Елізавета Пятроўна прапаноўвала Весялоўскаму вярнуцца ў Расію без усялякіх наступстваў. Аўрам жа адказаў такім чынам: маўляў, вернецца тады, калі ў Расіі канчаткова страцяць сэнс наступныя выразы: «Боскае, ды не гасударава», «Без віны вінаваты», «Хоць не рады, ды гатовы». Кажуць, што ўсе з гэтых выказванняў, ацэньваючы грамадскае жыццё ў тагачаснай Расіі, якраз і прыдумаў Весялоўскі. Памёр наш суайчыннік у Жэневе ў 1782 годзе, маючы за плячыма ажно 93 гады жыцця. Нарыс Алеся Марціновіча пра гэтага рэзідэнта і дысідэнта чытаецца як захапляльны дэтэктыў. І такіх твораў не толькі ў зборніку «Пяшчота апалага лісця», але і ва ўсіх кнігах серыі «Гісторыя ў асобах» можна знайсці нямала. Пісьменнік шукае займальныя сюжэты, спрабуе зрабіць адкрыццё гістарычных ведаў справай цікавай, даступнай пры розных узроўнях чытацкай дасведчанасці.

Ёсць пэўнае шкадаванне, што наклад у кнігі зусім невялікі — усяго толькі 1100 экзэмпляраў. Калі меркаваць па колькасці публічных бібліятэк у краіне, то пры ўмове, што ўвесь тыраж будзе размеркаваны толькі па бібліятэках, кніга не трапіць і ў чацвёртую іх частку. А што ж да школьных бібліятэк, то зусім застанецца па-за іх увагай. Ёсць жа яшчэ і кнігарні... Канечне ж, трэба ўлічваць сённяшнюю рэчаіснасць, страту ранейшай чытацкай цікавасці да кнігі, спецыфіку гісторыка-папулярнай літаратуры. І зусім не віна выдавецтва, што такі абмежаваны тыраж у кнігі. Іншая справа, што да творчага праекта Алеся Марціновіча можна было б «прывязаць» і сённяшні час, сённяшнія рэаліі. Чаму б, напрыклад, лепшыя з нарысаў пісьменніка пра знакамітых асоб Беларусі не выдаць наўмысна для школы. Ёсць і серыя адпаведная — «Школьная бібліятэка». Магчыма, варта было б разгледзець кнігі А. Марціновіча і ў плане ўключэння некаторых з іх, а мо і ўсёй серыі «Гісторыя ў асобах» у пазакласнае чытанне. Такія крокі будуць толькі на карысць юнаму чытачу.

**Мікалай ГАЙБА**

# НАВАГРУДЧЫНА Ў ЧАСЫ АДАМА МІЦКЕВІЧА

## Знешні воблік горада Навагрудка

Адам Міцкевіч пакінуў беларускія землі ва ўзросце 25 гадоў. Пакінуў вымушана, і, як аказалася, назаўсёды. Але куды б потым ні закідваў яго жыццёвы лёс, душа яго назаўжды заставалася сярод людзей і вобразаў «зямлі Навагрудскай — роднага краю». Яна давала яму сілы і натхненне і ў паэтычнай творчасці, і ў грамадскай дзейнасці.

А якімі ж былі Навагрудак і Навагрудчына ў той час, калі тут жыў А. Міцкевіч? Якім быў знешні воблік горада, хто былі яго жыхары па родзе заняткаў і па веравызнанні, якія грамадска-палітычныя падзеі тут адбываліся? Як гэта ўсё знайшло водгук у творчасці паэта?

На час нараджэння А. Міцкевіча Навагрудак яшчэ жыў адгалоскамі сваёй былой славы. Да 1795 года ён быў цэнтрам вялікага па памерах Навагрудскага ваяводства, у якое ўваходзілі гарады Ваўкавыск, Слонім, Нясвіж, Клецк, Слуцк… Тут доўгі час праходзілі пасяджэнні Галоўнага Літоўскага Трыбунала — вышэйшага апеляцыйнага суда дзяржавы, дзейнічала Магдэбургскае права. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Навагрудак стаў павятовым цэнтрам спачатку Слонімскай, потым Літоўскай, а з 1802 года — Гродзенскай губерні.

На пачатку XIX стагоддзя Навагрудак, шмат страціўшы ў войнах, пажарах, эпідэміях другой паловы XVIII стагоддзя, быў невялікім па сваіх памерах і па колькасці жыхароў гарадком. У 1803 годзе тут жыло ўсяго 1108 чалавек, у 1811—2320 чалавек. Трэба адзначыць, што гэтыя лічбы не заўсёды маглі быць поўнымі па прычыне недасканаласці тагачасных крыніц інфармацыі, але, ва ўсялякім выпадку, на той час у Навагрудку не жыло 8 000 чалавек, як пісаў пазней у сваіх успамінах Францішак Міцкевіч.

Кампазіцыйным цэнтрам горада была гарадская плошча, размешчаная на высокім прасторным плато, адкуль добра былі відаць навакольныя лугі, палі і лясы, што стварала дададковы эфект невялікіх памераў Навагрудка. Вакол плошчы стаялі аднапавярховыя дамы членаў магістрата, земства, крамы і склады. На адным з вуглоў плошчы месціўся двухпавярховы будынак былога Радзівілаўскага палаца, набыты ў 1810 годзе купцом Фішарам. Нападалёк, цераз вуліцу, узвышаўся каменны будынак гарадской ратушы, упрыгожаны ўверсе выявай Міхаіла Архангела — апекуна Навагрудка. Хаця на пачатку XIX стагоддзя ратуша была ў дрэнным стане, але працягвала функцыяніраваць. У гэтым будынку на першым паверсе знаходзіліся каравульныя памяшканні і шынок, на другім — суд і архіў. У глыбіні двара размяшчаліся склады. Побач з плошчай, выходзячы фасадамі на прылеглыя вуліцы, узвышаліся каталіцкія касцёлы, уніяцкія цэрквы, кляштары. У Навагрудку налічвалася 5 касцёлаў, 6 кляштараў, 3 уніяцкія царквы. Такая колькасць храмаў была сведчаннем важнай ролі Навагрудка ў хрысціянскім жыцці беларускіх земляў.

Старэйшай была Базыліянская (першапачаткова Барысаглебская) царква, заснаваная ў XII стагоддзі і перабудаваная ў 1517—1519 гадах і ў пачатку XVII стагоддзя. Побач — мужчынскі і жаночы базыліянскія кляштары. Шмат стагоддзяў

налічвае і Фарны касцёл, які размяшчаецца ля падножжа Замкавай гары. Ён быў заснаваны яшчэ ў 1395 годзе вялікім князем Вітаўтам, а ў 1712—1723 гадах перабудаваны з захаваннем ранейшых частак. На вуліцы Францысканскай размяшчаўся францысканскі касцёл з кляштарам. Цераз дарогу ад яго ўзвышаўся касцёл Дзевы Марыі, заснаваны ў 1624 годзе, а побач дзейнічаў адзіны ў Беларусі жаночы кляштар дамініканак (1648—1654 гады). На адным з куткоў плошчы, побач з Радзівілаўскім палацам, быў пабудаваны касцёл дамініканцаў (1724 год) з кляштарам. На вуліцы Валеўскай, непадалёк ад плошчы — уніяцкая царква святога Мікалая. Каля Францысканскай вуліцы — Уваскрэсенская ўніяцкая царква. Вежы цэркваў і франтоны касцёлаў, размешчаных вакол плошчы, узвышаючыся над аднапавярховымі жылымі дамамі, стваралі ўражанне другога яруса забудовы, што надавала Навагрудку ўнікальны архітэктурны выгляд. Былі таксама кляштар баніфратаў, будынак закрытага ўжо касцёла езуітаў, татарская мячэць, заснаваная ў XVI стагоддзі, і пабудаваная наноў у 1796 годзе, а таксама сінагога (1648 год).

Яшчэ адной дамінантай горада была Замкавая гара з рэшткамі некалі аднаго з наймагутнейшых на тэрыторыі Беларусі замкаў. У дзіцячыя гады А. Міцкевіча ад былога замка захаваліся ў пашкоджаным выглядзе толькі тры вежы: Шчытоўка, Касцёльная і Дазорца. Але пра захаванне вежаў улады не клапаціліся. Больш таго, у 1802 годзе генерал-губернатар Бенігсен дазволіў навагрудскаму гараднічаму разабраць замкавыя ўмацаванні, каб раздаць цэглу бяднейшым людзям, а камяні выкарыстаць для брукавання вуліц горада. На шчасце, гэтая акцыя не ажыццявілася.

На Замкавай гары стаяла яшчэ паўразбураная царква Успення Божай Маці (Замкавая). У ёй да 1775 года праходзілі пасяджэнні Галоўнага Літоўскага Трыбунала. З XIX стагоддзя тут знаходзілася цудатворная ікона Маці Божай Навагрудскай (Замкавай). Пазней яна была перанесена ў капліцу пры царкве, а, прыкладна, на мяжы XVIII—XIX стагоддзяў — у Базыліянскую (Барысаглебскую) царкву. Адтуль у 1915 годзе была вывезена на Украіну. З гэтай іконай звязаны выпадак з дзяцінства А. Міцкевіча, калі ён, «выпаўшы з акна, быў пэўны час без жыцця». Аб гэтым факце Міцкевіч успамінаў у адным са сваіх пісьмаў, а падзяку Маці Божай за выратаванне ўключыў у сваю паэму «Пан Тадэвуш»:

Святая дзева, што бароніш Чанстахову
І ў Вострай браме свеціш, што ўзяла ў ахову
Наш слаўны Навагрудак з яго верным людам,
Як мне жыццё ў дзяцінстве ты вярнула цудам,
(Калі ў адчаі маці пад тваю апеку
Мяне здала і мёртвае я ўзняў павека
І зразу змог пайсці к тваіх святынь парогу
За вернутыя сілы даць падзяку Богу...)

*(Пераклад П. Бітэля)*

Адам Міцкевіч ведаў гісторыю Навагрудка і Навагрудскага замка і ўключыў гістарычныя звесткі пра яго ў свае паэмы «Мешка, князь Навагрудка», «Гражына», «Конрад Валенрод». У паэме «Гражына» ён даў вобразнае апісанне замка на тыя часы, калі замак яшчэ жыў актыўным жыццём:

Ля Навагрудка, на ўздыбленых горах, —
Замак у месяца срэбным зіхценні,
Вал здзірванелы схаваўшы, сувора
Волатаў-вежаў ламаныя цені
Падалі ў роў, дзе між вечнай цясніны
Дыхалі воды, затканыя цінай.
Замак заснуў — ні агню і ні дыху,
Толькі на вежах бяссонная варта
Воклічам ціху палохае ўпарта.

*(Пераклад С. Дзяргая)*

Назва твора «Конрад Валенрод» сугучна з імем крыжацкага магістра, які ў 1391 годзе разам са сваім войскам беспаспяхова штурмаваў сцены Навагрудскага замка.

Яшчэ адным помнікам мінулага Навагрудка была гара Міндоўга, у якой, згодна з мясцовым паданнем, быў пахаваны разам са сваім залатым тронам першы князь Вялікага Княства Літоўскага Міндоўг. Яшчэ адно паданне гаворыць, што раней на вяршыні гары была мармуровая надмагільная пліта, на якой узвышалася выява дзяўчыны з тварам анёла. Тут была пахавана прыгажуня Крыся, якая стала правобразам для многіх скульптур і насценных роспісаў у касцёлах Вільні. Аўтарам віленскіх скульптур, як і надмагільнага помніка на гары Міндоўга, быў італьянскі скульптар Джавані Пярэці. У часы Міцкевіча на гары размяшчаліся хрысціянскія могілкі.

У 1809 годзе быў складзены сітуацыйны план забудовы Навагрудка, для ўпарадкавання забудовы вуліц і пашырэння некаторых з іх. Выкананы ён быў толькі часткова. У прыватнасці, у цэнтры плошчы ў 1812 годзе з'явіліся драўляныя гандлёвыя рады. На гістарычную планіроўку горада гэты план не паўплываў: па-ранейшаму ад плошчы, нібы прамяні, разыходзіліся ў розныя бакі 8 вуліц: Францысканская, Базыліянская, Замкавая, Кавальская, Траецкая, Валеўская, Яўрэйская, Слонімская (сёння адпаведна Гродзенская, Паштовая, Замкавая, 1 Мая, Мінская, імя Леніна, Савецкая, імя Міцкевіча). Забудова горада ішла, у значнай ступені, стыхійна, прычым, апераджальнымі тэмпамі вялося будаўніцтва каменных жылых дамоў. Калі ў 1778 годзе падарожнік У. Кокс, праязджаючы праз Навагрудак, запісаў, што горад «пабудаваны цалкам з дрэва, выключэннем з'яўляюцца 2 ці 3 дамы з цэглы», то ў 1815 годзе тут было 9, а ў 1825 годзе ўжо 15 мураваных дамоў.

У сям'і Міцкевічаў свой дом у Навагрудку з'явіўся ў пачатку XIX стагоддзя. Пляц для пабудовы дома купіў за 50 рублёў у 1803 годзе бацька Адама — Мікалай Міцкевіч — тады мінскі каморнік. Тут ужо былі скляпы і падмуркі дома, які калісьці належаў былому навагрудскаму бурмістру, але згарэў падчас гарадскога пажару ў 1751 годзе. Па некаторых звестках, спачатку Мікалай Міцкевіч пабудаваў на пляцы сціплы драўляны дом, а ў 1806 годзе на гэтым месцы быў узведзены новы, мураваны дом, які, паводле слоў Ігнацыя Дамейкі, стаў «найлепшым ва ўсім мястэчку, дзе мураванымі былі толькі касцёлы і кляштары». Гэты дом «хаця і не ўбогі, заможным таксама не быў».

У доме Міцкевічаў на першым паверсе размяшчаліся гасціная зала, пакой бацькі, дзіцячы пакой, а таксама спальня бацькоў і сталовая. На гарышчы меўся пакой для прыслугі. На гэты час у сямі было пяцёра дзяцей: Францішак (1796 года нараджэння), Адам (1798 г. н.), Аляксандр (1801 г. н.), Ежы (1804 г. н.), Антоній (1805 г. н.).

Тут сям'я Міцкевічаў жыла да 1812 года — да смерці Мікалая Міцкевіча… Неўзабаве сям'я здала дом у арэнду і перайшла жыць у флігель. Пасля смерці маці ў кастрычніку 1820 года дом атрымалі ў спадчыну чатыры браты: Францішак, Адам, Аляксандр і Ежы Міцкевічы. Гаспадаром стаў Францішак. Браты ж раз'ехаліся.

## Насельніцтва горада і павета

Найбольшую колькасць жыхароў Навагрудка па сацыяльных групах складалі мяшчане (каля 70 працэнтаў). Па родзе заняткаў да іх маглі быць аднесены дробныя гандляры, рамеснікі, людзі, якія выконвалі розныя паслугі, а таксама артысты, мастакі і да т. п. Як адгалосак таго, што горад нядаўна быў ваяводскім цэнтрам, тут у 1803 годзе жыло 490 дваран, што значна больш, чым у іншых гарадах Гродзенскай губерні на той час. Свае невялікія сядзібы мелі ў горадзе

Туганоўскія, Данейкі, Вярэйскія, Загорскія і іншыя. Каля ста чалавек, з прыкладна 2000 жыхароў, былі ваеннымі. У іх лік увaходзілі афіцэры і салдаты гарнізона, унутраная варта, а таксама члены сем'яў ваеннаслужачых. 90 чалавек былі залічаны да катэгорыі «чыноўнікі», 72 — у 1803 годзе былі залічаны да духоўнага саслоўя, што тлумачыцца вялікай колькасцю храмаў і манастыроў, якія існавалі ў горадзе.

Параўноўваючы розныя статыстычныя звесткі першай чвэрці XIX стагоддзя, можна атрымаць карціну рэлігійнага (і, у пэўнай ступені, этнічнага) складу жыхароў тагачаснага Навагрудка і Навагрудчыны.

У сярэдзіне 1820-х гадоў амаль палову насельніцтва горада складалі яўрэі-іудзеі, хрысціян было каля 40 працэнтаў, прычым праваслаўных і каталікоў прыкладна аднолькава, да 15 працэнтаў даходзіла колькасць татар-мусульман.

Прырост у Навагрудку, як і іншых гарадах, яўрэйскага насельніцтва тлумачыўся, перш за ўсё, прымусовымі мерамі расійскага самадзяржаўя па перасяленні яўрэяў з сельскай мясцовасці. Па саслоўным складзе значная колькасць яўрэяў была мяшчанамі або купцамі, якія валодалі крамамі, рамеснымі майстэрнямі, прымалі актыўны ўдзел у кірмашах. Значная частка яўрэяў жыла бедна, мела даўгі і падвяргалася судовым разборам. Часта справы яўрэйскіх жыхароў разглядаў як адвакат бацька Адама Мікалай Міцкевіч. Жыццём яўрэяў кіравалі кагалы, якія юрыдычна існавалі ў Расійскай імперыі да 1844 года. Кагалы былі як бы органамі самакіравання, і ў той жа час праз іх органы дзяржаўнай улады кантралявалі ў першую чаргу збор падаткаў і выкананне павіннасцей, якія для яўрэяў часта былі большымі, чым для хрысціян. Жыццё яўрэяў бачыў і ведаў Адам Міцкевіч. У прыватнасці, у паэме «Пан Тадэвуш» ён выпісаў каларытную асобу Янкеля-цымбаліста, даў у вершаванай форме апісанне тыповай карчмы і паказаў добрае веданне архітэктурных асаблівасцей сінагогі.

Карэнным этнасам Навагрудчыны спрадвеку былі беларусы. Праўда, у час, калі жыў Адам Міцкевіч, беларускі этнас быў раз'яднаны, падзелены на вельмі апаланізаваную шляхту і на тых, хто ў сваім звычайным побыце захоўваў нацыянальную мову і традыцыйную народную культуру. Шляхту ад «простага народа» аддзяляла моўная, канфесійная, адукацыйная мяжа. Хаця, як пісаў у той час Ян Чачот, на беларускай мове «любілі размаўляць між сабою паны, што яшчэ жывуць, на ей дагэтуль гавораць паны і эканомы з сялянамі». У выніку разнастайных гістарычных прычын беларусаў Навагрудчыны ў першай палове XIX стагоддзя называлі часцей за ўсё літвінамі і літоўскім людам, а іх мову літоўскай, русінскай, славяна-крывіцкай.

Штодзённы побыт беларусаў, іх абрады, вераванні, народныя песні і казкі далі А. Міцкевічу багаты матэрыял для творчасці. Аб уплыве беларускага фальклору на творчасць Міцкевіча напісаны розныя кнігі, у прыватнасці, кніга Алега Лойкі «Адам Міцкевіч і беларуская літаратура», значная колькасць артыкулаў у навуковых зборніках і перыядычным друку. «Фальклор для А. Міцкевіча стаў не толькі формай, пры дапамозе якой паэт выражае свае думкі і пачуцці. Вусная народная творчасць становіцца і школай, другім універсітэтам паэта. Праца над баладамі вяла паэта да зразумення праўды народа, выказанай у поўнай меры ў вобразах і матывах фальклору…» — адзначаў Алег Лойка.

Адам Міцкевіч гаварыў, што «народныя песні толькі таму ўсе лічаць за крыніцу народнай паэзіі, бо ў памяці людской засталіся толькі тыя песні, якія сапраўды паказвалі думкі і пачуцці простага народа». Фальклорныя матывы, як беларускія, так і польскія, выкарыстаў А. Міцкевіч і пазней, у сваіх найбольш значных творах — «Дзяды» і «Пан Тадэвуш».

Пакінула свой след у жыцці і творчасці А. Міцкевіча і сама беларуская мова, словы якой ён свядома ўжываў у шэрагу сваіх твораў. Прывядзём для прыкладу беларусізмы з паэмы «Пан Тадэвуш»: халадзец, каўтун, зашчапа, дзяркач, падвода, гарбуз, мятліца, незабудка, свірэпа, расол, атава, прызба, покуць, сені,

пракосы, вырай. І гэты пералік далёка не поўны. Працуючы ў 1840—1844 гадах выкладчыкам у Парыжы ў Каледж дэ Фрас, А. Міцкевіч у сваіх лекцыях даў высокую ацэнку вартасцям беларускай мовы: «На беларускай мове, якую называюць русінскай або літоўска-русінскай, размаўляе каля 10 мільёнаў чалавек: гэта самая багатая і чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і выдатна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для дыпламатычнай перапіскі. Мова вялікаросаў... вылучаецца багаццем і чысцінёй, але ў ёй няма ні цудоўнай прастаты беларускай мовы, ні гарманічнасці і музычнасці маларускай», «З усіх славянскіх народаў русіны, гэта значыць сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гродзенскай губерняў, захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рыс. У іх песнях і казках ёсць усё... «Літоўскі Статут» напісаны іх мовай, самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш зменeнай».

Мова твораў А. Міцкевіча, у якіх прысутнічалі беларускія словы, не заўсёды была зразумелая чытачу ў Польшчы, за што варшаўскія крытыкі часта папракалі паэта. Адказваючы на гэтыя папрокі, А. Міцкевіч пісаў у артыкуле «Пра варшаўскіх крытыкаў і рэцэнзентаў» (1828 год): «...абвінавачвалі мяне галоўным чынам у псаванні польскага стылю, выкарыстанні правінцыялізму і замежных выразаў. Прызнаюся, што я не толькі не асцерагаюся правінцыялізмаў, але, можа, свядома іх ужываю». Магчыма, пры больш спрыяльных умовах А. Міцкевіч пісаў бы творы і на беларускай мове, але не было яшчэ ні беларускага чытача, ні беларускага выдаўца.

Польскай мовай у першай трэці XIX стагоддзя карысталася ўсё адукаванае грамадства, на ёй працавалі школы і Віленскі ўніверсітэт, вялося богаслужэнне ў касцёлах. Увогуле, развіццё тагачаснага грамадства ішло пад моцным уплывам пераважаючага тут у эканамічных адносінах польскага насельніцтва. Палякамі былі ў асноўным мясцовая шляхта і чыноўнікі. Пэўная іх частка была этнічнымі палякамі, большая частка — апаланізаванымі беларусамі, якія прынялі польскую мову і шмат у чым польскія норавы і звычаі. Многія называлі сябе палякамі па палітычных матывах, лічылі сябе ўраджэнцамі і грамадзянамі былой Рэчы Паспалітай. Ва ўсялякім выпадку ў канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя не зафіксавана якіх-небудзь значных перасяленняў палякаў з карэннай Польшы на беларускія землі. Па веравызнанні палякі былі, як правіла, каталікамі. На Навагрудчыне ў першай трэці XIX стагоддзя дзейнічала 17 касцёлаў, якія размяшчаліся, у асноўным, у горадзе і мястэчках. У той жа час у Навагрудскім павеце налічвалася 55 уніяцкіх цэркваў і іх філіялаў, прыхаджанамі якіх былі, у асноўным, беларусы.

Рускае насельніцтва Навагрудчыны ў першыя дзесяцігоддзі знаходжання яе ў Расійскай імперыі было, відавочна, нешматлікім. У асноўным, гэта былі чыноўнікі і ваенныя. Пазней да іх дабавіліся служачыя, купцы, дваране, якія перасяляліся сюды расійскім урадам з цэнтральных губерняў, і якія сталі яго апорай у правядзенні палітыкі русіфікацыі далучаных тэрыторый.

Яшчэ адной этнічнай групай жыхароў Навагрудчыны былі татары. Упершыню аб іх пасяленні ў Навагрудку ўзгадваецца ў дакументах за 1428 год. Неўзабаве ў вёсцы Лоўчыцы была пабудавана мячэць, якая доўгі час лічылася адной з найбольш значных у краі. Татарскія сем'і, якія пасяляліся на Навагрудчыне, прадстаўлялі ў асноўным плямёны джалаір і барын. Некаторыя з іх былі залічаны да шляхецкага саслоўя. Многія з татараў займаліся агародніцтвам, рамізніцтвам, выконвалі і іншыя віды работ. У 1796 годзе на вуліцы Валеўскай была пабудавана і пачала дзейнічаць мусульманская мячэць. Маральнае аблічча навагрудскіх татар, па словах брата А. Міцкевіча Францішка, было вельмі высокае. У сваім дзённіку ён пісаў: «Гэты народ незвычайна патрыятычны. Ён вядомы сваёй сардэчнасцю, кожны з іх нічым не здрадзіць веры. Не было выпадку, каб за злачынствы, крадзеж судзілі татарына... Акуратныя, працавітыя, смелыя, спрытныя, яны непахісна верныя свайму слову і рашэнню».

## Падзеі вайны 1812 года

З уступленнем на тэрыторыю Беларусі напалеонаўскіх войск у бок горада Навагрудка пачала адыход 2-я руская армія пад камандаваннем П. Баграціёна. У гэтым жа накірунку выехалі з губернскага Гродна ўсе чыноўнікі рускага паходжання. І падводы з казённай маёмасцю. 21 чэрвеня П. Баграціён з галоўнымі сіламі арміі ўвайшоў у Навагрудак. Адсюль ён накіраваўся ў напрамку Новы Свержань—Койданава—Мінск. Адступаючы, рускія войскі імкнуліся знішчаць запасы правіянту, фуражу, пораху, не жадаючы пакідаць іх ворагу. З загадам падпаліць вайсковыя склады ў Навагрудку быў пакінуты адзін з рускіх афіцэраў. Аднак магчымага гарадскога пажару ўдалося пазбегнуць: гараджане, сабраўшы пэўную суму грошай, аддалі іх таму афіцэру, а для інсцэніроўкі падпалу склада спалілі на гарадской ускраіне некалькі стагоў сена.

Руская армія адышла. Навагрудчына апынулася ў трывожным чаканні прыходу напалеонаўскага войска, у складзе якога былі і польскія часці. Са спадзяваннем чакала яго мясцовая шляхта, якая верыла абяцанням Напалеона аднавіць незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага. Пэўныя надзеі маглі ўскладаць на яго і сяляне, да якіх даходзілі чуткі аб адмене Напалеонам прыгоннага права ў Варшаўскім герцагстве.

«Бітва! Дзе, у якой старане, дзецюкі ўсё пытаюць.
К аружжу! Жанчыны да неба ўжо рукі ўздымаюць.
Так пэўныя ўсе ў перамозе, крычаць са слязамі:
«Сам Бог з Напальонам. І сам Напальон жа з намі!», —

*(Пераклад Б. Тарашкевіча)*

пісаў Адам Міцевіч у «Пане Тадэвушы».

26 чэрвеня 1812 года ў Навагрудак увайшла дэвізія польскіх уланаў генерала Ражнецкага, а вечарам таго ж дня ў суправаджэнні музыкі — полк кавалерыі на чале з князем Ю. Панятоўскім і генералам Я. Дамброўскім. У гэты ж дзень пад мястэчкам Мір ар'ергард адыходзячай 2-й рускай арміі дагналі тры уланскія палкі корпуса Лятур-Мабура. Завязаўся бой, у якім французы былі амаль поўнасцю разбіты. На наступны дзень у бой уступіла дывізія Ражнецкага, але і яна панесла значныя страты ў сутычцы з казакамі генерала Платава. У палон да рускіх трапіла каля 30 афіцэраў і звыш 350 салдат праціўніка. Па ўспамінах рускага афіцэра І. Дрэйлінга, палонныя сказалі, што мэтаю іх паходу з'яўляецца Масква і што няма такой сілы, якая магла б затрымаць іх перамаганоснае шэсце. «Мы адчувалі сябе зняважанымі, — піша І. Дрэйлінг, — і ўсё ж не маглі не аддаць належнае гэтым воінам, якія прывыклі да перамог на ўсім зямным шары».

У Навагрудку Ю. Панятоўскі прыняў дэпутацыю гараджан і растлумачыў ім сэнс мерапрыемстваў новых улад. Пасля выхаду польскага корпуса, у горад уступіў вядомы сваімі рабункамі вестфальскі корпус на чале з братам Напалеона Жэромам Банапартам. Ён размясціўся разам са сваёй світай у лепшым будынку Навагрудка — Радзівілаўскім палацы, а падпарадкаваныя яму афіцэры і салдаты разышліся па дамах гараджан, забіраючы сабе ўсё, што траплялася пад руку: рэчы, харч, віно, жывёлу… У гонар Жэрома Банапарта мясцовы маршалак даў абед на 300 асоб, які скончыўся тым, што вестфальцы забралі з сабою пададзеныя на сталы фарфоравы посуд і абрусы. На пэўны час войскі Жэрома пакінулі горад і накіраваліся ў бок Нясвіжа. Аднак праз тыдзень Жэром Банапарт ізноў прайшоў праз Навагрудак, вяртаючыся ў сваю дзяржаву пасля таго, як Напалеон адхіліў яго ад камандавання. Гараджане, зведаўшы перад гэтым рабаванні і здзекі яго салдат, зачыніліся ў сваіх дамах, чакаючы новых рабункаў, але Жэром Банапарт вяртаўся сціпла — у суправаджэнні толькі невялікай колькасці гвардзейцаў.

Такія дзеянні прыйшоўшых войск выклікалі справядлівыя нараканні навагрудчан. Але ў многіх усё ж заставалася вера і спадзяванні на Напалеона.

1 ліпеня 1812 года французскі імператар аб'явіў аб аднаўленні Вялікага Княства Літоўскага ў межах Віленскай, Гродзенскай, Мінскай губерняў і Беластоцкай вобласці. У Вільні пачала дзейнічаць Камісія часовага праўлення ВКЛ. Губерні былі ператвораны ў дэпартаменты, паветы — у дыстрыкты, воласці — у кантоны. Навагрудак уключылі ў склад Гродзенскага дэпартамента. На сходзе мясцовай шляхты мэрам горада быў выбраны адвакат С. Паўловіч. Маршалак Рдултоўскі быў прызначаны падпрэфектам і старшынёй цывільна-ваеннай камісіі. У яе склад увайшлі шэраг членаў павятовага суда. Камісія занялася зборам правіянту і фуражу для французскай арміі. Для гэтага ў горадзе стварыўся склад, куды кожная сям'я павінна была здаць 40 гарцаў жыта і аўса, 2 гарцы гароху, па 80 фунтаў сена і саломы. Быў адкрыты шпіталь на 600 чалавек для параненых і хворых, працавала палявая пошта, кіраўнік якой Лавалет пасяліўся ў доме Міцкевічаў. Новая ўлада сфарміравала павятовы жандарскі атрад для падтрымкі грамадскага парадку.

Аднак Напалеона мала хваляваў лёс палякаў і беларусаў, у яго быў свой разлік, свае планы сусветнага панавання. Напалеон запатрабаваў стварыць новыя вайсковыя фарміраванні: 5 пяхотных і 4 уланскія (кавалерыйскія) палкі, якія б ваявалі, зразумела, на баку Вялікай арміі Напалеона. Адным з цэнтраў фарміравання ўланскага палка быў прызначаны Навагрудак. У склад яго ўвайшла, галоўным чынам, моладзь з вёсак і мястэчак. Па звычаі таго часу камандзір палка прадаваў афіцэрскія пасады, якія купляла шляхта. За капітанскую пасаду плацілі каля тысячы дукатаў, за пасаду паручніка — чатырыста, падпаручніка — дзвесце. Многія з тых, хто ўступіў у напалеонаўскія войскі, лічылі сябе па-ранейшаму грамадзянамі Рэчы Паспалітай і спадзяваліся, што са зброяй у руках можна абараніць абвешчанае Вялікае Княства Літоўскае.

15 жніўня 1812 года ў Навагрудку, як і ў шэрагу іншых гарадоў, быў урачыста адзначаны дзень нараджэння Напалеона Банапарта. У цэнтры горада на будынку Францысканскага касцёла быў умацаваны транспарант з надпісам «Maximus in Magno Napoleonis Deus» і з алегарычным малюнкам, у якім галоўнае месца займала камета, якую памяталі з мінулага года і ўспрымалі як сімвал нейкіх перамен і ўзрушэнняў у краі. Тагачасны друк паведамляў, што ў гэты дзень навагрудскае духавенства, былыя воіны ВКЛ, шляхта сабраліся ў Дамініканскім касцёле. Тут размясціўся і гарнізон у параднай форме. Перад алтаром быў пастаўлены трон з партрэтам Напалеона, насупраць якога сталі падпрэфект і павятовыя кіраўнікі. Была праведзена святочная імша, а затым адбыўся канцэрт.

Аднак, ускладзеным на Напалона падзеям не суджана было збыцца. У кастрычніку пачалося адступленне яго Вялікай арміі. Руская армія пайшла ў наступленне, і ў яе складзе, таксама як і ў арміі Напалеона, працягвалі ваяваць многія навагрудчане. У снежні 1812 года расійскі імператар Аляксандр I сваім маніфестам даў амністыю грамадзянам заходніх губерняў, якія ваявалі на баку Напалеона, што дазволіла многім з іх вярнуцца дадому. Некаторыя былыя афіцэры напалеонаўскіх войск прынялі пазней самы актыўны ўдзел у паўстанні 1830—1831 гадоў на Навагрудчыне.

Ваенныя дзеянні і суровая зіма 1812 года значна падарвалі эканоміку Навагрудчыны: загінула шмат людзей, былі разбураны дамы, страчаны ўраджай… У выніку, на наступны год Навагрудак не здолеў правесці свае знакамітыя кірмашы.

І ўсё ж для многіх 1812 год быў годам усведамлення патрыятызму і ўласнага гонару. Глыбока запаў ён у сэрца Адама Міцкевіча. Пра яго паэт напісаў у «Пане Тадэвушы»:

Годзе дванаццаты! Хто цябе бачыў у краю!  
Слывеш ты ў народзе й дагэтуль за год ураджаю  
Й вайны, пра цябе ўспамінаюць старыя дагэтуль,  
Жаўнеры пяюць, напяваеш ты песні й паэту.  
(...)

Багата здарэннямі, ветлай надзеі так поўна!
Я бачу цябе і адсюль, летуценне чароўна!
Ў няволі радзіўшы, скаваны ужо пры спавіцці,
Адну толькі меў я такую вясну ў сваім жыцці.

*(Пераклад Б. Тарашкевіча)*

Будучы студэнтам універсітэта, Адам Міцкевіч некалькі сваіх пісьмаў падпісваў псеўданімам: Адам Напалеон з Навагрудка, а яго сябар Ян Чачот — Ян Напалеон. І пазней, працуючы ў Францыі, Міцкевіч неаднаразова ўспамінаў імя гэтага французскага імператара ў сваіх публіцыстычных артыкулах і нават лекцыях, хаця сітуацыя гэтаму і не спрыяла.

## Грамадскае і паўсядзённае жыццё

Адміністрацыйную выканаўчую ўладу ў павятовых гарадах пасля далучэння беларускіх земляў да Расійскай імперыі ўзначальваў гараднічы. На гэтую пасаду прызначалі галоўным чынам адстаўных чыноўнікаў або афіцэраў, звольненых з ваеннай службы. У Навагрудку гэтыя абавязкі ў пачатку XIX стагоддзя выконваў маёр Скалон. Галоўным органам павятовай улады быў земскі суд, які адначасова выконваў адміністрацыйна-паліцэйскія і судовыя функцыі. Яго старшыня прызначаўся ўказам Сената, а засядацелямі былі прадстаўнікі мясцовай шляхты. Выбіралі засядацеляў на сейміках, якія праводзіліся кожныя тры гады. Прычым права выбару давалася тым памешчыкам, у якіх было не менш як 10 прыгонных сялян-мужчын, а выбраным мог быць толькі той памешчык, які меў не менш як 20 прыгонных. Сярод іншых афіцыйных пасад былі маршалак, які таксама выбіраўся шляхтай, скарбнік, землямер, паштмайстар, кухар, лекар. Для падтрымання грамадскага парадку ў горадзе, акрамя паліцыі, была створана ваенная каманда.

Пэўны час захоўваў Навагрудак сваё былое значэнне і ў судовай дзейнасці. Акрамя земскага і гарадскога судоў тут праходзілі пасяджэнні апеляцыйнага суда Гродзенскай губерні. Перыядычна прыбывала сюды моладзь з іншых паветаў для навучання і праходжання практыкі па дзяржаўным праве. Справы разглядаліся па нормах Статута ВКЛ, які па волі расійскага ўрада дзейнічаў на Беларусі да 1840 года. Штогод працавала ў Навагрудку каля 10 адвакатаў.

Пасля напалеонаўскіх войн у Расіі актывізавалася грамадска-палітычная думка. Узнікалі розныя арганізацыі і таварыствы, якія абмяркоўвалі пытанні сацыяльнага складу грамадства, формы дзяржаўнага кіравання і інш.

Падобныя пытанні ўзнімаліся і на пасяджэннях масонскіх лож, якія з дазволу імператара Аляксандра І дзейнічалі легальна. У Навагрудку масонская ложа пад назвай «Вузел адзінства» была заснавана ў 1817 годзе і падпарадкоўвалася правінцыяльнай ложы «Совершенного единения» ў Вільні. Членамі навагрудскай ложы было звыш 90 чалавек. Сярод іх — шэраг павятовых чыноўнікаў, урачы, ксяндзы, а найбольш — былыя і дзеючыя ваенныя. У ліку апошніх — штабс-капітан Літоўскага піянернага батальёна Канстанцін Ігельстром і паручнік гэтага ж батальёна Аляксандр Вягелін. У будучым яны сталі ініцыятарамі і актыўнымі дзеячамі «Таварыства ваенных сяброў».

Грамадска-палітычныя падзеі, сведкам якіх быў А. Міцкевіч, аказалі вялізны ўплыў на фарміраванне яго асобы, пра што ён не раз напіша ў пісьмах сваім сябрам.

Грамадскае і культурнае жыццё Навагрудка ў першыя дзесяцігоддзі XIX стагоддзя праходзіла ў святле яго былой велічы. Асабліва ажываў горад у час правядзення карнавалу (масленіцы), калі тут праходзілі розныя балы, а часам пры-

язджаў тэатр з Вільні або Варшавы. «Тады ў горадзе, — як пісаў Францішак Міцкевіч, — назіраўся вялікі рух: карэты, ландо, кошы, дарожкі нястомна грукочуць па бруку: ці для этыкету, ці па справах, ці са звычкі адны другім аддаюць візіты... Прыехалі модніцы з Варшавы, Вільні, тлум артыстаў, артыстак, звычайна нейкіх немцаў з Прусіі, Аўстрыі і з другіх маленькіх княстваў Германіі... Гэтыя даюць канцэрт, гэтыя на вяроўцы скачуць, другія сілу Самсона паўтараючы, цэнтняровыя камяні на жыватах разбіваюць... Тут сабачкі ў такт танцуюць і папяровую крэпасць бяруць, там аўтаматы драўляныя, як людзі ходзяць. Нарэшце, балы, рэдуты, казіно». Шматлюдна было і ў сакавіку, калі праходзіў знакаміты навагрудскі Кантрактовы кірмаш, на які прыязджалі магнаты Радзівілы, Хадкевічы, Сапегі, Храптовічы, Несялоўскія і іншыя, а таксама мноства шляхты з наднёманскіх мястэчкаў. У гэты час, па сведчанні сучаснікаў, «пры рахунках угіналіся сталы пад золатам і срэбрам, а папяровых грошай амаль не было. Яны патрабаваліся толькі тады, калі належала адсылаць вялікую суму праз пошту. З розных канцоў прыбывалі купцы з таварамі...» Праводзіўся ў горадзе і другі штогадовы кірмаш — Дзесятуха.

У астатнія дні, калі не было ніякіх надзвычайных здарэнняў, жыццё Навагрудка працякала ў спакойных рытмах.

Пэўны час Адаму Міцкевічу давялося жыць у вёсцы, быць у маёнтках, бачыць працу і быт сялян, што таксама знайшло адлюстраванне ў яго творчасці.

Звыш 30 населеных пунктаў былога навагрудскага павета звязаны з жыццём і творчасцю Адама Міцкевіча: Гарадзечна, Брацянка, Літоўка, Пуцэвічы, Нягрымава, Ваўкавічы, Рута, Мілушава, Шчорсы, Купіск, Гніліца, Зубкава, Валеўка, Ятра, Міратычы, Райца, Малюшычы, Гарбатовічы, Цырын, Варонча, Далматоўшчына, Рэпіхава, Калдычэва, Сталавічы, Туганавічы і інш. Успамінаючы юнацтва, А. Міцкевіч казаў: «Нідзе на зямлі няма весялейшага жыцця, як у літоўскіх (г. зн. беларускіх. — **М. Г.**) вёсках і засценках. Столькі там радасці, любові, бясконцага чалавечага шчасця. Можа не дасць Бог пажыць больш гэтым жыццём, але мы павінны нешта зрабіць, каб захаваць яго каштоўны змест і даць зразумець усю яго вартасць. Такога жыцця я шчодра зведаў паміж 1815 і 1820 гадамі».

Акрамя ўзгаданых тут вёсак на Навагрудчыне былі і іншыя, як на той час казалі, «сельскія мясцовасці»: маёнткі, фальваркі, ваколіцы, засценкі, урочышчы, хутары і інш.

Найбольшыя ўладанні мелі ў першай палове XIX стагоддзя граф О'Рурк (маёнтак Уселюб), князь Дамінік Радзівіл (маёнтак Любча, вёскі Вераскава, Асташына, Вялікія Вераб'евічы, Поўбераг, мястэчка Даляцічы і інш.), Ю. Кашыц (Ятра з 12 вёскамі), граф А. Храптовіч (маёнткі Нягневічы і Шчорсы з 29 вёскамі).

## Шчорсы

У маёнтку Шчорсы А. Міцкевіч быў неаднаразова, ці асабіста ці разам са сваімі сябрамі-філаматамі з 1818 па 1822 год. Уладальнік маёнтка граф Адам Храптовіч, сын дзяржаўнага дзеяча і асветніка Іахіма Літавора Храптовіча, быў адным з самых перадавых земляўласнікаў Беларусі таго часу. У маёнтку ў першыя дзесяцігоддзі XIX стагоддзя была ўведзена шматпольная сістэма земляробства, выкарыстоўваліся новыя сельскагаспадарчыя прылады і машыны, развівалася шматпрофільнасць гаспадаркі. Сяляне былі фактычна вызвалены ад прыгоннага права і працавалі на зямлі як сельскагаспадарчыя рабочыя, атрымліваючы ад памешчыка плату наяўнымі грашыма. Сяляне самі плацілі дзяржаўныя падаткі, утрымлівалі запасны магазін (склад), шпіталь, аптэку. На фоне іншых памешчыцкіх уладанняў шчорсаўскія сяляне вылучаліся адносным дабрабытам.

Пана Храптовіча мужыкі харошы,
Вясёлы, адзеты, ды і не без грошы.
У нас Аляшкевічы, Монічы, Гуляры
Маюць чырвонцы, рублі і таляры.
Мы панам шчаслівы! Да Бога заклічам.
Дай век доўгі жыці з нашым Храптовічам! —

пісаў у сваім вершы Ян Чачот.

Для сялянскіх дзяцей Адам Храптовіч стварыў у Шчорсах пачатковую школу і ўтрымліваў яе за свой кошт. У 1821 годзе ў ёй вучылася 256 вучняў. Частымі гасцямі школы былі віленскія студэнты А. Міцкевіч, Т. Зан, Ф. Малеўскі, Я. Чачот. Вабіла іх сюды магчымасць папрацаваць у знакамітай бібліятэцы Храптовічаў, заснаванай у канцы XVIII стагоддзя Іахімам Літаворам Храптовічам, які быў міністрам замежных спраў Рэчы Паспалітай, апошнім канцлерам Вялікага Княства Літоўскага. У часы А. Міцкевіча было ў ёй каля 10 тысяч рукапісных і друкаваных кніг, старажытных геаграфічных карт, дакументаў, пісьмаў. Матэрыялы бібліятэкі сталі асновай для паэмы «Конрад Валенрод». У Шчорсах паэт напісаў шэраг сваіх твораў, сярод якіх паэма «Гражына», санет «Да Нёмана», байку «Сабака і воўк». Да вясны 1998 года ў Шчорсах рос дуб, які мясцовае насельніцтва называла «Дубам Міцкевіча».

## Туганавічы

У пачатку XIX стагоддзя гаспадаром туганавіцкага двара быў Антон Верашчака. З ім жылі яго другая жонка Францішка і дзеці Міхал, Юзаф і Марыля. Іх дом, як адзначаў Ігнат Дамейка, быў «…адчынены для ўсяго павета». Тут праходзілі афіцыйныя і дзелавыя сустрэчы, балі. Пасля смерці ў 1806 годзе Антона Верашчакі ўладальнікамі Туганавіч сталі сыны Міхаіл і Юзаф. Краявіды туганавіцкага маёнтка і наваколля апісаў І. Дамейка: «…маёнтак ляжыць у самай прыгожай часцы Навагрудскага павета… шырокія, зялёныя лугі, выганы, сенажаці, праз якія колькі вокам акінеш, уюцца серабрыстыя рэкі і ручаі, уздоўж берагоў якіх цягнуцца доўгія вёскі і засценкі… Ад кожнай вёскі спускаюцца да сенажацяў вясковыя агароды, зацененыя вішнёвымі дрэвамі, а над вёскай узвышаюцца апрацаваныя палеткі, жоўтыя, палявыя, залёныя, што змяняюць сваю афарбоўку адпаведна порам года. Побач убачыш касцёл на ўзгорку, карчму, вятрак і двор шляхецкі з ліпавымі алеямі і абсаджаную таполямі дарогу. У гэтай жа частцы Навагрудскага павета часта сустрэнеш пры гасцінцах сляды старажытных курганоў, рэшткі заросшых дзірваном акопаў і ўмацаванняў. У такіх вось маляўнічых ваколіцах ляжыць двор Туганавіцкі, прасторна забудаваны, з мураваным, узнёслым над ім флігелем і касцёлам. Вялікі ліпавы парк і сад з пладовых дрэў, мноства гаспадарчых пабудоў для чэлядзі, прыслугі, упраўляючых надаюць гэтаму двару характар рэзідэнцыі нашай заможнай шляхты».

Некалькі разоў быў Адам Міцкевіч у Туганавічах у 1819—1821 гадах. І яны яму, як пісаў пазней, часта бачыліся ў снах.

Вобраз Навагрудчыны, яе краявіды, гісторыя, быт і праца людзей назаўжды засталіся ў сэрцы Адама Міцкевіча, у яго творчасці, выкладчыцкай і грамадска-палітычнай дзейнасці.



## СНЕЖАНЬ

**1**

75 гадоў з дня нараджэння Марозавай Валянціны Васільеўны (1935—1990), беларускай спявачкі, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

**2**

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Чайкі Валерыя Паўлавіча, беларускага мастака манументальна-дэкаратыўнага і афармленчага мастацтва.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Дадышкіліяні Натэлы Атараўны, беларускай артысткі балета, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

**4**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Кудзелі Леаніда Лаўрэнцьевіча, беларускага спевака, педагога, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**6**

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Булыкі Галіны Аляксандраўны, беларускай паэтэсы.

**7**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Лазавога Мікалая Рыгоравіча, беларускага графіка.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Ялхова Юрыя Аляксандравіча, беларускага кінааператара, рэжысёра, сцэнарыста.

**8**

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Скобелева Эдуарда Марцінавіча, беларускага празаіка, паэта, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь. Піша на рускай і беларускай мовах.

**9**

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Пракаповіча Ігара Міхайлавіча, беларускага паэта, краязнаўца.

**10**

140 гадоў з дня нараджэння Рушчыца Фердынанда (1870—1936), жывапісца, графіка, тэатральнага мастака і педагога.

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Арочкі Міколы (Мікалая Мікалаевіча), беларускага паэта, літаратуразнаўца, крытыка, празаіка, перакладчыка.

**12**

120 гадоў з дня нараджэння Папавіцкага Георгія Канстанцінавіча (1890—1948), габаіста, педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

90 гадоў з дня нараджэння Храмушына Генадзя Леанідавіча (1920—2002), беларускага альтыста, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**13**

85 гадоў з дня нараджэння (1925) Кудрашовай Клаўдзіі Кузьмінічны, беларускай і расійскай спявачкі, народнай артысткі Беларусі і народнай артысткі СССР. Жыве ў Расіі.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Налівайкі Людмілы Дзмітрыеўны, беларускага мастацтвазнаўца, мастака.

**15**

115 гадоў з дня нараджэння Камянецкага Гіршы Мордухавіча (1895—1957), беларускага паэта. Пісаў на ідыш.

70 гадоў з дня нараджэння Плотнікава Браніслава Аляксандравіча (1940—2004), беларускага мовазнаўца.

**16**

105 гадоў з дня нараджэння Сярдобава Мікалая Мікалаевіча (1905—1990), беларускага спевака, педагога, заслужанага артыста Арменіі, народнага артыста Беларусі.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Чурылы Уладзіміра Усеваладавіча, беларускага мастака манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, жывапісца.

**18**

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Галіноўскай Ніны Васільеўны, беларускай паэтэсы.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Ільіной-Загнетавай Вікторыі Арнольдаўны, беларускага жывапісца.

**19**

90 гадоў з дня нараджэння Сондак Ганны Антонаўны (1920—1990), беларускага літаратуразнаўца, педагога.

90 гадоў з дня нараджэння Шырокава Мікалая Артамонавіча (1920—1996), беларускага графіка, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Лемцюговай Валянціны Пятроўны, беларускага мовазнаўца.

**20**

120 гадоў з дня нараджэння Марыкса Аскара Пятровіча (1890—1976), беларускага мастака тэатра, графіка, педагога, аднаго з заснавальнікаў беларускага прафесійнага дэкарацыйнага мастацтва, народнага мастака БССР.

90 гадоў з дня нараджэння Гутковіча Аляксандра Залманавіча (1920—1989), беларускага рэжысёра тэлебачання, драматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

85 гадоў з дня нараджэння Шуцько Івана Цітавіча (1925—1984), беларускага празаіка, паэта.

**21**

120 гадоў з дня нараджэння Аладава Мікалая Ільіча (1890—1972), беларускага кампазітара і педагога, народнага артыста БССР.

85 гадоў з дня нараджэння Краўчанкі Валянціны Захараўны (1925—1984), беларускай актрысы, заслужанай артысткі БССР.

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Зінчука Аляксея Міхайлавіча, беларускага жывапісца.

**22**

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Байрачнага Мікалая Іванавіча, беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, графіка.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Рыбчынскага Віктара Антонавіча, беларускага акцёра.

**23**

85 гадоў з дня нараджэння Катаева Віталя Вітальевіча (1925—1999), беларускага і расійскага дырыжора, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Мацюшэўскай Алы Анатольеўны, беларускага плакатыста, мультыплікатара.

**25**

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Цюрына Івана Аляксеевіча, беларускага балетмайстра, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**26**

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Старыкавай Клаўдзіі Фёдараўны, беларускай спявачкі, заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь. Жыве ў Расіі.

**27**

115 гадоў з дня нараджэння Арбеніна (сапр. Максімовіч) Канстанціна Ананьевіча (1895—1966), беларускага рэжысёра, заслужанага артыста Казахстана.

**28**

100 гадоў з дня нараджэння Шацілы Івана Браніслававіча (1910—1977), беларускага акцёра, народнага артыста БССР.

85 гадоў з дня нараджэння Кісялеўскага Анатоля Іванавіча (1925—1986), беларускага мовазнаўца.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Малахава Барыса Мікалаевіча, беларускага мастака ў галінах мастацкага праектавання і комплекснага афармлення будынкаў, музейных экспазіцый.

**29**

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Стальной Ірыны Генадзьеўны, беларускага мастацтвазнаўца.

**30**

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Жыжэль Нінэль Трафімаўны, беларускага мастака па касцюмах.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Ільінова Анатоля Уладзіміравіча, беларускага графіка.

**31**

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Малышавай Клары Мікалаеўны, беларускай артысткі балета, педагога, народнай артысткі Расіі, народнай артысткі Беларусі.

# ЗМЕСТ ЧАСОПІСА ЗА 2010 ГОД

**ПЕРАКЛАДЫ**

## КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА



## КНІГАРНЯ



## ПУБЛІЦЫСТЫКА



## РОДНАЯ МОВА



## НАВУКА



## НАВУКОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

**ПОСТАЦІ**



**СПАДЧЫНА**



**СТАРОНКІ ЛЁСУ**



**ШКОЛЬНЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ**



**ПОМНАЕ**



**НАШ КРАЙ**



**КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ**



*Падрыхтавала М. Міхайлава.*

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Ідзе падпіска на І паўгоддзе 2011 года:**

*індывідуальная льготная для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 6100 руб.
на 3 месяцы — 18 300 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 9400 руб.
на 3 месяцы — 28 200 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 14 800 руб.
на 3 месяцы — 44 400 руб.

*ведамасная льготная для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 12 000 руб.
на 3 месяцы — 36 000 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 288-22-37.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютарная вёрстка *С. І. Таргонскай*

Падпісана ў друк 09.12.10 г. Фармат 70×108 1/16. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 16,85. Тыраж 2785 экз. Заказ 3172.
Рэгістрацыйны № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.